# Маладосць

# 12

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(685) СНЕЖАНЬ, 2010

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Наталля АЎДЗЕЕВА,**
**Алесь БАДАК,**
**Аляксандр ГАРДЗЕЙЧЫК,**
**Наталля ГОЛУБЕВА,**
**Вадзім ДРАЖЫН,**
**Таццяна КАВАЛЁВА,**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**Уладзімір МАТУСЕВІЧ,**
**Алесь НАВАРЫЧ,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Таццяна СІВЕЦ,**
**Павел ТАТАРНІКАЎ,**
**Андрэй ФЕДАРЭНКА,**
**Віктар ШНІП**

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ —**
намеснік галоўнага рэдактара

**Андрэй ФЕДАРЭНКА —**
рэдактар аддзела прозы

**Алена КАРП —**
рэдактар аддзела прозы

**Вікторыя ЛЯЙКОЎСКАЯ (ТРЭНАС) —**
рэдактар аддзела паэзіі

**Ірына КЛІМКОВІЧ —**
рэдактар аддзела публіцыстыкі

**Дар'я ГУШТЫН —**
рэдактар аддзела крытыкі

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»,**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «МАЛАДОСЦІ»!***
***Пачалася падпіска на І паўгоддзе 2011 года.***

***Таксама індывідуальная льготная — для настаўнікаў.***
***Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6100 руб.***

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 11500 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 8600 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 14500 руб.***

Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Ірына КАЧУРКА*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 09.12.2010. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,89. Тыраж 2398 экз. Заказ 3174.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.
© «Маладосць», 2010.

**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# *Дыханне першае завеі*



***Ну, калі, скажам, і не завеі, дык дыханне першага сёлетняга снегу адчулася на самым прыканцы лістапада на Берасцейшчыне, куды мы — дырэктар нашай рэдакцыйна-выдавецкай установы Алесь Карлюкевіч, ягоны першы намеснік Алесь Бадак, супрацоўніца штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Ірына Тулупава і я прыехалі на «Лунінскую восень-2010», дзе за лепшыя кніжкі года выбітным пісьменнікам Берасцейскага краю ўручаліся літаратурныя прэміі аблвыканкама імя Ул. Калесніка і прэзентаваўся адзінаццаты нумар часопіса «Маладосць», традыцыйна прысвечаны творчасці і, увогуле, жыццю берасцейцаў, у якім шануецца гісторыя і мацуецца сучаснасць, наш дзень сённяшні.***

***Адным словам, было вялікае літаратурнае свята, якому папярэднічала сустрэча з загадчыкамі раённых бібліятэк Брэсцкай вобласці, што таксама сагрэла і ў першую чаргу перакананне: пакуль нашы бібліятэкі будуць сапраўднымі цэнтрамі, дзе пануе і тая высокая духоўнасць, пра якую мы так часта разважаем, і светлая любоў да беларускага слова, датуль будзе жыць і наша нацыянальная літаратура. У бібліятэках і ў асяродку бібліятэкараў мы знаходзім падтрымку і разуменне, за што ім асаблівае «дзякуй!». Падтрымка патрэбна сучаснай кнізе і, дзе як не ў бібліятэцы, яна знаходзіць тую істотную рэкламу, што вядзе непасрэдна да чытача…***

***Сёлета ў цудоўным Лунінцы прэміямі ўганароўваліся Віктар Вабішчэвіч за кнігу паэзіі «Ўражанне», Надзея Парчук таксама за кнігі вершаў «Раскрыліўся бусел над хатай» і «Зарунее жыта зноў». А ў галіне прозы прэміраваўся Аляксандр Валковіч за кнігі «Алеся. Белавежскія сны» і «Бяроза белая. Бяроза чорная». Не была абмінута і літаратура для дзяцей. Зоя Гарадзецкая атрымала прэмію за кнігу п'ес, якія могуць стаць яркімі і незабыўнымі спектаклямі для маленькіх гледачоў. Былі і яшчэ ўзнагароды: адзначаліся пераможцы абласнога конкурсу творчых і літаратурна-даследчых работ «Доблесць продкаў — нашчадкам у спадчыну!», прысвечанага 65-годдзю Вялікай Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі і 600-гадоваму юбілею Грунвальдскай бітвы. І гэта ўжо была творчая моладзь, — таленавітая і такая непасрэдна-шчырая ў сваіх адметных і водарных радках.***

***Берасцейскі край багаты на таленты, і я ў які ўжо раз магла б пералічваць імёны многіх і многіх пісьменнікаў, а вось прачытала ў «Лунінецкіх навінах» радкі Ганны Татарыновіч — васьмікласніцы з Любачынскай сярэдняй школы: «… Лістапад. І застыла трава, быццам момант, каб вымавіць нешта» і пераканалася яшчэ раз, — Берасцейскі край заўжды будзе шчодрым на таленавітых людзей. З думкамі пра іх напэўна і Анатоль Крэйдзіч, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, ездзіў на чацвёрты Усебеларускі народны сход, на які ён быў вылучаны дэлегатам.***

***«Лунінскай восенню» жыла літаратурная Берасцейшчына і амаль адначасова ўся наша краіна згадвала такое блізкае і высокае, і такое велічнае і загадкавае ў сваім магутным таленце імя — Уладзімір Караткевіч! Васьмідзесяцігоддзем класіка нашай літаратуры, напэўна, і завяршаўся літаратурны 2010 год, які вось-вось нас пакіне, каб ужо назаўжды стаць гісторыяй… .***

***У наша жыццё просіцца год 2011-ы, ці гэта, наадварот, мы ўступаем у яго і хочацца аднаго, каб у кожнага з нас усё было добра, каб святлілася неба над нашай краінай, каб шчодра радзіла зямля і нікога ніколі не пакідала шчасце.***

*З найлепшымі пажаданнямі плёну, дабрабыту, здароўя*
*і самых жаданых здзяйсненняў у новым годзе —* Ф. Баравікова.



*Алена Харук нарадзілася ў 1988 годзе ў вёсцы Дубравы Маладзечанскага раёна. У 2006 годзе скончыла Чысцінскую сярэднюю школу. У гэтым жа годзе стала студэнткай Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Алена ХАРУК

# ТАБЕ АДРАСУЮ ВЕЧАР

## СНЕЖАНЬСКАЕ

На крэсле кот прылёг, і звесіў лапу,
І пазірае ўдумліва ў вакно.
Як быццам бы са стомай на канапу
Так з неба на зямлю кладзецца ноч.

Па-снежаньску багатая на зоры,
Халодная, празрыстая, бы шкло,
І чуцен гук далёка на прасторы,
І бачна нават цьмянае святло.

І хочацца сарвацца і пабегчы
Па сцежках, што іскрысты снег збяліў,
Да месяца, да зораў на сустрэчу
На край зімы, дзе неба ля зямлі.

Стаміўся коцік цікаваць за ноччу,
Заснуў, схаваўшы ў футра цёплы нос.
А я нібы кудысь па зорах крочу:
Вачэй не адрываю ад нябёс.

## РАДОК

На адвароце старой той паштоўкі,
Вось жа знайшлася ў пісьмовым стале,
Хтосьці размашыста простым алоўкам
Словы надрапаў: кахаю, але…

Што за сумненне выказвае аўтар?
Хто ён? І хто быў яго адрасат?
Зноў спрабавала зацята ды ўпарта
Час павярнуць хоць бы крышку назад.

Мабыць, за гэтым пасланнем кароткім
Мноства старонак, мо цэлы раман?
Толькі, на жаль, не знаходзіцца сродкаў,
Каб разгадаць, што хавае туман.

Час як галоўны суддзя і... свавольнік
Нават не ўспрыме мой ціхі папрок,
Бо, не жадаючы, вельмі павольна
Ён ад пачуццяў пакінуў радок.

## ВОЦАТ

Толькі воцат замест віна,
Як даўно стаіць ужо кубак,
Ды па звычаі п'юць да дна,
Што ж ты гэта пакінуў, любы?

Ты зірні, на зямлю зірні,
Бачыш, восень зіму чакае.
А на вуліцах — свет-агні,
А за горадам — ноч сляпая.

Мне здаецца, што я цяпер
Ведаць стала на выраз болей:
«Не спрачайся. Прабач. Павер.
Ты мне блізкім не быў ніколі».

Ноч сляпая. І я. Даўно.
Нават быццам бы без эмоцый.
Кубак, той, дзе было віно,
Зараз поўніць празрысты воцат.

## ПЕРАПІСКА

Табе адрасую вечар
У трэцім маім лісце,
Няхай мае словы сведчаць,
Што змрок за вакном згусцеў.

І неба старой тканінай
Абвісла крыху з бакоў.
Я пісьмы пісаць пакіну!
...А потым пачну ізноў.

І мне не шкада паперы,
Пішу чыставік жыцця,
І кожным радком я веру —
Мы разам складзём працяг.

І восені дні пустыя
Нарэшце згараць датла,
Як толькі ўсе пісьмы тыя
Насмелюся я даслаць.

## ІМГНЕННЕ

Дазвольце зазірнуць у Вашы вочы,
Дазвольце дакрануцца да рукі.
Каханне гэта хтосьці напрарочыў,
А можа, проста лёс у нас такі.

Спыніцца на салодкую хвіліну
У свеце незвычайнай мітусні.
А потым знікнуць зноў і не пакінуць
Пасля сябе ні праўды, ні хлусні.

Дзвюх пар вачэй хвілінная сустрэча
Ў натоўпе несупыннага вакзала…
Вы будзеце смяяцца... Ўсё ж, дарэчы,
Я цэлае імгненне Вас кахала.

## АД ТВАЙГО ПАРОГА

Ад твайго парога да майго —
Некалькі гадзін у цягніку.
Цягнуцца нібыта цэлы год,
Падпіраю ля вакна шчаку.

Зрэдзь калі змяняецца пейзаж.
Лес, палі, сяло, ізноў палі.
І чырвонай ніткаю наўсцяж
Восеньскі настрой па ўсёй зямлі.

Быццам бы не верачы вачам,
Я бясконца еду ўсё далей,
Каб знайсці таго, хто распачаў
Фарбаваць у жоўты колер лес.

Бессэнсоўны пошук наўздагон.
Мой прыпынак. Вецер. Дождж нудзіць.
Ад твайго парога да майго
Восені на некалькі гадзін.



*Таццяна Бацічэлі нарадзілася ў Салігорску. Студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва». У «Маладосці» — упершыню.*

Таццяна БАЦІЧЭЛІ

# ПАЛІНА

## *Апавяданне*

*Шуміць, абдымае* Палініны рукі калоссе. Яшчэ зялёнае, не налітае зерне. Гойсае лёгкі ветрык, і кволыя сцяблінкі кланяюцца, хіляцца да Поліных ног. Крыху пачарнелыя ад зямлі пальцы час ад часу сціскаюць каласок, а вочы неспакойна бегаюць, аглядаюць знаёмы палетак. Паміж ячменем і бульбай — ужо ўлеглая, добра вытаптаная сцежка, якая нават паспела ўкрыцца травой. Там і вечаруе Паліна. Управіўшыся з дварова-хатнімі нескончонымі справамі, яна прыходзіць да сваёй сцежкі і ходзіць, ходзіць, ходзіць… Часам замаруджвае крок, прыпыняецца. Але вочы гэтак жа бегаюць, блукаюць. Няма ім прыпынку, няма спакою…

Паліна выходзіць замуж. Дзіўна і вымавіць такое. Але ж сталася так, праўда гэта, чыстая праўда. Не верыць сабе Паліна, выцягвае свае яшчэ вольныя, не адданыя нікому рукі, разглядае іх. Не хацела Палінка ніякіх тлумных святкаванняў, але Генадзь настаяў, змусіў. Заўтра дзядзька Рыгор, яе хросны, абяцаў дамовіцца ў калгасе выкупіць свінчо, ды і свой парсючок ужо ладны. Колькі тых гасцей, але ж рыхтавацца трэба.

Віруюць, не шкадуюць думкі. Гарачыя яны, неспакойныя. Прыходзяць нястрымнай хваляй, ніякага збавення ад іх няма. Заканчвае Паліна свой універсітэт. Нікуды ўжо не будзе патрэбы ёй з'язджаць. Вунь як прыветна ўглядае Палінку і адсюль заўважны, крыху схілены ўбок будынак яе маленькай школкі. Даводзяць ёй, праўда, што загубай абернецца яе задума, што сама сабе жыццё слязьмі ўсцеле, але ведае, добра засвоіла Палінка, што чужых людзей не вельмі слухаць трэба. Толькі часам сэрца са здрадніцкімі, як кажа яе дзед Ахрэм, парываннямі возьме ды ўслухаецца. Тады бяда, суцэльная пакута Паліне. Яшчэ калі маленькая была, то дзядзька Рыгор упадабаў, як хораша працуе Палінка, як спраўна перабірае бульбу, пахваліў. Усміхнулася, загарэлася Поля, і ручкі яшчэ хутчэй пачалі бегаць, спяшацца… Толькі адзін дзядуля ўгледзеў дрэннае, злачыннае ў той несхаванай радасці Палінчынай, бо за адно добрае слова, што людзі скажуць, гатова здрадзіць роднаму, да ног чужых прыпасці ды абняць… А гэта і ёсць здрадніцтва. У сваім не знаходзіць шчасця, дык да чужога горнецца. Дрэнная, атрутная

Палінчына сутнасць. Мама-нябожчыца гэткая ж была — вельмі ўжо далікатная ды галодная да слова ці пагляду ласкавага.

Усё жыццё сваё Палінка праз гэты палетак бачыць. Ураслася ў яго сэрцам, зніталася, з'ядналася. Удваіх з дзедам яны тут хадзілі, толькі вёсны мяняліся, а так, здаецца, нічога не іначылася. Няўжо гэтых вёснаў было так многа? Гэтулькі ж, колькі яна памятае? Неразумная Палінчына памяць. Дзівяцца з гэткай памяці на вучобе, хваляць, фенаменальнай называюць. Бо не ўмее забываць Паліна. Але радасці ёй з гэтага мала: прыходзяць па чарзе, не збіваючыся, як жывыя здані, успаміны, клічуць, мучаюць, адзін аднаго наперад прапускаюць…

…Залішне, мабыць, буракоў будзе на гэты год. Прыехала тыдняў колькі таму з вучобы ды кінулася садзіць, не разлічыла. Але ж каб яна была ўлетку дома, пры двары, то ўправілася б, а зараз хто старому дапаможа? Можа, паслухае яе Генадзь, пусціць і сюды. Пэўна, пусціць! Яшчэ і сам прыйдзе, зробяць і сваё, і дзедава. Усміхаецца, радуецца сваёй надзеі Паліна. Іх жа і апалоць, і вырваць, і уладкаваць трэба. З буракамі яшчэ ў дзяцінстве важдалася яна. Асабліва даставалася, як прыходзілі маразы, усё падмярзала ў склепе, цвёрдым-цвёрдым рабілася. Маразы не маразы, а свінням без накрышаных буракоў нельга. Не слухаюцца рукі малую Палінку, замярзаюць, нямеюць. Як ты іх ні сунімай, ні ўгаворвай, не пашкадуюць дзяўчынку, не ўтрымаюць нож. Гультайка, няўдаліца Палінка. Пазней яна злаўчылася ўпраўляцца з сякерай, што без справы стаяла ля прыпечку ў сенцах. Не гэтак рукі ледзянелі. Праўда, напачатку не рукі падымалі сякеру, а сякера няўмольна цягнула малыя, няўдалыя Палінчыны рукі да зямлі. А пасля неяк прызвычаілася, люба глянуць на накрышаныя малой гаспадыняй буракі, каб не яшчэ адна прыкрасць невыноснага Полінага характару: скласці кавалачкі ў кашэль трэба так, каб, як несці іх да хлява, не рассыпаліся, а гэткая няўмека ды гультайка, як Паліна, заўсёды псуе справу. Напружваецца, роздумна ўглядаецца ў пакрыўлены працай кашэлік Палінка. Роўнenька складае, прыціскае бурачкі адзін да аднаго, угаворвае не падаць, трымацца разам. Але прыходзіць за кашалём дзед, і яго знаёмы, атрутны пах пужае, прадказвае бяду. Нясе кашэль, але чамусьці падрыгвае яго хада, дзіўна пераступаюць ногі. Толькі Палінка ведае, хто вінаваты. Дрэнна яна склала буракі, згультаілася, таму і ападае гучна, цяжка першы, другі кавалачак… Здаецца, як крышыш, не такія і цяжкія гэтыя кавалачкі, а падаюць, быццам каменне… Чаму яны такія цяжкія? Дрэнная Палінка, нічога нельга ёй даручыць. Віна ёсць віна, віну належыць непазбежна выкупляць. Таму зараз вернецца дзядуля і будзе лаяцца, кідацца на Палінку, мучыць, пакуль не застанецца хоць малюсенькая, можа, і не адразу заўважная кропля віны. Бо віну пільнага дзеда Ахрэма патрэбна выкупіць цалкам, знішчыць яе гнілую прысутнасць…

…Выхопліваюць пільныя Палінчыны вочы першую зорку. Але праз хвіліну падзіцячы ўздыхае, маркоціцца Паліна: аказваецца, гэта зусім не першая зорка, бо, як кінеш вокам, — і там, і там па зорцы… Штовечар углядаецца, шукае Паліна сапраўды адзіна-першую зорку, а яны па-змоўніцку запальваюцца разам. Як прыходзіць Генадзь, Поля паказвае яму на зоркі, а ён смяецца, дзівіцца з яе, не разумее. Часам загарыцца Палінчына сэрца, гатовае адкрыцца, аддаць сябе, але не слухае Генадзь, нават не ўслухоўваецца. Як успомніць, дык, мабыць, ніколі і не пагаварылі ні аб чым, так, усё пустэча наскрозь. Толькі абдымае, грубавата горне яе да сябе, цалуе, а Палінка быццам задыхаецца ад рук яго таропкіх, непаразумелых з ёй, душна ёй, невыносна дыхаць. Глыба насоўваецца, кладзецца на сэрца… Душна, гэтак душна Палінцы! Усё гэта пыха яе, шматдумства. Каб і размовы, і разуменне, і пяшчота… Дзе ж ты такое знойдзеш? Трэба прыняць, пагадзіцца Палінцы, што няма чаго мройнага шчасця чакаць, бо няправільная яна, нягодная змучыла дзядулю сваім існаваннем

гэтак, што ён не можа ў адказ не мучыць яе, каб боль свой суцішыць, падмануць на час… Шкадуе яго Палінка, не хоча мучэнняў ягоных. Але не вельмі што змяняе яе самае вялікае, адзінае жаданне. Гэтак і жывуць яны, два мучыцелі, год у год. Спачатку параўноўваў стары Ахрэм яе з іншымі, харошымі, дзецьмі, а пасля не стала патрэбы параўноўваць, бо добра ўсё засвоіла Палінка, усю сваю выклятую сутнасць уразумела, у сэрца прыняла, запомніла. Здольная да ўсялякай навукі Палінка.

…Ціхія, добрыя каласкі. Абдымаюць рукі Палінчыны. Ласкава, аддана, не так, як Генадзь. Урываюцца ў думкі кнігі, дарагія старонкі, зродненыя бібліятэчныя калідоры. Пяць гадоў раднілася з імі. А зараз пакідае, развітваецца. Любіць кнігі Паліна, адданая ім. Цягнуць яе ў свой свет, горнуць да сябе. Добра вучыцца Поля, свеціцца кніжнымі старонкамі, атрымлівае самыя вялікія стыпендыі… Але ж ведае, што ад шматдумства ды вучонасці да бяды недалёка, бо неўраўнаважаная, нелагічная, няправільная яна наскрозь… Куды ёй далей вучыцца, менш слухаць трэба, што людзі чужыя кажуць. У чужым свайго не знойдзеш. Грэх гэта, пыха, занадта добра думае пра сябе. Людзі хваляць, заахвочваюць Палінку, бо памыляюцца, не ведаюць сутнасці яе атрутнай. Куды ім ведаць, што зламаная, праклятая яна, адно гора прыносіць, жыцці руйнуе. Дзіўная навука псіхалогія. Нічога, як аказалася, не разумее ў такіх, як Палінка. А можа, проста такіх, як яна, больш і няма? І добра, што няма. Менш бяды будзе на Зямлі. Для жыцця іншага, такога, да якога клічуць яе, трэба змяніцца, прыняць сябе, як кажа дасведчаная навука псіхалогія… Але не ўразумець недастасаванай да Паліны навуцы, што няма каго прымаць Палінцы, каб тая і захацела, бо дзесьці ў шматгадовай далечы засталася сапраўдная, жывая Палінка — навекі пакараная за бурачнік, бульбу, за дрывотню, за тое, што нарадзілася і жыве, дыхае, глядзіць… За тое, што хварэе. Асабліва страшна прастудзіцца. Бо тады змучыць злосны кашаль, і халадзее Палінка ад страху, што зразумее дзядуля: пэўна зноў захварэла, каб мучыць яго спаласаваныя нервы… Уночы забудзецца, засне Палінка. А пасля ўсхопіцца, як адчуе, што хтосьці балюча сцягвае яе з ложка, крычыць, лаецца на Палінку, бо дрэнная яна, злачынная: кашляе бесперастанку, жыццё нямілае, да раніцы не паспееш выспацца за ёй… Ведае віну сваю Палінка, наракае на сябе, кляне неспакойныя грудзі свае гарачыя, што разрываюцца ад кашлю…

…Як пайшла вучыцца Палінка, дык яшчэ болей упэўнілася, што няправільная яна, суцэльная памылка. Несучасная, як быццам іншага веку. Жартуюць, гамоняць дзяўчаты, а Поля ніяк не ўразумее размоў іх вясёлых. Не вабяць яе ні сустрэчы, ні пацалункі гарачыя, ні абдымкі. Халодная яна, мабыць, крыга ледзяная… Ніколі не ўздрыгнула па-дзявочаму сэрца, не паклікала… Адно ад слова добрага, ад звычайнага пагляду ласкавага, чалавечага, загараецца Палінка, як ні змагаецца са здрадніцкімі парываннямі, што з дзяцінства прараслі ў ёй. Дык, можа, тады не халодная яна, калі гэтак гарыць? Можа, проста па-іншаму цёплая? Горнецца Паліна да цеплыні чалавечай, прывязваецца да жывога сэрца, быццам хутаецца ад невыноснага холаду, сіверу ў зманліва-цёплы кажух… Але прыходзіць непазбежны, неадкладны час вяртаць падараваную кімсьці вопратку, а яна ўжо зраслася з ёй, у адно злілася… Тады даводзіцца вырываць па-жывому неабачліва дараванае такой, як яна, і аддаваць назад, вяртаць. Яна вяртае, яе змалку прывучылі вяртаць не сваё, але пасля крывавяць, гараць разарваныя раны…

…Як прыходзіць час баранаваць ці абганяць бульбу, заяўляецца дзядзька Рыгор. Звычайна такую працу дзед Ахрэм пераносіць на нядзелю: тлуму менш, вальней, ды і Поля штотыдзень прыязджае, дапамагае. Што ў тым горадзе за жыццё ў Палінкі! Хіба ў кнігах, у вялікіх, спакусліва-багатых бібліятэках крупіцы жыцця і знойдзеш, а так… якое там жыццё! Пустэча. Дома — вось там жыццё, калі кладзе ёй на калені свае цяжкія лапы мілы Туман з чулымі, роднымі вачыма, не адчужанымі, як

у людзей, калі лашчыцца да яе цёплая трохкаляровая Марта, топчуцца па Паліністых нагах маленькія, гуллівыя кураняты… Яны яе прымаюць, саграваюць і не забіраюць пасля цяпло, не вырываюць па-жывому…

Мыюць на вуліцы рукі мужчыны, а Поля смажыць яйкі з салам у прыбудоўцы. На хвіліну прысядае дзядзька Рыгор, прыкурвае.

— Вырасла твая унучка, выгадавалася, хоць і сіратою. Гляджу я на яе — і радуюся… і не радуюся. І старанная яна да працы, і вучобе адданая, і мяккая, прыветная нейкая. Ну і не сказаць, каб брыдкая сабой… Усякаму была б на радасць. Але ж яшчэ колькі гадоў, усе дзеўкі замуж пойдуць, а яна пры табе тут гаспадарыць будзе, палеткі твае даглядаць? Дзікая яна, ад людзей усё хаваецца. Як не з гэтага свету, іншага веку. Адно з сабакам абдымаецца ды куранят на плячах носіць. Як жа яна жыць будзе? І прыгожая яе маладосць, і выродлівая… Трэба, каб у людзі выходзіла, а не пры хаце марнавалася ды з кніжкамі… На бяду гэта сённяшнім светам…

Маўчыць, нічога не адказвае дзед Ахрэм…

Але вось упадабаў яе Генадзь і без хаджэння ў людзі. Адзін ён прыгожай яе называе, цягнецца да яе, толькі яго, мусіць, не мучыць Палінка. Сам ён, па добрай волі сваёй з Поляй ажаніцца хоча…

…Ціха, неўпрыкметку надыходзіць ноч. Дзед, мабыць, заснуў. Састарэў ён, пэўна, прызвычаіўся да існавання, прысутнасці Палінчынай. Можа, і не такая яна невыносная ўжо для яго. Рэдка што кажа Палінцы, толькі часам, як агорне жаль мінулы, кідаецца на яе, вінаваціць… Аднак ніколі не здолее Паліна адхіснуцца, адарвацца ад дзеда. З'яднаныя яны навечна сваім узаемным мучэннем адно аднаго, свядомым і несвядомым. Мука, як ніякае шчасце, яднае, звязвае, нітуе. Няма супакою Палінцы, няма куды ўцякаць ад думак сваіх. Аднаго прагне Палінка, адно вылечыць яе, ацаліць — аддаць сябе, сваё сэрца, назаўжды пакінуць у жывым чалавеку. Прыгожа-выродлівае забыццё. Так, каб да канца, даастатку. Тады не стане ні тлумных думак, ні мучэнняў яе, ні запалёнай памяці. Усё зруйнуецца, загоіцца. Колькі жыла Палінка, ніхто сэрца яе не прымаў. Кнігі добрыя, лагодныя да Полі, але ад сэрца яе адмаўляюцца. І ў працы не можа пакінуць сэрца. Не патрэбнае яно ні знаёмым, ні незнаёмым. Можа, крышку патрэбнае, але крышку Палінка аддаць не можа — толькі ўсё, ДААСТАТКУ… І вось яна выходзіць замуж. Вырашана, суджана, нікуды не адыдзе ўжо Поля… Хоць і кажуць, што не пара ёй Генадзь, што жыў ён у гарэлачным тлуме з Грышанковай Валяй да Палінкі, што на кароткі час кінулася яму ў вочы Паліна — цяля нявіннае, маладое… Пэўна загубіць сябе з гэткім нейкая занадта ўжо ціхая, задумная Палінка, звядзе ён яе са свету. І чаго яна ідзе за яго? Пяць гадоў пражыла ж у горадзе, ды і вельмі спраўна вучылася там, бо Маняпаштальёнка расказвала, што прыходзяць усё Ахрэму лісты з Польчынай вучобы, толькі той не вельмі каб унікаў у іх… Але не прыслухоўваецца Палінка. Хай, хіба мала яна пабачыла, хіба не ведае яна пра праклятую сутнасць сваю, схаваную за ўсім знешнім, заўважным воку? Ёй шмат не трэба. Толькі аддаць сэрца, сябе аддаць назаўжды. Не так важна каму. Каб толькі жывому… Распішуцца, абвянчаюцца, і ў момант прысягі вылечыцца Польчына сэрца, ацаліцца, навекі супакоіцца, аддадзенае… А што не надта разумее, не слухае яе Генадзь — не вялікая бяда. Прыходзіць чалавек у свет у адзіноце і ў адзіноце яго пакідае. Нічога тут не перайначыш. Як прытуляе да сябе Генадзь Палінку, груба абдымае яе той знаёмы з дзяцінства атрутны пах выпітага… Ніякавее, ападае сэрца. Але ўгаворвае, пераконвае сябе Паліна, што тое — ад яе залішняй далікатнасці… Гэткая яна далікатная, як казаў заўсягды дзядуля, — ні крыкнуць, ні крануць, ні ўдарыць, як заслугоўвае… Але нічога, жыццё раздалікаціць. Прызвычаіцца Палінка. Выпівае Генадзь, бо цяжка працуе ў калгасе… Не тое што яна: лайдачыць у бібліятэках каторы год, толькі ў выхадныя

дні ды на канікулах крыху да працы праўднай і прычынілася. Вось і хаціну абяцалі Генадзю. Як толькі ажэніцца, так і атрымае. Увішнай, адданай гаспадыняй будзе Палінка. Такое знаёмае, блізкае ёй жыццё… Дасць ім Бог дзетак. Пэўна, дасць: яна ж так прасіць, маліць будзе. Тады пойдуць іншыя, квяцістыя дні. Выгадуе яна дзетак у абдымках сваёй нерастрачанай, захаванай любові, у словах пяшчоты непамернай… Усю сябе аддасць, пакладзе жыццё сваё. Тады ўжо напэўна пакладзе. І не ў знак Палінцы, што не разумее яе Генадзь, што нічым Поля не можа падзяліцца з ім. Што ж зробіш, калі такая няправільная Палінка, няздатная да сапраўднага жыцця. Прыгожа-выродлівая яе маладосць. Не гэтага веку. Мудры, мілы дзядзька Рыгор…

…Крычыць, разрываецца тлумная музыка. Мусіць, самая сучасная. Здзекуецца яна з Паліны, насміхаецца. Быццам паліцца ўжывую сэрца на гэтых напевах. Белая, бялюткая сукенка мільгае па шырокай зале. Неспакойная, цяжкая Генадзева рука абдымае Паліну, горне бліжэй… Пра што яны спяваюць? Не разумее Поля, як ні ўслухоўваецца, нібы знямелая, аглушаная. Нічога, нешта будзе. Неяк жыццё возьме сваё. Вытравіць яе пыху, далікатнасць, шматдумнасць. Будзе жыць Палінка. Вырастуць дзеткі пад словы яе несціханай пяшчоты пра тое, якія яны добрыя, цудоўныя дзеці, як недасяжна-старанна яны крышаць бурачнік… Ніхто б так не злаўчыўся, як яны! Якія яны прыгожыя, шчырыя, ласкавыя, разумныя! Палінка закалыхае іх сваёй цеплынёй, цёпла-цёпла ім будзе! Не давядзецца ім вымольваць кроплі дабрыні, слова добрае ў чужых людзей з адчужанымі вачыма, бо яна аддасць сваім дзеткам усю дабрыню гэтага свету… Як яна будзе любіць, шкадаваць іх! Страшна ёй ад такога шчасця, знямела ўся, зніякавела ад яго подыхаў. Добры, міласэрны Бог. Ён дасць ёй дзетак. Якая незразумелая, здзеклівая музыка. Ападае каменнем на сэрца. Яна выйдзе на свой двор клікаць дзетак абедаць, а яны паляцяць на яе голас, кінуцца ёй на шыю, і апусціцца да ласкавай, заўжды лагоднай зямлі Палінка… Не ад лёгкіх дарагіх абдымкаў, а ад цяжару шчасця свайго невымоўнага… І нічога большага не трэба ёй ад такога халоднага жыцця. Калі ж суцішыцца гэта здзеклівая музыка?

— Паліна! Супакойся! Людзі глядзяць. Не плач. Хіба ад радасці так можна плакаць? — ушчувае, угаворвае Генадзь, прыкрывае сваёй постаццю яе твар ад цікаўных вачэй.

Ападаюць на белую сукенку гарачыя слёзы, быццам вырываюцца з прыгожа-выродлівага сэрца — нарэшце аддадзенага. Да канца, даастатку аддадзенага…

Таццяна БУДОВІЧ



# МОЙ ГОРАД ЧАКАЕ СВЯТА

* * *

Шматлюднасць і беспрытульнасць.
У золаце і галечы
мой горад чакае свята.
Нядзеля. Зімовы вечар.

Чаканае свята прыйдзе
і ўсіх задаволіць нечым:
ласункам, абноўкай, цацкай
ці неспадзяванай стрэчай.

І згаснуць агні на вулках,
і елкі пазносяць з хатаў.
А гораду будзе сніцца,
як цудамі пахне свята.

* * *

Чытаю цябе па вачах.
Нябёсы з падвойным дном.
Так нізка аблокаў зрэнкі
плывуць за падвойным шклом.

І поўніць імгненні вясна
пяшчотай ружовых дзён,
душэўнай маёй самотай.
І ў сне застаецца сон.

А ты ўсё глядзіш,
глядзіш…

* * *

у люстры на сцяне
пакоя цішыня
фіранкі на акне
і неба вышыня

*Таццяна Будовіч нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску. Скончыла Інстытут сучасных ведаў і завочнае аддзяленне гістфака БДУ. Працавала ў філіяле музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка». Друкавалася ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва» і інш. Аўтар зборніка паэзіі «Дуэль паглядаў».*

ў багеце

у люстры на сцяне
няма мяне

…Вяртанню
не было дарог
ці не збярог
Пан Бог

чаканне
восені маё
як вастрыё

ў апошнім леце

* * *

Вершы чытаю твае
і ажывае
чакання твайго
голас.

Кліча ў дарогу мяне.

У дарогу, з якой
не вярнуся ніколі такой,
*якою*
была да яе.

* * *

Стомлены дождж вандруе
па вулках расчаравання,
пясчаных мастах сустрэч,
старонках кахання.

Травы сплятаюць рукі.
Плашчы парасонаў, паркі…
І сэрца шукае дна
нябёснае аркі.

* * *

Пасядзім ля старога каміна
і пагрэем сваю адзіноту.
Я ніколі цябе не пакіну,
хоць дакладна не ведаю, хто ты.

І мне страшна ўзірацца бывае
ў вышыню твайго неба ў паглядзе.
…Гронкі вершаў ніхто не зрывае
ў пазалочаным восеньскім садзе.

* * *

Мурашы расчышчалі
пад лістотаю сцежкі
для прыдуманых казак
і прыдуманых вершаў,

калі ты не вяртаўся
са свайго падарожжа
і паўднёвае лета
памірала прыгожа.

Дацягнуцца да неба
ты ўзыходзіў на горы
і не ведаў, што неба
спачывала на моры.

* * *

Нябесныя рэкі цякуць
па-над намі.
Нябесныя рукі гуляюць
з вятрамі.

Людзьмі нараджаюцца
стомленых птушак
крылатыя і беспрытульныя
душы.

Свайго падабенства ў сустрэчных
шукаюць
І ў сольным палёце, як znічкі,
згасаюць.

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



# ДЖЭК

## *Аповесць*

### ЧАСТКА 1

**Быў канец лета,** калі жнівеньская вясёлая пара паступова змянялася восеньскай сур'ёзнасцю; калі на лісці бяроз праступала першая жаўцізна, а асіны патроху ахоплівала восеньскае полымя; калі птушыныя караваны ўжо цягнуліся на поўдзень, пакідаючы на радзіме лёгкую тугу і нейкае расчараванне: птушкам, як і людзям, чамусьці заўсёды здаецца, што лета будзе бясконцым, — як і само жыццё…

Пост ДАІ знаходзіўся за кіламетр ад Мінска, ля кальцавой. Заступіўшы на дзяжурства яшчэ апоўначы, супрацоўнік ДПС сустракаў новы дзень вельмі стомленым. Ён штохвілінна пазяхаў, пазіраў на гадзіннік, які паказваў сем. Змена хутка заканчвалася. Падняўшыся на пост, старшы лейтэнант зняў фуражку, спаласнуў стомлены твар вадою, выцер яго насоўкаю і зірнуў у невялікае люстэрка, прымацаванае над шклом. На яго глядзеў мужчына сярэдніх год — з невялікай залысінай галава, твар крыху круглаваты, з даволі поўнымі шчокамі; падбародак валявы, з ямачкай, якая звычайна падабаецца жанчынам. Позірк светлашэрых вачэй адлюстроўваў, здавалася, немалы жыццёвы вопыт, што назапашвае чалавек да гэтага ўзросту. Словам, Уладзімір Іванавіч Гулевіч, старшы лейтэнант міліцыі, заканчваў чарговае дзяжурства.

На пульце раптам заміргала сігнальная лямпачка. Інспектар падняў трубку, далажыў дзяжурнаму па Мінску маёру Кудраўцу, што ўсё нармальна, змена прайшла без здарэнняў і што ён гатовы перадаць вахту наступнаму паставому.

Машын амаль не было. Інспектар любіў слухаць звон цішыні, настолькі пранізліва-льдзістым, што здавалася, паруш яе — і яна, як люстэрка, разаб'ецца на мноства драбнюткіх звонкіх асколачкаў.

Раптам цішыню прарэзаў нейкі гул, які хутка мацнеў, шырыўся, запаўняў сабою ўсю прастору. Неўзабаве на шашы паказалася аўто. Гэта ў бок Мінска нёсся стары сіні «форд», які выглядаў так, быццам пабываў у баях ці гонках на выбыванне, прычым выбыў з іх, напэўна, апошнім, калі

*Дзмітрый Пятровіч нарадзіўся ў 1971 годзе ў горадзе Заслаўе Мінскага раёна. У 1991 годзе скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча, у 1996 — Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Працуе галоўным стыльрэдактарам газеты «Звязда» Друкаваўся ў газетах «Настаўнік», «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газета», «Краязнаўчая газета». Аўтар зборніка паэзіі «Белая квецень кахання». і інш.*

нічога цэлага на ім не засталося. Мабыць, шмат разоў перафарбаваны, аўтамабіль даўно страціў першапачатковы выгляд. Левая фара нагадвала падбітае чалавечае вока. Павуціна разыходзілася на ўвесь правы бок лабавога шкла. Усё гэта інспектар заўважыў, ледзь толькі машына наблізілася да паста.

Як уладальнік гэтага «багацця» прайшоў тэхагляд, заставалася загадкай, якую старшы лейтэнант Гулевіч павінен быў абавязкова разгадаць. І ён, узяўшы мікрафон, гучна загадаў:

— Вадзіцель сіняга «форда», загадваю спыніцца! Вадзіцель сіняга «форда», загадваю спыніцца!

Кінуўшы позірк на радар, зразумеў: машына імчалася па шашы з завышанай хуткасцю — за сотню кіламетраў у гадзіну! Нічога сабе! І гэта каля кальцавой, за якой пачынаецца Мінск!

Яшчэ некалькі разоў паўтарыў загад. Безвынікова. Што за нахабства? Нават каля міліцэйскага паста не зніжае хуткасці!

Інспектар сеў за руль сваёй міліцэйскай «шасцёркі», і праз хвіліну машына з «мігалкай» імчалася ўслед за парушальнікам. Вадзіцель «форда» адразу пачуў выццё сірэны. Адначасова віск тармазоў абвясціў пра тое, што «ліхач» гатовы сустрэцца з інспектарам.

Гулевіч падышоў, назваў сябе, ускінуўшы руку да фуражкі. Дзверы машыны расчыніліся, і перад інспектарам з’явіўся «ліхач» — немалады ўжо чалавек гадоў пяцідзесяці, з сівізной на скронях і, як падалося Уладзіміру Іванавічу, з нейкай тугой у пачырванелых вачах. Вакол іх — цёмныя плямы, ад чаго позірк незнаёмага таксама здаваўся пацямнелым, нават змрочным. «Як нейкая пячатка гора на твары», — падумалася інспектару. Было ўражанне, што гэты чалавек плакаў. Апрануты ён быў у шырокія цёмныя штаны, шэры лёгкі пуловер, з-пад якога быў відаць расшпілены каўнер белай кашулі. На нагах чорныя боты, на галаве зялёны капялюш, які можна было ўбачыць у магазіне для паляўнічых. «Толькі пяра фазана не хапае», — падумалася інспектару.

— З палявання ляціце, шаноўны? Ці якраз на паляванне, у Мінск? — Гулевічу хацелася паказаць «кузькіну маці» гэтаму гора-аўтамабілісту або гора-паляўнічаму — хто яго ведае? Хацелася так правучыць яго, каб… Але ён прадстаўнік закона, не мае права, нават без сведак, адзін на адзін.

— Чаму лячу? — вінавата ўсміхнуўшыся аднымі вуснамі, але з нейкай горыччу ў голасе, адказаў пытаннем на пытанне мужчына.

— А на спідометр вы глядзіце хоць калі-небудзь? — зноў з сарказмам спытаў Гулевіч.

— Ну вядома ж, — баязліва адказаў незнаёмец.

— Дык вось, хуткасць у вас за сто зашкальвае, — заўважыў інспектар. — Нават каля міліцэйскага паста. А гэта як мне разумець? Вы не ведаеце, што трэба зніжаць хуткасць, калі пад’язджаеце да населенага пункта?

— Выбачайце, калі ласка, інспектар. Такое са мною ўпершыню. Я ж ужо амаль трыццаць год за баранкай. Прафесіянал. Ніколі не парушаў. Вось паглядзіце, — «ліхач» выйшаў з машыны, працягнуў Гулевічу дакументы.

Старшы лейтэнант узяў правы, тэхпашпарт. Пры гэтым ён заўважыў, што рукі незнаёмца дрыжаць.

— Так, паглядзім. Войцік Васіль Сцяпанавіч, — прачытаў ён, уважліва ўглядзеўся ў фотаздымак, потым перавёў позірк на мужчыну.

З фатаграфіі на яго глядзеў маладжавы чарнявы мужчына з акуратнай прычоскай, чорнымі вусамі «пад Мулявіна», прамым носам з невялікай гарбінкай. А зараз перад Гулевічам стаяў амаль пажылы чалавек. Жыццёвая стома і нейкая разгубле-

насць, відаць, даўно пасялілася ў ягоных калісьці цёмных, а цяпер быццам выцвілых вачах і такіх жа цёмных прыпухлых кругах пад імі. Гэтая ж стома ляжала снегам на валасах і вечным цяжарам на сутулых плячах. Войціку зараз можна было даць гадоў семдзесят, хаця на самай справе, паводле вадзіцельскіх правоў, яму нядаўна споўнілася толькі пяцьдзесят два.

— А што ў вас з аўтамабілем? — пацікавіўся інспектар. — Калі праходзілі тэхагляд?

Гулевіч зірнуў на талон на лабавым шкле і сам жа адказаў:

— Амаль два гады таму праходзілі. А што са шклом і фараю, Васіль Сцяпанавіч?

Войцік, здавалася, збіраўся з думкамі. Адказаў не адразу.

— Шкло пабіў з месяц таму. Няма пакуль грошай на новае. Абяцаю, што хутка замяню.

— А фара? — зноў запытаў інспектар. — Няўжо самі дзе-небудзь у гаражы, калі выязджалі, а? Мне калісьці адзін разумнік так і растлумачыў. Хаця гэта няважна. Усё роўна трэба будзе заплаціць штраф за неахайны выгляд аўтамабіля, а таксама за перавышэнне хуткасці.

Штосьці насцярожвала Гулевіча з самага пачатку, але той ніяк не мог зразумець, што. Нейкае шостае пачуццё падказвала яму: з Войцікам нешта не тое. І раптам ён зразумеў: нервуецца. Калі падаваў дакументы, рукі хадуном хадзілі. «А мабыць, проста «алканаўт»? — хацеў супакоіць сябе Гулевіч. — Не можа быць. А вось і паляўнічы білет, напэўна, стрэльбу, — а на гэта дазвол алкаголікам не даюць».

— Выпіваеце? — спытаў інспектар і ўважліва паглядзеў Войціку ў вочы.

— Як і ўсе, толькі на свята якое, — не задумваючыся адказаў той.

«Праўду кажа, — адзначыў Гулевіч. — А чаму ж тады так нервуецца?»

І раптам новая думка амаль асляпіла інспектара: дапусцім, што Войцік сапраўды ехаў з палявання. Прычым, вяртаючыся дадому, ляцеў як на пажар. «А дзе ж твая здабыча, шаноўны паляўнічы? Мабыць, там, у лесе, кагосьці падстрэліў і не прызнаецца, а дакумента адпаведнага няма. Значыць, ты яшчэ і браканьер? Трэба ўсё праверыць».

— Дык вы з палявання вяртаецеся, Васіль Сцяпанавіч? — асцярожна спытаў Гулевіч.

Той, згаджаючыся, кіўнуў галавою.

— А зброя дзе?

— У багажніку.

— Пакажыце. А таксама дакументы на яе і дазвол на паляванне разам з паляўнічым білетам.

Войцік падышоў да багажніка, Гулевіч — за ім. Зірнуўшы ў цемру адсека, інспектар зразумеў, што ён на правільным шляху: акрамя стрэльбы ў чахле ды «запаскі», у багажніку нічога больш не было. Падазронасць Уладзіміра Іванавіча яшчэ больш узмацнілася, калі ён сцягнуў чахол, узяў стрэльбу, «разламаў» яе надвое і зірнуў у ствол на прасвет. Потым яшчэ і панюхаў. «Вось дык змена сёння, ёлкі-палкі! Яшчэ, глядзі ты, пашчасціла мне, напэўна, забойцу затрымаць! Не браканьер гэта, адразу бачна». А ўслых сказаў:

— Дык, кажаце, з палявання едзеце? А дзе ж гэта вашы трафеі, Васіль Сцяпанавіч, а? У лесе засталіся?

«Можа, канечне, сказаць, што страляў, але прамахнуўся. А на самай справе? Нават цікава! — інспектар уважліва зірнуў на дакументы Войціка. — Ого! Кандыдат у майстры спорту. Такія рэдка прамахваюцца».

— Спартсмен?

— Нават чэмпіёнам рэспублікі калісьці быў.

— Які від спорту?

— Стэндавая стральба.

Гулевіч нават прысвіснуў.

— Дык дзе ж вашы трафеі, грамадзянін Войцік?

Той адвёў позірк убок.

— На жаль, не было па кім страляць. Нічога не трапілася.

«Не навучыўся хлусіць. Гэта і лепш — папаўся ты, чалавеча»,— заключыў Уладзімір Іванавіч.

— Вы ж вопытны стралок, паляўнічы. Дык навошта хочаце мяне падмануць? Думаеце, не зразумеў, што з вашага ружжа стралялі? Нагар свежы, ды і пах адпаведны.

Войцік адразу звяў. У інспектара паступова складвалася ўражанне: гэтаму «стралку» было ўсё роўна, што чакае яго.

«У іншай сітуацыі, напэўна, змог бы выкруціцца. А тут, вельмі нервуючыся, не звярнуў увагі на тое, што па стрэльбе можна было заўважыць, карысталіся ёй ці не. Напэўна, нешта вельмі турбуе яго. Ці проста здарылася што. У любым выпадку я зрабіў нават больш, чым патрабавалася. Здам гэтага Войціка куды трэба — няхай там з ім разбіраюцца!» — падвёў вынікі свайго даследавання інспектар Гулевіч.

З боку Мінска паказаліся міліцэйскія «Жыгулі».

— Ну вось, едзе мая змена. Зараз вас, грамадзянін Войцік, адвязуць у аддзяленне. Там усё і раскажаце, — рашуча заявіў інспектар.

— Вы мяне затрымліваеце? За што? Што я такое зрабіў? Штраф заплачу, абавязкова. Выпісвайце квіток! А на зброю я маю ўсе дакументы!—у Войціка раптам прарэзаўся голас.

Гулевіч лішні раз пераканаўся, што Войціка адпускаць нельга. Нешта падказвала інспектару, што гэты «Шумахер» расказаў не ўсё.

У Войціка раптам задрыжалі рукі, ён нават не ведаў, куды падзець іх. Войцік падышоў да сваёй машыны, сеў на вадзіцельскае месца, не зачыніўшы дзвярэй, паклаў рукі на руль і ўтаропіў свой позірк кудысьці ўдалеч. Уцякаць не спрабаваў, так і прасядзеў да прыбыцця міліцыі.

* * *

Здавалася, што яго ніхто не затрымліваў. На ягоных руках не было наручнікаў. Войцік проста перасеў у міліцэйскія «Жыгулі», і яны памчаліся ў Мінск. За імі на сінім «фордзе» ехаў сяржант-паставы.

У машыне, акрамя Войціка і вадзіцеля-сяржанта, сядзеў ужо знаёмы нам старшы інспектар Гулевіч і разам з ім, па правы бок ад затрыманага, капітан міліцыі ў форме, як потым высветлілася, намеснік начальніка таго аддзялення, куды везлі цяпер нашага «Шумахера». Міліцыянеры час ад часу ціха перагаворваліся.

— Слухай, Іванавіч, — гаварыў капітан. — І чаму, скажы, табе так шанцуе? Канец дзяжурства — і на табе, такі «фрукт»! Не хапала нам яшчэ агнястрэлу!

— Ну не кажы, Пятро Фёдаравіч! — стомлена сказаў Гулевіч. — Вядома ж, хочацца ўжо дадому, але…

Уладзімір Іванавіч падняў фуражку, выцер успацелы лоб.

— Лічу, усё ж неабходна высветліць, што з чалавекам, — пакасіўся на затрыманага. Мы ж нічога не ведаем. Ён маўчыць ужо з паўгадзіны. Як вады ў рот набраў.

— Нічога, Іванавіч, — адказаў капітан, — вось і прыехалі. Тут разбяруцца.

Машына спынілася ля ганка трохпавярховага шэрага будынка з чырвонай дошкай над уваходам.

Неба зацягнулі хмары. Церусіў дожджык, і шэры будынак аддзялення міліцыі быццам бы зліваўся з шэранню жнівеньскага ранку. Капітан працягнуў руку Гулевічу:

— Усё, Іванавіч, дзякуй. Давай толькі напішы рапарт у дзяжурцы і дадому, адпачываць. Далей ужо мой клопат.

Пятро Фёдаравіч звярнуўся да Войціка:

— Выходзьце!

* * *

Прайшоўшы некалькі калідораў і падняўшыся на другі паверх, капітан з Войцікам апынуліся ў невялікім кабінеце з сейфам у куце, шафай ля ўвахода і сталом, які перагароджваў памяшканне надвое.

Тут толькі Войцік звярнуў увагу на капітана. Гэта быў амаль яго аднагодак. Коратка астрыжаны, шыракаплечы, з высокім прамым ілбом, глыбока пасаджанымі шэрымі вачыма, гарбаносы, капітан Пятро Фёдаравіч Корань быў вельмі ўпартым у жыцці чалавекам, меў цвёрдую асабістую пазіцыю ва ўсім: і ў сямейных справах, і ў службовых. Пра такіх звычайна з павагаю гавораць «сапраўдны крэмень». І праўда, калі Пятро Фёдаравіч ставіў перад сабою задачу, то абавязкова дабіваўся свайго. Таму ўсе падначаленыя называлі яго «наш Корань», або, калі, бывала, крыўдавалі на яго, — «Козьма Пруткоў». Капітан мог сказаць чалавеку ў вочы тое, што думае, а гэта далёка не ўсім падабаецца.

Калісьці, на адной нарадзе, калі падводзілі вынікі за паўгоддзе па раскрывальнасці злачынстваў па раёне, Корань перад усімі прысутнымі (а было чалавек трыццаць), адказваючы на чыёсьці пытанне, у запале выдаў такі маналог: «Каб вырашыць праблему, неабходна добра бачыць яе падаплёку». І працытаваў: «Нездарма Козьма Пруткоў сказаў: «Зри в корень…» Вось пасля той палымянай прамовы капітан і атрымаў адпаведнае прозвішча-мянушку. Быў ён даволі прынцыповым, нават жорсткім, а галоўнае, справядлівым: у кожным, з кім зводзіў лёс, добрасумленным або злачынцу, бачыў перш за ўсё *чалавека* — асобу адметную, непаўторную. Яго паважалі ўсе: і таварышы па працы, і, як у нас кажуць, «прадстаўнікі крымінальнага свету». А перад капітанам сядзеў чалавек, якога можна было падазраваць у некалькіх адміністратыўных парушэннях закона або нават у цяжкім злачынстве. А калі гэта памылка і чалавек не вінаваты ні ў чым?

Стол у кабінеце быў своеасаблівым бар’ерам паміж імі: з аднаго боку — прадстаўнік закона, а з другога — той, хто парушыў закон або падазраваўся ў гэтым.

Перш чым пачаць размову, Корань уважліва паглядзеў затрыманаму ў вочы. Глядзеў доўга. Адразу адчуў, што яго суразмоўца чагосьці баіцца — вочы бегаюць, не ведае, куды рукі падзець. Выцягнуўшы з кішэні пачак цыгарэт, капітан прапанаваў Войціку:

— Бярыце.

Той дрыжачымі рукамі ўзяў адну. Запалкі не слухаліся яго. Толькі з трэцяй Войцік закурыў. Зацягнуўся, выпусціў дым, і нейкае падабенства задавальнення, няхай і часовага, з’явілася на ягоным твары. Раптам кашаль вырваўся з яго грудзей. Войцік затушыў цыгарэту ў попельніцы. І зноў нервова. Заўважыўшы, як капітан прыглядаецца да яго рук, Войцік схаваў іх пад стол.

— Даўно курыце?

— Шчыра кажучы, ужо дванаццаць год не курыў.

Капітан кіўнуў:

— Я бачу. Дарэчы, вы кожны раз з такой хуткасцю ездзіце… — Корань зірнуў на дакументы затрыманага. — …Васіль Сцяпанавіч?

— Я… не… толькі сёння… Паверце…

Было відаць, што Войцік вельмі разгублены.

— Скажыце, а вы заўсёды ездзіце на паляванне ўначы, а вяртаецеся а сёмай гадзіне раніцы?

— Я…

— А па кім вы стралялі ноччу, ніякай жа здабычы пры вас няма? У паветра палілі? З кім вы былі на паляванні? Мабыць, вашы трафеі ў іх?

Раптам вочы Войціка напоўніліся слязьмі. Нервы яго не вытрымалі. Ён закрыў твар рукамі. Плечы затрэсліся.

— Джэк… — пачуў капітан. — Мой Джэк… Я страляў у Джэка, — ледзьве чутна вымавіў Войцік.

## ЧАСТКА 2

Яркае вясенняе сонца рэзала вочы.

Дом знаходзіўся на ўзгорку, і таму з вышыні восьмага паверха Мінск бачны як на далоні. Аднолькавыя шэрыя панэльныя шматпавярхоўкі ды некалькі вялізных заводскіх труб на гарызонце — вось і ўвесь пейзаж. Андрэй уздыхнуў. Больш пашанцавала тым, чые вокны выходзяць на другі бок іх панэльнага гмаху. Там цягнецца бліскучая сярэбраная стужка вадасховішча, па беразе якога яны ўсёй сям’ёй так любяць прагуляцца ўвечары, асабліва летам, калі спякота спадае, а па вадзе паважна плывуць дзікія качкі. Для іх Войцікі заўсёды бяруць з сабою хлеб. Некалькі разоў тут бачылі нават лебедзяў.

У свае чатырнаццаць год Андрэй Войцік, здавалася, меў усё: тата са спаборніцтваў прывозіў шмат сувеніраў, у тым ліку машынак, якіх не было ў аднакласнікаў. На мінулы дзень нараджэння Андрэй атрымаў доўгачаканы падарунак — касетны магнітафон. Яго тата прывёз з Германіі. Японскі. Равеснікі Андрэя карысталіся або дабітай «савецкай» тэхнікай, або таннымі тайваньска-кітайскімі падробкамі «пад Японію». Яго «Панасонік» адрозніваўся перш за ўсё якасцю гучання, што вельмі падабалася Войціку, а таксама тым, што сапраўдныя «японцы» не ламаліся так, як іх кітайскія «сябры». Такая тэхніка спраўна магла служыць дзесяць і нават пятнаццаць гадоў.

У спартыўнай школе Андрэй Войцік займаўся дзюдо ўжо сем гадоў, меў першы дарослы разрад. Тата колькі разоў гаварыў яму: «І навошта табе, сын, гэтае дзюдо? Ідзі лепш да мяне — на стэндавую стральбу. У мяне аўтарытэт, столькі знаёмых — зробім з цябе чэмпіёна». І хоць у яго школе кожны ведаў, што Андрэй — сын чэмпіёна рэспублікі Васіля Войціка, але Войцік-малодшы цвёрда стаяў на сваім: «Буду дзюдаістам». Яму сапраўды зусім не падабалася доўгае чаканне на адным месцы, прыцэльванне. Андрэй любіў рух, дынаміку, прыёмы. Віктар Тарасавіч, трэнер, часта хваліў яго. І не толькі таму, што добра ведаў Войціка-старэйшага, але і таму, што бачыў у сваім выхаванцу спартсмена, асобу, прычым такую, якая зможа дасягнуць пэўных вынікаў. Пасля чарговых спаборніцтваў бацька такі адчапіўся ад сына. «Твой ВТ сказаў, што з цябе можа атрымацца неблагі спартсмен — у наступным сезоне на рэспубліку паедзеш», — змоўніцкім тонам тады паведаміў яму Войцік-старэйшы.

Андрэй і яго таварышы па спартыўнай школе звычайна паміж сабою называлі свайго трэнера ВТ або па імені. Таму што калі скласці першыя склады яго імя і імя па бацьку — «*Вік*» і *«Тар»,* — усё роўна атрымлівалася слова *«Віктар»*. Праўда,

Ягор Ляшкевіч, сябар Андрэя, прапанаваў называць трэнера *«торы»*, што з японскай мовы перакладаецца як *«нападаючы»*. Але гэта неяк не прыжылося. Увосень пачнуцца рэспубліканскія спаборніцтвы, і тады, ведаў Андрэй, ёсць шанц атрымаць наступны разрад і новы пояс. За сваімі думкамі Андрэй забыўся, навошта зайшоў на балкон.

— Андруша, — пачуўся голас маці. — Ты там не заснуў часам? Нясі агуркі!

— Ой, і праўда! — раптам успомніў Андрэй.

Узяўшы з паліцы слоік, хлопец вярнуўся ў пакой.

Пасярод залы стаяў вялікі, накрыты святочным абрусам стол. Сёння вырашылі нікога не запрашаць, а абмежавацца сямейным колам — святкавалі чатырнаццацігоддзе Андрэя. Дата не круглая, ды і імяніннік яшчэ не сталы.

— Андрэй, дапамажы хлеб парэзаць! — у залу заляцела, нібы ў вальсе, Лана, старэйшая сястра. У белай блузцы, джынсах, якія падкрэслівалі статную дзявочую постаць, яна здавалася сапраўднай прыгажуняй. Лана якраз нядаўна адсвяткавала паўналецце і лічыла сябе ўжо дарослай. Уся ў маці — разумная, шчырая, але ўпартая. Можа такое ў вочы сказануць, што толькі трымайся! Таму яе паважалі і нават пабойваліся. Андрэй хоць, бывала, і сварыўся з сястрою, як здараецца ў любой сям’і, але прывык прыслухоўвацца да Ланы. Поўнае імя яе было Святлана. Але яшчэ даўно, як толькі пачынала гаварыць, не магла цалкам паўтарыць яго. Спачатку гучала цікава і весела. А потым прыжылося…

Андрэй забег на кухню, дзе завіхалася маці.

— Нешта наш імяніннік сёння зажурыўся — не дазвацца! — пажартавала яна і ласкава зірнула на сына. — А мо марыць пра што?

Гаварылі, што ў маладосці Таццяна Яўгенаўна Войцік была падобная да Марыны Уладзі, жонкі Высоцкага. Вось і цяпер, убачыўшы матулю і пачуўшы яе прыгожы голас, Андрэй падумаў пра гэтае падабенства. Чорна-белы фільм «Вядзьмарка» па Купрыну з Уладзі ў галоўнай ролі ён бачыў шмат разоў — у сям’і любілі класіку, і асабліва гэтую карціну.

Андрэй не адказаў матулі, толькі ўсміхнуўся.

— Ланачка! — паклікала маці дачку. — Ты тату не тэлефанавала? Калі ён будзе?

— Зараз пазваню, — адказала Лана.

Яна стаяла каля люстра і прыхарошвалася. Светлыя доўгія валасы залатымі хвалямі струменіліся па плячах, а ясныя вочы, здавалася, увабралі ў сябе ўсю непаўторную прыгажосць васількавага лугу, блакітных азёр і чысцюткага бясхмарнага неба, вечна юнага, як сама Зямля…

* * *

Пранізлівы званок у дзверы, напэўна, напужаў усіх. Ён азваўся грукатам на кухні — маці не ўтрымала нешта ў руках. Лана азірнулася, трымаючы памаду. Андрэй выйшаў у вітальню. За ім — Таццяна Яўгенаўна.

На парозе стаяў Васіль Сцяпанавіч Войцік — бацька гэтага дружнага сямейства. Як доўга ні чакалі яго, з’яўленне атрымалася эфектным. Тым больш што ў руцэ ён трымаў нешта падобнае да клеткі, але з пластмасы — памерам з добры чамадан. У другой трымаў насоўку, якой выціраў пот з ілба.

— Прабачце, мае даражэнькія! Ездзіў да твайго ВТ, — кіўнуў сыну, — па падарунак. Замовіў яшчэ вясною. А ён малайчына, твой Віктар Тарасавіч, дастаў усё ж такі! — скорагаворкаю выпаліў Войцік гэтыя словы. І раптам успомніў, што не павіншаваў сына.

— Ой, сын, прабач… Андруша, я віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю, каб усе твае мары абавязкова здзяйсняліся. А адна з іх, спадзяюся, збудзецца й зараз. Зразумеў, пра што гавару?

У Андрэя перахапіла дух. Няўжо пра сабаку? Калісьці бацька катэгарычна не згаджаўся трымаць у доме каго-небудзь з братоў меншых. «Вось падрасцеш — і тады атрымаеш сабе сябра, калі зможаш даглядаць яго», — гаварыў ён. Вось і прыйшоў час…

— Трымай, — скончыў нарэшце бацька, перадаючы сыну пластмасавы «чамадан».

Усе прыселі над скрынкаю. Андрэй дрыжачымі рукамі, якія не слухаліся ад хвалявання, з заміраючым сэрцам адчыніў дзверцы «доміка». Паказаўся цікаўны цёмны шагрэневы нос, потым галава. І нарэшце на падлогу выслізнуў увесь сабака — не, яшчэ не дарослы, а толькі шчанюк. Але які! Прыгожы, напэўна, пародзісты. Будучая аўчарка. Дакладней кажучы, «аўчар». А выраз сабачага «твару» быў сапраўды наіўным, даверлівым. І гледзячы ўсім у вочы, сабачка праклыпаў да новага крэсла і прысеў каля яго: шчанюкі яшчэ не ўмеюць задзіраць лапу.

— Ну вось і прапісаўся на новым месцы! — усміхнуўся Васіль Сцяпанавіч, робячы націск на трэцім складзе ў слове «прапісаўся».

— Дакладней кажучы, «прапісаўся»! — паўтарыла гэтае слова Лана, акцэнтуючы на другі склад.

Усе засмяяліся.

— Сапраўдная аўчарка, як у Альхоўскіх! — заўважыла Таццяна Яўгенаўна. — Толькі маленькая. Маленькі. Хлопчык.

— Не, мама. У Альхоўскіх нямецкая аўчарка, а гэта ўсходнееўрапейская. Хаця па шчанюку, бывае, цяжка адрозніць яшчэ, — Андрэй шмат літаратуры «праглынуў» на адпаведную тэму і таму гаварыў упэўнена. — Потым паглядзім. Нямецкая — чорная, а ўсходнееўрапейская — чорна-залацістая, з падпалінамі. А якія яны разумныя! Вядома, калі вырастуць…

Таццяна Яўгенаўна паднялася.

— Так, спецыялісты-кінолагі! — звярнулася яна да ўсіх. — Усім зараз жа мыць рукі — і за стол! У нас жа сёння свята!

Неўзабаве сям’я сядзела за сталом. Усе дружна віншавалі імяніnніка. Андрэй радаваўся: свята не толькі падняло яму настрой, але і прымусіла па-іншаму зірнуць на жыццё — столькі клопатаў прынёс з сабою новы маленькі член сям’і!

— А як завуць яго? — раптам спытаў Андрэй.

— Прабачце, даражэнькія, зусім забыўся! — успомніў пра нешта Войцік-старэйшы. — Вось якраз і пашпарт нашага сабакі.

Васіль Сцяпанавіч устаў, выцягнуў з кішэні дакумент, падаў яго сыну.

— Міжнародны пашпарт, — прачытаў Андрэй на вокладцы. Разгарнуў.

— Дай мне, я хутчэй знайду! — папрасіла нецярплівая Лана.

— Вось, тут напісана… усходнееўрапейская аўчарка… пародзісты… А завуць яго… Поль.

— Дык ён француз! — засмяялася Лана.

— Ну што гэта за мянушка для сабакі — Поль? — Андрэй не згаджаўся з тым, што напісана ў «сабачым» пашпарце. Хоць і ў міжнародным. — Давайце будзем зваць яго па-іншаму, а?

— А забабонаў не баішся? — Васіль Сцяпанавіч хітра, усміхнуўшыся аднымі вачыма, паглядзеў на сына. — Кажуць, што мяняць мянушку ў пашпарце нельга, бо жыццё сабакі будзе нешчаслівым: ці доўга хварэць будзе, ці нават сканаць можа, бывае, і не сваёй смерцю…

Андрэй спачатку нічога не адказаў. Задумаўся.

— А калі гаспадару не падабаецца, чаму нельга мянушку змяніць?

— А што ты прапануеш, гаспадар? — Войцік зірнуў сыну ў вочы.

— Хачу назваць сабаку па-свойму.

— Як?

Андрэй акінуў позіркам кніжную паліцу над галавою бацькі, які сядзеў за сталом насупраць. Адна з кніжак не стаяла разам з усімі, а ляжала наверсе. Падлетак прачытаў: «Джэк Лондан. Апавяданні». Гэта быў адзін з яго любімых пісьменнікаў, як Янка Маўр, Фенімор Купер, Майн Рыд.

— Слухайце. Я прыдумаў, — Андрэй абвёў позіркам усіх. — Давайце назавём яго Джэк. Як Лондана.

— А што, гучыць нядрэнна, — падтрымала брата Лана. — Джэк. Не тое, што Поль гэты. Няхай будзе не французам, а англічанінам. Але тата гаварыў…

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць, — Васіль Сцяпанавіч усміхнуўся. — Вядома, калі верыць усім забабонам, то і з хаты нельга ўвогуле выходзіць, каб не сурочылі.

— Хаця іншы раз трэба прыслухоўвацца, што добрыя людзі кажуць, — асцярожна заўважыла Таццяна Яўгенаўна.

— Ведаем мы такіх добрых людзей! — ці то сур’ёзна, ці то жартаўліва сказаў Войцік-старэйшы. — Адны плёткі навокал. І кроку без іх нельга зрабіць. Толькі штосьці скажаш на пачатку калідора, як у канцы яго табе пра гэта ўжо дакладаюць, але ў якім выглядзе! З ног на галаву паставяць. І асабліва ў бабскім калектыве! Вось дзе рассаднік!

— У мужчынскім не горш бывае! — жартаўліва парыравала жонка. — Сваё начальства ўспомні! Толькі плёткам і верыць!..

Андрэй баяўся, што гэтая, з жартачкамі спачатку, размова магла перарасці ў нешта больш сур’ёзнае.

— А чым карміць будзем Джэка? — ён трымаў сабаку на руках, а той імкнуўся ўхапіць новага гаспадара за палец.

Бацькі адразу спынілі «баталіі». Успомнілі, што ў сына дзень нараджэння.

— Я корму яму купіў, для шчанюкоў, імпартны. Джэк наш, мяне папярэдзілі, прывучаны ўжо да гэтага корму. У вітальні мяшэчак.

Насыпаўшы ў пластмасавую місачку корм, Андрэй з цікавасцю назіраў, як яго гадаванец пачаў са смакам частавацца…

Так у сям’і Войцікаў з’явіўся Джэк — галоўны герой гэтай гісторыі.

## ЧАСТКА 3

Сонца сваімі промнямі, здавалася, парэзала ўвесь пакой, — і ў тым ліку стол, падлогу, шафу, — на бліскучыя астраўкі. Цень ад аконных кратаў адбіўся на стале і на твары Васіля Сцяпанавіча. Але Войцік нічога не заўважаў. Слёзы прынеслі частковае суцяшэнне, і ён нібы скінуў нейкі цяжар з плячэй.

Капітан Корань наліў вады.

Войцік уздыхнуў, дрыжачымі рукамі ўзяў кубак, зрабіў некалькі глыткоў і, гледзячы кудысь убок, нібы ўзіраючыся ў мінулае, зноў пачаў расказваць.

— Ажаніўся я яшчэ ў канцы сямідзясятых. Пасля інстытута працаваў інжынерам у канструктарскім бюро на заводзе. Актыўна займаўся спортам. Атрымаў магчымасць выступаць на раёне, горадзе, а потым і рэспубліцы. У пачатку дзевяностых, калі Саюз разваліўся, як і іншыя, спрабаваў ездзіць з адным маім сябрам у Польшчу. Мой таварыш прапанаваў — яшчэ ў інстытуце разам вучыліся. А дзе

грошы браць? Пазычыў у сяброў-спартсменаў трохі і тое, што было на кніжцы, узяў. Накупілі сяго-таго. Усяго два разы з'ездзілі. А на трэці — ледзьве жывымі засталіся. На вакзале ў Беластоку да нас падышоў малады хлопец і па-руску запытаў, каторая гадзіна. Мы, напэўна, па інерцыі па-руску і адказалі. А калі апынуліся ў бязлюдным месцы (за намі, безумоўна, сачылі), падышлі нейкія людзі, дасталі нажы, ткнулі адзін мне ў бок, сказалі, што заб'юць, калі нават пікнем, і забралі ўвесь тавар…

Войцік горка ўсміхнуўся. Памаўчаў. Глытнуў вады.

— …Пакінулі толькі дзесяць долараў — на білет да Мінска… Пасля таго выпадку ўвогуле баяўся ездзіць куды-небудзь. А мой таварыш не думаў здавацца. Яго знаёмы быў брыгадзірам калымшчыкаў у Расіі. Яны будавалі катэджы. Я таксама вырашыў паспытаць шчасця. Быў featurerabочым: раствор там прынесці, цэглу разгрузіць… Ды і гэтая справа не заладзілася. Аднойчы пасля дажджу паслізнуўся на мокрых рыштаваннях. Упаў. Зламаў пару рэбраў. Страхоўкі ніякай не было. Гаспадар заплаціў нейкія капейкі, каб я вярнуўся дадому. Схуднеў, счарнеў… Нават Таня, жонка, ледзьве пазнала. А дзяцей карміць трэба. Мае таварышы па спорце таксама кінуліся ў заробкі: хто таксістам, а хто і ў ахову. Нарэшце і я, нікуды не ад'язджаючы, тут, у Мінску, знайшоў сабе працу па душы: выпадкова сустрэў яшчэ аднаго інстытуцкага прыяцеля і пайшоў да яго ў магазін будаўнічых матэрыялаў менеджэрам-кансультантам. Спатрэбіўся мой былы інжынерны вопыт. Адрамантаваў кватэру. Купіў старэнькага «форда». Паступова з'явілася сякая-такая капейка. Кожны год з жонкай і дзецьмі пачалі ездзіць у Крым… Чаго яшчэ чалавеку патрэбна?

— А Джэк? — нарэшце перахапіў ініцыятыву Пятро Фёдаравіч. Капітан курыў чарговую цыгарэту, стоячы ля расчыненай форткі.

Войцік раптам здрыгануўся, нібы ўспомніўшы пра нешта балючае.

— Вы толькі што прыгадалі пра дзень нараджэння сына, пра тое, як зрабілі яму падарунак, — Корань узяў попельніцу, сеў за стол.

У вачах Войціка раптам паказаліся слёзы. З кішэні ён выцягнуў партманет, з яго — фотаздымак.

— Вось наша сям'я. І Джэк… Хіба ж не прыгажун?

Ён зноў схіліў галаву, а калі падняў, на твары была такая горыч, што капітану, чалавеку далёка не сентыментальнаму, хацелася яго суцешыць. Пятро Фёдаравіч узяў фотаздымак. Фота было зроблена, напэўна, дзесьці на прыродзе. Старэйшы Войцік разам з жонкаю стаяць, абняўшыся. Перад імі на траве сядзяць дзеці, ужо амаль дарослыя. Андрэй гладзіць па галаве сабаку, які быццам шчаслівы ўсміхаецца, мружачыся ад сонца.

Пятро Фёдаравіч калісьці таксама меў чатырохногага сябра. Некалькі год таму ў яго жыў маленькі чорненькі «тойчык»[1] Тоша. Жонка з дачкой, ды і ён сам, не маглі нарадавацца на свайго любімца. Але чумка — адкуль толькі ўзялася тая хвароба? — забрала ў іх Тошку. Гаравалі па ім, як па чалавеку. Пасля вырашылі: больш ніякага сабакі ў доме не будзе…

А цяпер, гледзячы на фатаграфію Джэка, Пятро Фёдаравіч нібыта зноў перажыў страту свайго ўлюбёнца. Любы сабака нагадваў яму Тошку…

А з гэтага здымка на Кораня глядзеў прыгожы дарослы аўчар. Вострыя вушы, чорны бліскучы нос, жоўта-чорная з падпалінамі поўсць — як быццам звычайная «знешнасць» сабакі гэтай пароды. Але штосьці незвычайнае было ў Джэка. Але што? «Вочы!» — раптам здагадаўся капітан. Позірк Джэка быў не падобны на звярыны. «Гэта амаль чалавечы позірк, у якім адлюстраваўся не інстынкт, а нешта разумнае, больш глыбокае…» — усё гэта маланкай пранеслася ў галаве Кораня.

[1] *«Тойчык» (той-тэр'ер)* — парода дробных сабак.

«Дзіўна, — падумаў ён, — сабака з чалавечымі вачыма...» Уздыхнуў. «Амаль як у Тошкі», — зноў прамільгнула думка.

— Колькі радасці ён нам прыносіў, — працягваў Война, — быў сапраўдным членам сям'і. Для Андрэя ды і ўсіх нас, Джэк быў добрым сябрам, надзейным абаронцам — вялікім, ласкавым, прыгожым...

Мужчына на хвіліну змоўк, апусціўшы вочы долу. Зноў на ягоным твары з'явілася нешта падобнае на горкую ўсмешку.

— Джэк, як і любы добра выхаваны сабака, ніколі не мог пакрыўдзіць чалавека, асабліва малое дзіця альбо каго-небудзь з нашай сям'і. І калі для дзіцяці дзесяцьдванаццаць год не ўзрост, то для сабакі гэта ўжо старасць.

Твар Войціка зноў стаў змрочным.

— Узрост заўсёды бярэ сваё... Уявіце сабе старога чалавека, які занядужаў, хварэе, патрабуе шмат увагі. Так і Джэк. Колькі я аб'ездзіў ветэрынараў! Усе гаварылі, што доўга ён не працягне. А з вясны гэтай стаў не падобным на сябе — раздражнёным, нават агрэсіўным. Я якраз хацеў паехаць з Джэкам да ветэрынара. Але не паспеў...

Войцік хутка зірнуў на капітана.

— Вы нічога не падумайце толькі... Я ніколі не думаў аб тым, каб усыпіць Джэка. Паверце, ніколі такой думкі не ўзнікала... Але ўчора...

Ён на хвіліну замаўчаў...

* * *

Капітан Корань разумеў, як цяжка гаварыць чалавеку, што сядзеў насупраць яго. Той, здавалася, згінаўся пад цяжарам сваіх слоў, той віны, якую адчуваў, тых падзей, якія зараз перажываў нанова. Але ў чым была віна яго?

— Але ўчора, — відаць, сабраўшы ўсе сілы, працягваў Войцік, — я якраз быў у гаражы — пяць хвілін ад дома. І тут пазваніла маці — яна жыве зараз з намі. Я добра чую, як рычыць Джэк, і разумею: нешта здарылася. А маці як загалосіць у трубку: «Сынок, ляці хутчэй! Сабака звар'яцеў! Зараз усіх пакусае! Як мяне...» Не дагаварыла, кінула трубку. У мяне зямля пайшла з-пад ног... Але сумеўся. Кінуўся на машыне дахаты. Уляцеў у кватэру. Маці пасярод кухні. Стаіць, прыціскае правую руку. З яе цячэ кроў. Побач жонка з нейкай анучкай. Паміж імі — Джэк. Ашчэрыў зубы. Рык на ўвесь дом. Аказваецца, калі сабака еў, маці хацела змяніць у ягонай паілцы ваду (каля паілкі якраз і знаходзіўся сухі корм для Джэка). У гэты момант сабака нечакана зарычаў (такога яшчэ ніколі не было) і цапнуў маці за руку. Яна не чакала такога ад Джэка. Яна збянтэжылася не столькі ад болю, колькі ад крыўды на яго. Хаця якія зубы ў аўчаркі, вы, пэўна, ведаеце... Маці закрычала. Прыбегла жонка. Замахнулася на Джэка павадком. Той ашчэрыў зубы і на яе. Маці толькі тады заўважыла, што з рукі цячэ кроў. Рана была невялікая, але жанчыны спалохаліся. Маці патэлефанавала мне. Дзякуй богу, я быў недалёка...

— А чаму вы не выклікалі ветслужбу? — пацікавіўся Пятро Фёдаравіч.

— Я быў упэўнены, што Джэк мяне, свайго гаспадара (а любы сабака заўсёды выбірае сабе ў сям'і галоўнага «гаспадара», якога ва ўсім слухаецца), пакрыўдзіць не пасмее. Але, заляцеўшы тады ў кватэру, усё ж схапіў наморднік і павадок. А ўбачыўшы, як па руцэ маці сцякае кроў, сам быццам звар'яцеў: як ён мог пакрыўдзіць роднага, самага дарагога мне чалавека?! Гэтага я зразумець не мог. Маці імкнулася нешта сказаць... Але злосць цалкам захапіла ўсе мае думкі, пачуцці. З-за дзвярэй я ўбачыў збялелы твар Ланы — яна баялася заходзіць. Дачка чакае дзіця — ёй нельга хваляваца. Выклікалі «хуткую». Усё раптам закруцілася навокал, як у страшэннай

завірусе… Я задыхаўся ад крыўды, болю і злосці на таго, хто да апошняга моманту быў нашым улюбёнцам, сапраўдным членам сям'і. Гэты боль рос. І мне стала страшна. Душа чакала помсты. Я, не гаворачы ні слова, падляцеў да Джэка, начапіў павадок і пацягнуў сабаку за сабою. Як на бяду, позірк мой упаў на жалезную шафу, дзе стаяла ў чахле стрэльба. Схапіў яе. Джэк раптам усё зразумеў. Пакорліва паплёўся за мною. Жанчыны мае хорам залямантавалі: «Куды ты? Не трэба!» Але я нікога не чуў: не мог дараваць Джэку…

Войцік на хвіліну змоўк. Корань наліў яму вады. Той зрабіў некалькі глыткоў.

— Дык вось… Я зацягнуў Джэка ў машыну. Даў па газах. Як звар'яцелы, ляцеў праз увесь горад, за кальцавую. Памятаю толькі нейкі туман у вачах, галаве… Вылецеў з трасы на прасёлак. Як быццам калісьці ездзіў сюды на паляванне. Нырнуўшы паміж бяроз у нізінку, спыніў машыну на паляне, каля вялікай паваленай бярозы. Выцягнуў з чахла стрэльбу. Уставіў два патроны — не памятаю, з якім дробам. Джэк не супраціўляўся… Ён стаяў перада мною. Толькі трохі схіліў галаву набок… А ў яго вочы чалавечыя… Я не мог у іх глядзець… Я не мог вытрымаць гэты позірк… Ускінуў стрэльбу. Рукі не слухаліся… Не цэлячыся, пальнуў дуплетам. Куды трапіў, не ведаю: слёзы заслалі вочы. Толькі пачуў прыглушаны енк — і ўсё… Свет захістаўся перада мною. Жыць у той момант не хацелася…

Войцік закрыў галаву рукамі. Плечы яго затрэсліся... Пятро Фёдаравіч пачакаў некалькі хвілін. Потым пасунуў да яго кубак з вадою.

— Супакойцеся. Выпейце вады.

Войцік дрыжачымі рукамі ўзяў кубак. Глытнуў. Цяжка ўздыхнуў.

— Не памятаю, як апынуўся ў машыне… Кудысьці ехаў… Потым спыніўся, доўга стаяў. Перад вачыма быў збялелы твар маці… і вочы Джэка… Я не ведаю, што з ім стала… Памятаю, што машынальна набраў маці, спытаў, як яна. Сказала, што рука ў парадку… А астатняе вы ведаеце…

## ЧАСТКА 4

Нягледзячы на тое, што ў летнія месяцы школьнікі раз'язджаюцца хто куды, у мастацкім музеі было людна. Розная публіка: адзінокія інтэлігенты, аматары (зрэдку прафесіяналы) са стажам, невялікія групкі іншаземцаў з фотаапаратамі і, вядома ж, вялікія дэлегацыі вучняў з заклапочанымі настаўнікамі (пэўна, са школьных летнікаў) — таўклася ў фае на першым паверсе перад вялізнай прыгожай лесвіцай, што «вяла ў незвычайны свет мастацтва». Так казала чорнавалосая мініяцюрная дзяўчына-экскурсавод, якая стаяла перад адной з такіх дэлегацый падлеткаў-гімназістаў. Побач з дзецьмі знаходзіўся і іх настаўнік — малады мужчына гадоў пад трыццаць, хударлявы, у светлай тэнісцы з гальштукам і лёгкіх штанах «у тон». Светла-шэрыя вочы яго, здавалася, выпраменьвалі цікавасць да ўсяго, што адбывалася навокал. Амаль кожную хвіліну ён папраўляў рукою акуляры, якія спаўзалі на кончык носа. Андрэй Васільевіч Войцік быў у музеі далёка не першы раз. І сёння настаўнік гісторыі прывёў сваіх выхаванцаў на чарговую экскурсію. Ён і сам мог бы шмат чаго расказаць вучням — вельмі ж захапляўся жывапісам, асабліва заходнееўрапейскім, хаця і ў рускім разбіраўся нядрэнна. Але тут, у храме мастацтваў, заўсёды перакладаў гэты «пачэсны абавязак» на плечы прафесійных экскурсаводаў.

…І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж персідскага узора
Цвяток радзімы васілька…

Гэтыя радкі Багдановіча вярнулі Андрэя да рэчаіснасці…

— Сёння, дзеці, вы ўбачыце калекцыю славутых слуцкіх паясоў, і таму да гэтага верша «Слуцкія ткачыхі» мы з вамі яшчэ вернемся. А зараз — прашу наверх, — дзяўчына паказала рукою ў бок лесвіцы. Хлопцы і дзяўчаты паслухмяна рушылі за ёю.

«Які прыгожы голас, — раптам падумалася Войціку, і ён міжволі зірнуў на постаць экскурсавода. — Можа, пазнаёміцца? Я і сам для такой дзяўчыны экскурсію правёў бы…» Андрэй адразу засаромеўся сваёй думкі, бо ў сардэчных справах ніколі не быў асам.

Праца ў школе і розныя прыватныя заняткі займалі амаль увесь вольны час Андрэя — на «розныя глупствы», як лічыў Войцік, ні хвіліны не заставалася. Сярод школьных «калегінь» «каханай і адзінай» не знайшоў. Бацькі ўжо даўно ў адкрытую гаварылі пра тое, што «нядрэнна было б паняньчыць унукаў». Лана, яго старэйшая сястра, дзякуй Богу, паспела не толькі выйсці замуж, але і чакала дзіця. Так што мара бацькоў павінна была хутка здзейсніцца…

Толькі што ў музеі расчынілі дзверы новыя залы, і таму Андрэй надаваў сённяшняй экскурсіі яшчэ больш увагі, чым звычайна. А тут да ўсяго і такі цікавы экскурсавод! Гэта быў добры знак!

Яны ўвайшлі ў памяшканне, дзе віселі партрэты з радзівілаўскай калекцыі. Насупраць, у вялікіх вітрынах, знаходзіліся слуцкія паясы. Рознакаляровыя, кожны са сваім непаўторным узорам, яны прыцягвалі позірк кожнага з наведвальнікаў экспазіцыі. Войцік заўважыў, што дзеці адразу ж пачалі перагаворвацца, і з задавальненнем адзначыў, што ніводнага абыякавага сярод выхаванцаў не засталося.

— Тут на бэджах напісаны старажытныя беларускія, правільней кажучы, ліцвінскія, імёны — яны будуць вашымі імёнамі на гэты час.

Экскурсавод раздала бэджы вучням.

Падлеткі пачалі аглядаць адно аднаго.

— О, я — Марцэля! — радасна-здзіўлена піскнула светлавалосая дзяўчынка ў джынсах. — А ты хто?

Яна звярнулася да суседкі — паўнаватай, у міні, з рыжымі фарбаванымі валасамі.

— Я Барбара! — адгукнулася тая, і абедзве прыглушана засмяяліся.

— Цішэй, дзеці! — перарваў свае думкі настаўнік. — Памятайце, дзе знаходзіцеся!

Гімназісты, як па камандзе, сціхлі. Нават хлопцы, якія таксама пачалі агучваць свае «імёны».

— А ў вас, Андрэй Васільевіч, якое імя? — пацікавілася «Марцэля».

Усе дзеці павярнуліся да Войціка. А ён раптам заўважыў, што трымае ў руках бэдж. Экскурсавод таксама глядзела на яго.

— Якуб, — прачытаў Андрэй. — А ў вас? — машынальна спытаў ён, гледзячы на экскурсавода.

Дзеці засмяяліся.

Дзяўчына таксама ўсміхнулася.

— Даратэя, — прыгожым меладычным голасам адказала яна. І злёгку пачырванела.

Андрэй таксама адчуў, як шчокі яго наліваюцца чырванню. «Вось дурань, да такіх год дажыў, а чырванею, як дзіця. І з жанчынамі размаўляць не ўмею», — падумаў ён.

— Дзеці, а што вы ведаеце пра слуцкія паясы? — Даратэя звярнулася да гімназістаў.

Вучні пачалі адказваць. Экскурсавод слухала кожнага, рабіла заўвагі. Андрэй з цікавасцю ўзіраўся ў твар дзяўчыны, зноў і зноў позірк яго спыняўся на прыгожых светла-блакітных яе вачах, маленькім, злёгку курносым носіку, доўгіх чорных валасах, залатым крыжыку ў выразе белай блузкі і — чаго хлусіць! — надзвычай прывабных яблычках грудзей, што ўздымаліся з кожным уздыхам…

Дзяўчына пачала расказваць пра слуцкія паясы. З кожнай хвілінаю Андрэй разумеў, што тая тэма, дзеля якой ён прыйшоў сюды, не цікавіць яго сёння: яго ўвага была прыкаваная да гэтай мадонны, што распавядала аб нечым… І ён у сваіх марах, напэўна, плыў да яе, як раптам пачуў:

— …А вось гэты пояс — французская падробка, імітацыя беларускага. Я толькі што вам пра яе расказала. А ваша задача — прыдумаць гісторыю пра тое, як такі пояс з’явіўся ў нас на Беларусі. Можаце ўжываць любыя імёны, назвы. Хто будзе першым адказваць, назаву сама. Пачынайце…

Дзеці згрупаваліся хто з кім хоча — і пачалася творчасць. Андрэй таксама паклаў перад сабою аркуш, узяў ручку. Прыгадаў усё, што ведаў пра залатыя паясы. Зразумеў, што нямала, і вырашыў як былы «кавэзэшнік» троху «пахуліганіць». Зірнуў на чыстую старонку і раптам вывеў: «Пра Якуба і Даратэю…» «Кавэзэшны» вопыт дапамагаў яму ў такіх сітуацыях. І вось цяпер нараджаліся адзін за адным радкі, якія цяжка было назваць паэзіяй — проста нейкае графаманскае свавольства… Праз некалькі хвілін, паставіўшы апошнюю кропку, Андрэй раптам схамянуўся: «А дзе ж мая Даратэя?»

А Даратэя прысела на лаўцы, паставіла побач нейкую скрыначку і з цікавасцю глядзела на вучняў. Раз-пораз яна кідала і на яго позірк, але адразу ж адводзіла вочы ўбок.

«Яна амаль маіх гадоў, — падумалася Войціку, — і крыжык праваслаўны. І не сучасны, нейкі незвычайны — чымсьці нават аздоблены. Такога ні ў кога няма». Дзяўчына раптам зірнула на яго — вочы ў вочы. Андрэй зразумеў: калі зараз не падыдзе да прыгажуні — будзе апошнім дурнем…

Войцік нясмела падышоў — і ледзь не сеў на скрыначку.

— Ой, прабачце, калі ласка! — войкнуў ён. Выхапіў скрынку, сеў на лаўку.

— Нічога, — усміхнулася дзяўчына. — Давайце сюды.

Яна ўзяла скрынку, пры гэтым злёгку дакрануўшыся рукою да яго рукі. Андрэй у чарговы раз папраўіў акуляры на носе і зразумеў, што неабходна штосьці сказаць. Звычайна ён знаходзіў патрэбныя словы, каб падтрымаць гаворку. Але ў гэты момант амаль «страціў прытомнасць» і не ведаў, з чаго пачаць.

— А вы даўно тут працуеце, у музеі? — нарэшце «знайшоўся» ён.

— Амаль тры гады — адразу пасля ўніверсітэта.

Гэтыя словы яна прамовіла, гледзячы кудысь убок. Потым зірнула яму ў вочы.

— А я вас памятаю. Вы вучыліся на гістфаку, толькі на два курсы «вышэй». І былі ў камандзе КВЗ. А я, памятаю, аднойчы нават была ў камандзе балельшчыкаў.

Андрэй з цікавасцю зірнуў на яе. Цяпер ужо па-новаму. У іх на курсе было шмат дзяўчат. А на іншых курсах — і не ўспомніць усіх.

— А памятаеце, вы аднойчы на практыку нават сваю аўчарку прывозілі?

— Джэка? — машынальна спытаў ён.

— Не ведаю. Вы яшчэ гаварылі, што спортам займаецеся.

«Вось табе і студэнцкая памяць! А я ж ні ў зуб нагою!» — Войціку, вядома ж, было прыемна сустрэць «баявога таварыша» па ўніверсітэце. Але ж было і адначасова няёмка, што не памятае тую, з кім ужо, здаецца, калісьці быў знаёмы.

— Кінуў ужо спорт — няма часу.

Памаўчаў.

— Мяне Андрэем завуць. А вас?

— Іна.

— А для дзяцей? Імя па бацьку?

— Іванаўна…

Іх позіркі зноў сустрэліся… І Андрэю падалося, што вярнуўся той светлы і амаль бесклапотны час, калі знешняя сур'ёзнасць лёгка спалучаецца з буйнасцю вясёлага юнацтва, калі тая шчаслівая студэнцкая пара, як і вясна, здаецца вечнай…

Ён адчуваў сябе яшчэ зусім маладым чалавекам. Але кожны пражыты год надаваў развагі, жыццёвага досведу. Хаця Андрэй лічыў сваю прафесію з пункта гледжання кар'еры бесперспектыўнай.

Нават бацька часта гаварыў яму: «І хіба гэта прафесія! Вось камп'ютаршчыкі альбо юрысты — дык яны маюць жывыя грошы! А ты?..»

Але Андрэю падабалася праца з вучнямі і рэдкія экспедыцыі з краязнаўцамі-археолагамі…

— Дзеці! Час выйшаў. Трэба падводзіць вынікі! — Іна-Даратэя звярталася да яго выхаванцаў.

Гімназісты расселіся на лавах вакол яе.

Андрэй зразумеў: размова пакуль што скончана. Але яму было прыемна. Ён адчуваў, што гэтае «знаёмства» невыпадковае. За плячыма яго нібыта раслі крылы: надзея на штосьці светлае, чыстае напаўняла душу…

— Заданне ўсе памятаеце?

— Так, — як адзін адказалі вучні.

— А можна паўтарыць? — спытаў Андрэй.

Іна паглядзела на яго. Неяк па-новаму, падалося Войціку.

«А можа, таму, што знаёмага сустрэла…»

— Паўтараю. Пытанне было такім: «Як на нашай зямлі з'явіліся французскія паясы і чаму іх выдавалі за беларускія?» Неабходна было прыдумаць сваю гісторыю. У гэтай скрыні імёны будучых апавядальнікаў. А вось першым раскажа нам сваю гісторыю…

Іна расчыніла скрыначку, апусціла ў яе руку і, не гледзячы туды, выцягнула кардонку з іменем. Кінула на яе позірк — і гарэзліва зірнула ў вочы Андрэю.

— …Якуб!

На нейкую хвіліну зрабілася вельмі ціха. І раптам гэтая цішыня выбухнула дзіцячым смехам!

— Хлопцы і дзяўчаты, цішэй — вы ж у музеі! — Іна звярнулася да вучняў.

Андрэй зразумеў: ён «ці пан, ці прапаў». Трэба ісці ва-банк: каб зарабіць аўтарытэт, неабходна шмат год, а каб згубіць — і адной хвіліны дастаткова… Ён весела зірнуў у вочы Іне, зрабіў паўзу і рашуча абвясціў:

— «Легенда пра Якуба і Даратэю», або «Як Еўропа вучылася ткаць па-беларуску». Пракашляўся і дадаў:

— Са студэнцкага фальклору!

Падумаў пра сябе: «Блазан. Але што зробіш?»

Дзеці не разумелі, як ставіцца да ўсяго гэтага — сур'ёзна ці не. А Войцік, як былы «кавэзэшнік», зрабіў вялікую паўзу «па-Станіслаўскаму» і неяк пафасна, нібы акцёр на сцэне, пачаў дэкламаваць:

З французскага Ліёна багацейка,
Што ткала для Еўропы ўсёй абрусы
(Імя яна насіла Даратэя),
Спаткалася аднойчы з беларусам...

Андрэй не лічыў сябе паэтам, хаця часам грашыў вершамі. «Пісаў у стол», па ягоных словах. А сёння быў сапраўдны экспромт. Дзеці ўчынілі цэлую авацыю — нават Радзівілы са сваіх партрэтаў, здавалася, здзіўлена пазіралі на іх — «Якуба» і «Даратэю». Войцік зірнуў на Іну: яна ледзь стрымлівала смех, а вочы яе неяк дзіўна свяціліся радасцю, маладосцю. Было відавочна, што яна ў захапленні…

* * *

Музейны занятак скончыўся. Усе спусціліся ў хол. Дзеці на хаду абмяркоўвалі ўсё ўбачанае сёння. За імі па лесвіцы, не спяшаючыся, сыходзілі Андрэй і Іна.

— Вельмі прыемна было ўбачыцца з вамі, Іна, — сказаў Войцік, адчуваючы, якім сумам напаўняецца душа. Яму так хацелася яшчэ ўбачыцца з ёю, пачуць яе голас, дакрануцца да яе рукі і… ніколі больш не адпускаць гэту руку. І любавацца прыгожым залатым крыжыкам у выразе светлай, як яго мара, блузкі…

— І я таксама… Дзякуй за верш… Цудоўна напісалі, — здавалася, Іна таксама не знаходзіла слоў.

Яна калісьці, яшчэ ў студэнцкія гады, звярнула ўвагу на гэтага прыгожага юнака. Ведала, што ён займаецца спортам. А як выступаў на «кавэзэшнай» сцэне! Усе дзяўчаты былі закаханыя ў яго. А Андрэй… У яго была толькі адна любімая дзяўчына — Гісторыя. Падчас практыкі, на раскопках, быў памочнікам кіраўніка. Дыпломная праца — лепшая на курсе. Гэта дзяўчаты гаварылі — тыя, што вучыліся з ім. А яна… Хто яна такая? Звычайная дзяўчына з вёскі пад Мінскам. І на гістфак трапіла выпадкова — за кампанію з сяброўкай, Валяй Нячай. Дык Валька ўжо аспірантуру хутка скончыць. А яна? Па знаёмстве ўладкавалася на працу сюды, у музей. А што далей? Ніякай перспектывы. Трэба ўжо замуж выходзіць і дзяцей заводзіць. Гэта толькі Валька Нячай замужам за сваёю навукаю! Іна не зайздросціла сяброўцы — кожны сам робіць свой выбар. Нічога, з заўтрашняга дня ў яе адпачынак, такі доўгачаканы! Іна з’ездзіць, як любіла сама гаварыць, «на вёску», адпачне, дапаможа матулі — працы вунь колькі!.. Але сёння, сустрэўшы Андрэя, Іна раптам зразумела, што хацела б яшчэ ўбачыцца з ім, хоць гэтая думка падалася ёй «крамольнаю». Маці выхоўвала дачку даволі строга, і таму яна была вельмі сарамліваю дзяўчынай. Лічыла, што шлюбам бяруцца толькі адзін раз і назаўсёды…

— Сёння якраз заканчваецца змена ў школьным летніку, і я заўтра зранку еду ў экспедыцыю — на паўмесяца. Як бы мне з вамі сустрэцца? Вы ж мая Даратэя, а я ваш Якуб…

Іна зноў усміхнулася, але адказаць не паспела…

— Іна Іванаўна, вас выклікаюць у прыёмную! — да іх падымалася жанчына з бэджам на блузцы. Яна, убачыўшы Андрэя, падміргнула Іне і змоўніцкім тонам дадала: — Наконт адпачынку. Але хутчэй, дырэктар чакаць не любіць!

Жанчына зноў усміхнулася ім і хутка пакрочыла ўніз.

— Прабачце, Андрэй, мне трэба бегчы. Гэта вельмі важна. Убачымся… Пакуль…

Іна неяк вінавата зірнула на яго і пабегла ўніз…

— Андрэй Васільевіч! Тамашэўскі і Бурак выйшлі за дзверы, не дачакаліся нас! — падбегла дзяўчынка, што нядаўна была Марцэляй.

— Добра, Галя, зараз іду.

Войцік зірнуў услед Іне і, уздыхнуўшы, пакрочыў па лесвіцы да выхаду…

## ЧАСТКА 5

Капітан Корань разумеў, што неабходна даць Войціку выгаварыцца. Па тым, што паведаміў гэты чалавек, выходзіла: ніякага злачынства няма, толькі «шумахерства» на дарозе і неахайны выгляд «форда». І ўсё. Што яму яшчэ інкрымінаваць? Забойства аўчаркі? Або спробу забойства? Такога артыкула няма, ды і ён ужо дастаткова сябе пакараў. А калі сабака сапраўды шалёны і можа, калі выжыў, пакусаць кагосьці яшчэ? Ды і Войцік гэты мог не пра ўсё расказаць… Трэба ўсё праверыць!

Пакуль Пятро Фёдаравіч разважаў, у кішэні яго візаві прачнуўся мабільны тэлефон. Войцік папрасіў дазволу адказаць на званок.

— Таня, ты? Нармальна… Дзе я?..

Зірнуў на капітана, падумаў.

— У знаёмага… Што з маці? Два швы наклалі? А як цяпер? Нядрэнна? Дзякуй Богу!.. Як Джэк?.. Ну…

Памаўчаў, не ведаючы, што адказаць.

— Танюша, давай потым пагаворым. Добра? Дома калі буду? Думаю, неўзабаве — праз гадзіну-другую… Цалую. Пакуль.

Войцік моцна сціснуў тэлефон.

— Жонка тэлефанавала. З маці ўсё добра. Два швы наклалі на руку. Адышла ад болю і страхаў. Але... вельмі хвалюецца за Джэка… Нават цяпер… Пасля ўсяго…

Ён нізка апусціў галаву.

— Эх, што я нарабіў!.. Каб толькі Джэк выжыў!

Раптам Войцік ускінуў вочы на капітана.

— Паслухайце! — хутка загаварыў ён. — Трэба зноў паехаць на тое месца! Хаця…

Корань думаў якраз пра тое самае: «Баіцца вяртацца туды… Вядома, паліць казённы бензін было неразумна. Але калі ўсё ж наш герой чагосьці недагаворвае?»

— А вы зможаце знайсці тое месца?

Войцік паціснуў плячыма.

— Паспрабую…

Корань зірнуў на гадзіннік. Зняў трубку тэлефона, што стаяў на стале.

— Міхневіч! Ксенафонтаў там вольны? Давай яго да мяне ў кабінет! Куляй! І Сямёнавічу перадай, што пасля трох буду!

Не паспеў пакласці трубку, як у дзверы пастукалі.

— Заходзьце! — крыкнуў капітан.

Дзверы расчыніліся. На парозе стаяў малады сяржант.

— Старшы сяржант Ксенафонтаў… — пачаў той.

— Заходзь, Сяргей, — перарваў Корань. — Няма часу. Па конях!

Праз некалькі хвілін усе былі ў машыне Войціка.

* * *

Сонца ўжо высока стаяла над гарызонтам, калі сіні «форд» перасёк мяжу горада. Жнівеньскі дзень быў насычаны пахамі лугавых кветак, скошанай сям-там травы, птушынымі спевамі. Таполі паабапал шашы стаялі як ганаровая варта, вітаючы ўсіх, хто праязджаў тут. Справа, на ўзгорку, паўсталі калгасныя будынкі на чале з сіласнай вежай, купал якой срэбрам зіхцеў на сонцы. Адразу за ёй на агароджаным участку стаяла розная сельскагаспадарчая тэхніка: камбайны, грузавікі, сеялкі. Праз расчыненыя вароты не спяшаючыся поўз гусенічны трактар.

Нічога гэтага не заўважаў Васіль Сцяпанавіч Войцік, які сядзеў напружана, учапіўшыся ў руль сваёй машыны. Сяржант прапанаваў яму сесці разам з ім, паказваць дарогу. Але ён адмовіўся, адказаўшы, што самому будзе няцяжка весці, ды і ўспомніць маршрут будзе лягчэй. Капітан не стаў перашкаджаць. Яму ўсё ж было шкада гэтага чалавека, яго маці, дачку. Але таксама хацелася, каб Джэк выжыў. «Мабыць, справа не толькі ва ўзросце аўчаркі. Вядома, што сабака можа любога цяпнуць падчас свайго абеду, калі лезці да яго і тым больш адбіраць ежу ці піццё. Няўжо маці Войціка гэтага не ведала? А можа, прычына ў чымсьці іншым? Ці сапраўды сабака ашалеў? Нічога, Ксенафонтаў разбярэцца…» Корань спецыяльна ўзяў з сабою сяржанта-кінолага.

Павярнуўшыся да свайго маладзейшага калегі, капітан у некалькіх словах пазнаёміў яго з сітуацыяй, у якой ім трэба было разабрацца.

* * *

Войцік ледзь не прапусціў, як падалося яму, «той самы паварот», пра які адразу паведаміў капітану. Машына з’ехала на правы бок і апынулася ў невялікім бярэзніку.

Маладыя танкастволыя бярозкі, нібы вясёлыя сястрычкі, ціха шапацелі дробнымі зялёнымі лісточкамі, перашэптваючыся паміж сабою пра нешта сваё, дзявочае. А некалі шчодрае сонца лашчыла іх рэдкімі промнямі, саграваючы апошнім летнім цяплом.

Праехаўшы яшчэ некалькі метраў, «форд» спыніўся каля паваленай старой бярозы. «Божа, якая прыгажосць!» — падумаў Корань, выбраўшыся з машыны. Ён з дзяцінства любіў бярозавы гай каля плошчы Бангалор. Узімку там заўсёды была пракладзена лыжня, і Пятро Фёдаравіч разам з сынам любіў прайсціся на лыжах вакол ляска, які, здавалася, выпраменьваў нейкае дзіўнае святло, калі бярозавая бель злівалася з беллю снежнай… «Дзіўна, — думаў ён, — што на фоне такой лясной прыгажосці магла адбыцца якая-небудзь трагедыя».

Войцік выйшаўшы з машыны і адразу накіраваўся да старой бярозы. Беластволая прыгажуня ляжала на зямлі, агаліўшы тоўстае чорнае карэнне. Яна была падобная на хворага старога чалавека на зыходзе жыцця, якому ўжо нічога не можа дапамагчы…

— Тут!

— Вы не памыляецеся? — Корань уважліва зірнуў на Войціка.

Войцік не адказаў. Ён падбег да карнявішча, прысеў і ўтаропіў вочы долу.

На зямлі нікога не было.

Капітан уважліва сачыў за ім. «Цікава, чаму ён замёр? Быццам штосьці ўбачыў там!»

Корань падышоў, прысеў побач. І адразу заўважыў: на высокай траве, пасыпанай бярозавымі пажаўцелымі лісточкамі-залатоўкамі, сям-там цямнелі рэдкія плямы. Пятро Фёдаравіч зразумеў: гэта былі плямы засохлай крыві… Адразу за бярозай трава была прымята. Тут плямы сям-там зліваліся ў невялікія бурыя палосы: «Відавочна, кагосьці валаклі… А куды?» — думкі ў галаве капітана, як заўсёды, утваралі лагічны ланцужок. Корань прайшоў, уважліва ўзіраючыся, далей і раптам убачыў дзве абсалютна роўныя палоскі — сляды ад воза.

## ЧАСТКА 6

Вясковая дарога шмат чаго пабачыла на сваім вяку. Яна вялікай стужкай беглавілася пасярод прыгожага лугу, на якім, як на палатне, ствараючы свой цудоўны пейзаж, невядомы майстар выкарыстаў усю стракатую жнівеньскую палітру: кветкі казяльца, сумніку, канюшыны, зверабою, а таксама іншыя прыродныя дарункі. А які пах зыходзіў ад гэтага разнатраўя! Здавалася, такі водар можна было піць з вялікаю асалодаю, як боскі нектар…

Сярод зялёнай муравы стаяла цялушка, ляніва жуючы сваю жвачку. Другая ляжала ў цяньку пад невялікай бярозкай. Наводдалек пасвіліся дзве каровы. Часам яны адрываліся ад травы, падымалі галовы, і тады на ўсю ваколіцу чулася іх незадаволенае «му-у-у». Шмат аваднёў вілася каля іх у гэты спякотны жнівеньскі дзень, але і цялушкі, і каровы шчоўкалі хвастамі, як пугамі, адганяючы іх.

Якраз там, дзе дарога агінала старыя могілкі, паказаўся воз, у які быў запрэжаны гняды конь. У каня былі тыя ж праблемы з аваднямі, што і ў кароў, таму яго хвост, як памяло, разганяў насякомых. Гняды час ад часу трос галавою, таму што кусачыя зумкары пікіравалі і на яго вочы. Нетаропка конь набліжаўся да павароту за могілкамі.

Чалавеку, які сядзеў на возе з лейцамі ў руках, на выгляд было гадоў за пяцьдзесят. Твар худы, з добра акрэсленымі скуламі, прыгожым, з ямачкай падбародкам, прамы тонкі нос, шырокі лоб, блакітныя, як неба, вочы — такі партрэт намаляваў бы мастак, беручыся за працу. Нягледзячы на спякотнае надвор’е, апрануты наш герой быў зусім не па-летняму: шырокія цёмна-сінія штаны, кірзавыя боты, чорны заношаны пінжак, з-пад якога была відаць светлая, у карычневую палоску кашуля. На галаве — шэрая старая кепка. З-пад яе былі бачныя пасмы чорных, з сівізною, валасоў. Хударлявасць ягонага твару ніяк не спалучалася з шырокімі плячыма і дужымі рукамі, якія ніколі не адлыньвалі ад сялянскай працы.

Іван Данілавіч Собаль ехаў у лес па дровы. Побач на возе ляжала бензапіла (калгасная — выцыганіў у агранома, яго прыяцеля, хаця на ўсялякі выпадак захапіў і звычайную), а таксама сякера і вяроўка.

Іван Собаль нарадзіўся адразу пасля вайны і таму адчуў на сабе ўсе цяжкасці таго галоднага часу. У яго бацькі было пяцёра дзяцей, якія даволі рана навучыліся працаваць на зямлі, рана зразумелі, якім потам і крывёю даецца кавалак хлеба. Яго двое сыноў абралі сабе розныя шляхі: старэйшы, Мікалай, падаўся ў Мінск. Скончыўшы інстытут, застаўся ў горадзе, ажаніўся. Малодшы, Даніла, якому толькі споўнілася васемнаццаць, атрымаў «белы білет» па зроку і рыхтаваўся ва ўніверсітэт на агранома. Іван Данілавіч спадзяваўся, што хоць ён застанецца ў вёсцы, пры бацьку. «Не хочуць маладыя жыць з бацькамі ў вёсцы… Вядома ж, не за горкія калгасныя капейкі ім выкладвацца! Таму і шукаюць лепшай долі. А хто ж на зямлі працаваць будзе, калі не яны? А мужыкі ў вёсцы… Эх, што ім патрэбна? П’янкі ды гулянкі — і больш нічога…» — так разважаў Іван Данілавіч, час ад часу панукаючы каня.

Собаль уздыхнуў, успомніўшы жонку-нябожчыцу. Нарадзіўшы Данілу, сама адышла ў лепшы свет. Што б ён рабіў, каб не Кацярына, родная сястра яго Марыі, якая жыла па суседстве? Мала таго, што ў яе самой тады была маленькая дачка, яна фактычна стала другой маці яго сынам. Дапамагала чым магла. Дваіх дзяцей падняць, ды плюс яшчэ і сваё, — гэта далёка не ўсялякі здольны зрабіць! Іван быў вельмі ўдзячны Кацярыне і за гэты час вельмі прывязаўся да яе. Усё жыццё жыла адна, не выйшла замуж, хаця да яе заляцалася шмат хлопцаў, ды яшчэ якіх! А дзяўчына яна была хоць куды — прыгожая, чарнабровая, ганарлівая, бы каралева якая! Але ніколі нікому не гаварыла, хто прыходзіўся бацькам яе дачцэ. Мясцовыя кумачкі любілі смакаваць гэтую тэму, але праўды ніхто не ведаў. Казалі толькі, што

Кацярына праз колькі год пасля заканчэння школы паехала ў Мінск — паступаць у вучылішча на фельчара. Скончыла. У горадзе працы не шукала, вярнулася дадому, да старой хворай маці. Але не толькі з дыпломам — прывезла двухгадовую дачку. Калі маці памерла, засталася ў хаце адна з дзіцем.

* * *

Іван Данілавіч выцягнуў з кішэні насоўку, выцер успацелыя лоб, патыліцу.

— От, пекла якое сёння! — паскардзіўся ён нябачнаму суразмоўцу. — Но, Сярко, халера цябе бяры!

Ён сцебануў лейцамі каня, каб рухаўся хутчэй, хаця было відаць, як таму прыходзілася цяжка на гэтай летняй спёцы. Варта было б знайсці ваду, каб спатоліць смагу самому і напаіць каня.

Адразу за шашою пачыналася суседняя вёска. Ля ваколіцы стаяў калодзеж. Собаль спыніў каня каля яго, прывязаў да плота, а сам зайшоў на двор першай ад дарогі хаты. Вароты былі расчыненыя. Палову двара займаў калгасны «ЗІЛ», у які якраз садзіўся гаспадар хаты, малады чарнявы мужчына.

— Прывітанне, Данілавіч! Якім ветрам да нас?

— І ты здароў будзь, Сяржук! Ды вось па дровы еду ў лес. Дай вядра каня напаіць!

— Вазьмі каля ганка.

— Дзякуй! А ты на поле?

— Куды ж яшчэ ў такую пару?

Собаль узяў вядро і накіраваўся з ім да калодзежа. «ЗІЛ» выехаў з двара і, падняўшы цэлае воблака пылу, знік за паваротам дарогі. Іван Данілавіч напіўся сам, наліў у вядро каню. Чакаючы, пакуль той спатоліць смагу, прысеў на лавачку каля плота, дастаў пачак «Прымы», закурыў. Хутка павінен быў падысці сын Даніла. Нарэшце на вуліцы паказаўся светлавалосы хлопец у камбінезоне. Убачыў Собаля, вінавата ўсміхнуўся.

— Прабач, тата! На калгасным двары затрымалі — у час уборачнай ім каб усе машыны былі на ходу! А дзе «запцацкі» для «газонаў» дастаць? Хіба толькі Васільевіч са свайго «Жыгуля» здыме!

Даніла зноў усміхнуўся.

— Слухай, Даніла, я колькі разоў табе гаварыў — трэба ў механізатары ісці, а ты ў аграномы сабраўся! Хаця ў свае гады разважаеш як дарослы!

— А які я? Ці не дарослы? Васямнаццаць жа ёсць!

Нягледзячы на свой малады ўзрост, Даніла Собаль дапамагаў на калгасным двары механікам у гаражы, паколькі добра разбіраўся ў тэхніцы. Васільевіч, сваяк Собаляў, узяў на працу здатнага да машын і трактараў юнака, хаця, як гавораць, спуску таму не даваў.

— Давай, дарослы, вазьмі вядро і занясі на гэты двор, — з усмешкаю сказаў Собаль сыну.

— Да Сержука?

— Да яго. І паехалі хутчэй! Сонца ўжо высока…

* * *

Воз нетаропка рухаўся па шашы. Справа, адразу за вёскаю, шалясцеў дробнымі зялёнымі лісточкамі бярэзнік.

Вось і паварот. Калі спусціцца ў лагчыну, праехаць якую сотню метраў, будзе поле, за якім пачынаецца змешаны лес — мэта сённяшняга падарожжа.

Раптам ранішнюю цішыню разарваў плач. Так звычайна плача дзіця — жаласліва і разам з тым пранізліва. Здавалася нават, што ўсё навокал застыла ў маўклівым чаканні: сцішыўся лес, вецер замёр, прыслухоўваючыся да гэтых дзіўных, незвычайных для яго гукаў.

Плач ішоў якраз з глыбіні бярозавага гаю.

— Што гэта? — спытаў Даніла, які сядзеў за бацькам. — Можа, дзіця? Але адкуль яно ў лесе?

— Зараз пабачым.

Собаль накіраваў каня ўніз. Праз некалькі метраў воз спыніўся. Зноў пачуўся плач, ужо прыглушаны. Прыгажуні бярозы паўсталі вакол, і на гэтым бела-чорным фоне нічога нельга было ўбачыць. Іван Данілавіч падышоў да старой паваленай бярозы і раптам убачыў распасцёртага на траве вялікага сабаку, які ціха стагнаў. З галавы і шыі яго ішла кроў, барвовымі плямамі адліваючы на сонцы. Крыві было няшмат, але Собаль раптам сэрцам адчуў, як балюча зараз гэтай жывой істоце, як пакутуе кожная клетачка яе цела.

— Глядзі, тата, гэта ж аўчарка! — Даніла стаяў побач. — І хто яго так, а?

— Злыдзень нейкі! Няўжо нармальны чалавек будзе калечыць сабаку? — Собаль сціснуў зубы ад злосці. — Эх, сустрэць бы яго… Я б яму паказаў!

— Слухай, бацян, што будзем рабіць?

— Пачакай. Дай падумаць.

Іван Данілавіч адчуў, як сэрца сцялася ад болю: як так можна рабіць! Няўжо не мае межаў людская несправядлівасць? Собаль падышоў да аўчаркі, прысеў перад ёю, уважліва агледзеў галаву сабакі. Кавалак левага вуха быў нібыта адсечаны чымсьці.

— Напэўна, палілі з ружжа, сволачы! Бачыш, што з вухам? — Іван Данілавіч асцярожна правёў па жоўта-чорным баку сабакі.

Даніла прысеў побач.

— Глянь, ён плача!

І сапраўды, з цёмных вачэй аўчаркі каціліся слёзы. Джэк глядзеў на людзей, нібы просячы іх дапамогі. Хрыпы вырываліся з горла сабакі. Дыханне перарывалася.

— І вочы як у чалавека, бач ты! — Собаль адчуў у горле нейкі камяк.

— Трэба яго да цёткі Каці — яна ж доктар! А, бацян?

Іван Данілавіч не вельмі разбіраўся ў паляўнічых справах. Але разумеў, што калі стралялі буйным дробам, то шансаў у аўчаркі мала, а калі не, то… «Каб куляй, то сабака, напэўна, адразу б сканаў. А тут, Бог дасць, выжыве…» — ён уздыхнуў.

— Вось так, браце мой, пацярпі, прыдумаем што-небудзь, — звярнуўся Собаль да сабакі. Той, відаць, зразумеў, што яму ліха не зробяць — цярпеў, пакуль Іван Данілавіч асцярожна аглядаў ягоную галаву. Раптам аўчарка прыўзняла галаву і лізнула руку Собаля.

— Ляжы, ляжы, — усміхнуўся той. — Глядзі ж ты, усё разумее, а! Ну і дзе ж твае баявыя раны?

Ён дакрануўся да шыі аўчаркі, і тая страпянулася.

— Глядзі, бацян, можа ўкусіць! Не чапай, — Даніла ўстаў.

— Падгані, сынок, воз сюды. Толькі асцярожна.

Даніла выканаў загад бацькі. Собаль зняў з воза і рассцяліў на траве стары брызентавы плашч, які звычайна браў з сабою ад дажджу.

— Ну, цярпі, браце! — сказаў сабаку, нахіліўся, акуратна падхапіў яго і паклаў на брызент. Аўчар застагнаў — зусім як чалавек, і прыглушаны рык вырваўся з ягонага горла.

— Спакойна, спакойна, — ці то сабаку, ці то сабе сказаў Собаль.

Разам з Данілам перанеслі аўчарку на воз.

— Ну што, сын, на сёння, па-мойму, дровы адмяняюцца! — Іван Данілавіч узяў лейцы. — Но, Сярко!

Воз нетаропка пачаў аддаляцца.

## ЧАСТКА 7

Старое замчышча і возера, паверхня якога блішчэла, як люстэрка пад апошнімі промнямі, амаль патанулі ў вячэрнім сутонні. Рэшткі сцен і нават некалькі ўцалелых байніц-машыкуляў надавалі гэтай мясціне нейкую таямніча-чорную панурасць. А вогнішча недалёка ад былой брамы ажыўляла змрочны пейзаж. Здавалася, што зараз з варотаў панясуцца на конях узброеныя рыцары, а над галоўнай вежай-данжонам успыхне, як полымя, сцяг феадала — гаспадара замка.

Але ўсе гэтыя гатычныя летуценні развейвалі светлыя плямы каля вогнішча. Калі ўважліва прыгледзецца да іх, то можна было пазнаць тры сучасныя турыстычныя палаткі «камп'ютарнага» колеру «вырві вока», якія, нібы прывіды, зіхцелі ў паўзмроку. Каля вогнішча сядзела некалькі маладых хлопцаў і дзяўчат. Адзін з іх перабіраў струны гітары. Гэта быў Андрэй Войцік. Моладзь нястройнымі галасамі спявала:

Едкий дым создает уют,
Искры тлеют и гаснут сами.
Пять ребят о любви поют
Чуть охрипшими голосами…

— Цудоўная старая песня, душэўная… Яе яшчэ мой бацька спяваў, — уздыхнуўшы прамовіў Андрэй. — Вось і вы вывучылі яе. Нездарма ўсё лепшае народ заўсёды перадаваў з пакалення ў пакаленне. А то цяпер на танцы можна не хадзіць — адны толькі «умца-умца» цэлую ноч.

— Ну, не кажыце, Андрэй Васільевіч, — не пагадзілася з кіраўніком чарнявая дзяўчына, якая толькі што натхнёна спявала разам з усімі. — А з хлопцамі дзе знаёміцца, а?

Усе засмяяліся.

— Ведаеш, Таня, з хлопцамі табе пазнаёміцца можна, па-мойму, вельмі лёгка. Усе будуць тваімі — такая прыгажуня!

Нават у надыходзячай цемры было бачна, як дзяўчына заірдзелася і з удзячнасцю паглядзела на Войціка.

— Андрэй Васільевіч, слухай, ты якраз пра танцы ўспамінаў, — падаў голас мужчына з правільнымі рысамі твару, на выгляд такога ж узросту, як Войцік, — а калі мы з табой для моладзі выхадны абвесцім?

— Калі квадрат пройдзем, Аляксандр Віктаравіч. А я на гэты дзень у Мінск скокну. У мяне справы там ёсць, — Андрэй уважліва паглядзеў на суразмоўцу, і ў вачах яго мільганула ледзь прыкметная хітрынка…

* * *

Электрычка падыходзіла да перона. Людзі нетаропка рыхтаваліся да таго, каб далучыцца да вялікай плыні мінчан, якая шырокай ракой разлівалася па тратуарах вуліц, парках, скверах, бульварах і пры гэтым знаходзілася ў пастаянным руху.

Горад жыў, дыхаў, як чалавек — вялікі і прыгожы, як знешне, так і духоўна. Па ўсім было бачна, як мінчане любяць і берагуць яго: які ён чысты, дагледжаны, сапраўдная еўрапейская сталіца… Так думаў Андрэй, перасякаючы Прывакзальную плошчу. Ён са сваёй нецярплівасцю не мог чакаць і таму вырашыў адразу зайсці ў музей, да Іны.

«Як там мая «Даратэя»? — усю дарогу думаў ён. — А калі я дарэмна еду?»

Сеў у «соты» аўтобус, перавёў дух. «Так быў заняты, што нават некалькі дзён не тэлефанаваў да сваіх, — міжволі ўспомніў Андрэй, адчуўшы, як стала сорамна. — Нічога, потым заскочу дадому».

Гэтая думка супакоіла яго. Але што скажа Іна, калі ўбачыць яго, запыленага, у штармоўцы — не такім, якім быў у музеі? «Не, Якубе, трэба было ўсё ж спярша дадому забегчы!» — мільганула думка.

Вось і музей. Андрэй узляцеў па прыступках і раптам спыніўся: ён жа не ведае, як яе прозвішча! «Разбяруся на месцы!» — вырашыў Войцік.

Народу на першым паверсе было мала. Каля касы стаяла некалькі чалавек і — о ўдача! — тая самая жанчына, што падышла, калі яны з Інаю стаялі на лесвіцы.

— Добры дзень! — Андрэй наблізіўся да яе.

Жанчына паглядзела на яго і, вядома ж, спачатку не пазнала.

— Добры дзень, малады чалавек! Чым магу дапамагчы? — добразычліва спытала яна.

— Скажыце, а як я магу ўбачыць Іну? Іванаўну? — дадаў Войцік, спадзеючыся, што так жанчына хутчэй успомніць.

— А яе няма, — адразу ж расчаравала яна Андрэя. — Іна Іванаўна ў адпачынку.

— А як знайсці яе ў Мінску, не падкажаце? — Войцік ухапіўся за апошнюю саломінку.

— Я думала, што вам самому вядома, як. Я ўспомніла: вы так міла шчабяталі тады на лесвіцы, — жанчына ўсміхнулася. — Прабачце, гэта, вядома, не мая справа… Але хто яна вам?

У вачах яе чыталася цікаўнасць.

«Мабыць, аматарка свежых плётак», — падумаў Андрэй.

— Мы з Інаю вучыліся калісьці разам, — ён раптам адчуў, як расце нецярпенне, але трымаў сябе ў руках.

— А, — неяк расчаравана працягнула яна і дадала: — Зразумела…

Агеньчык цікаўнасці ў яе вачах раптам згас.

— Да пабачэння! — Андрэй павярнуўся, каб пайсці, але за спінаю пачуў:

— Успомніла, малады чалавек! Іна гаварыла, што збіраецца да маці ў вёску.

Андрэю гэта нічога не сказала. Ён сціпла падзякаваў і пайшоў.

* * *

Андрэй адчыніў дзверы, увайшоў у кватэру. Паставіў сумку, скінуў штармоўку. І адразу ўбачыў маці. Яна амаль нячутна падышла да яго. Андрэй уздрыгнуў ад нечаканасці. Звычайна матуля яшчэ з кухні ці залы пытаецца, хто прыйшоў — гучна, весела. А тут падышла, не гаворачы ні слова. Андрэй зразумеў: штосьці здарылася.

— Прывітанне, мама, — чмокнуў у шчаку, як заўсёды. — Ты нейкая не такая…

— Прывітанне, сын. Ты чамусьці раней…

— Я вырваўся на дзень. Заўтра назад, — нецярпліва адказаў Андрэй. — Штосьці не так? Што здарылася?

Ён азірнуўся.

— А дзе Джэк? Чаму не сустракае? Лана выгульвае? — Андрэй міжволі адчуваў, як расце нейкая неўтаймаваная трывога.

— Лана паехала дадому сёння, Павел забраў яе.

— А бабуля? Ты нешта не дагаворваеш? — Андрэй зразумеў, што амаль крычыць.

Таццяна Яўгенаўна апусціла вочы.

— Бабуля ўжо некалькі дзён у бальніцы. Хацелі адразу яе забраць, але ўрачы забаранілі — хочуць паназіраць. Заўтра будзе дома.

— А што здарылася? — Андрэй яшчэ нічога не разумеў.

— Джэк пакусаў яе. Два швы наклалі на руку, — на вачах маці паказаліся слёзы. — А Джэка бацька пасадзіў у машыну і кудысьці павёз…

— Куды павёз, мама? — Андрэй адчуў, як ёкнула сэрца і закружылася галава.

— Ой, не ведаю, сынок… Я баюся…

Яна на хвіліну замоўкла.

— Я бацьку званіла на мабільны нядаўна… Спачатку гаварыў, што ён у нейкага сябра. Што за сябар? Не разумею… Проста, думаю, хацеў супакоіць мяне. Потым на два дні знік — шукаў Джэка. А самае галоўнае…

Яна паглядзела на сына, нібыта шукала ў яго дапамогі.

—…бацька ўзяў з сабою стрэльбу…

Свет раптам выбухнуў у вачах Андрэя, разляцеўся на шматлікія асколкі. Ён усё зразумеў: бацька, абураны ўсім, што ўбачыў, раззлаваны, павёз кудысьці Джэка, каб забіць яго…

Заплакала маці. Ён абняў яе за плечы.

— Мама, не плач... Я ўсё зразумеў…. Я знайду Джэка…

Памаўчаў.

— Калі ён жывы…

Накінуў куртку. Пацалаваў маці ў шчаку.

— Усё будзе добра.

Выскачыў за дзверы.

На хаду выхапіў мабільны. Набраў бацькаў нумар. Тэлефон маўчаў. Але нарэшце пачуўся голас бацькі.

— Алё! Прывітанне, сын! Як справы?

— Прывітанне, тата! У мяне ўсё нармальна. Я ў Мінску. Толькі што быў дома… Тата!..

Голас Андрэя задрыжаў.

— Што з Джэкам?

Бацька замоўк. Потым праз нейкую хвіліну пачуўся яго ціхі голас:

— Калі шчыра, то не ведаю, сынок… Я… вывез яго за горад і… пакінуў там… у лесе…

— А навошта табе стрэльба? Мама сказала… Ты ж не страляў у Джэка? — Андрэй здрыгануўся ад гэтых слоў. Да апошняга моманту ён спадзяваўся, што такога не можа быць.

— Я… не буду хлусіць табе, сын… Я… страляў у Джэка… Але я не бачыў, куды трапіў… Праўда…

«Усё… Гэта канец… Каб бацька прамазаў, прафесіянал, чэмпіён…» — Андрэй горка ўсміхнуўся.

— Я толькі што быў на тым месцы, Андрэй… у тым лесе… Джэк кудысьці

знік… Але… — голас бацькі задрыжаў, — …там была кроў. І сляды ад воза. Джэка хтосьці вывез адтуль… Мабыць, нехта з мясцовых… Думаю, што Джэк паранены…

— Ты дзе цяпер, тата?

— Спачатку быў у міліцыі… А потым аб’ездзіў некалькі вёсак. Слядоў Джэка нідзе няма.

— А чаму ў міліцыі?

— Мне не паверылі. Паехалі са мною ў лес. Потым зрабілі экспертызу. Кроў не чалавека… Сабакі… Джэка…

— Дзе той лес? Я паеду туды і знайду Джэка! Хоць тыдзень буду шукаць! — Андрэй адчуў, як ногі яго падкошваюцца. Прысеў на лаўку ля пад’езда.

— Нікуды не трэба ісці. Давай разам. Ты дзе?

— Каля нашага дома. Чакаю цябе. Давай хутчэй!

…Праз нейкі час сіні «форд» ляцеў да кальцавой.

## ЧАСТКА 8

У гэты жнівеньскі дзень на вясковай вуліцы было бязлюдна: поўным ходам ішла ўборачная. Толькі час ад часу праносіліся грузавікі з зернем — адвозілі збожжа на ток, а потым адтуль вярталіся парожнімі.

Хата Собаля стаяла амаль у канцы вёскі, дзе пачыналася дарога ў лес. Адтуль і вярталіся Іван Данілавіч з сынам. Каля зялёнай брамкі прытулілася старая бяроза, якую выкапаў у лесе і пасадзіў тут калісьці яшчэ дзед Собаля. Шмат чаго зведала на сваім вяку гэтае прыгожае магутнае дрэва. Яно не толькі радавала вока, але і паіла ўвесну ўсю сям’ю сокам. Заўсёды, вяртаючыся дадому, Іван Данілавіч яшчэ здалёк бачыў сваю бярозу. І адразу цяплела на сэрцы, усё дрэннае адыходзіла на другі план.

Кажуць, што дрэвы могуць лячыць чалавека ад розных хвароб. Дастаткова падысці, прытуліцца спінаю і, заплюшчыўшы вочы, падумаць пра нешта добрае, пажадаць сабе здароўя. Іван Данілавіч, вядома, саромеўся такога рытуалу на людзях. Хаця, бываючы ў лесе, часам, стомлены, рабіў гэтую «працэдуру» — боль і нават стому як рукою здымала… Вось па маладосці яму было што ўспомніць. Па бацькавай лініі ўсе мужчыны ў сям’і былі дужымі. І Іван Данілавіч не выключэнне…

Уся вёска ведала пра той выпадак. Летась Собаль вяртаўся з лесу. І ў нізінцы раптам убачыў: на звілістай лясной дарозе, пасярод асенняй гразюкі, якую не было магчымасці аб’ехаць, пагразшы «па самыя вушы», сядзеў «Запарожац» мясцовага агранома. Прычым сядзеў надзейна — ні туды ні сюды нават не зварухнуцца. Агранам — за рулём. Але вылезці не можа: гразі па калена. Іван Данілавіч, на шчасце, меў пры сабе сякеру: рабіў засечкі на дрэвах. Ссек ён тады невялікую, але даволі трывалую на выгляд сасонку, падсунуў пад машыну. Крыкнуў аграному: «Заводзь!» — і прыўзняў гэты «транспарт» над паверхняй… Любы аўтамабіліст скажа, што ў такім становішчы нельга заводзіць машыну. Але агранам быў настолькі напалоханы, што адразу ж паслухаўся. А Собаль моцна падштурхнуў бервяном «Запарожца». Той вырваўся і, праехаўшы некалькі метраў, спыніўся, весела завуркатаў, як сыты кот. А агранам пасля таго здарэння стаў ледзь не лепшым сябрам нашага героя. Якраз сёння Івану Данілавічу ўдалося ўзяць у леташняга бедака бензапілу, якая, на жаль, не спатрэбілася…

Здалёк убачыўшы сваю бярозу, Собаль падумаў, што чалавек усё ж вельмі мала ведае пра таямнічыя сілы прыроды, у адрозненне ад нашых продкаў. А дзе гэтыя сакрэты цяпер? Чалавек цалкам залежыць ад прыроды, хоць і лічыць сябе яе гаспа-

даром. «Цікава, а дзе быў гэты «цар прыроды», калі рвануў Чарнобыль? — падумалася Собалю. — Чалавек — усё ж такая слабая істота…»

Іван Данілавіч ужо набліжаўся да сваёй бярозы. Раптам бразнула суседская брамка, і з варот выйшаў стары з двума пустымі вёдрамі ў руках. Тыя весела звінелі на ўсю ваколіцу. Дзядок перайшоў вуліцу, яшчэ не заўважаючы Івана Данілавіча з яго возам. Сеў на лаўку, закурыў. Раз-пораз сплёўваў у шэры пыл, мружачыся на сонцы. Убачыў воз, паднёс далонь да ілба. Потым пазнаў Собаля, усміхнуўся.

— Здароў будзь, Данілавіч! Нешта ты рана з лесу едзеш. І воз пусты. Там што, дрэў не засталося, га?

Дзядок з задавальненнем зацягнуўся папяросай. Даніла тым часам пайшоў адчыняць вароты.

— Здарова, Кузьміч! Табе б толькі свае цыдулкі смаліць ды лясы тачыць! Ты як сарока якая! — Собаль хітра паглядзеў на дзеда. — Даў бы і мне перадыхнуць колькі часу, можа і сам бы расказаў, што дзіўнага ў нас бывае! Садовая твая галава! Хто ж пераходзіць вуліцу перад носам з пустымі вёдрамі!

Кузьміч не пакрыўдзіўся на суседа. Яны даўно прызвычаіліся да такіх сяброўскіх кпінаў. Але не раз прыходзілі на дапамогу па-суседску і на сямейныя святы звычайна запрашалі адзін аднаго. Вось такая склалася сялянская ідылія.

— А ты што, баба, Данілавіч, каб у розныя забабоны верыць? І што такое дзіўнае з табою сёння было? Хіба толькі гаршчок з золатам знайшоў у якім-небудзь дупле?

Кузьміч хітра прыжмурыў адно вока.

— Лепш чым золата. Зірні сюды, — паклікаў Собаль суседа.

Той падышоў да воза і ўбачыў сабаку, які з заплюшчанымі вачыма ляжаў на брызенце.

— Бач ты! — толькі і змог сказаць Кузьміч. — Вось гэта ўлоў! І за што ты яго, а?

— А з чаго ты ўзяў, што гэта я яго? Па сабаку з ружжа стралялі! — з запалам адказаў Собаль. — А дзе ты бачыў у мяне стрэльбу, га?

— Дык ён нежывы, па-мойму! — дзед ніяк не мог супакоіцца. — І хто гэта мог яго, га? Трэба да Кацярыны ісці. Яна ж фершал!

— Фельчар, а не «фершал», Кузьміч! — перадражніў старога Собаль. — А дарэчы, дзе яна? Не бачыў часам?

— У сваім медпункце, дзе ж яшчэ ёй быць! Вось зверы, а!

Кузьміч вылаяўся, узяў чарговую «цыдулку», закурыў.

Джэк, пачуўшы словы Кузьміча, расплюшчыў адно вока і слаба вільнуў хвастом.

— Ой, дзякуй Богу, жывы! Нічога, Кацярына нават мёртвага на ногі паставіць!

Тым часам падышоў Даніла.

— Гатова, заязджай!

Воз пакаціўся на двор.

— Даніла, — звярнуўся Собаль да сына. — Бяжы да цёткі Каці ў медпункт. Скажы, каб хутка ішла сюды. Давай. Адна нага тут, другая там! Добра?

— Хутка буду! — Даніла пабег на вуліцу.

* * *

Пакуль Іван Данілавіч паіў каня, на двор хуткаю хадою ўвайшла Кацярына — чарнявая жанчына з прывабнымі рысамі твару, у жоўтай майцы з кароткімі рукавамі, светлай доўгай спадніцы і з хусткай у руках. «Дзякуй богу, што халат белы свой скінула, а то людзі падумаюць, што нешта здарылася. Чым менш будуць ведаць — тым лепш!» — падумаў Собаль. За Кацярынаю ішоў Даніла.

— Мне Даніла ўсё расказаў. Дзе наш паранены? — ці то жартам, ці то ўсур'ёз спытала яна.

Потым падышла да воза.

— Зразумела. Патрымайце сабаку, каб не пакусаў! — яна пачакала, пакуль мужчыны зоймуць свае месцы, і пачала агляд.

Праз некаторы час Кацярына сказала:

— Жыць будзе. Толькі трэба дроб падаставаць з галавы, шыі і лапы. Я хутка на пункт па медыкаменты, а вы падрыхтуйце стол на двары. Вядома, можна было б адвезці сабаку на пункт, але ў мяне не ветлячэбніца. А да горада далёка. Ён слабы, можа не дацягнуць. Увогуле ніколі не думала, што сабак лячыць буду.

Кацярына выцерла хусткаю ўспацелы лоб і ўпершыню ўсміхнулася, паказаўшы белыя прыгожыя зубы.

— Прабач, Ваня, я нават не павіталася — стамілася, пакуль бегла! — яна зірнула на Собаля.

— Бачыш, якія сёння дровы, Кацюша? — Іван Данілавіч прысеў на прызбу. — І хто па ім паліў з ружжа? Рукі б паабрываў злыдню!

Ён успомніў «дзіцячы» плач у бярозавым гаі і павёў плячыма, нібыта ад холаду.

— Даніла, — раптам успомніла Кацярына. — Я сама не паспею, збегай да мяне, скажы Іне, каб прынесла навакаін у ампулах і некалькі шпрыцоў.

Кузьміч забыўся на свае вёдры і пазіраў з-за плота цікаўнымі вачыма. Нарэшце не вытрымаў, заскочыў на двор.

— Мабыць, і я на што згаджуся, а, моладзь?

— Ты, Кузьміч, лепш нікому не расказвай, што тут бачыў. А то ўся вёска зараз будзе ў нас. Потым няхай языкамі мелюць, добра? — Собаль звярнуўся да суседа.

— Добра, Данілавіч. Ты ж мяне ведаеш!

На двор тым часам уляцелі Даніла і Іна. Так, тая самая… Вы, паважаныя чытачы, не памыліліся. Гэта была наша «Даратэя».

* * *

Сонца, як заўсёды, рыхтавалася сысці за гарызонт, каб адпачыць і даць магчымасць выспацца людзям, што правялі дзень у працы, каб хапіла моцы на дзень наступны.

У стопцы, каля печкі, у якой весела спявала полымя і трашчалі паленцы, на старым брызентавым плашчы ляжаў Джэк. Яго галава, шыя, тулава і адна лапа былі ў бінтах. Вочы заплюшчаныя. Сабака спаў пасля наркозу. Кацярына разам з Іванам Данілавічам сядзелі ля печы і глядзелі на агонь. Даніла качаргою час ад часу варушыў дровы, і тады іскры ляцелі ва ўсе бакі, а чырвона-шызыя вугалькі са звонам сыпаліся на металічную пласціну пад дзверцаю. Іна сядзела побач з маці і, паклаўшы галаву ёй на плячо, узіралася ў полымя, слухаючы адвечную яго песню.

— Слухай, матулечка, а ты ў мяне такая смелая, — адарваўшы галаву ад пляча маці, Іна зірнула той у вочы. — Такая ў цябе прафесія мужная! Не тое што ў мяне.

— Кожны выбірае свой шлях сам, гаварылі калісьці. Бога няма… А ён ёсць! І ёсць пакуты, якія ты павінен прайсці, каб застацца чалавекам… І не кожны гэта можа вынесці. Нават, як ты сказала, дачушка, чалавек мужнай прафесіі, — Кацярына глядзела на агонь, які, здавалася, супакойваў яе, ачышчаў душу…

— А ты ж вунь колькі вынесла, Кацюша. І дзяцей дапамагла падняць, людзям якую карысць прыносіш! — Собаль паглядзеў на яе і раптам усміхнуўся, паказаў на Джэка: — Цяпер вось і сабакам…

Кацярына ўсміхнулася.

— Бог дае чалавеку столькі, колькі ён можа адужаць. Але, — яна абвяла позіркам усіх, — ва ўсім раўнавага ў жыцці ёсць. Ты атрымаў нармальную прафесію, грошы сякія-такія маеш. Кар'ера там угару ідзе — але… ніякага асабістага жыцця.

Яна горка ўсміхнулася.

— Кацярына, ты ж ведаеш: мы — адна сям'я. Чаго табе яшчэ трэба, га? — Собаль здзіўлена паглядзеў на яе.

— Нічога ты не разумееш, Ваня. Чаго бабе ў жыцці не стае? Мужыка, дзяцей, дома, і каб у ім, у гэтым доме, шчасце жыло ды не пераводзілася.

— А якое яно, тваё шчасце?

— Нічога вам, мужыкам, і невядома. Жыццё пражыў, а нічога не зразумеў, Іван Данілавіч… — з горкаю іроніяй прамовіла, гледзячы на полымя, Кацярына.

— Ой, мама, а я ж сёння свой крыжык згубіла! Той самы, бацькаў падарунак табе, памятаеш? — Іна дакранулася да шыі, на якой зіхцеў-пераліваўся залаты ланцужок.

— Дрэнны гэта знак, дачушка мая. Але нічога, дасць Бог, знойдзем. Усё бывае. Вось і гэты гаротнік, — яна паглядзела на сабаку, — пэўна, нездарма сюды трапіў, таксама штосьці нарабіў, раз у яго нехта пальнуў. Гэта як трэба ненавідзець жывую істоту, каб у яе кулю пусціць!

— Дык добра, што дроб быў на птушку, а не буйнога звера, а то б сканаў аўчар гэты адразу, — заўважыў Іван Данілавіч.

— І ўсё роўна даравацъ такому чалавеку нельга! Я так лічу! — рашуча сказала Іна. — Я ніколі не выйшла б замуж за чалавека, калі б даведалася, што ён ці яго блізкія забіваюць жывёл і птушак, няхай бы і дзеля палявання! Паляванне — гэта тое ж забойства. Толькі ўзаконенае!

Іна ўскочыла. Вочы яе палалі.

— Бедненькі ты мой! — яна прысела каля Джэка, правяла рукою па яго боку. — І хто ж цябе так, а?

Даніла сказаў:

— А калі гэты чалавек даведаецца, дзе сабака і прыйдзе да нас, мы яму аўчарку не аддамо! Няхай лепш у нас жыве. А таму…

Ён махнуў рукою.

— …Так яму і трэба, дурню такому!

— Давайце лепш спаць сёння. Усім хапіла напоўніцу! — Собаль устаў. — Ужо позна.

— Нічога, заўтра ўся вёска ўжо будзе ведаць пра сабаку. Кузьміч пастараецца, — Кацярына таксама ўстала. — Іна, пойдзем ужо.

— А я тут пакуль пабуду. Хутка ў печы дагарыць — тады і я спаць. А так і сабаку цёпла будзе, і нам спакайней, — сказаў Даніла і, не ўстаючы, паварушыў вугольчыкі.

Усе, акрамя яго, развітаўшыся да заўтра, выйшлі ў ноч.

## ЧАСТКА 9

Мінула некалькі дзён. Нягледзячы на цёплае летняе надвор'е, людзі ведалі, што не за гарамі восеньскія халодныя дажджы, і спяшаліся атрымаць асалоду ад кожнага жнівеньскага дня.

На лавачцы каля плота сядзелі Собаль з Кузьмічом і курылі.

— Што, Данілавіч, — перарваў маўчанне дзед, — на тваім падворку можна палявы шпіталь адкрываць. Бач, як аператыўна ўсё ў вас. Нават сабака можа стаць чалавекам, хоць на час. Галоўнае…

Кузьміч глыбока зацягнуўся.

— …каб не наадварот. Хаця, бывае, сабакі лепшыя за некаторых людзей.

Ён задумаўся. Твар стаў сур'ёзным. Собаль рэдка бачыў Кузьміча такім.

— Я, от, тады яшчэ малым быў. У сорак трэцім, па-мойму. Партызаны ахфіцэра нямецкага кокнулі і кагосьці там яшчэ. Вось… І нашага аднаго падстрэлілі. Калі адступалі ў лес, пакінулі партызана гэтага ў Піменавай хаце. Ну Пімен, той, што… шасцёра ў яго малых было. Вось… Нейкая гніда данесла ў паліцыю. Пімена, жонку яго… разам з дзецьмі, і таго партызана — усіх загналі ў хату… Ну і падпалілі, гады! Як людзі гэтыя крычалі… Крык той, лямант і цяпер чую, хоць столькі мінула… Тыя, двухногія, няўжо яны людзі, га? Сабакі! Нелюдзь!

Кузьміч апусціў галаву. Нервова раскрыў пачак «Прымы». Некалькі цыгарэт паляцела на пясок. Дзед вылаяўся. Падняў «пры́міны».

— Дзядзька Ваня! Паглядзіце на нашага госця! Бачыце, ачуняў ужо! — пачуўся голас Іны.

— Я ж казаў табе, Данілавіч, — зажыве, як на сабаку! — перамяніў адразу тэму Кузьміч, убачыўшы, як аўчарка ідзе па двары да дзяўчыны. Бінтоў на ім ужо не было. — Бач ты, які разумны!

Тым часам Іна наліла нечага ў міску, і Джэк накіраваўся да ежы.

— Вось і есці пачаў нармальна, — падхапіў Собаль. — Значыць, неўзабаве паправіцца.

Іван Данілавіч быў задаволены тым, што сабака ачуняў. «І дзеля чаго нам Бог даў яго?» — разважаў ён, успамінаючы словы Кацярыны. Пахаваўшы жонку, ён праз нейкі час зразумеў, што, акрамя сыноў і яе з дачкою, — нікога з родных у яго няма. Бацькі даволі рана памерлі. Кацярына з яго Марыяй былі з дзетдома пасляваеннага «гатунку» — цудам знайшлі адна адну. І так усё жыццё раслі, як два дзікія дрэўцы, дорачы пяшчоту, якой самім калісьці не хапіла, сваім родным. Собаль адчуваў, што Кацярына была для яго, напэўна, больш чым сястра жонкі, але столькі год баяўся прызнацца ў гэтым не толькі ёй, але нават сабе… Калісь у метрыцы Кацярына запісала ў графе «Імя па бацьку» «Іванаўна», хаця імя сапраўднага бацькі яе дачкі, відавочна, было іншым. Собаль ведаў, што маці таго «мужа» забараніла яму сустракацца з Кацярынаю і, калі нарадзілася Іна, не прыняла яе з дачкою. Таму імя па бацьку дзяўчыны было яго — Іванаўна. Іна была яго дачкою… Хаця называла Собаля «дзядзька Ваня». А ён любіў іх — сваіх Міколу і Данілу і іх — Кацярыну і Іну. Гэта была яго сям'я…

Іван Данілавіч доўга глядзеў туды, за хаты, дзе каласілася калгаснае поле, над якім раз-пораз праносіўся вецер, гайдаючы жывое золата. І яно ззяла-пералівалася пад промнямі жнівеньскага сонца…

* * *

Пасля полудня тое месца ля плота на двары, дзе ляжаў сабака, раптам накрыў чорны цень. Сёння Джэк, бадай, упершыню пасля здарэння самастойна мог устаць і падысці да міскі з ежаю. Прымружыўшы вочы, ён ляжаў, адчуваючы, як прыемная стома паступова ахоплівае ўсё цела. Потым ён быццам бы праваліўся кудысь…

…Ён у машыне. Рознакаляровыя агеньчыкі скачуць перад вачыма, калі аўто падкідае на ўхабах. Рэзкі ўдар — машына спынілася. Дзверы расчыняюцца — у салон уварваўся свежы струмень паветра… Нешта сціснула шыю… Нешта цягне яго за сабою… Цяжка дыхаць… Цяжка… Шоргат лісця… Чыесьці крокі, гулкія… Кожны аддаецца ў галаве… Белы твар на бела-чорным фоне… І — агонь… Сноп агню… Боль у галаве… Чырвоныя пялёсткі болю… Ён расце, гэты боль, запаўняе кожную клетачку змучанага цела… Чырвоныя пялёсткі гаснуць адзін за адным, паступова, у чорнай, непрагляднай цемры… Усё… правал…

Джэк усхапіўся ад сну… Над ім, замест яснага цёплага сонейка, вісела вялізная чорная хмара. Шэрань сціскала паветра вакол. Штосьці блiснула на ўсходзе — і пакаціўся па небе раскат грому, нібы груда камення звалілася на зямлю. Неўзабаве яшчэ адна бліскавіца — ужо бліжэй — уваткнулася ў дол. І зноў гром скалануў паветра. Першыя кроплі, тугія, цяжкія, упалі на зямлю, малюсенечкімі фантанчыкамі, як кулямі, прасяваючы яе. Джэк ускочыў і, не зважаючы на боль, панёсся да стопкі, дзверы ў якую былі расчыненыя. Ускочыў туды. Лёг. Затаіўся…

## ЧАСТКА 10

Над вёскаю навіс чорна-шэры полаг, які, здавалася, увабраў у сябе і зямлю, і неба. Чорныя абрысы хат былі ледзьве бачныя ў гэтай смузе. І толькі часам яна адступала перад асляпляльным бляскам маланкі — тады станавілася светла, як удзень. На імгненне. Раптам на зямлю абрынуліся тоны вады. Дождж лупцаваў па хатах, дрэвах. Ніводнага чалавека не было зараз на вуліцы: нікому не хацелася апынуцца ў самым цэнтры гэтай стыхіі.

Як ні дзіўна, але, калі кінжал бліскавіцы ў чарговы раз распароў шызае неба, можна было заўважыць легкавы аўтамабіль, які невядомы вандроўнік-смяльчак спыніў пад высокім адзінокім дубам, што рос недалёка ад ваколіцы ля дарогі. Гэты волат узвышаўся над усёй вёскай і, як Ілья Мурамец, узіраўся ўдалеч, мабыць, ужо не адну сотню гадоў. На сваім вяку бачыў ён нямала навальніц, але вядома, што бліскавіцу можа прыцягнуць не толькі дрэва — тым больш адзінокае, — але і метал…

Пачуўся чарговы ўдар грому, і маланка трапіла якраз у вяршаліну магутнага дрэва, запаліўшы некалькі галін. Падпаленыя, яны абгарэлі. Адна з іх палаючым факелам абрынулася на капот машыны, якая тут жа рванула з месца і памчалася ў бок вёскі.

Гэта была кульмінацыя дзівоснага прыроднага спектакля. Бо неўзабаве дождж пачаў сціхаць, а праз хмары прабіліся першыя, пакуль яшчэ нясмелыя, сонечныя промні. І — раптам чорна-шызае неба нібы расчынілася, прапускаючы наперад гарачае, асляпляльна-залатое сонца. Яно, як пераможца на п’едэстале, заззяла на нябесным Алімпе, узіраючыся ўдалеч і дорачы ўсяму свету сваё цяпло. Праз лічаныя хвіліны ўжо нельга было зразумець, быў дождж альбо не: слёзы на твары карміцелькі-зямлі высахлі.

Вёска таксама нібы абудзілася ад сну: пачалі расчыняцца дзверы, вокны, падалі свой голас каровы ў хлявах. Бразнула чыясьці брамка.

Машына стаяла ля калодзежа, недалёка ад старой бярозы. Гэта быў стары сіні «форд», у якім сядзелі двое. І ніхто з іх нават не падазраваў, наколькі блізка знаходзіцца мэта іх падарожжа.

— Слухай, Андрэй, гэтую вёску я праязджаў двойчы — адразу ж пасля ўсяго, ну… ты разумееш, — Васіль Сцяпанавіч нешта горача даказваў сыну. — Што нам тут яшчэ шукаць? Паехалі далей!

Ён хацеў завесці машыну, але сын не згаджаўся з бацькам.

— Ты ж гаварыў, што пытаўся ў людзей пра Джэка, так?

— Так.

— І колькі іх было, тых дарадцаў?

— Двое. Бабулька нейкая каля магазіна і хлопец на адным двары.

— А ты ў хаты заходзіў? Не? А ў той жа магазін? Прадавец ведае усё, што ў вёсцы робіцца!

— Дык людзей у той вёсцы няма — усе ў полі! Хаця… наконт магазіна — я, і праўда, не скумекаў.

— Слухай, тата, я пайду вады нап'юся — вунь якраз і калодзеж побач. Я неяк сэрцам адчуваю, што наш Джэк дзесьці тут. А вось чаму?.. — Андрэй выйшаў з машыны, — …не ведаю пакуль. Пойдзем лепш разам да калодзежа — карысна ногі размяць, а?

— Не, сын, ідзі. Я пасяджу.

— Як хочаш.

Андрэй пайшоў, а бацька доўга глядзеў яму ўслед праз расчыненыя дзверцы машыны.

Бразнуў металічны ланцуг, да якога было прывязана вядро, і гулкі плёскат дзесьці ўнізе абвясціў, што яно дасягнула вады. Праз хвіліну вядро было ўжо на паверхні. Андрэй з прагнасцю піў, вада пралівалася на кашулю. Сцюдзёная, яна не шкадавала зубоў, але ён не адчуваў гэтага. Наталіўшы смагу, Андрэй нахіліўся, каб выліць астатнюю ваду пад плот. І раптам паміж дошкамі, на якія звычайна ставілі вядро, ён убачыў нешта бліскучае. Засумняваўшыся, лінуў туды трохі вады. І — раптам убачыў крыжык. Залаты. «Праваслаўны. Божа! Як той самы, аздоблены камянямі… Яе, Іны, — падалося Андрэю. — Але так не бывае. Толькі ў казках якіх…»

Усё яшчэ баючыся паверыць, падняў крыжык, як найвялікшую каштоўнасць, і схаваў у кішэні кашулі. «Гэта яе… Безумоўна, яе… Археолаг не можа памыліцца… І бацьку сюрпрыз будзе. Калі, дай Божа, маю «Даратэю» сустрэнем — пазнаёмлю іх!» — у душы засмяяўся сваёй думцы Андрэй. Гэта быў добры знак. Чаму? Ён пакуль уцяміць не мог, але адчуваў, што рухаўся ў правільным накірунку.

… І тут толькі ўбачыў старога, які выйшаў з варот суседняй хаты і сеў на лаўку каля плота. Дастаў папяросы. Закурыў. Гэта быў Кузьміч.

Андрэй падышоў. Прысеў побач.

— Дзень добры! — павітаўся Андрэй. — Смачная ў вас вада. У горадзе такой няма.

— І табе добры дзень, хлопец, калі не жартуеш. Праездам у нас ці да каго-небудзь у госці?

— Ды навальніца паламала ўсе планы, — пачуўся ззаду голас Войціка-старэйшага. — Мы за вёскай пад дубам спыніліся, калі ўсё пачалося. Думалі перачакаць. Не паверыце: маланка па нашым дубе жахнула. Падпаліла яго. Мы — адразу сюды.

— Дуб, кажаце, падпаліла? — Кузьміч павярнуўся да Васіля Сцяпанавіча і ўважліва паглядзеў на яго, прыплюшчыўшы адно вока. — Дык гэта… ўсім вядома, што пад дрэвам… адзінокім тым больш… хавацца ад навальніцы няможна. Хаця… старыя гавораць… Пярун не па ўсіх б'е…

Бацька і сын зірнулі адзін на аднаго.

— …А звычайна толькі па тым, на кім цяжкі грэх… Вось…

— А мы тут пры чым? Мы ж толькі пад гэтым дубам стаялі! — не паверыў Андрэй. — Глупства нейкае…

Апошняя фраза амаль прашалясцела ў цяжкім восеньскім паветры. Але стары пачуў яе.

— Ты, хлопец, малады яшчэ зусім, не ведаеш шмат чаго… — пачаў Кузьміч.

Але Войцік-старэйшы перарваў ягоную думку.

— Вы, пэўна, здзівіцеся, — пачаў ён. — Але мы сабаку свайго шукаем. Я, вядома, разумею, наколькі дзіўна гэта гучыць… Вось ваша вёска бліжэйшая да бярозавага гаю, хаця я тут ужо двойчы праязджаў… Гэта аўчарка, прыгожы такі пёс…

Кузьміч раптам аслупянеў. Быццам маланка працяла яго, калі пачуў словы «бярозавы гай» і «аўчарка». Ён усё зразумеў і, паколькі быў чалавекам шчырым, адразу адкрыў свае карты.

— А чаму ты страляў па ім, гад? Чаму не пашкадаваў? Людзі праз цябе начэй не спяць — баяцца, каб не сканаў ён!

Словы Кузьміча прагучалі як стрэл сярод звонкай цішыні.

— Божа мой, дык ён жывы! — страпянулася надзея ў сэрцы Войціка. Ён кінуўся да старога. — Прашу вас, пакажыце, дзе ён! Прашу вас!..

Яму было сорамна перад сынам, але ён разумеў, што гэтая хвіліна вельмі каштоўная для яго. І… для ўсёй сям'і.

— А па чым я ведаю, твой гэта сабака ці не? — працягваў свой «допыт» Кузьміч. — Як яго завуць?

Ён ужо зразумеў, што гэта і ёсць той самы злачынца, на якога ён наслаў столькі сваіх праклёнаў. Але, гад, напэўна, вельмі шкадуе аб усім. Кузьміч раптам аслупянеў, убачыўшы ў вачах яго слёзы… Звыклы да ўсяго, ён баяўся толькі жаночых слёз. А тут мужчынскія…

— Джэк, — ціха адказаў Васіль Сцяпанавіч. — Аўчарка. Вы ж, пэўна, бачылі…

І ў некалькіх словах расказаў Кузьмічу і пра Джэка, і пра маці, і пра міліцыю. Той слухаў уважліва, не перапыняў. Уздыхаў. Выслухаўшы, зноў закурыў. Падумаў, выпусціўшы клуб дыму, сказаў:

— Бог табе суддзя, чалавеча… Хаця я цябе разумею…

Кузьміч замаўчаў.

— Не дай Божа такое каму-небудзь… Хаця… Сабакі — як людзі. Могуць калечыць, могуць і ратаваць. Могуць крыўдзіцца, могуць і дараваць…

Ён з хітрынкаю ў вачах зірнуў на Войціка.

— Толькі ілгаць не могуць. Заўсёды шчырыя — ва ўсім…

Войцік маўчаў.

— Я ведаю, дзе твой Джэк. Але падумай… спачатку, ці трэба табе з ім сустракацца… ну, пасля ўсяго. Фершал выняў з яго галавы твае жалезкі… У сабакі… ну, новае жыццё, можна сказаць. А тады…

Стары зноў уважліва паглядзеў на Войціка.

— …Плакаў у тым лесе, як дзіця… Вось… Таму, дарэчы, яго і знайшлі…

Вочы Войціка зноў напоўніліся слязьмі. Ён упершыню ў жыцці знаходзіўся ў такой сітуацыі. Што рабіць далей? Ці можна вярнуць Джэка? Альбо не рабіць балюча яму і сабе і вярнуцца ў Мінск, пакінуўшы яго тут, у новых гаспадароў, у новым жыцці?..

* * *

Усё вырашылася само сабою. Раптам ля суседняй хаты, якраз насупраць старой бярозы, пачуўся голас:

— Ну што нам з табой у тым лесе рабіць пасля дажджу? Заўтра лепш пойдзем, праўда? Дровы нас няхай пачакаюць!

Кузьміч і Войцікі павярнуліся на голас і ўбачылі Собаля і Джэка. Іван Данілавіч трымаў у руцэ міску з чарговай порцыяй ежы для свайго гадаванца. Джэк, пачуўшы прыемны пах, пакінуў сваё месца ў стопцы.

— Эй, Данілавіч! Хадзі сюды! — закрычаў яму Кузьміч. — Я цябе з адным чалавекам пазнаёмлю!

Гавораць, што калі скажаш нешта на пачатку вясковай вуліцы, то рэха разнясецца на ўсю вёску. І сапраўды, як толькі прагучалі словы Кузьміча, некаторыя цікаўныя суседзі, пакуль здалёк, пазіралі на іх. Суседняя ад хаты Собаля брамка расчынілася, і на вуліцу выбегла Іна. Яна ўжо пачала збіраць рэчы перад ад'ездам у Мінск: адпачынак заканчваўся, — як раптам пачула галасы на вуліцы. Убачыла Кузьміча і двух незнаёмых ля суседскіх варот. Аднаго, падалося Іне, яна ўжо дзесьці бачыла.

— Што там, дачушка? — спытала Кацярына дачку. Яна прыйшла на абед і завіхалася зараз на кухні.

— Нейкія незнаёмыя да дзядзькі Вані прыйшлі. Я пайду пагляджу.

— Я хутка цябе даганю, Іначка…

Апошніх слоў Іна не пачула — была ўжо каля брамкі.

* * *

Собаль яшчэ не паспеў нічога зразумець, як Войцік рашуча расчыніў брамку і ступіў на двор. Андрэй застаўся каля ўвахода.

Джэк таксама заўважыў свайго былога гаспадара і, павярнуўшыся, замер. Як скамянеў. Войцік зрабіў некалькі крокаў і таксама спыніўся. Паглядзеў на Джэка. І раптам адчуў, як сілы пакідаюць яго — прысеў. Штосьці зашчымела ў горле ў Васіля Сцяпанавіча. І ён ціха, амаль шэптам, няўпэўнена сказаў:

— Джэк! Чуеш мяне? Ідзі сюды…

Голас яго некалькі разоў перарываўся. Ад хвалявання ў сэрцы зашчымела. Галаву пранізаў моцны боль.

Джэк уважліва глядзеў на Войціка.

Збоку здавалася, што сабака проста не пазнае яго. Але потым адбылося тое, чаго чакаць было, па сутнасці, нельга, але чаго чакалі, напэўна, усе, асабліва Васіль Сцяпанавіч.

Джэк раптам заскуголіў, лёг на зямлю і папоўз да свайго гаспадара.

Войцік усё зразумеў… Заплакаў, як дзіця, і кінуўся да Джэка. Упаў на зямлю, прыціснуў галаву сабакі да грудзей, пачаў цалаваць…

Сцэна гэтая расчуліла ўсіх.

З-за плота пачуўся голас Кузьміча:

— Бач ты, сабака ўсё зразумеў… дараваў яму… дараваў усё…

Андрэй адчуў, як слёзы радасці душаць яго. Закрыў твар рукамі, плечы яго затрэсліся.

— Што з вамі, Андрэй? — пачуў ён раптам знаёмы голас.

Войцік азірнуўся: разам з Кузьмічом ля брамкі стаяла… яго «Даратэя»! Ён не верыў у прымхі, але тут усё ж такі цяжка было не паверыць у такое дзіва, і тым больш зараз…

— Не, нічога, — пачаў ён. — Проста гэта мой сабака і… мой тата…

— Ваш? — у вачах дзяўчыны раптам заззялі злыя агеньчыкі. — Значыць, гэта ён страляў па гэтым няшчасным, якога мая маці ледзьве з таго свету вярнула?

— Ён… не хацеў… Вы павінны зразумець… Ён, Джэк, бабулю — татаву маму — пакусаў… да крыві. Два швы наклалі…

— Дзякуй Божа, што хоць праз столькі год гэтую мегеру твая кара знайшла! — пачуўся злосны шэпт каля Андрэя.

Ён азірнуўся: побач з Інаю стаяла прыгожая чорнавалосая жанчына, вельмі падобная на яе.

— Што ты гаворыш, мама? Хіба так можна? — Іна здзіўлена паглядзела на маці.

— А чаму я павінна маўчаць? А, Васіль? Помніш мяне?

Войцік падняў галаву. Спачатку не пазнаў. Але паступова, хвіліна за хвілінаю бачна было, як ціхае светлае шчасце яго саступае месца новай трывозе.

— А помніш, як яна не згаджалася, каб былі мы з табою разам? А помніш, як яна выкінула нас з двухмесячнаю дачкою на мароз, сказаўшы, што нагі нашай не будзе ў вашым доме, таму што мы ледзь не псуем ваш генафонд знакаміты? А дзіця

ў падоле — не іх дзіця! Дык вось запомні: так ёй і трэба! Кара Боская насцігае ўсіх — рана ці позна — усіх! Эх, Вася, Вася! Што ж вы нарабілі!..

Андрэй стаяў, ашаломлены тымі зменамі ў свядомасці, якія адбыліся на працягу толькі апошніх пяці хвілін. Свет нібы выбухнуў у яго галаве… Ён раптам успомніў пра крыжык. Зірнуў на Іну: на яе шыі крыжыка не было.

— А я вось што сёння знайшоў. Не ваш часам?

І выцягнуў крыжык.

— Ой, — здзівілася Іна, — а мама казала, што гэта дрэнная прыкмета — згубіць нацельны крыж. А аказваецца, не зусім дрэнная. Як вы лічыце? Як ты лічыш? Можна на «ты»?

— Можна, — з усмешкаю пагадзіўся Андрэй…

Собаль, які бачыў усю сцэну, спачатку раззлаваўся, калі ўбачыў Войціка — яшчэ раней хацеў разабрацца са злачынцам, які пакрыўдзіў сабаку. Потым, убачыўшы рэакцыю Джэка, быў гатовы даравацъ незнаёмцу. А пачуўшы словы Кацярыны і зразумеўшы ўсё, падумаў, што час ужо даўно ўсё паставіў на свае месцы і што нельга нічога вяртаць назад, калі толькі жыццё само не ўнясе свае карэктывы…

Кузьміч ціхенька падышоў да Івана Данілавіча, паклаў таму на плячо руку, адвёў убок і напаўголаса караценька паведаміў яму гісторыю Войціка.

А той тым часам не адыходзіў ад Джэка. Сядзеў на траве, а сабака даверліва паклаў галаву свайму гаспадару на калені… Андрэй і Іна, усхваляваныя, сядзелі з імі. Васіль Сцяпанавіч ашаломлена глядзеў на дачку і, здавалася, сам не разумеў яшчэ, што здарылася.

«Дзе ж ты, той Пярун, што не пакараў мяне раней? Чаму ты прыйшоў да мяне так позна?..» — разгублена пытаўся ў сябе Войцік, разумеючы, што чым больш ён ставіць перад сабою пытанняў, тым больш парадаксальнымі яны яму падаюцца…

Кацярына знікла амаль адразу, як з'явілася — не хацела бачыць свайго «былога», ірваць лішні раз сэрца. Для яе ўсё скончылася са з'яўленнем яе дачкі на гэты свет — усе мары, надзеі, спадзяванні. Усё. І вось сёння вярнуліся. Навошта? У кожнага сваё жыццё, якое марудна, але непазбежна набліжаецца да Суднага дня… «Усё ў руках Божых», — думала Кацярына, расчыняючы дзверы сваёй хаты…

## ЧАСТКА 11

Сіні «форд» пачаў набіраць хуткасць, калі вёска засталася за паваротам. Васіль Сцяпанавіч Войцік вёў машыну, не заўважаючы той прыгажосці, што раскінулася навокал. Перад вачыма стаяла сцэна спаткання яго з людзьмі, што выратавалі Джэка і… яго душу: Іванам Данілавічам, які першым знайшоў сабаку; Кацярынай, якая так і не стала яго жонкаю, але фактычна ўжо была ёю, калі б не маці; Інаю — яго дачкою. Той самай, пра якую ён успамінаў столькі год і пра якую нічога не ведалі Таццяна і дзеці. Да сённяшняга дня… І няхай! Няхай душа назаўжды будзе свабоднаю, як той матылёк, што лічыцца чамусьці легкадумным…

Андрэй, гледзячы за акно машыны, разважаў пра тое, як цяжка мець у жыцці арыенціры. Учора было адно, заўтра — другое, а паслязаўтра — нават боязна ўявіць што… Але ў душы ён радаваўся, што недарэмна з'ездзіў: знайшлі з татам Джэка. Хаця Іна ніколі не будзе яго «Даратэяй», а яе маці — яго цешчай…

Самым шчаслівым з усёй кампаніі, пэўна, быў Джэк, які выглядаў сапраўды задаволеным. Высунуўшы язык, сядзеў ён, узіраючыся праз акенца на палі і дрэвы, што праносіліся міма, і, здавалася, усміхаўся…

Анатоль ЗЭКАЎ

# РОДНАЕ

* * *

Прырода не мае спачыну.
Як сцішыцца нават — не глухне.
Прырода — нібыта жанчына,
што з працы бяжком — і на кухню.

Ці дзень на дварэ, ці то поўня
халодную ноч асвятляе,
прырода не спіць, яна помніць
пра ўсё, што наўсцяж акаляе.

Рахманай бывае і злоснай,
спакойнай задужа і ўпартай,
да ўсіх літасцівай і помснай —
і з ёй жартаваць нам не варта...

Прырода не мае спачыну.
Яна ўсё і чуе, і бачыць,
і, пэўна, мы самі — прычына
таго, што ёй нельга іначай.

## РОДНАЕ

Як з вачэй маіх раптам сляза
успамінная
скоціцца,
рэчка Ліпа і рэчка Уза,
мне адно тады хочацца,
каб на тую слязу вы хаця
сталі больш паўнаводнымі,
і жыццё ваша мела працяг,
і былі вы нязводнымі,
і каб мой і прапраўнук яшчэ,
і нашчадкі ягоныя
маглі ўсклікнуць,
што Ліпа цячэ
і Уза — нескароная.



*Анатоль Зэкаў нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная змена» і «Книга и мы». Рэдагаваў газету «Добры вечар», штотыднёвік «Сталіца» і «Беларускую лясную газету», працаваў у часопісах «Вожык», «Полымя», цяпер — у часопісе «Вясёлка». Аўтар кніг паэзіі «Боль сумлення», «Аварыя сумлення», «Лісты да цябе», «Чарнобыльскі вецер», прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» і інш.*

## ДЗЯДЫ

### Дыпціх

**1**

Не бачыў я дзеда Цімоха.
Не бачыў я дзеда Абрама.
Абодва пайшлі ўжо да Бога,
калі нарадзіўся я ў мамы
і татам мой тата зрабіўся.
Свяцілася хата ад шчасця.
Ды вокліч: «Унук нарадзіўся!» —
пачуць не пашчасціла хаце.

**2**

Дзядоў не ведаў — і на рукі
я не прасіўся да дзядоў.
Не быў я нічыім унукам.

І вось цяпер, праз шмат гадоў,
калі ў самога ўнук і ўнучка, —
не выпускаць іх з рук гатоў.
Тулю да барады калючай,
бы сам тулюся да дзядоў.

* * *

Быццам бы адспавядаліся
перад Богам за былога згукі.
На дзяцей адспадзяваліся.
А цяпер спадзеў увесь — на ўнукаў.

Што ў дзяцей не адбылося, ці
адбылося, ды не так чамусьці, —
тое, зноў у сэрцы носячы,
мы жадаць цяпер унукам мусім.

І, як і тады, нам верыцца,
і мацнее спадзяванне гэта,
што да ўнукаў лёс павернецца
лепшым бокам,
чым да родных дзетак.

## У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ЎНУКА

Тры гады табе, Мікіта,
і наперадзе твой век.
Хоць не жыў яшчэ нібыта,
а ўжо ўсё-ткі чалавек.

Штось расказваеш ты дзеду,
штось шчабечаш дзеду ты, —
а пра што, каб тое ведаць,
мой унучак залаты?

На цябе гляджу зайздросна —
стрымгалоў гады ляцяць!
Як хацеў я стаць дарослым.
Мне б цяпер маленькім стаць.

* * *

А дні ў гады, нібы ў снапы,
няспешна доляй вяжа час.
І словы «эх бы» ды «кабы»
ужо не суцяшаюць нас.

І «эх бы» быць магло й «кабы» —
ды што пра тое ўспамінаць?
Даўно мінуўся час сяўбы.
Дай Бог пасеянае ўбраць.

* * *

Большая палова мной пражыта.
Колькі ж лёс адвёў яшчэ мне?
Супакойся, сэрца, не дрыжы так,
не здавайся, як зашчэміць,
бы загоніць стрэмку хто ў пазногаць,
і хаця балюча дужа,
кінь сябе й мяне палохаць —
ты ж было заўсёды мужным.
Грукай і па жылах кроў гані ты —
хіба я цябе пакрыўдзіў?
Хай палова большая пражыта,
меншую даўжэй пражыць бы.

## ПАЎЛЮК ТРУС

Ён жыў у Гомелі маім,
быў земляком на нейкі час
і да мяне яшчэ па ім
хадзіў.
          Напэўна, што не раз
і паркам любаваўся ён,
на Сож мой родны пазіраў,
які, віруючы, здавён
бяжыць у Лоеў да Дняпра.

Магчыма, там, каля ракі,
па парку даўшы кругаля,
і нараджаліся радкі,
каб стаць класічнымі пасля.

* * *

Пра тое ведаюць усе ўсё,
ды мусім кожны раз вучыць:
сук пад сабою не сячы,
калі на ім ты сам усеўся.

А ты не слухаеш парад тых,
сячэш яго — і хоць бы хны.
Хіба й згадаюцца яны,
як долу грымнешся ты раптам.

**СОНЦА**

А сонца ёсць заўжды на небе,
і нават як не свеціць, бы на зло,
схаваўшыся ў захмарным зрэб'і
і затуліўшы хмарамі святло.

Яно высока там, — не знікла,
і гэтак жа шчыруе, як заўжды, —
хіба святлом, для вока звыклым,
да нас не прабіваецца сюды.

* * *

Дзень гэты не з мяне пачаўся
і знікне не на мне пад поўняй.
З жыццём хтось сёння развітаўся,
і нарадзіўся хтосьці сёння.

Канец жыцця і прадаўжэнне —
нібы ракі бег хуткацечны —
злілося ўсё ў адно імгненне,
каб гэтак прадаўжацца вечнасць.

* * *

Не прывык хадзіць як сонны —
мне б ці бегчы, ці ляцець,
і не ведаць угамону,
і яшчэ шмат што паспець.

Днём спяшаюся, бы ў гоне,
і ўначы парой не сплю,
бо не зробленае сёння
заўтра я ўжо не зраблю.

* * *

Дарогу кот перабяжыць.
Як мне ісці наперад?
Хоць там, на донейку душы,
я ў прымхі і не веру,
што кот —
нат чорны —
да бяды,
аднак усё ж спынюся.
Гляджу на коткавы сляды,
нібы чагосьці баюся.

Пераступлю, далей пайду
туды, дзе ўжо чакаюць,
ды толькі думкі пра бяду
ніяк не пакідаюць…

* * *

Дзе знайсці супакаенне,
думкай запыніцца,
каб магло маё натхненне
вершамі адбыцца?

Толькі ці аб тым я мару? —
думка страпянецца,
бо натхненне і ўладарыць
у бунтоўным сэрцы.

**ТРЫПУТНІК**

Так разлёгся трыпутнік
на сцяжыне —
няўрокам,
бы за праўду пакутнік,
аб'явіў галадоўку
і цяпер пратэстуе,
патрабуе пашаны…

А як што — забінтуе
нават ворагу рану.



Святлана Саўко
нарадзілася
ў 1987 годзе ў Мінску.
Цяпер вучыцца
на завочным
аддзяленні
Інстытута
журналістыкі БДУ.
Друкавалася
ў газеце
«Літаратура
і мастацтва»,
часопісах «Нёман»
і «Маладосць».

Святлана САЎКО

# НУЛЯВЫ КІЛАМЕТР

## *Апавяданне*

*Палова лета прамінула як адзін дзень.* Чэрвень задажджыў і пад парасонам праляцеў гэтак жа хутка, як пралятаюць краявіды за вокнамі цягніка. У ліпені горад нібыта звар'яцеў. Распараны спякотным сонцам асфальт і камень адпраўлялі ў неба мегатоны перагрэтага паветра. Неба прымала, але сплачваць доўг дажджамі не спяшалася. Нават ночы не прыносілі чаканай прахалоды. Душныя ліпеньскія ночы! Яны нібыта створаны для кашмарных сноў. Мёртвае святло бледна-зялёнага месяца каменем кладзецца на грудзі. Прыслухайцеся, ліпеньская ноч поўніцца сонным мармытаннем, кашлем, ціхім, каб нікога не пабудзіць, плачам. Чуеце? Некага, відаць, дамавік душыць. Хрыпіць небарака, апанаваны хатнім духам, варочаецца, камечыць тонкую прасціну, якая, здаецца, урастае ў скуру.

Выдавецтва, дзе працавала Ганна, з прыходам новага дырэктара ператварылася ў разварушанае асінае гняздо. Пайшлі чуткі пра скарачэнне штатаў. Бруд пёр з людзей. Плёткі, інтрыгі распаўзаліся па кабінетах, быццам цвіль, труцілі і без таго цяжкое паветра. Наіўная, Ганна спадзявалася, што яе гэта не закране. Па-першае, яна сярод калег самая малодшая. Няхай дарослыя гуляюць у свае гульні, а пры чым тут яна? Ні ў якія кааліцыі не ўступала і ўступаць не збіраецца. Проста сумленна выконвае свае абавязкі. Пасада ў яе маленькая — малодшы карэктар, як і кропкі з коскамі, з якімі даводзіцца працаваць, разводзіць іх на належныя ім месцы, як гарэзлівых школьнікаў. Так супакойвала сябе Ганна, не заўважаючы, што і да яе жыцця непрыкметна дапаўзла цвіль. Калі пра чалавека няшмат вядома, плёткі пра яго заўсёды разрастаюцца пышным, пачварным цветам. А потым за тваёй спінай пачынаюць шаптацца калегі, суседзі і знаёмыя. А сябры ўвогуле пачынаюць дзіўна сябе паводзіць. Бліжэйшыя Ганніны сяброўкі Дзіна і Таня: адна вочы хавае, другая дэманстратыўна адварочваецца. На месцы не застаць, а калі і застанеш, робяць выгляд, што вельмі занятыя. Ды што з вамі такое, ў рэшце рэшт?!

— Сядай, — запрасілі, калі зазірнула ў чарговы раз да іх. На стале астывала кава, ляжаў бутэрброд з сырам,

падзелены роўненька на дваіх. Чамусьці менавіта гэта і кінулася адразу ў вочы. Яны часта снедалі разам булачкамі з буфета ці хатнімі «сабойкамі». Ганна адчула сябе чужой, няпрошанай госцяй. Пачуццё знаёмае вельмі, але крыху падзабытае, быццам прысыпанае попелам. Яна так задумалася, што прапусціла палову з таго, што ёй гаварылі сяброўкі.

— ...калі кватэры размяркоўвалі.

— І трэба ж было так натуральна разыграць адчай, прынцыпы. Вось табе і абылганая нявіннасць!

— Што?

Удар быў нечаканы і балючы. Атрымліваецца, усё выдавецтва абмяркоўвае, што атрыманую год таму службовую аднапакаёўку яна «прыспала» з ранейшым дырэктарам. Ганну нібыта аглушыла.

— Ганусямі, што з табою? Дрэнна?

— Збялела ўся. Можа, валяр'янкі? — быццам з туману перад ёю з'явіўся кубак, Але яна і глытка не здолела зрабіць. Спазм сціснуў горла. У нос біў рэзкі пах лекаў. Сяброўкі мітусіліся, падсоўвалі нейкія пігулкі. Яна адмахвалася, як ад назойлівых мух, зачапіла стос нейкіх папер, і тыя разляцеліся па падлозе.

Дырэктар Ганне сапраўды падабаўся і ёй падавалася, што ўзаемна. Прыгожы, хоць і немалады ўжо мужчына. Але жанаты. Можа, для якой іншай дзяўчыны гэта не падалося б перашкодай, але не для яе! У дзіцячай, самай яркай, самай глыбокай памяці быццам апёк засталіся матчыны ціхія слёзы, калі бацька ў чарговы раз вяртаўся нібыта з запозненай нарады. Ганначка не разумела тады, што менавіта адбываецца, але адчувала, што благое. З тае пары яна ўзненавідзела ліпеньскія ночы, у якія маці ўсё вочы праглядзела.

Паперы сабралі, халодную каву вылілі, чайнік паставілі наноў. Ганна назірала за гэтым нібы праз тоўстае шкло. Агарнула млявасць. Пэўна, пігулкі падзейнічалі — дзве-тры ўсё ж удалося праглынуць. Зразумела, ёй тады пазайздросцілі. Сярод карэктараў толькі яна атрымала кватэру. Тут бы і маўчаць ды радавацца за сябе. Ды не, трэба ж было падзяліцца перажываннямі з гэтымі вось сарокамі. А тыя і пачулі менавіта тое, што ім хацелася. І нічога пра трывожнае святло начніка. Пра постаць маці ў прамавугольніку акна. Пра праклятую бяссонніцу, на якую яна, маленькая дзяўчынка, тады захварэла. Спаць не давала трывога. Трывога — дарослае пачуццё. Не павінны трывожыцца дзеці! А яна з заміраннем сэрца слухала прыцішаныя сваркі за сцяной. Чакала світання, званка будзільніка ў чужых кватэрах, па якіх нямала давялося пабадзяцца пасля таго, як яны з маці пайшлі з нямілага дому.

Матчыны сяброўкі пускалі да сябе пераначаваць па чарзе, літаральна на некалькі дзён, бо ў саміх сем'і. Спалі на кухні, Ганначка — на чамадане, а маці часцей проста на падлозе. Незадаволеныя мужчыны, чужыя дзеці, якія з уласцівай толькі малым жорсткасцю паказвалі маленькай госці, хто на гэтай тэрыторыі гаспадар.

— Мам, цётка Света сама дала мне тую лялькю, а яе Алька адабрала. А Валодзька падпёр дзверы на кухні табурэткай. Я прасілася, каб выпусціў, а ён смяяўся, скакаў і дражніўся. А калі я сказала цётцы Свеце, ушчыкнуў балюча за бок.

— Дачушка, мы ў чужых людзей, разумееш? Я абяцаю, хутка ў нас будзе свая кватэра. У цябе будзе свой уласны пакой і шмат цацак. І ўсё, усё, усё, што толькі пажадаеш. Пацярпі, дачушка. Толькі прашу, не скардзься больш нікому, як цётцы Свеце, добра? Пацярпі яшчэ крышачку.

Маці доўга варочалася на падлозе і ўздыхала. Яна дужая, справіцца. Каб не дачка, даўно б кінула работу і з'ехала ў іншы горад. Тут, здаецца, усе ведаюць пра ягоныя гульбішчы. Свёкар са свякрухай ведалі, сябры ягоныя ведалі. У госці прыходзілі, пасмейваліся недзе за спінай, пакуль яна на стол ім збірала. Дурніца! А цяпер

яшчэ горш. Цяпер усе ведаюць, што пайшла з дому, як пабіты сабака. Можа, хто і шкадуе, але большасць назірае з цікавасцю. Гэта ж бясплатнае рэаліці-шоу, бразільскі серыял — і тэлевізара не трэба. Ёсць што абмусоліць на лавачцы з суседкамі, на кухні за вячэрай з мужам абмеркаваць. Лепшыя сяброўкі і тыя паглядаюць як бы звысоку. Упэўненыя, што іх сем'і такая бяда абміне. Толькі яна адна як выклятая, нібы з кляймом на ілбе. Твар гарыць ад размоў, перасудаў, цікаўных позіркаў. Маленькі горад, пракляты маленькі горад.

Ганна чула, як варочаецца маці, шэпча нешта, ці то скардзіцца сама сабе, ці то моліцца. Думала: «Як добра, што не расказала ёй яшчэ і пра сарафанчык. Алька нібыта неўзнарок заліла яго сілікатным клеем. Новы сарафанчык са сланечнікамі. Ледзьве адмыла гаспадарчым мылам. І адкуль у іх, Алькі, Валодзькі, іншых бярэцца злосць? Чаму ім так падабаецца крыўдзіць?»

Пытанні, на якія тады так і не знайшоў адказ яе дзіцячы розум. І сёння, праз столькі год, зноў тыя ж «адкуль» і «чаму» круцяцца ў галаве. Чаму сабаку, ката часам шкадуюць больш за тых, хто побач? Толькі з-за таго, што браты нашы меншыя? А чалавек? Хіба кожны з нас не нечы брат, дзіця? Хіба не маем блізкіх, родных, дарагіх, за якіх сэрца зойдзецца ад болю? Некаму ж наша болька забаліць як свая. Дзеці, можа, не разумеюць яшчэ гэтага. А дарослыя? Людзі і разумныя, і адукаваныя. Людзі, якія чыталі Дастаеўскага і Экзюперы, якія вераць у Бога, ходзяць у царкву, у хустках і без шапак, хрысцяцца, ставяць свечкі. Цяпер яна дакладна зразумела адно: каб утрымацца на месцы, давядзецца самой пляткарыць, плесці інтрыгі, магчыма, кагосьці давядзецца абылгаць. Яе спынялі ў калідорах, зазывалі ў кабінеты і пачыналі сваё «шур-шур». Ганна слухала з уважлівасцю, але і толькі. Ледзьве апынуўшыся за дзвярыма, уздыхала з палёгкай і адразу ўсё забывала. Яна не прывучана гэтак жыць, як яны, не ўмее, не разумее.

Ганна любіла сваю работу, але давялося звольніцца. Праз сілу, крыўдуючы ад несправядлівасці амаль да слёз. Але трэба. Трэба, пераконвала сябе, каб захаваць здароўе, каб у рэшце рэшт штосьці чалавечае захаваць у душы. Яе не затрымлівалі. Зборы былі кароткімі. Адыходзячы, апошні раз зірнула на свой стол. Пустыя шуфляды, мёртвы экран камп'ютара. Затрымалася на тэлефоне. Новенькі апарат, толькі-толькі паставілі, пакарыстацца не паспела. Хоць напаследак узяла слухаўку, доўга слухала гудзенне, не ў сілах адарвацца, нібы зачараваная. Рабочыя за акном разгружалі машыну з металаломам, грымнулі лістом іржавага жалеза. Ганна здрыганулася і нарэшце выйшла, абарваўшы развітальнае імгненне, як нацягнутую струну.

* * *

Па першым часе нічога не хацелася. Адно зашыцца ў куток і залізваць раны. Ганна адключыла тэлефон, тэлевізар запыліўся. Пальцам напісала на экране: «Заўтра вытру». Чытала ўсё, што траплялася пад руку. Хадзіла з кнігамі ў магазін і на рэчку. Мінуў тыдзень, за ім другі. Аднойчы яна прачнулася на світанні. Акно засталося на ноч адкрытым. Пахла жухлай травой і дымам. Нячутна па зямлі плыў жнівень. Любімы яе месяц, калі зоры адбіваюцца ў буйнай расе. Гэтай парой маці асабліва шчыльна зачыняла парнікі, каб не пабіла фітафторай памідоры і перцы. Гэтай парой яны нарэшце адсвяткавалі наваселле ва ўласным доме. Купілі танна, на ўскраіне райцэнтра. Гаспадары памерлі, дзеці жылі ў Расіі і рады былі збыць з рук непатрэбную маёмасць. Першай у дом пусцілі кошку, павесілі на вокны фіранкі, і хаціна, якая дагэтуль доўга пуставала і зусім апанурылася, адразу павесялела.

Жылі ўтрох: Ганначка, бабуля і маці, якая паспела ўладкавацца санітаркай у райбальніцу. Праз год завялі агарод. Час ад часу наязджаў бацька. З падарункамі

і заўсёды, здавалася, на лёгкім падпітку. Падкідваў дачку, цалаваў у зблытаныя валасы, у вуха, куды атрымаецца, бо Ганначка круціла галавой, выварочвалася з абдымкаў.

— Гэта не дзіця, а маленькая бабулька, — крыху крыўдаваў бацька. — Трэба ёй у горад, да сяброў. Хочаш да мяне ў госці? З братам пазнаёмлю.

— Хачу, — заўсёды адказвала Ганначка, якой зрэшты больш за ўсё хацелася, каб яе пакінулі ў спакоі, а ехаць да нейкага там брата не хацелася зусім.

Расла яна маўклівым, дзікаватым звярком. Сяброў не мела. У дзіцячы сад не хадзіла. Любімы занятак — сядзець з самаробнай вудай над сажалкай, углядаючыся ў карычневую ваду. З дна падымаліся таемныя бурбалкі. На крывы, сагнуты са звычайнага дроту кручок нічога, акрамя ціны, не траплялася і трапіцца не магло. Яна гэта добра разумела, але ўсё адно штовечар масцілася на кладцы, закідвала вуду і ўяўляла, што аднойчы на яе трапіцца вялікая рыба, якая пускае на дне таямнічыя бурбалкі.

Па суседстве жыла шматдзетная сям'я. У іх было весела, кожны вечар чаплялі ў садзе гамак і гулялі ў трамвай, касмічны карабель, трапічны востраў. Ганначка сябравала з малодшымі дзяўчатамі.

— А чаму ты прыходзіш толькі ўвечары, калі мы гамак вешаем? — аднойчы запыталася старэйшая, Наталля. Да Ганны яна заўсёды ставілася крыху паблажліва. А тут яе нібыта злая восеньская муха ўкусіла.

— Удзень я маме дапамагаю.

— І што ж ты робіш?

— Траву курам рву, бульбу абіраю — пачала пералічваць Ганна, але абарвала сябе на паўслове. Усярэдзіне кіпела. Яна ажно выпрамілася і — шасцігадовая — нібыта стала аднаго росту з пятнаццацігадовай крыўдзіцельніцай. Здолела зазірнуць той у вочы. Наталля ажно адхіснулася, пабялеўшы. Магчыма, падалося, але ў вачах яе мільгануў страх: немаведама на што можа наважыцца гэтае ваўчанё. А раптам кінецца з кулакамі, раздзярэ твар? Але Ганна адвярнулася і моўчкі пайшла прэч, а дома ўзяла звычайную фіранку, прышыла да яе завязкі і начапіла між слівін. Атрымаўся гамак. Завязкі яе вагі не вытрымалі і абарваліся. Ганна моцна стукнулася спінай аб корань. Маці, пабачыўшы сапсаваную фіранку, насварылася і не пусціла ўвечары на сажалку. Але назаўтра, у нядзелю, прывезла з рынку смачны торт і некалькі кніжак з каляровымі малюнкамі. Больш Ганна да суседзяў не хадзіла.

* * *

Паркан ці то заваліўся і згніў пад дажджамі, ці то яго расцягнулі на дровы. Кусты парэчак разрасліся так, што сталі падобныя да нізкарослых, бухматых елак. Да пераспелых — сыпаліся ад лёгкага дотыку — ягад не дабрацца з-за крапівы і дзядоўніку. Старая скасабочаная яблыня абаперлася, быццам на кавеньку, на хату. Яе даўно хацелі спілаваць, але рука не падымалася, бо багата радзіла яблыкаў. Вось і цяпер на лаўцы, у бочцы з вадой, на ганку — паўсюль было густа насыпана дробных зялёных недаспелкаў. Трапіўшы пад нагу, яны трашчалі, як сасновыя шышкі.

Ганна хуценька зжавала кавалак хлеба. Трэба было, пакуль не сцямнелася, ісці па ваду. Калонка была праз дарогу, але ваду з яе бралі рэдка, на гаспадарчыя патрэбы. А за пітной хадзілі праз луг, у Занькаў калодзеж. Маці з вялікімі вёдрамі на каромысле, Ганначка з маленькім. Па дарозе назад дарогу ім звычайна заступала суседская цялушка, і Ганна паіла яе са свайго вядзерца, гладзячы белы цялушчын лоб з рыжай зорачкай. Пакуль дойдзеш праз луг да калодзежа, вымачыш ногі па калена. Можна было б падвярнуць калашыны, але няхай. На драўляным, з круглых

бярвенцаў, мосціку спыняешся, каб адпачыць, вылавіць з вядра танканогага празрыстага павука. Вярба над мосцікам схіляецца да цябе і казыча загаліўшуюся спіну мяккім вострым лісточкам. Насыпле за каўнер халодных дажджавых кропель.

Мілыя дзіцячыя ўспаміны ўсцешылі, і падалося Ганне, што ўсё можна вярнуць. Бесклапотнасць, чысціню. Дастаткова толькі вярнуцца туды, дзе ты быў шчаслівы. Паспытаць тае вады, якая некалі ў дзяцінстве здавалася такой смачнай. Але ў полі Ганна ледзьве знайшла Занькаў калодзеж. Ледзьве пазнала яго. Апанураны, у прыцемках ён падаўся ёй чорным валуном. Назад, дахаты, Ганна хацела прайсці знаёмай сцяжынкай, паўз сажалку з карычневай вадой і таемнай рыбінай на дне. Але сцяжынка, завёўшы яе ў малады альхоўнік, нечакана абарвалася, прапала ў зблытанай, даўно нікім не кошанай траве.

Не адчувала ні рук, ні ног, калі дабралася нарэшце дахаты, напілася толькі з прыгаршчаў і адразу паваліласся, як сноп, на тапчан — спаць. Грубка прагарэла. Шур-шур, угрэўшыся, шабуршэла за шпалерамі мыш. Ганна спала. І ў сне ляжала на гэтым жа тапчане, пад гэтай жа коўдрай, але маленькая, гадоў васьмі.

— Мам, ну, мам, — хныкала, круцячыся з боку на бок. Сон не ішоў. Яна маленькая чамусьці вельмі дрэнна засынала. Абсалютна спакойная ўдзень, у прыцемках яна пачынала нервавацца, ажно падскоквала тэмпература. Ізноў у мулкі ложак, ізноў ляжаць з заплюшчанымі вачыма і чакаць сну. А яго ўсё няма і няма, час ляціць хутка. Вось ужо за поўнач пераваліла. Радыё адыграла гімн і змоўкла. Глухмень, і яна сам-насам з цемрай, якая навальвацца з усіх бакоў, душыць. Ганна, не вытрымаўшы, адкідвае коўдру і звешвае з тапчана ногі:

— Мам, ну ма-а-ама...

— Што? Што табе? — заспаны голас ля процілеглай сцяны.

— Мама, сон не ідзе, ну калі я засну, мама?

Шчыльныя фіранкі, якімі адгароджана кухня ад жылога пакоя, засвяціліся. Матчын цень схіліўся над кубкам з вадой. Шэпча. Ганна напружвае слых, чуе ўсё да слоўка. Але яны такія простыя і зусім не магічныя, таму не запамінаюцца. Маці шаптухай насамрэч не была, ніводнага загавору не ведала, і Ганне пасля ніколі не снілася, не спрабавала перадаць чароўнай сілы. А людзі прыходзілі па ваду, прасілі:

— Васільеўна, пашапчы. Кароўка трэці дзень нават хлеба есці не бярэцца.

— ...Ірады нейкія ішлі, як зарагочуць пад вокнамі. Дзіця перапужалася, плача, як цямнецца пачынае. Не спіць.

— Ой, кумка, разбалеліся ж майму мужыку зубы.

Папіўшы нагрэтай матчыным дыханнем вады, Ганна адкідваецца на падушку, якая ўжо не здаецца мулкай. І цемра зусім не страшная, і коўдра ахінае мякка. Цела становіцца лёгкім, нібы пушынка, і кружыць яго цёплы, залацісты вецер. Заведзены Ганнай гадзіннік празвінеў поўнач. Стрэлкі пачалі новы круг…

Генадзь АЎЛАСЕНКА



*Генадзь Аўласенка нарадзіўся ў 1955 годзе ў в. Ліпавец Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў біялагічны факультэт БДУ. Працуе настаўнікам у Вайнілаўскай базавай школе Чэрвеньскага раёна. Друкаваўся ў газетах «Голас Радзімы», «Настаўніцкая газета», «Звязда», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Крыніца», «Маладосць».*

# ПРАЗ МЕЖЫ ШКАДАВАННЯЎ І НАДЗЕЙ

* * *

Зляцеў з бярозы ліст апошні
і матылём кружыў над полем,
і непрыкметна лёг ля пожні,
каб болей
не ўзляцець ніколі.

У шэрань раніцы закуты,
ляжаў,
здранцвелы ад марозу,
у недаўменні і пакутах…

І моўчкі  праклінаў бярозу…

## ТЭРЦЫНА

Заплюшчу вочы: мрояцца прасторы,
Пунсовы ветразь, хвалі, плёск вады.
Плыву кудысьці па бясконцым моры…

Плыву, ды вось не ведаю – куды?
Ды ведаю, адкуль: ад скрухі быту,
Ад прадчування нейкае бяды.

Праз межы існавання і нябыту,
Праз межы шкадаванняў і надзей
Плыву… І гэты шлях, ён мне адкрыты!

Там не было нікога шчэ з людзей…

* * *

— Вось і ўсё! — ты сказала…
Плыў туман па рацэ.

Сонца з неба спаўзала,
Як сляза па шчацэ.
Наваколле змаўкала
У дрымоце ці ў сне…
Ты як быццам чакала
Нейкіх слоў ад мяне.
Я шукаў тыя словы,
Я тых слоў не знайшоў!
Праз туман вечаровы
За табой не пайшоў.
Я глядзеў на пустэчу,
Як на згублены рай…

І так доўга ў той вечар
Дагараў небакрай…

**З НЕНАПІСАНАГА**

Пішу…
Нібыта
літасці прашу!
Не ведаю, каго:
сябе ці Бога…
Я ў гэты верш
уклаў усю душу!
А прачытаў —
і не знайшоў нічога…
А можа, я
хвалююся дарма?
Звычайны верш,
без хібаў,
без заганы…
Вось толькі ў ім
маёй душы няма!

І на душы
так змрочна,
так пагана…

* * *

Бывае так: пахмурны дзень…
Ды раптам сонечны прамень
Праз хмары да зямлі праб'ецца,
Затым на лужыну ўпадзе,
І прабяжыцца па вадзе,
І задрыжыць,
і адаб'ецца…

І зайчык сонечны смяецца
І шэпча нам: «Вясна ідзе!»

**ВІРАЛЭ**

Навальніца з неба б'е
перунамі.
Дождж то як з цабэрка лье,
то амаль перастае…
Ён над намі
ці жартуе, ці злуе?
Летні вечар настае
з туманамі.
Пад вакном раўчук пяе…

* * *

Жыта сокамі зямнымі
наліваецца.
Ходзіць хвалямі,
ні даць, ні ўзяць — рака.
Васількі па ім блакітныя
хаваюцца.
А сарваць…
Ну, як узнімецца рука!
Хоць і ведаю:
яны тут проста лішнія.
Ды прыгожыя,
вачэй не адарваць…
Так бывае толькі ўлетку.
Толькі ў ліпені…
І гудуць,
працуюць пчолы
па-над ліпамі,
Каб зімою
мёдам нас
пачаставаць.

* * *

Навальнічных хмар чарада
Адпачынак сонцу дае.
І ляціць на зямлю вада,
І зямля прымае яе.

Наталяюць смагу палі
І лясы, што хацелі піць…
Летні лівень б’е па зямлі,
Аж, здаецца, зямля кіпіць.

Толькі дождж ненадоўга тут.
Сыпануў… і далей пайшоў.
І вясёлкавы звонкі цуд
Над зямлёй ускінуўся зноў.

І вясёлыя раўчукі
Напрасткі да ракі імчаць,
А вясковыя хлапчукі
Развітальна ўслед ім крычаць…

Я гляджу праз мокрае шкло,
І шчыміць на сэрцы ў мяне…

Ах, як позна лета прыйшло!
Ах, як хутка яно міне!

**ЛЕТНІЯ МАТЫВЫ**

Летам сонца амаль не спіць:
Толькі зойдзе — зноўку ўстае.
Летам кнігаўкі просяць піць
І маланкамі неба б’е.

Шматгалосы птушыны хор
Запрашае ў церам лясны,
Дзе суніцамі пахне бор,
Дзе чаборам поўняцца сны.





Наталля Марчук (Пусцільнік-Марчук) — сцэнарыст, драматург. У 2002 годзе скончыла Акадэмію мастацтваў. Пераможца конкурсу Саюза пісьменнікаў Беларусі «Лепшы твор-2008» у намінацыі «Драматургія». П'есы ставіліся ў тэатрах Беларусі і Расіі. Выступае як празаік у жанры фэнтэзі.

Наталля МАРЧУК

# ЦЁТУХНА ПРАСТУДА І НОВЫ ГОД

***П'еса-казка***

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:**

**Дзед Мароз**
**Снягурачка**
**Снегавік**
**Цётка Прастуда**
**Насмарк**
**Кашаль**
**Ваўкалак**
**Паляўнічы**
**Бабулька**
} Адзін і той жа акцёр

## ДЗЕЯ І

### Карціна першая

*Ледзяныя горы. Хатка Цёткі Прастуды. Перад хаткаю адзін за адным бегаюць Кашаль і Насмарк.*

**Кашаль.** Ды хто ты такі? Я самы лепшы, я першы, без мяне Цётухна Прастуда як без рук. Гэта я прымушаю ўсіх кашляць. Я вялікі і магутны Кашаль.

**Насмарк.** Ды ты проста падшыванец у параўнанні са мной. Гэта я галоўны ў камандзе. Я Насмарк, самы жахлівы насмарк у свеце. Без мяне Цётухна Прастуда…

*З хаткі выходзіць Цётка Прастуда. Песня Цётухны Прастуды.*

Я Цётухна Прастуда,
І горкую мікстуру
Люблю с сабой прыносіць,
Калі прыходжу ў госці.
Я Цётухна Прастуда,
Люблю, калі хварэюць,
І кашляюць, і чхаюць,
І па начах не спяць.
Ах, як мне даспадобы

І ліхаманка з трасцай,
І горкая мікстура,
І ў вас тэмпература,
Апчхі, апчхі, апчхі.
Паклічце ж мяне, дзеткі,
Не піце вы таблеткі,
Шукайце мяне, дзеткі,
Я застануся з вамі
І не пакіну вас.

**Цётка Прастуда.** Нехта штосьці сказаў? Ці мне падалося?

**Насмарк.** Што вы, Цётухна, я нічога не казаў, ад ранку маўчу як рыба.

**Кашаль.** Гэта ветрык падзьмуў, Цётухна.

**Цётка Прастуда.** Лайдакі і балбатуны. У нас шмат работы, на носе Новы год.

*Насмарк пачынае мацаць свой нос.*

**Насмарк.** Дзе?

**Цётка Прастуда.** Усе здаровыя і вясёлыя, гэта мяне раздражняе, хачу зрабіць нейкую гадасць, хачу сапсаваць ім усім настрой.

**Кашаль.** А як жа, а як жа, Цётухна, няхай усе захварэюць.

**Цётка Прастуда.** Не, не падыходзіць, трэба прыдумаць нешта неверагоднае, вялікую гадасць. Патрэбна сапсаваць ім усім свята. Вось што, накірую я вас да Дзеда Мароза.

**Насмарк.** Па падарункі?

**Цётка Прастуда.** Не, падарунак Дзеду Марозу зробіце вы.

**Кашаль.** Мы?

**Насмарк.** А што мы яму падорым?

**Цётка Прастуда.** Нічога вы яму не падорыце, наадварот, трэба будзе ў яго нешта ўкрасці. Збірайцеся, падрабязную інструкцыю атрымаеце перад дарогай.

**Кашаль.** Ваша праўда, Цётухна.

**Насмарк.** Мы не падвядзём.

**Кашаль.** Мы самыя лепшыя.

**Насмарк.** Самыя спрытныя.

**Кашаль.** Смелыя.

**Насмарк.** І здольныя.

**Цётка Прастуда.** Маўчаць, ёлупні, паспрабуйце толькі загубіць мой план, і я аддам вас доктару.

**Насмарк.** Толькі не гэта!

**Кашаль.** Цётухна, толькі не доктар! Ён жа нас…

**Цётка Прастуда.** Уперад! За справу!

**Насмарк і Кашаль** (*разам*). Мы гатовы!

*Цётухна Прастуда выходзіць. Кашаль і Насмарк спяваюць песню.*

Новы год вы не сустрэнеце, не!
Ёлка навагодняя застанецца ў сне.
Дапамогі не чакайце,
Паратунку не шукайце.

Будуць усе хварэць паўсюдна
З ласкі Цётухны Прастуды.
Спынім час мы наўмысна,
Ах, як усім хварэць карысна.

*Кашаль і Насмарк выходзяць.*

## ДЗЕЯ II

### Карціна другая

*Паўночны полюс. Палац Дзеда Мароза. Паўсюдна развешаны гірлянды, шары і г .д. На сцяне вісіць вялікі гадзіннік. Замест лічбаў на ім гады. Стрэлка набліжаецца да 2011 года. Дзед Мароз сядзіць за сталом, каля яго ног торба з падарункамі. Зазіраючы ў торбу, ён правярае па спісу падарункі.*

**Дзед Мароз.** Так, сто семдзесят шэсць тысяч трыста сорак чатыры лялькі, дзвесце шэсцьдзесят тысяч машынак, сто сорак пяць тысяч…

**Снягурачка**. Дзядуля, прабач, я запамятавала, ты ў чырвоным кажуху паедзеш альбо ў блакітным?

**Дзед Мароз.** У чырвоным, пачакай, зараз заблытаюся, сто сорак пяць тысяч футбольных мячоў…

**Снягурачка.** Так, значыць, у чырвоным. Прабач, зноў перапыняю: а ў сані запрагаць дванаццаць аленяў альбо дзевяць?

**Дзед Мароз.** Дванаццаць. Так… сто сорак пяць тысяч чаго? Мячоў альбо машынак?

*Снягурачка наважылася ісці, але затрымалася.*

**Снягурачка.** Ой, а званочкі, званочкі аленям залатыя ці сярэбраныя?

**Дзед Мароз.** Званочкі няхай будуць сярэбраныя. Так, сто сорак пяць тысяч званочкаў *(зазірае ў торбу)*, цьфу ты, якіх званочкаў, няма ў спісе званочкаў.

*Снягурачка паспела ўцячы і зноў вярнуцца.*

**Снягурачка.** Дзядуля, а якія браць…

**Дзед Мароз.** Стоп, унучка, хадзі сюды, сядай і пералічвай сама.

**Снягурачка** *(ні хвіліны не стаіць на месцы, круціцца, скача, падбягае да стала і бярэ спіс)*. Так, лялькі ёсць, машынкі ёсць, мячы ёсць, мішкі тут, зайкі таксама.

**Дзед Мароз.** Спыніся, а колькі чаго?

**Снягурачка.** Шмат усяго! Машынак багата, лялек вельмі багата, мячоў менш, чым лялек, але больш, чым мішак.

**Дзед Мароз.** Ах, гарэза, дык хто ж так лічыць? Трэба дакладна, а раптам каму-небудзь падарунка не дастанецца? Ідзі лепей на двор, дапамажы Снегавіку аленяў у сані запрэгчы. І вось што: пайду я з табой, а то зноў штосьці наблытаеш і запражэш Снегавіка замест аленяў.

**Снягурачка** (*рагоча)*. Ой, ну дык гэта ж жарт быў. Снегавік хваліўся, што ён адзін зможа сані працягнуць, ну мы і правяралі, зможа ён ці не.

*Снягурачка і Дзед Мароз выходзяць. У вакно асцярожна залазяць Насмарк і Кашаль.*

**Насмарк.** Апчхі!

**Кашаль.** Ды ціха ты, зараз нас застукаюць.

**Н а с м а р к** *(спалохана шморгае носам і туліцца да сцяны*). Што ты сказаў? Зараз як стукнуць?

**К а ш а л ь.** Я кажу, застукаюць. Хапаем тое, што Цётухна загадала, і ўцякаем.

**Н а с м а р к.** Ой, глядзі, шарыкі. Давай шарыкі возьмем.

**К а ш а л ь.** Ды якія шарыкі, Цётухна казала сапсаваць свята, і не маленькую гадасць зрабіць, а вялікую. Украсці торбу з падарункамі і, галоўнае, адламаць стрэлку ў чароўным гадзінніку і ёй прынесці.

**Н а с м а р к.** А я яшчэ шарык вазьму на ўсялякі выпадак (*бярэ шарык і намагаецца засунуць яго ў кішэню, шарык лопаецца*).

*На шум уваходзіць Снягурачка.*

**С н я г у р а ч к а**. Прывітанне, а вы хто?

**Н а с м а р к.** Мяне завуць Насмарк, а яго — Кашаль. Мы прыйшлі зрабіць гадасць.

**К а ш а л ь** (*штурхае Насмарка ў бок*). Не слухай яго, дзяўчынка, ён жартуе. Ён зусім і не Насмарк. Ён, ён гэты, гэта, ён сняжынка, і я таксама сняжынка.

**Н а с м а р к.** Чаму гэта сняжынка?

**К а ш а л ь** (*наступае Насмарку на нагу*). Так, мы звычайныя сняжынкі, ляцелі, ляцелі і ў вакно заляцелі, зараз далей паляцім.

**С н я г у р а ч к а.** Якія вы смешныя, сняжынкі. Пачакайце мяне тут, я вас зараз са Снегавіком пазнаёмлю (*уцякае*).

**Н а с м а р к.** Апчхі!

**К а ш а л ь.** Вось абармот, ледзь усю справу не загубіў. Ты навошта ёй адрэкамендаваўся?

**Н а с м а р к.** А што? А ты навошта сказаў, што мы сняжынкі, калі мы не сняжынкі?

*Кашаль тым часам убачыў торбу, схапіў яе і сунуў у рукі Насмарку.*

**К а ш а л ь.** Трымай, сняжынка. З хвіліны на хвіліну сюды прыйдуць.

**Н а с м а р к.** А там ёсць шарыкі?

*Кашаль залазіць наверх і адломвае вялікую стрэлку ад гадзінніка. Кашаль і Насмарк вылазяць у вакно.*

**К а ш а л ь.** Уцякаем, пакуль не злавілі.

**Н а с м а р к.** А як жа гадасць?

**К а ш а л ь.** Вось і будзе ім гадасць, застануцца без падарункаў і без Новага года.

*Уваходзяць Снягурачка і Дзед Мароз.*

**Д з е д М а р о з.** Ну, дзе твае сняжынкі?

**С н я г у р а ч к а.** Не ведаю, толькі што тут былі, яны такія смешныя і да сняжынак зусім не падобныя.

**Д з е д М а р о з.** Ну добра, калі вернуцца, тады і пазнаёміш, пайду падарункі яшчэ раз пералічу.

*Уваходзіць Снегавік з шарыкамі, якія трымае, як букет кветак. Шарыкі закрываюць яму агляд.*

**С н е г а в і к.** Прывітанне, сняжынкі, вельмі прыемна пазнаёміцца.

**С н я г у р а ч к а** *(рагоча*). Ой, не магу, трымайце мяне.

*Снегавік апускае шары.*

**Снегавік.** А дзе сняжынкі?
**Снягурачка.** Мабыць, іх ветрам садзьмула, вакно адчынена.

*Дзед Мароз увесь гэты час азіраецца вакол і шукае торбу з падарункамі.*

**Дзед Мароз.** Снягурачка, ты торбу ўжо ў сані аднесла?
**Снягурачка.** Не, я не чапала торбу.
**Снегавік.** У санях ніякай торбы няма, я іх толькі што пледам засцілаў і ніякай торбы там не бачыў.
**Дзед Мароз.** Нічога не разумею, я ж яе тут пакінуў, куды яна падзелася?
**Снегавік.** Хіба сняжынкі ўзялі?
**Дзед Мароз.** Ану, унучка, раскажы, што гэта за сняжынкі тут былі?
**Снягурачка.** Ну, не ведаю, я не памятаю. Яны такія, ну вось такія. Ах, так, адна ўсё чхала, мабыць, захварэла.
**Снегавік.** Як гэта сняжынкі могуць захварэць?
**Дзед Мароз.** Чхала, кажаш? Не падабаецца мне ўсё гэта, ой не падабаецца. Здаецца мне, ніякія гэта не сняжынкі, сябры мае. Нам трэба будзе пайсці следам за імі і вярнуць торбу, інакш дзеці застануцца без падарункаў, а да Новага года засталося ўсяго… *(глядзіць на гадзіннік*). А гэта яшчэ што? Хто зламаў чароўны гадзіннік?
**Снягурачка.** Ой, сапраўды, глядзіце, стрэлкі няма. Што цяпер будзе?
**Дзед Мароз.** Бяда, унучанька, гадзіннік гэты чароўны: калі ён спыніцца — Новы год не надыдзе.
**Снегавік.** Як гэта?
**Дзед Мароз.** А вось як: час спыніцца, і наступнага дня не будзе. Так, зараз узгадаю: я завёў яго сёння раніцою, чараў хопіць яшчэ на дзве гадзіны, калі да дванаццаці стрэлку не вярнуць на месца і не завесці гадзіннік, Новы год не надыдзе і час ва ўсім свеце спыніцца. І здаецца мне, я ведаю, што гэта за сняжынкі, і хто ўсё гэта падстроіў.
**Снегавік** і **Снягурачка** (*разам*). Хто?
**Дзед Мароз.** Напэўна ведаю, гэта Цётка Прастуда. Даўно ўжо яна пагражала, што сапсуе нам свята. І гэтыя дзве фальшывыя сняжынкі — яе пляменнікі Насмарк і Кашаль.
**Снегавік.** Ды што яна можа, гэтая цётка Прастуда?
**Снягурачка.** Ну, не кажы, ты ведаеш, як непрыемна захварэць на свята. Усе радуюцца, а ты ляжыш у ложку з тэмпературай.
**Снегавік.** Што ты, што ты! Калі ў мяне будзе тэмпература, я растаю.
**Снягурачка**. Ну нічога, дзядуля, я пайду да гэтай Цёткі Прастуды, забяру ў яе стрэлку і торбу з падарункамі, хай толькі паспрабуе перашкодзіць мне.
**Дзед Мароз.** Э не, унучанька, не ўсё так проста. Цётка Прастуда жыве ў Ледзяных гарах, гэта недалёка адсюль, але там вельмі небяспечна. Там шмат яе сяброў і нашых злоснікаў.
**Снегавік.** Ну, ужо Насмарк і Кашаль мы адолеем.
**Дзед Мароз.** Калі б толькі іх. У Ледзяных гарах жыве Ваўкалак. Слухайце мяне ўважліва, ён можа ўзяць аблічча любога чалавека, можа стаць другім Снегавіком. Але яго можна распазнаць, таму што на руках у яго заўсёды пальчаткі, пад якімі ён хавае свае кіпцюры. Памятайце гэта.
**Снягурачка.** Так, так, я пайшла.
**Снегавік.** Я з табой.
**Дзед Мароз.** Пачакайце, нецярплівыцы, у гарах жыве мой сябра Паляўнічы, ён вам дапаможа.

**Снягурачка**. Так, так я ўсё зразумела, Паляўнічы ў пальчатках, Ваўкалак з хвастом.

**Снегавік**. Часу няма, хадзем.

**Дзед Мароз.** Стойце, вазьміце тэрмас, у ім чай з малінаю. Насмарк і Кашаль яго цярпець не могуць.

*Снягурачка і Снегавік выходзяць.*

**Дзед Мароз.** Эх, навошта я іх адных адпусціў. Снягурачка заўсёды ўсё блытае. (*Звяртаецца да залы.)* Дзеці, вы павінны дапамагчы мне. Снягурачка такая даверлівая, яе так лёгка падмануць. Яна зноў усё пераблытае. Памятайце, Ваўкалак заўсёды ў пальчатках. А калі зусім кепска будзе, паклічце мяне на дапамогу. Дамовіліся? Ну, я пайшоў, а то як бы і сані з аленямі не скралі.

### Карціна трэцяя

*Хатка Цёткі Прастуды. На сценах вісяць вялікія градуснікі і г .д.*
*Насмарк і Кашаль удваіх цягнуць торбу.*

**Насмарк.** Цётухна, усё прапала, мы чамусьці сталі сняжынкамі, і яны гоняцца за намі.

**Кашаль.** Ды замоўкні ты, абармот. Цётухна, такая непрыемнасць здарылася…

**Цётка Прастуда.** Ну канечне, пашлі дурнога, за ім другога. Правалілі план, ёлупні.

**Кашаль.** Не, мы ўсё прынеслі, як вы казалі, але ж нас бачылі.

**Насмарк.** Так, а я ўзяў шарык, а ён бац — і лопнуў, і мы сняжынкамі сталі. Апчхі!

**Цётка Прастуда.** Хопіць балбатаць, дакладвайце па адным. Вас заўважылі? Хто?

**Кашаль.** Снягурачка. А торбу з падарункамі вось мы прынеслі, а таксама стрэлку ад чароўнага гадзінніка.

**Цётка Прастуда.** Цудоўна, мой план ужо напалову здзейсніўся. Я спыню час і нашлю на ўсіх дзяцей і дарослых прастуду. Яны застануцца ў адным і тым жа дні і ніколі не акрыяюць, і ў іх заўсёды будзе вечны, агідны, надакучлівы насмарк і кашаль.

**Насмарк**. Я не агідны, я добры.

**Цётка Прастуда.** Змоўкні, прынясі мне падзорную трубу, праверым, ці няма за вамі хваста.

**Насмарк** *(аглядае сябе з усіх бакоў).* Мама дарагая, мала таго, што сняжынка, дык яшчэ і з хвастом.

**Кашаль.** Дурань, ды не на табе хвост, а за табой.

**Насмарк** (*зноў аглядае сябе*). За мной — дзе?

**Кашаль**. Ды пагоня, дурань (*ён падае Цётухне падзорную трубу і накіроўвае яе ў глядзельную залу*).

**Цётка Прастуда.** Бач, колькі дзяцей сабралася, і што, усе здаровыя, насамі не шморгаюць і не чхаюць? Ну пачакайце, галубчыкі (*накіроўвае трубу ў другі бок*). А вось і Снягурачка са Снегавіком, цудоўненька, яны без Дзеда Мароза, і я лёгка іх адолею. Абдурыць іх будзе няцяжка. Эй, Кашаль, збегай за Ваўкалакам, мы падрыхтуем нашым гасцям сюрпрыз.

*Кашаль выходзіць.*

**Цётка Праступа** (*звяртаецца да Насмарка*). А ты сядзі, не лезь нікуды, а то зноў усё сапсуеш.

**Насмарк** (*незадаволена*). Я нічога не сапсаваў, вы мне казалі зрабіць гадасць, я зрабіў. Гэта Кашаль усё сапсаваў, ён казаў, што мы сняжынкі.

**Цётка Праступа.** У мяне выдатная ідэя. Мы вось як зробім (*паварочваецца да глядзельнай залы*). Падслухоўваеце? А потым Снягурачцы ўсё раскажаце? Ну ўжо не дачакаецеся, я вам пакажу Новы год. (*Звяртаецца да Насмарка.*) За мной! Наладзім ім вясёлую сустрэчу.

*Цётка Праступа і Насмарк выходзяць.*

## Карціна чацвёртая

*Ледзяныя горы. Песня Снягурачкі і Снегавіка.*

**Снегавік.**

Каб нам стрэлачку чароўную вярнуць,
Трэба цётку злую, Цётухну Праступу падмануць.

**Снягурачка.**

Мы кіруемся за блізкі свет шпарчэй,
Каб на свята Дзед Мароз імчаў хутчэй.

**Снегавік.**

Каб ля ёлкі весяліўся карагод,
Каб сустрэлі дзеці Новы год, Новы год.

**Снягурачка.**

І ніхто не будзе кашляць і чхаць,
І ніхто не будзе доктара чакаць.

**Снегавік.**

Новы год давайце сёння сустракаць,
Песні пець, смяяцца і скакаць.

**Снягурачка.**

За акенцам едуць сані,
Дзеткі, заспявайце з намі.
Доўга ўсе чакалі свята,
Падарункаў Дзед Мароз прывёз багата.

**Снегавік.** Паслухай, Снягурачка, ну куды ты так бяжыш? Тут так небяспечна, можна паслізнуцца і сарвацца ў бездань.

**Снягурачка.** Затое тут і канькоў не трэба, можна проста так па лёдзе коўзацца.

**Снегавік.** Пачакай, кажу, ты хоць ведаеш, дзе шукаць гэтую Цётку Праступу?

**Снягурачка.** А яе не трэба шукаць, яна сама нас знойдзе, але каб час не згубіць, я магу яе паклікаць. (*Гукае.*) Эге-ге-ге-гей, Цётухна Праступа!

*З'яўляецца Паляўнічы.*

**Паляўнічы.** Гэта што тут за хуліганы ў гарах галёкаюць? Ці вы не ведаеце, што тут крычаць нельга?

**Снегавік.** Чаму гэта нельга?

**Паляўнічы.** Таму, што можа здарыцца абвал і нас накрые снегавая лавіна.

**Снягурачка.** А вы хто?

**Паляўнічы.** Я Паляўнічы, а вось вы хто такія?

**Снягурачка**. Я Снягурачка, унучка Дзеда Мароза.

**Снегавік.** А я Снегавік.

**Паляўнічы**. Вось яно што. Дзеда Мароза я добра ведаю. А што вы тут робіце, у Ледзяных гарах? Да Новага года засталося паўтары гадзіны. Вы ж павінны ўжо дзяцей віншаваць.

**Снягурачка.** У нас непрыемнасці. Спачатку торбу з падарункамі скралі, потым дзядулеў чароўны гадзіннік зламалі.

**Снегавік.** Зараз нам трэба адшукаць Цётку Прастуду і правучыць яе, каб ведала, як людзям свята псаваць.

**Паляўнічы.** Дык я яе таксама ведаю, шкодная цётка, а хатка яе на самай вяршыні стаіць.

**Снягурачка.** Ну, мы ўжо пойдзем, а то часу ўсё меней і меней застаецца.

**Паляўнічы**. Калі што, клічце мяне на дапамогу. Я тут недалёка буду.

*Паляўнічы выходзіць за левую кулісу.*

**Снегавік** *(сядае)*. Пачакай, Снягурачка, я як падумаю, што нам аж да самай вяршыні ісці трэба, у мяне галава круціцца.

**Снягурачка.** Падумаеш, вяршыня, а можа, там лесвіца будзе, як, па-твойму, туды Цётка Прастуда дабіраецца?

*З-за правай кулісы з'яўляецца паляўнічы, цяпер на ім пальчаткі.*

**Ваўкалак (Паляўнічы).** Прывітанне, Снягурачка. Здаецца, мы ўжо бачыліся сёння. Я нешта разгублены нейкі, нічога не памятаю.

**Снягурачка.** Канечне, бачыліся, мы ж развіталіся толькі што.

**Ваўкалак (Паляўнічы).** А так, так, я проста запамятаваў, склероз ад холаду ўжо.

**Снегавік.** Ой, не падабаецца мне гэта, штосьці тут падазронае.

**Ваўкалак (Паляўнічы).** Ну, што вы, я ж Паляўнічы, ваш сябра, вось і дзеці пацвердзяць (*звяртаецца да залы*). Дзеці, вы ж мяне пазнаяце? Я ж Паляўнічы, так?

**Снягурачка**. Нешта мне дзядуля казаў пра Паляўнічага. Не магу ўспомніць.

**Снегавік.** Гэта не Паляўнічы. Я дзецям веру.

**Ваўкалак (Паляўнічы).** Хадзем са мной, Снягурачка, а Снегавік няхай тут пачакае. Я ведаю кароткі шлях, і ён абсалютна бяспечны.

*Песня Ваўкалака (Паляўнічага):*

Хадзі, Снягурачка, ты са мной,
Я так чакаю, я так чакаю.
Я Паляўнічы, хлопец свой
І ўсё навокал тут я знаю, і ўсіх я знаю.
Нічога ты не бойся і мне ты давярай,
І шлях наш будзе лёгкі праз гэты снежны край.
Да мэты недалёка, і пойдзем шпарка мы,
Завея хай шчыруе наўсцяж сярод зімы.

**Снегавік.** Ану, стаяць! Я зараз вось як паклічу сапраўднага Паляўнічага!

**Ваўкалак (Паляўнічы).** Не трэба фанатызму. Па першае, Паляўнічы — гэта я, а па-другое, не трэба нікога клікаць, я і так ужо тут.

**Снягурачка**. Вы мяне заблыталі, я нічога не разумею. Дзеці, растлумачце мне — гэта Снегавік? *(Паказвае на Снегавіка*). А гэта Паляўнічы? (П*аказвае на Паляўнічага.*)

**Снегавік.** Ану, давай прэч адсюль.

**Ваўкалак (Паляўнічы).** Гэта вялікая памылка, і вы яшчэ аб гэтым пашкадуеце, асабліва вось гэты хам, увесь у белым *(паказвае на Снегавіка).*

*Ваўкалак уцякае.*

**Снегавік**. Не, ну ты бачыла, гэта быў не Паляўнічы, хоць падобны да яго як дзве кроплі вады.

**Снягурачка.** А куды нам ісці? Можа, трэба было пайсці з гэтым Паляўнічым? Глядзі, наверх вядуць тры сцяжынкі, якую абраць?

**Снегавік.** Ну вось што, Снягурачка, ты пачакай тут, я пайду праверу вось гэтую, правую: а раптам яна абрываецца ў бездань?

*Снегавік знікае за правай кулісай.*

**Снягурачка.** Эх, шкада, колькі часу губляем. Што будзе, калі мы не паспеем да дванаццаці, страшна нават уявіць сабе.

*З-за левай кулісы з'яўляецца Снегавік. На ім пальчаткі.*

Ваўкалак (Снегавік). Хадзем хутчэй са мной, Снягурачка, я знайшоў шлях.

*Песня Ваўкалака (Снегавіка).*

Хадзі, хадзі, Снягурачка, ты са мной,
Я ж Снегавік, я ж сябра твой.
Спяшайся, спяшайся,
Назад не азірайся, руку мне працягні.
Не слухай ты нікога,
Ляцяць, імчацца зманлівыя дні,
Хлусня, падман наўкол і мітусня,
І сябрам застаюся толькі я, я, я.

**Снягурачка** (паказвае на правую кулісу). Ой, дык ты ж пайшоў у той бок. Як жа ты адсюль выйшаў?

**Ваўкалак (Снегавік).** Доўга тлумачыць, я вакол абышоў. Ды ты не сумнявайся, вось і дзеці пацвердзяць.

**Снягурачка.** Дзеці, што вы прапануеце? Мне ісці за Снегавіком?

**Ваўкалак (Снегавік).** Ды што ты іх слухаеш? Гэта ж дзеці, хіба яны разбіраюцца ў снегавіках?

**Снягурачка.** Што з табой, Снегавік? Ты ж заўсёды любіў дзяцей!

**Ваўкалак (Снегавік).** А я і цяпер іх люблю, асабліва з кетчупам. Ой, я хацеў сказаць, я і кетчуп люблю, і дзяцей. Асобна і разам, цьфу, заблытаўся. Лепей пайшлі хутчэй.

**Снягурачка.** Дзеці, што мне рабіць? Ісці з ім?

**Ваўкалак (Снегавік).** Вось неразумная дзяўчынка. З кім раіцца? Ну, не хочаш ісці са сваім сябрам, заставайся тут.

*Ваўкалак (Снегавік) ідзе за левую кулісу.*

**Снягурачка.** Зусім я заблыталася, што мне рабіць?

*З-за правой кулісы выходзіць Снегавік.*

**С н е г а в і к.** Ну ўсё, пойдзем па гэтай сцяжынцы.
**С н я г у р а ч к а.** Я ж казала, я з табой нікуды не пайду.
**С н е г а в і к.** Ты што, Снягурачка? А з кім ты пойдзеш?
**С н я г у р а ч к а.** Са Снегавіком, а не з табой.
**С н е г а в і к.** Ну ўсё, канец казцы. Падарункі пакралі, гадзіннік зламалі, Снягурачка з глузду з'ехала.
**С н я г у р а ч к а.** Ну добра, добра, можа, ты і сапраўдны Снегавік, чым дакажаш?
**С н е г а в і к.** Ну, не ведаю, я са снегу зроблены, жыву на Паўночным полюсе.
**С н я г у р а ч к а.** Снегавік, гэта ты, ці хто?
**С н е г а в і к**. Ну, дзякуй богу, апрытомнела, ужо пачынае родных пазнаваць.
**С н я г у р а ч к а.** Я на ўсялякі выпадак дзяцей спытаю (*звяртаецца да залы*). Дзеці, яму можна верыць, як вы думаеце?
**С н е г а в і к.** Між тым у нас засталася ўсяго толькі адна гадзіна. Пакуль ты тут гуляешся, Дзед Мароз чакае.
**С н я г у р а ч к а.** Ведаю я, ведаю, хадзем хутчэй.

*Снегавік і Снягурочка выходзяць. Крадком з'яўляюца Насмарк і Кашаль. За імі Цётка Прастуда.*

**Ц ё т к а П р а с т у д а**. Ну, дзе гэты Ваўкалак? Ён павінен быў Снягурачку ў бездань заманіць.
**Н а с м а р к.** Яны яму не паверылі, я сачыў і ўсё бачыў.
**К а ш а л ь.** Канечне, ім жа дзеці дапамагаюць.
**Ц ё т к а П р а с т у д а.** Ну нічога, ім нас не адолець. Да Новага года часу застаецца ўсё меней і меней, а стрэлачка — вось яна ў мяне (*дастае стрэлку).* А вам хопіць лайдачыць, адпраўляйцеся на дапамогу Ваўкалаку. Разам вы іх адолееце. Ты, Насмарк, не зявай, хапай усіх за нос, а ты, Кашаль, хапай за горла. Яны ў мяне паскачуць, пачнуць чхаць і кашляць, будуць ведаць, што са мной малыя жарты. Наперад! За мной!
**Н а с м а р к.** Наперад! А за намі ёсць хвост?
**К а ш а л ь.** Дурань, гэта мы ў іх на хвасце.
**Н а с м а р к**. У іх ёсць хвост?
**К а ш а л ь.** Не, гэта мы іхні хвост.
**Н а с м а р к.** Я не жадаю быць хвастом, лепей ужо быць сняжынкай. Я не падобны да хваста.
**К а ш а л ь.** Ціха, не скуголь, вось яны.

*Усе трое выходзяць. З'яўляецца Снягурачка. За ёй ідзе Снегавік.*

**С н я г у р а ч к а.** Ох, цяжка ісці ўгору, сцяжынка такая слізкая. Снегавік, не адставай, я адна баюся.

*З'яўляецца бабулька, уся ўхутаная ў плашч, у капелюшы, апушчаным на твар. Яна ідзе згорбленая, рукі хавае пад плашчом.*

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а).** Ой, я бедная, няшчасная бабулька, незнарок зайшла на горную вяршыню і не ведаю, як спусціцца, дапамажы мне, добрая дзяўчынка.
**С н е г а в і к.** Зараз я дапамагу табе, з вецярком, бабуля, з'едзеш.
**С н я г у р а ч к а.** Ты што, Снегавік, бабулька згубілася.
**С н е г а в і к.** Згубілася, разгубілася… Губляюцца Чырвоныя Каптурыкі, а бабулькі дома сядзяць, па гарах не лазяць.

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а).** Хаміце, малады чалавек. Нічога, я звыклася, мяне ўсе крыўдзяць.

**С н я г у р а ч к а.** Снегавік, як табе не сорамна, прасі прабачэння, калі ласка.

**С н е г а в і к.** Прабачце, але я вам не веру.

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а).** А я з табой у «веру-не веру» не гуляю. Ты мяне дадому правядзі, вось добрую справу і зробіш.

**С н е г а в і к.** А скажыце мне, калі ласка, бедная бабулька, вы любіце чай з малінай?

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а).** Ну якая ж бабулька не любіць чай з малінай? Канечне, люблю.

**С н е г а в і к.** Ну, тады частуйцеся (*працягвае ёй тэрмас*).

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а)** (*робіць крок наперад, але спыняецца і не дастае рукі з-пад плашча)*. Э не, я хачу сказаць, вялікі дзякуй, але чай я і дома вып'ю.

**С н е г а в і к.** Бабуля, а вось пытанне можна?

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а).** Вось прычапіўся. Ідзі куды ішоў, добры чалавек, я ўжо і сама як-небудзь дадому дабяруся.

**С н я г у р а ч к а.** Бабуля, давайце я вам дапамагу, хадзем з намі (*Снягурачка падае руку*).

*Ваўкалак (Бабулька) падае руку ў пальчатцы.*

**С н е г а в і к.** Знаёмыя пальчаткі, бабуля, вы раптоўна Ваўкалака не бачылі? Пальчаткі ж ягоныя.

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а).** Якога такога Ваўкалака? Нічога не ведаю (*хапае Снягурачку за руку і цягне*).

*Выскокваюць Кашаль і Насмарк. Снягурачку бяруць у кальцо.*

**К а ш а л ь.** Папаліся, галубчыкі.

**Н а с м а р к.** Так, папалася, хвастатая.

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а).** А пры чым тут хвастатая?

**С н е г а в і к.** А ну, адпусціце Снягурачку, а то вам не паздаровіцца.

**К а ш а л ь.** Гэта табе зараз не паздаровіцца. Ты хоць ведаеш, з кім звязаўся?

**С н я г у р а ч к а.** Снегавік, нам трэба забраць у іх стрэлку, засталося ўсяго дваццаць хвілін.

**К а ш а л ь.** Толькі паспрабуй, мы цябе зараз у бездань скінем. Давай, сябры.

**С н е г а в і к.** А ну-ка, расступіцеся.

*З'яўляецца Цётка Прастуда.*

**Ц ё т к а П р а с т у д а.** Малайцы, арлы мае. Хапайце Снегавіка.

**Н а с м а р к.** Ды калі ж гэта спыніцца? Я не сняжынка і не арол, я Насмарк.

**К а ш а л ь.** Хапай Снегавіка, разбірай на снежкі.

**Ц ё т к а П р а с т у д а.** А ну, Насмарк, хапай яго за нос, няхай пачне добра чхаць.

*Насмарк выцягвае рукі і кругамі падыходзіць да Снегавіка.Снегавік спрытна ўхіляецца. Снягурачка тым часам адштурхоўвае ад сябе Ваўкалака і той налятае на Насмарка, які неспадзявана хапае Ваўкалака за нос.*

**В а ў к а л а к (Б а б у л ь к а)** *(кажа ў нос)*. Мама родная, мяне-та за што? Апчхі!

**Н а с м а р к.** Ой, я неспадзявана.

*Кашаль заходзіць за спіну Снегавіка і працягвае да яго рукі, але Снегавік заўважае гэта і адскоквае ўбок. Кашаль, разагнаўшыся, не паспявае спыніцца і хапае за горла Ваўкалака.*

**Ваўкалак (Бабулька)** (*пачынае кашляць*). Ды што ж гэта за нелюдзі?! Дапамажыце, бабулек забіваюць! Апчхі!

**Цётка Праструда.** Акружайце іх, ёлупні! Не стойце на месцы, штурхайце іх у бездань!

**Снягурачка.** Дапамажыце!

**Ваўкалак (Бабулька).** Мяне не чапайце, я свой.

*Кашаль з Насмаркам наступаюць на Снегавіка, той спрытна ўхіляецца ад іх.*

*У выніку Кашаль з Насмаркам натыкаюцца то адзін на аднаго, то на Ваўкалака. Снягурачка намагаецца ўцячы, але на яе шляху паўстае Цётка Праструда.*

**Цётка Праструда.** Папалася, шкадлівая дзяўчынка.

**Снягурачка.** А я вас не баюся! Вы ўсяго толькі Праструда.

*Снегавіка тым часам заганяюць у кут, ён вымае тэрмас з чаем.*

**Снегавік.** А ну, каго пачаставаць?

**Насмарк.** Ой, дапамажыце, ненавіджу чай з малінай, мне ад яго млосна.

**Кашаль.** Фу, прыбяры гэтую гадасць.

**Ваўкалак (Бабулька).** А што такога, я вып’ю! Апчхі! (*Выхоплівае ў Снегавіка тэрмас і п’е*). Уф, дзякуй, адразу лягчэй зрабілася.

**Цётка Праструда.** Вам не ўцячы ад мяне! (*Звяртаецца да залы*). А вы лепей, пакуль не позна, пераходзьце на мой бок, вы ж добрыя дзеці? Я вас так люблю! Вы любіце хадзіць зімой без шапкі? А есці ў спёку халоднае марожанае?

**Кашаль.** Так, дзеткі, здымайце свае цёплыя шалікі і шапкі, і Цётухна Праструда будзе вашым сябрам і ніколі вас не пакіне.

**Насмарк.** Эй, толькі цур ніякага чаю з малінай і таблетак, і не ўдумайце кропаць у нос кроплі.

**Цётка Праструда.** Хапайце іх, а з дзецьмі потым разбяромся.

*Насмарк, Кашаль і Ваўкалак акружаюць Снегавіка і Снягурачку.*

**Снягурачка.** Снегавік, трэба клікаць дапамогу.

**Снегавік.** Ратуйце, хто-небудзь!

**Снягурачка**. Не хто-небудзь, а дзядулю трэба клікаць.

**Снегавік.** Дзядуля Мароз, дапамажы!

**Цётка Праструда.** Як жа, пачуе ён вас, чакайце.

**Снягурачка.** Дзеці, дапамажыце нам!

**Снегавік.** Усе разам паклічам на дапамогу! Тры-чатыры: Дзядуля Мароз, дапамажы!

**Снягурачка.** Яшчэ раз, усе разам! Дзядуля Мароз, дапамажы! (*Насмарк і Кашаль хапаюць Снегавіка).* Снегавік, трымайся!

*Чуецца шум завеі і голас Дзеда Мароза.*

**Дзед Мароз.** Гэй, да мяне, магутны паўночны вецер! Наляці віхурай, закружы! Снягурачцы і Снегавіку дапамажы!

**Ваўкалак (Бабулька).** Ратуйся хто можа, а хто не можа, усё роўна ратуйся. З Дзедам Марозам малыя жарты.

**Цётка Праструда.** Баязліўцы, стаяць, трымацца да апошняга!

**Насмарк.** Хто апошні, не ведаю, але не я.

*Шум ветру. Насмарк, Кашаль, Ваўкалак, Цётка Прастуда рухаюцца па сцэне, пераадольваючы нябачны вецер.*

**Кашаль.** Дапамажыце, мяне зараз здзьме.
**Насмарк.** Я болей не буду. Апчхі!
**Цётка Прастуда.** Мяне ветрам не напалохаеш.

*Уваходзіць Дзед Мароз.*

**Дзед Мароз.** Хто клікаў мяне на дапамогу? Я тут.
**Ваўкалак (Бабулька).** Я, бедная бабулька, іду, нікога не чапаю, тут апынулася выпадкова і зараз хуценька іду дахаты, і не трэба мяне праводзіць.
**Насмарк.** А мы сняжынкі, ляцелі міма і ўпалі, праўда-праўда.
**Кашаль.** Так, і на дапамогу ніхто не клікаў.
**Дзед Мароз.** Але ж я чуў. (*Звяртаецца да залы*). Дзеці, вы мяне клікалі?
**Цётка Прастуда.** Ах так? Вырашылі мяне перамагчы? (*Дастае стрэлку*). Ну, дык не дастанецца яна вам, я яе знішчу.
**Снягурачка.** Калі ласка, не трэба!

*Цётка Прастуда падымае стрэлку над галавой. Снегавік падбягае ззаду і выхоплівае стрэлку, але, паслізнуўшыся, падае ў бездань.*

**Снягурачка.** Ой, дзядуля!
**Дзед Мароз.** Гэй, да мяне, калючы Паўночны вецер, да мяне, халодны Заходні, да мяне, Паўднёвы і Усходні вятры! Падыміце Снегавіка!

*Чуецца шум ветру. Над безданню павольна з'яўляецца Снегавік. Снягурачка падае яму руку.*

**Дзед Мароз.** А ну, вятры, садзьміце адсюль гэтых нягоднікаў, ды падалей.

*Насмарка, Кашля, Цётку Прастуду, Ваўкалака здзьмувае за кулісы.*

**Цётка Прастуда.** Я буду скардзіцца свайму брату Грыпу і яго пляменніцам Тэмпературы і Ліхаманцы. Вы яшчэ пашкадуеце! Папярэджваю, са мной жарты малыя.
**Насмарк.** Ой, козытна, кіньце дзьмуць, я добры.
**Ваўкалак (Бабулька).** На дапамогу, бабулек крыўдзяць. Ішла міма, нікога не чапала, я тут выпадкова.
**Снягурачка.** Ой, дзядуля, а падарункі?
**Дзед Мароз.** Не хвалюйся, унучанька, падарункі ўжо ў мяне. Цётка Прастуда іх у гарах схавала, а Паляўнічы знайшоў і мне перадаў. Галоўнае — паспець стрэлку вярнуць. Да Новага года засталося тры хвіліны. Трымайцеся за рукі, вецер аднясе нас дахаты.

*Шум ветру.*

***Зацямненне.***

## Карціна пятая

*Палац Дзеда Мароза. Уваходзяць Дзед Мароз, Снегавік, Снягурачка.*

**Снягурачка.** Снегавік, ты сапраўдны герой.
**Снегавік.** Што ты, Снягурачка, калі б не дзеці, кепска б нам было.

**Д з е д М а р о з.** Малайцы, дзеці! І вы таксама малайцы! А ну-ка! (*Прыкладае стрэлку да гадзінніка і заводзіць яго*).

*Гадзіннік паказвае 2011 год. Чуецца бой курантоў, якія б'юць дванаццаць разоў.*

**Д з е д М а р о з.** З Новым годам, дзеці, дзякуй вам, пакуль мы разам, нам ніхто не страшны. Ну, а нам пара. Унучанька, сані гатовы?

**С н я г у р а ч к а.** Гатовы.

**Д з е д М а р о з.** Тады паехалі, а вы, дзеці, чакайце нас у госці, мы кожнаму пад ёлачкай пакінем падарунак.

**С н е г а в і к.** І пішыце нам лісты.

**С н е г а в і к, С н я г у р а ч к а, Д з е д М а р о з.** (*Хорам.*) З Новым годам!

*Фінальная песня.*

Дружна скажам: з Новым годам!
Прэч, Прастуда, з карагода,
Быць на свеце кожны рад,
Усім вам, дзеці, наш загад:
Пераможам разам зло,
Будзе жыць заўжды дабро.
Хай гараць агнямі елкі,
Хай імчаць па крузе стрэлкі,
Набліжаючы да нас
Самы таямнічы час.
Нас страчае смех паўсюдна,
Бо мы выгналі Прастуду.
Дружна скажам: з Новым годам!



*Віктар Гардзей нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — у газеце «Літаратура і мастацтва». Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі і прозы, кніг для дзяцей. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

Віктар ГАРДЗЕЙ

# ДЗВЕ ЛЕГЕНДЫ

## СКУЛЬ УЗЯЎСЯ БУСЕЛ

Сёння пачнецца зямлі красаванне.
Буйнаю сілай набраклі сады.
Ранняй вясною на Звеставанне
Бусел вяртаецца з поўдня заўжды.

Хтосьці на хаце ўладкоўвае кола,
Хтосьці на дрэва занёс барану.
Вылет пчаліны і — радасць наўкола.
Трактар пад лесам вядзе баразну.

Добра было б, каб і дождж вясновы
Змыў гэты леташні бруд на траве.
Гады пакінулі цёмныя сховы,
Жабы закрумкалі дзесьці ў дрыгве.

Бусел пачуў і памчаўся што духу,
Мерае цыбамі выган і плёс.
Зловіць вужаку, падхопіць рапуху,
Нішчыць плюгаўства — такі ў яго лёс.

Сёння дзядулю на вуліцы цёпла.
Тут жа і ўнук сустракае вясну.
Здзіўлена глянуў дзядуля на поплаў:
— Бусел, аднак, сваю помніць віну!

Сёння двара пільнавацца нягожа,
Выйшлі стары і малы на мяжу.
— Што за віна? — папытаўся Сярожа.
— Слухай, унучак, як ёсць раскажу....

— Калісьці развяліся гады
У месцах змрочных і глухіх.
Ад гадаў тых не стала рады
Ні людзям, ні жывёле іх.

Куслівая бясконца пляга
Падсцеражэ твой кожны крок.
Ад погані і страх, і звяга —
Ступіць з дарожкі бойся ўбок.

Вужакі поўзаюць на поймах,
Гадзюкі круцяцца ў бары,
Ды рознай аваднечы плойма,
Ды крывасмокі камары.

Вось Бог ішоў сваім дазорам
Цераз балоты і палі,
Убачыў тут, якое гора
Запанавала на зямлі.

Не будзе брыдкім гадам зводу —
Кішаць і дзённа, і ўначы,
І Бог, спыніўшыся ля броду,
Рашыў жыхарству памагчы.

Пазносіў ён мярзоцце ў горбу,
Сабраў між пустак і канаў,
Затым напхаў плюгаўствам торбу
І моцным паскам завязаў.

Тут чалавек бяжыць улоннем,
Паклікаў Бог і даў загад:
«Кінь торбу гэтую ў прадонне,
Тады і вернешся назад».

Нябога з даручэннем строгім
І дзень ідзе, і два ідзе,
І пот цурком, і млеюць ногі,
А мора ўсё няма нідзе.

Ніжэй да долу хіліць стома,
Не дзіўна: гэткі груз успёр!
Не вінаваты ён, вядома,
Што па натуры быў хіцёр.

У торбе зброду да халеры —
Пішчаць і ныюць гады ўсе.
Цікаўнасць узяла без меры:
Урэшце, што ён там нясе?

Дзесь у цяні, ля вербаў ніцых,
Спыніўся, торбу зняў з плячэй,
І ўжо ў чаканні таямніцы
Ён вузел развязаў хутчэй.

Ледзь адхіснуў і нос, і рукі,
Ды бельмы вырачыў праўцом,
Бо жабы, яшчаркі, гадзюкі
На волю хлынулі клубком.

Плюгаўства ўсё палезла ў шаты —
У корч, у мох ды пад абрыў,
Сам чалавек быў вінаваты:
Такое глупства сатварыў!

Цяпер глядзеў бы асцярожней —
За нейкі міг паразумнеў.
Стаіць ён з торбаю парожняй,
І Бог яму сказаў праз гнеў:

«Эх, чалавек! За тое кара,
Што ў моры торбу не ўтапіў:
Цяпер збірай дрэнь у абшарах,
На сенажацях, сярод ніў!»

Стаў неслух птушкаю цыбатай,
Якіх раней не бачыў край.
За службу кепскую адплата
Сама прыходзіць, так і знай.

На тых абшарах ён далёка
Не адышоўся ад людзей,
Прамовіў штосьць, ды толькі клёкат
З ягоных вырваўся грудзей.

Сурдут, счарнелы ад спякоты,
Адзін яму на кожны дзень,
Сарочка белая, а боты
Чырвоныя аж да калень.

Ідзе па лузе забіяка:
Прывык з той самае пары
Карміцца ўсячынай усякай,
А дрэні тут — адно бяры!

За гонар мець такога цыбу,
Які, прачнуўшыся да дня,
Разбудзіць клёкатам сялібу,
Бо чалавеку ён — радня!

Дзед і Сярожа стаяць каля хаты,
Скончыў аповед дзядуля ў журбе:
— Гэту легенду я знаю ад таты,
Сам як запомніў, так збаяў табе.

— Вось жа цікава! — усклікнуў Сярожа. —
Бусел збірае плюгаўства спрадвек.
Цяжка паверыць, што птушкай прыгожай
Стаў неслухмяны якісь чалавек.

Церам бусліны на вільчыку даху,
Зрэшты, жыве ён сям'ёй у гняздзе.
Крылы раздыме і сядзе з размаху —
Нават галінка на дол не ўпадзе.

Людзі вясной, ужо добра абжытай,
Сочаць з надзеяй за ім кожны год:
Скіне яйцо — будзе поўнае жыта,
Бусліка скіне — ідзе недарод.

Зла на яго не трымай і ў паміне,
Помсціцца стане — далей ад граху:
Зверху гадзюку ў калодзеж укіне
Ці галавешку запхне пад страху.

Гром у нябёсах — неспадзяванка.
Першыя кроплі сякуць па сцяне.
Дрэва з буслянкай не спаліць маланка,
Хату з буслянкай пярун абміне.

Моляцца людзі і сёння, і прысна:
Хай цёплы дожджык прыходзіць часцей.
Стаў чалавек птушкай дужа карыснай,
Нават у хаты прыносіць дзяцей.

З поўдня вярнуўшыся на Звеставанне,
Бусел агледзеў балотцы і гаць.
Помніць бядак пра сваё пакаранне:
Нечысць, што выпусціў, трэба збіраць!

## АДКУЛЬ ПАЙШЛІ ВАЎКІ

Прыгожы звер з мяном: разбойнік шэры!
Вяроўкай хвост і карак — як сядло.
У даўні час, яшчэ да новай эры,
Ваўкоў у нашых пушчах не было.

Жылі адвеку прашчуры супольна:
Сяліба, выган, побач лес глухі.
Але жывёла пасвілася вольна,
Не існавала слова — пастухі.

У хатцы там, за лесам і балотам,
Жыла сям'я, дзе не было бацькоў.
Убачыў Бог — паспачуваў сіротам,
Падумаў ён ды ўзяў стварыў ваўкоў.

Пайшлі звяры разбойнічаць у сёлы,
У статках красці, і ад той пары
Спатрэбілася варта ля жывёлы,
Дый нанялі сірот гаспадары.

Былі сіроты, пасвячы чароды,
Адзеты і пад'еты, а ваўкі
Нямала ў сёлах нарабілі шкоды
І разбрыліся ў розныя бакі.

Пайшлі яны па сцежках невядомых,
Хаця зімою выюць да жуды.
Іх логава — у змрочных бураломах,
Але заўсёды блізка ля вады.

Як ні мяркуй, ваўкі жывой прыродзе
Усё ж наносяць адчувальны ўрон:
Па шэсць малых і болей у прыплодзе,
Карміць іх трэба не адзін сезон.

І кормяць ваўчанят, канечне, мясам,
З прычыны той бацькі не спяць амаль.
Таму не ходзяць статкі самапасам,
Бо мігам справяць шэрыя свой баль.

Дзясяткі вёрст асіліць валацуга,
Храбрэц на паляванні ўтрох ці ўдвух.
Было ж не раз, калі звычайнай пугай
Яго ад статка праганяў пастух.

Бяруць ахвяр пагоняй ці аблогай —
Загнаны звер не дзенецца нідзе.
У зграі воўчай з дысцыплінай строгай
Сама ваўчыца жорсткі рэй вядзе.

У вывадку падбор заўжды сваяцкі:
З бацькамі — пераяркі, маладняк.

Хоць выгляд у ваўка не забіяцкі,
Дык як зірне — хапае ўміг слупняк.

У чараду, дзе не чуваць аўчарак,
Ён заляціць апоўдні напралом,
Авечку ўскіне на шырокі карак
І — павалок у змрочны буралом.

Драпежнікі паўсюль даліся ў знакі,
Ад іх багата шкоды і бяды.
Ваўкоў пачуўшы, нават і сабакі
Хаваюцца без брэху хто куды.

Зімой, у голад, грозныя прыблуды
Шукаюць корму ў вёсках паначы.
Бывае, дварняка залучаць з буды,
Ледзь гвалт які — паспеюць уцячы.

Ваўкам нішто лясное не прыесца:
Казуля, заяц, маладзенькі дзік.
Пра выпадак, што меў калісьці месца,
Апавядае егер-лесавік:

«У двор да нас аднойчы воўк прытрухаў,
Няма дарослых, двор як ёсць пусты.
Ажно глядзім: вялізны воўк за вуха
Павёў свінню праз выган у кусты.

У вокнах мы, знямелыя ад жаху,
Дзівіліся відовішчам такім.
Хвастом ахвяру шлёгаў воўк з размаху,
Яна ж ішла пакорліва за ім.

Там, у кустах, дружкоў было нямала,
На крык са стрэльбай выскачыў сусед.
Пакуль дабег, дык зграя не чакала —
Налётчыкаў ужо прастыў і след».

Напэўна, не хлусіў наш егер-лоўчы:
Малым здарэнне тое бачыў сам.
Канечне, у ваўкоў і спосаб воўчы,
Але ад іх карысці шмат лясам.

За выжыванне на зямных абшарах
Паміж звярамі вечная вайна.
Пра дзёрзкага ляснога санітара
Здавён дайшла легенда не адна.

Ваўкам такую ролю ў тым змаганні
Даверыла прырода нездарма:
У пушчах, дзе ваўчыныя ўладанні,
Паморку, пошасці зусім няма.

Бярэ найперш аслабленых і хворых,
Сярод здаровых мала ўсё ж ахвяр,
Дык справядліва лічаць у канторах:
Трымае раўнавагу «санітар».

Дзе шмат капытных, спляжаны дарэшты,
Гібее лес і чэзне пакрысе.
Падчысціць воўк замораных, а зрэшты,
І сам ён падкантрольны, як усе.

Пра шэрага і прымаўкі, і звады
З’явіліся яшчэ ў былых вяках.
Не возьме ён атручанай прынады
І пораху далёка ўчуе пах.

Нічога лішняга ў прыродзе дзікай,
І бедны воўк пры гэтым не ўбаку.
Ці Англіі зайздросціць невялікай?
Ёсць помнік там апошняму ваўку.




# СНЕЖАНЬ

**6**

*50 гадоў з дня нараджэння (1960) Булыкі Галіны Аляксандраўны, беларускай паэтэсы.*

**8**

*75 гадоў з дня нараджэння (1935) Скобелева Эдуарда Марцінавіча, беларускага празаіка, паэта, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь. Піша на рускай і беларускай мовах.*

**9**

*50 гадоў з дня нараджэння (1960) Пракаповіча Ігара Міхайлавіча, беларускага паэта, краязнаўца.*

**10**

*80 гадоў з дня нараджэння (1930) Арочкі Міколы (Мікалая Мікалаевіча), беларускага паэта, літаратуразнаўца, крытыка, празаіка, перакладчыка.*

**11**

*285 гадоў з дня нараджэння Лускіны Стафана (1725—1793), беларускага публіцыста, журналіста, астранома, матэматыка.*

**15**

*275 гадоў з дня нараджэння Пільхоўскага Давыда Зыгмунта (1735—1803), пісьменніка, перакладчыка, выдаўца, дзеяча эпохі Асветніцтва на Беларусі.*

**15**

*115 гадоў з дня нараджэння Камянецкага Гіршы Мордухавіча (1895—1957), беларускага паэта. Пісаў на ідыш.*

**18**

*75 гадоў з дня нараджэння (1935) Галіноўскай Ніны Васільеўны, беларускай паэтэсы.*

**19**

*90 гадоў з дня нараджэння Сондак Ганны Антонаўны (1920—1990), беларускага літаратуразнаўца, педагога.*

**19**

*75 гадоў з дня нараджэння (1935) Лемцюговай Валянціны Пятроўны, беларускага мовазнаўца.*

**20**

*85 гадоў з дня нараджэння Шуцько Івана Цітавіча (1925—1984), беларускага празаіка, паэта.*

**21**

*120 гадоў з дня нараджэння Аладава Мікалая Ільіча (1890—1972), беларускага кампазітара і педагога, народнага артыста БССР.*

* * *

*65 гадоў з часу выхаду ў свет (1945) «Настаўніцкай газеты», выдання асветнікаў Рэспублікі Беларусь.*

# НА МЯЖЫ ФАНТАСТЫКІ І ЯВЫ

## *(Размова з пісьменнікам Пятром ВАСЮЧЭНКАМ)*



***— Вы вядомы і дасведчаны майстра беларускага слова — знакаміты пісьменнік. Але ў кожнага чалавека ёсць пункт адліку. З чаго пачынаўся ваш пісьменніцкі шлях? Калі вы адчулі ў сабе літаратурныя здольнасці?***

***П. В:*** Тое, што я адчуў у сабе спачатку, было, можа, не столькі літаратурнымі здольнасцямі, колькі жаданнем стаць пісьменнікам. Паколькі я з дзяцінства шмат чытаў, гэта, папершае, прывязвала мяне да прафесіі, якая ў маіх вачах выглядала недасяжнай і сакральнай. А па-другое, я не знаходзіў у бібліятэцы тых кніг, тых сюжэтаў, пра якія хацеў бы прачытаць, і гэта давала дадатковы імпульс для таго, каб абраць прафесію літаратара. Публікавацца я пачаў яшчэ ў школе, але мае першыя літаратурныя вопыты не адказалі мне, ці ёсць у мяне літаратурныя здольнасці, ці не. Хаця мяне рэцэнзенты часам хвалілі, часам крытыкавалі. Упершыню апублікаваўся ў раённай газеце «Сцяг камунізму». Першымі маімі рэцэнзентамі былі вядомыя на сёння пісьменнікі Іван Стадольнік, Навум Гальпяровіч, яны працавалі тады ў рэдакцыі «раёнкі». Наколькі я памятаю, яны раілі мне пісаць не пра надуманае, а пра тое, што я бачу вакол сябе. Да прыкладу, пра зайцаў, мядзведзяў, птушак... Хаця сапраўдныя вершы пра зайца і нават пра муху ў мяне з'явіліся значна пазней, гадоў праз сорак пасля гэтай парады.

Тое, што я магу не толькі друкавацца, але і адчуваю сябе пісьменнікам, прыйшло за часамі студэнцтва, калі я вучыўся на журналіста ў БДУ. Апроч чыста журналісцкіх публікацый, у мяне ў гэты час адбыліся яшчэ і літаратурныя дэбюты. У дваццаць гадоў я апублікаваў сваё першае апавяданне ў часопісе «Бярозка»(1979). Апавяданне называлася «Вярнуўся». Сумная і адначасова вясёлая гісторыя пра дзядулю-вартаўніка, якому верна служыў стары сабака Жук. Але ўсяму настае фінал — пёс ужо не мог вартаваць, ён састарэў, пачаў дрэнна бачыць і чуць. Гаспадар звёў яго ў суседнюю вёску. І вось на месцы Жука пасяляецца малады, здаровы, поўны спадзяванняў, аптымістычна настроены малады сабака па мянушцы Байкал. Але раптам стары сабака вяртаецца. Прыбягае за некалькі кіламетраў з суседняй вёскі і бачыць, што ягоны дом заняты. Але зрэшты ўсё заканчваецца шчасліва. Так адбыўся мой літаратурны дэбют, калі я пераканаў сябе ў тым, што магу не толькі друкавацца, але і рабіць творчыя планы, пісаць далей.

Варта адзначыць выданне першай кнігі — зборніка прозы «Белы мурашнік» у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Лічу за гонар, што рэдактарам і бацькам майго першага зборніка быў пісьменнік Уладзіслаў Рубанаў. Ён рэдагаваў гэтае выданне, хваліў за арыгінальнасць і за маё імкненне спалучыць у творах фантастыку і яву. Сам казаў, што працуе ў падобным рэчышчы. Я ўдзячны яму за тое, што ён сваёй рэдактурай не перашкаджаў маім пошукам.

***— У кожнага пісьменніка ёсць свае літаратурныя сімпатыі і прыярытэты. Несумненна, ёсць яны і ў вас. Каго з пісьменнікаў вы лічыце найбольш таленавітым і дасведчаным?***

***П. В:*** Мая прафесія не толькі пісьменнік, літаратурны крытык, але яшчэ літаратуразнаўца і выкладчык беларускай літаратуры. Беларуская літаратура — гэта вельмі шырокае тэкставае поле, у якім тэксты маюць розную накіраванасць і маштабнасць. Але ёсць праграма, нейкі стандарт, агульнапрынятая думка пра тое, чым з’яўляецца класіка — тое, што застаецца жыць у стагоддзях. І нават калі ўнутрана не прымаю той ці іншы класічны твор, у той жа час я абавязаны раскрываць яго дадатныя рысы, трактаваць яго, тлумачыць і знаходзіць разам з маімі студэнтамі той нечаканы паварот, які зрабіў гэты твор класічным. Таму я лічу прыярытэтнай усю беларускую класіку, незалежна ад таго, у якой ступені яна кладзецца мне на сэрца. А калі вылучаць тое, што мне найбольш кладзецца на сэрца па нейкіх суб’ектыўных прычынах, я б вылучыў творы сваіх землякоў, якія жылі і нарадзіліся ў Полацку. Цягне мяне да іх нейкая крывінка, часцінка маёй душы. Гэта Сімяон Полацкі, Ян Баршчэўскі, Вацлаў Ластоўскі. Яны маюць дачыненне да зямлі, якая называецца Крыўяй, альбо Крывіяй. Той жа Уладзімір Караткевіч, які хоць і нарадзіўся ў Оршы, лічыў Полацк сваім горадам. Мне вельмі падабаюцца творы маіх землякоў, дзе адчуваецца полацкі крывіцкі дух. Гэта Уладзімір Арлоў, Навум Гальпяровіч, Вінцэсь Мудроў ды іншыя.

У літаратуры мае сімпатыі належаць і такім творам, у якіх адбываецца спалучэнне явы з фантастыкай, у якіх адбываюцца нечаканыя метамарфозы. Мае паны Кубліцкі і Заблоцкі па духу падобны да такіх аўтараў, як Ян Баршчэўскі, Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Караткевіч. І я хацеў бы вылучыць сучасных аўтараў, з якімі творча супрацоўнічаю ў стварэнні фэнтэзі і дзіцячай літаратуры. Апошнім часам я сам шмат часу і высілкаў аддаю гэтаму жанру. А ў ім вельмі плённа, цікава і непрадказальна, на маю думку, сёння працуюць Раіса Баравікова, Алена Масла, Людміла Рублеўская, Арцём Кавалеўскі, Алена Мальчэўская, Андрэй Федарэнка, Алесь Бадак.

***— Героі вашых твораў вельмі розныя і непадобныя. Якім вы бачыце свайго любімага літаратурнага героя?***

***П. В:*** Сапраўды, героі маіх твораў фэнтэзі добрыя і не вельмі, часам злосныя і зайздросныя, і ўсё ж такі іх нешта лучыць. Я належу да таго кола аўтараў, якія не падзяляюць герояў на станоўчых і адмоўных. Гэта выразна бачна па маёй кнізе «Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага». Бо ніводнага персанажа з гэтай кнігі не назавеш адмоўным, пачынаючы з саміх паноў. Яны спачатку паўстаюць у творы быццам ілюстрацыя таго казачнага вобраза хцівых, прагных, ахвочых да ежы і пітва паноў, якіх мы бачылі ў сацыяльна-побытавых казках. Але перагарніце некалькі старонак — і гэты стэрэатып пачне распадацца. За недарэчнасцямі панскага жыцця праглядаецца сапраўднае высакародства. За іх дурнаватымі заляцаннямі да дзеўкі Дрыпы, якія нагадваюць подзвігі старых кавалераў Адольфа Быкоўскага і пана Кутольфа, стаіць сапраўднае пачуццё і прага кахання. За панскай хцівасцю і імкненнем паесці ад пуза, атрымаць асалоду ад гэтага жыцця, за іх маніякальнай цягай да кілбас часам праглядаецца звычайнае чалавечае імкненне да шчасця, дабрабыту і ўтульнага жыцця. А гэта і не такі ўжо грэх. «Проста кожны чалавек павінен быць на сваім месцы», — кажа адзін з маіх паноў.

Яшчэ маіх герояў аб’ядноўвае тое, што яны вартыя шкадавання. Не трэба іх асуджаць па той простай прычыне, што яны самі сябе асудзілі. Яны схільны да іроніі, гумару, і калі ўжо жартуюць, то жартуюць з саміх сябе. Мае любімыя героі — гэта

героі непаслухмяныя, гарэзлівыя, жывыя, здатныя да высакародных спадзяванняў і ў той жа час са слабасцямі, якія можна і даравацць. Літаратару вельмі цяжка намаляваць вобраз абсалютна станоўчага героя. Герояў з заганамі, як у сусветнай літаратуры, так і ў нашай, шмат, а абсалютна бездакорных мала. Гэта можа быць князь Мышкін з «Ідыёта» Дастаеўскага, Дон Кіхот Сервантэса. Але з іх заўсёды кпілі.

Героямі сваіх будучых твораў я бачу не толькі ненажэрных паноў, але і высакародных рыцараў, часам нават нясмелых. Як мой Андрусік з п'есы «Маленькі збраяносец», які шмат у чым саступае свайму гаспадару — рыцару Дармідонту, грубаватаму, але моцнаму як Шварцэнегер.

Я планую таксама вярнуць да жыцця вобраз беларускай дзяўчыны: прыгожай, гарэзлівай, усмешлівай, жартаўлівай, закаханай, але зменлівай у сваіх пачуццях. Не здрадлівай, а менавіта зменлівай. Такімі выглядаюць купалаўская Паўлінка, альбо караткевічаўскія дзяўчаты. Вобраз адной такой паненкі, здатнай да ўсялякіх нечаканых фантазій, у мяне ўжо з'явіўся ў вобразе дзеўкі Дрыпы.

***— У вас шмат задумак і літаратурных планаў. Але, дапусцім, свой лепшы твор вы ўжо апублікавалі. Што з напісанага вам падабаецца найбольш?***

***П. В.:*** Калі я думаю пра свае кніжкі (іх каля дваццаці, напісаных у самых розных жанрах), то яны для мяне як дзеці, якіх трэба любіць аднолькава. Ёсць і манаграфія навуковая, і творы пра моладзь, і літаратурна-крытычныя зборнікі, і фэнтэзі, казкі. Калі казаць пра тое, што мне больш прыемна пішацца, то гэта фэнтэзі, якія праз некаторы час прачытваеш і здаецца, што напісаў іх хтосьці іншы.

Я мяркую, калі Бог дасць здароўе і творчыя сілы, звярнуцца да жанру сінтэтычнай прозы, дзе б спалучаліся і фантастыка, і элементы авантурнай прозы, але ў той жа час існавалі б роздум і філасофія. Вось у гэтым рэчышчы праектуецца мой будучы тэкст, рабочая назва якога — «Казкі для Лілі», урыўкі з якога ўжо апублікаваны. Тэкставай асновай праекта з'яўляюцца беларускія казкі і казкі з сусветнага фальклору, у якіх сканцэнтравана мудрасць чалавецтва, народная філасофія, створаная розумам і творчымі высілкамі людзей розных краін.

Да сённяшняга часу адчуваю прыцягальнасць сяброў былога літаратурнага аб'яднання «Тутэйшыя», куды некалі ўваходзіў і я. Мэтай літаратуры мы лічылі Бацькаўшчыну, нацыянальную мову, гісторыю, Беларусь. Такога аб'яднання даўно ўжо няма. Не ўсе з яго ўдзельнікаў сёння пісьменнікі-прафесіяналы, хтосьці абраў іншыя сферы дзейнасці, некаторыя пайшлі з жыцця. Але тое пакаленне застаецца літаратурным, пра яго пішуць і сёння ў літаратурных акадэмічных працах, разважаюць пра чыннасць і творчасць Анатоля Сыса, Андрэя Федарэнкі, Адама Глобуса, Максіма Клімковіча, Алеся Бадака і іншых сяброў гэтага таварыства. Гэта пакаленне сарака-пяцідзесяцігадовых людзей, якія ствараюць ядро сучаснага літаратурнага працэсу.

***— Вы не толькі пісьменнік, але і даследуеце творчасць іншых літаратараў. А як самі ставіцеся да крытыкі ў свой адрас?***

***П. В.*:** Я адношу сябе да ліку крытыкаўпрактыкаў. Жанры, у якіх я пішу як літаратурны крытык, апрабаваныя мною. Калі пішу пра паэзію, гэта азначае, што я сам калісьці пісаў вершы. Калі пішу пра дзіцячую літаратуру, гэта азначае, што ў мяне ёсць досвед стварэння падобных тэкстаў. Такім чынам, я імкнуся бачыць не толькі тое, што напісана, але і тое, як гэты твор зроблены. Хаця я дапускаю і іншую практыку літаратурнай крытыкі, больш акадэмічную, калі творы аналізуе чысты тэарэтык. У мяне няма прычын наракаць на літаратурную крытыку, прысвечаную маім тэкстам. Па-першае, з тае прычыны, што разносных і адмоўных рэцэнзій не было, а калі б яны і былі, то прымусілі б мяне задумацца, чаму яны з'явіліся. Раздражняць у крытыцы мяне можа толькі тое, што, магчыма, не ўсе мае творы былі заўважаны, альбо не ўсё ў творах заўважана. Але да гэтага трэба ставіцца з мудрасцю.

І нарэшце, ці заўсёды крытыкі беларускіх твораў маюць рацыю? Крытык, па-першае, чытач і мае безумоўнае права выказвацца ад імя чытача. Не будзем забываць,

што крытык — гэта прафесійны чытач і вартасць ягонага слова залежыць ад ступені ягонага прафесіяналізму. Непрафесійнасць часам можа выяўляцца ў нашай крытыцы, калі за пяро бяруцца людзі выпадковыя, але такое мае права на існаванне, бо пісьменнік піша для ўсіх. Чытачы — усе тыя людзі, да каго трапіць пісьменніцкі тэкст і хто зробіць ласку азнаёміцца з ім.

Каму дадзена казаць праўду пра літаратурны твор? У кожнага крытыка свая праўда, свая пазіцыя. Казаць праўду — азначае казаць шчыра, тое, што думаеш. Але абсалютная праўда хаваецца ў абсалютнай ідэі, таму дасягнуць яе дастаткова цяжка.

***— Ваш лёс цесна звязаны з моладдзю, з будучымі перакладчыкамі і настаўнікамі. Людзьмі, якія будуць потым вучыць нашых дзяцей і ўнукаў, у тым ліку і беларускай мове. Ці дастаткова яны падрыхтаваны да гэтага?***

***П. В:*** Не першы год я працую з маладымі людзьмі і бачу пэўныя змены ў студэнцкіх генерацыях, хаця нейкія рэчы застаюцца сталымі. Калі сёння студэнты чытаюць мае раннія апавяданні «Белы мурашнік» і «Прыгоды аднаго губашлёпа», яны кажуць, што на базавай аснове нічога не змянілася. Моладзь цікавіцца ўсё тым жа. Значнае месца ў іх жыцці займаюць каханне, бытавыя праблемы, вучоба і ўсё смешнае і недарэчнае, што з гэтым звязана. У наш час ёсць удачнікі і няўдачнікі, якіх я апісваў у сваіх студэнцкіх апавяданнях. Хаця рэальна многае змянілася. У тыя часы ў пакоі не стаяла чатыры камп’ютары, студэнт не мог прыехаць здаваць іспыт на мерседэсе, не мог шмат вандраваць па замежжы, як гэта робіць сённяшняя моладзь, і, нарэшце, у тыя часы не было Інтэрнэта.

Цяпер у моладзі вялікія магчымасці. Праз сеціва яны далучаны да сусветнага розуму, досведу. Моладзь вельмі сімпатычная, з ёй цікава працаваць, але сусветная сетка не дадае маладому чалавеку мудрасці. Магчыма, гэта і добра, таму што быць мудрым у васямнаццаць-дваццаць гадоў — нейкая анамалія. Прычына ў самім сеціве, бо вылузнуць адтуль зерне мудрасці даволі цяжка. На паверхні адно шалупінне. У гэтым плане Інтэрнэт магчыма параўнаць з барахолкай, апісанай Купалам у трагікамедыі «Тутэйшыя». Пра нешта гавораць на форумах, пра нешта спрачаюцца, шалупінне ляціць у бакі. А зерне ад семак? Да яго яшчэ трэба дабрацца. Чалавечая галава не можа паглынуць усё, што пакладзена ў сеціва. У гэтым плане Інтэрнэт не заменіць кнігі, дзе ўсё сканцэнтравана, сабрана і выбудавана ў сістэму. Таму мяне трывожыць і радуе адначасова віртуальнае жыццё моладзі. Трывожыць і той факт, што моладзь сёння чытае значна менш, чым раней. Хаця я працую з моладдзю адукаванай і інтэлектуальнай, першае, што я раблю — праводжу сярод іх рэйтынгавыя апытанні: якія творы беларускай і сусветнай літаратуры яны лічаць лепшымі? З беларускай літаратуры яны называюць класіку — творы Мележа, Быкава, Караткевіча, Купалы, Коласа, Багдановіча. Магчыма, гэта школьны ўплыў, але моладзь выдатна бачыць розніцу паміж творамі Купалы, Коласа і якоганебудзь трэцеразраднага аўтара, які піша дэтэктывы нізкай пробы. Ці гэта інстынкт асцярожнасці, але ў ліку лепшых кніг рэдка называюць сучаснікаў. Магчыма, моладзь інстынктыўна разумее, што пройдзе шмат гадоў перш чым гэты твор стане класікай і зможа звацца лепшым. Увогуле, працаваць з сучаснай моладдзю цікава і прыемна.

***— Жыццё чалавека складаецца не толькі з сонечных і радасных дзён. Бываюць і «чорныя плямы». Як вы змагаецеся з кепскім настроем?***

***П. В:*** Чалавек не можа быць стабільным у творчым і бытавым плане. Такія моманты перажываюць усе. Кожны шукае лекі па-свойму. Можа, лепшае — прыгадваць простую мудрасць: за чорнай паласой абавязкова прыйдзе белая. Мае лекі — гэта кнігі, тэкст, які не мае дачынення да маёй доктарскай дысертацыі, да ўсяго таго, чым я займаюся зараз. Вось ёсць адна непрачытаная кніга. Я яе гадоў дваццаць планаваў прачытаць. Зараз за яе і вазьмуся. Ёсць кніга, якую я прачытаў яшчэ ў дзяцінстве, і калі я бяру яе ў рукі, мяне агортвае водар дзяцінства. Я лекуюся кнігамі.

Вядома, ёсць і сям’я, якая гатова заўсёды падтрымаць, калі трапляю ў чорную паласу. Але не трэба свае стрэсы, цяжкі роздум і

сумненні перакладваць на плечы блізкіх. Часам, можа, і не трэба паказваць свой сапраўдны настрой. Скардзіцца на мікраклімат у сям'і ў мяне няма падставы. Мая жонка мяне добра разумее. Яна выкладае культуралогію ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце. Дачка скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Чалавек творчы, яна шукае сябе ў розных відах дзейнасці: піша вершы, перакладае, выкладае замежную мову, шукае свае сцяжыны ў жыцці. У яе вельмі шырокі дыяпазон захапленняў — этымалагічных, мастацкіх, эстэтычных. Гэта вельмі цікавы дваццацітрохгадовы чалавек, якога зваць Марыя.

Апроч чытання і сям'і я назваў бы яшчэ адны лекі — гэта вандроўкі. Яны нязменнае маё хобі ад часоў студэнцтва. У аспірантуры я, напрыклад, паставіў сабе за мэту вывучыць Брэсцкае Палессе і зрабіў гэта падчас вакацый. Паўсюль прайшоў пешкі. І цяпер вандроўкі — неад'емная частка майго жыцця: экскурсіі і паездкі з сям'ёй па розных кутках Беларусі. Я бываю і ў замежжы. Да прыкладу, у Польшчы, Нямеччыне, Бельгіі, Галандыі, Францыі, ЗША, Славакіі, Чэхіі, краінах СНД. Але мяне больш цікавяць паездкі ў нашы раёны. Мала раёнаў засталося, дзе б я не пабываў. Прыязджаючы ў новыя мясціны, я адкрываю для сябе штосьці новае. А вяртанне ў Полацк — нязменны для мяне рытуал. Там жыве мая маці.

І яшчэ, калі я быў школьнікам, марыў паступіць на біялагічны факультэт. На ўсё жывое я глядзеў вачыма аналітыка. Мяне цікавіла, хто і як поўзае, лётае, хто каго паядае, хто як збудаваны, у каго шэсць ножак, у каго — восем, як у павука. Сёння я гляджу на ўсё гэта па-іншаму. Па-першае, я проста сузіраю рэчаіснасць і думаю пра разнастайнасць усяго існага, што ўсё гэта некаму патрэбна. Пра гэта я напісаў у кнізе «Піраміда Лінея». Па-другое, я думаю: як усё гэта захаваць? Некалі здолеў жа Ной у свам каўчэгу захаваць усё, створанае Богам. У XXI стагоддзі ў каўчэг ператварылася наша Зямля. Кожны від жывога павінен быць захаваны. Вялікая трагедыя, калі знікае нейкі від жывёлы. А сёння кожны дзень знікаюць дзясяткі відаў.

***— Дзякуй за размову***.

*Гутарку вяла Віка ТРЫПУЦІНА.*

Ала САСКАВЕЦ

# ДЗЕСЯЦЬ МАЛЕННЯЎ

## *Замалёўкі са студэнцкага жыцця*

***Працую я вахцёркай у студэнцкім інтэрнаце. Пасада невялікая, але тлумная, аднак я прырасла да яе — не адарвеш. Усё на тваіх вачах: прыязджаюць юныя, крыху збянтэжаныя хлопцы і дзяўчаты, а ўжо праз якія два з паловай гадочкі перад табой — дарослыя людзі, спецыялісты, некаторыя нават пры мужах ці жонках.***

***Прыкіпіш да іх душой, як да родных. Не адну таямніцу выслухаеш, не адну насоўку змочыш, слёзкі ёй выціраючы… І параіш, і паспачуваеш… і пальцам, бывае, паківаеш… Былі, канечне, і такія, якім да майго пальца і справы не было, але, дзякаваць богу, такіх не так ужо і шмат. Больш, як кажуць, нармалёвых дзяўчатак. Для іх і слова вахцёра — слова: выслухаюць, а потым такая падзяка ідзе ад іхніх усмешак, што ажно сэрца шчыміць… А да чаго ж прыемна бачыць, як на тваіх вачах «брыдкае качаня» ці «шэрая мышка» перарастае ў іншую істоту.***

### ЛАРАЧКА

Быў першы дзень засялення. Увіхаліся ўсе: загадчыца інтэрната, яе намеснік па гаспадарцы, кастэлянка, выхавацелі; мітусня, гоман, стаянне ў чэргах да пасінення… Але мала-памалу ўсё ўсталявалася: чарга ў вестыбюлі скончылася. Праз нейкі час пажадалі нам спакойнага дзяжурства загадчыца з намесніцай і, нарэшце, кастэлянка Людачка стомлена прашаптала: «Больш паловы засяліліся. Ну, заўтра затое будзе менш», — сказала на развітанне і панеслася дамоў, да сваіх дзетак.

Ліфцёрка — Аляксееўна — накапала ў мензуркі нам валакардзінчыку, адну падала мне, вольнай рукой асяніла крыжам сваю гаспадарку — ліфты — і ўзняла сваю: «За вас, працаўнікі! Дзякую, што вытрымалі… Так баялася, што завісне дзе каторы між паверхамі: уяві, поўная кабіна з коўдрамі, падушкамі…» Толькі я сабралася гэта ўявіць, як да мяне данеслася пытанне, і я, праглынуўшы вадкасць з мензуркі, сказала: «Так! Вы прыйшлі па адрасе, але спазніліся крыху». Перада мной стаяла дзяўчо: за плячыма ладны рукзачок, у руцэ нялёгкая сумка і... спалоханы позірк.

— Не пужайся, дзіця! Заўтра заселішся. Ёсць дзе сёння пераначаваць?

Слёзы ў вачах адказалі мне, што пераначаваць ёй няма дзе.

— Не плач! Будзеш са мной вахцёрыць. Сёння ночка спакойнай не будзе. Згодна?

Яна заківала галавой, заўсміхалася…

— Мяне завуць Алена Аляксандраўна, а цябе як?

— Лаура, — нясмела мяўкнула дзяўчо сваё імя, бо, відаць, ведала, сама адчувала, што не пасуе яно ёй.

І сапраўды: бледны, невыразны тварык, слабенькія і караценькія валаскі руса-шэрага колеру… Хіба толькі вочы… Але і тыя не пякуча-чорныя. Імя не для яе, канечне ж.

— Лара! — на хаду прыдумала я. — Ларачка!.. Толькі адну літарку «у» і трэба выкінуць. Можна цябе так называць?

— А ў пашпарце ж запісана…

— І я па пашпарце Гелена… А так Алена Аляксандраўна. Згодна?

— Канечне, згодна! — узрадавалася мая, лічы, хрэсніца з цяжкаватым рукзачком за спінай.

— Ты здымай рукзачок!..

— У ім усё для працы ў саўгасе. Нас жа папярэдзілі...

— Ну, канечне, ж не бальная сукенка… Бяры, Аляксееўна, нашу хрэсніцу Ларачку…

Аляксееўна назвалася ліфцёркай Таццянай Аляксееўнай (а Лаура назвалася Ларай) і павяла яе ў нашу бытовачку…

— А чаму ж ты спазнілася? — вяртаючыся на сваё месца, спыталася ліфцёрка. — Во, каб хоць хвілін на дваццаць раней…

— Наш аўтобус раз у суткі ходзіць… Мы з дзядулем звычайна на дзень раней прыязджалі, а тут ён вазьмі і захварэй, — уздыхнула дзяўчо.

— А дзе ж начавалі? — умяшалася ў гаворку я.

— На вакзале… Як там прыгожа, цікава! — вочкі яе загарэліся. — Я ўсё разглядзела… Нават дыназаўраў бачыла. Не жывых, канечне… Па горадзе хадзілі… А потым дзядуля купляў бутэрброды, піражныя, гарбату. Мы сядзелі з ім як белыя людзі за круглымі столікамі і кайфавалі… А ўчора дзядуля не здолеў мяне прывезці… Я магла б і сама на вакзале пераначаваць, але дзядуля не дазволіў… Ён параіў: як прыеду ў горад, адшукаць інтэрнат… Пэўна ведаў, што я тут цудоўных людзей сустрэну…

— Вы з дзядулем самі цудоўныя людзі, — сказала ліфцёрка, прыхінула дзяўчыну і забедавала: — Вось шкада. Гэта ж Людачка, наша кастэлянка, на тры гадзіны затрымалася, пакуль усіх уладкавала… Каб ты раней завітала, то спала б ужо сёння на сваім ложку, у чысценькай пасцельцы, а так прыйдзецца на нашай канапцы…

— А вы дзе? — ускінула тоненькія броўкі Лара.

— Я — дамоў… А Аляксандраўна знойдзе, дзе пакімарыць.

— Аляксандраўне сёння не да сну будзе… Не бядуй! Мая справа вахцёрская… Чула загадку — што мякчэй за падушку?

— Рука, — успрыняла гульню дзяўчына. — А на вакзале я спала на дзядулевым плячы пад шоргат газеты, якую ён чытаў.

— А дзе ж мамка твая? — спытала Аляксееўна.

— Паехала шукаць шчасця за мяжой, ды так і не вярнулася, — без асаблівага жалю сказала. Відаць, рана без мацеркі засталася. — Шкада — бабуля ад перажыванняў рана памерла. Вось і жывём мы з дзядулем… Ён строгі ў мяне. Ведама ж, настаўнік, але добры-добры… Толькі пенсія ў яго малая, — з сумам закончыла яна.

Я ўявіла сабе інтэлігентнага вясковага чалавека, які вочы не ўздымае з-за непрыстойнага ўчынку дачкі — кінула дзіця на рукі бацькоў, з’ехала… Мне захацелася ўзбадзёрыць дзяўчынку: «Бярэш нас у бабулі?» — «Бяру!» — кажа. — «Тады будзем вячэраць. Аляксееўна гарбату заварыла… Зараз сабойчыкі развяжам… З раніцы ж у роце нічога, акрамя вады, не было…»

Як убачыла наша нованазваная ўнучачка нашы прысмакі, то не ўтрымалася: «Ого-го! — кажа. — На ноч няможна!» — «Можна! — кажу. — Нават трэба, асабліва табе! Не растаўсцееш, не бойся!»

Паела з намі дзяўчына добра, паспала… І назаўтра аказалася першай у новай чарзе, таму, канечне ж з нашых «маленняў», ёй дасталося самае лепшае месца, у самым лепшым пакойчыку і з самымі лепшымі суседкамі-дзяўчатамі другога курса. Так і пацякло новае жыццё нашай Ларачкі.

## ЛАРЫКІ

Праз дзень наша «ўнучачка», як гэта заведзена для першакурснікаў, паехала на сельгасработы. Мы часта яе ўспаміналі з Аляксееўнай, але не турбаваліся, бо былі ўпэўнены, што дзед выгадаваў не беларучку.

Вярнулася наша «шэрая мышка» якраз у маю вахту. І што ж я ўбачыла?! А ўбачыла — тэпае мая хрэсніца з сумачкай і букетам прыгожых астраў у руках і ўся свеціцца шчасцем.

— А дзе рукзак, рэчы? — пытаюся.

— Рэчы дамоў па пошце адаслала, — адказвае. — А рукзак — во! — і паказвае на рукзак, набіты, няцяжка было здагадацца, гароднінай, на спіне ў незнаёмага хлопца: бледнатварага, з доўгімі кучаравымі валасамі пад гумкай, з завушніцай у вуху, ланцужком на тонкай шыі і сціплай усмешкай.

Я ажно абняла Ларачку. Ды здуру пажартавала, маўляў, бачу, паклоннікам абзавяла-

ся. Сказала і пашкадавала, так яны сумеліся, пачырванелі.

— Не, — пачала апраўдвацца Лара. — Гэта мой аднагрупнік. Дарэчы, — рассмяялася, — яго завуць Іларыён. А я заву яго Ларык…

Іларыён пачаў здымаць рукзак, але я спыніла яго: «Пачакай, пачакай! Ці ж яна яго дацягне? Тут жа гародніны на сям'ю. На паўзімы хопіць… Нясі!»

Ларыкі — так я ўжо іх ахрысціла — пайшлі.

— Хвіліначку, — спыніла і кажу, — вазьміце ў мяне вялікі караб, пастаўце яго на лоджыі, прысыпце буракі і моркву пясочкам… Ларык знойдзе, дзе яго накапаць…

Ларык кіўнуў і пайшоў следам за Ларай.

— І чым укрыць на зіму — знойдзем, — кінула ўдагонак, і чамусьці ў гэты момант мне падумалася, што хударлявы Іларыёнчык не хворы, а проста вечна ненаеты хлопец, і што сустрэліся яны — Лаура і Іларыён — не проста так, а як пара, як людзі, наканаваныя лёсам адно аднаму. Словам, Ларыкі.

Праз тры дні, зноў у маю вахту, прынёс Іларыён свой рукзачок, чымсьці запоўнены. Я аж спужалася: няўжо, думаю, гэтыя дзеці надумалі сысціся. Паклікала па селектары Лару. Яна вынесла свой пропуск, я зрабіла адпаведны запіс у кнізе наведванняў, прыгадала, што гасцяваць можна толькі да дваццаці адной гадзіны, і сказала: «Ты, Іларыён, ідзі! Ларачка дагоніць…» Лара тут жа адчула маю занепакоенасць і ціха расказала, што маці хлопца пачала выносіць агародніну, якую ён прывёз з калгаса, да магазіна, прадаваць, каб купляць свайму сужыцелю чарку…

Так мы даведаліся, што хлопец жыве з выпівохай мацеркай у двухпакаёўцы, што бацька памёр і сям'я перабіваецца на пенсію «па страце кармільца»… Усё стала на сваё месца: разумніца Лара будзе апекаваць Ларыка і, як кажуць, гадаваць сваю другую палавінку.

Хлопец быў цудоўны: не піў, не курыў, ніколі і хвіліначкі лішняй не затрымліваўся… І ўсе мае калегі, нават і ў каранцін, казалі яму: «Прабяжы хуценька! Ларачка ўжо абед згатавала, пэўна».

А пачалося з таго, што Лара спыталася ў кагосьці, як зрабіць смачныя катлеты. Потым нехта ўбачыў, як Ларык чысціў, а пасля дзёр на тарцы бульбу, а Ларачка пякла дранікі і настойліва дабівалася ад свайго падапечнага правільнага вымаўлення англійскіх слоў. Увогуле, яна з ім шмат займалася і, як дакладаў нам куратар, хлопец падцягнуўся па ўсіх прадметах. Ад яго, дарэчы, мы даведаліся, што ў іх не толькі агародніна на дваіх, а і стыпендыі яны складваюць разам. Так што Іларыён больш не п'е раніцай гарбату без цукру і бутэрброда…

Мы так прывыклі да Іларыёна, што часам жартавалі: «Праходзь, праходзь, жанішок!» А на яго твары, папаўнелым і паружавелым, заўсёды з'яўлялася шчаслівая ўсмешка, і ён з жартам казыраў нам…

Пачало халадаць, а наш «жанішок» усё ў вятровачцы бегае. Пытаюся ў Лары, ці ёсць у яго што цяплейшае? Адказвае: «Будзе. Мы ўжо сорак тысяч адклалі яму на куртку, а дзядуля аддае яму свае боты зімовыя, кажа, яму іх няма куды насіць, ён да валёнак прывык». — «Добра! — кажу. — А хочаце, я вас адвязу туды, дзе вы за гэтыя сорак тысяч адзенецеся абодва?.. Заўтра субота. Маё дзяжурства заканчваецца ў 9.00. Каб да гэтага часу быў вось тут як штык!» — кажу Ларыку, які якраз падышоў. Ён узяў пад казырок, і мы ў першы раз убачылі яго белазубую ўсмешку.

Пасля невялікай паўзы хлопец зацікаўлена запытаўся: «Чаму так рана?» У адказ Лара пажартавала: «Менш будзеш ведаць — лепш будзеш спаць…» Словам, з'ездзілі, накуплялі… Тут жа ўсё было перамыта, вадзіцай святой акроплена, каб чужую энергетыку зняць. А ў нядзельку Ларык усё адпрасаваў, пераапрануўся і пайшоў дадому ў дабротных апратках, хоць і сэкандхэндаўскіх, затое эксклюзіўных, як мы жартуем. Ларачка праводзіла свайго сябра шчаслівым позіркам.

Я была ўпэўнена, што ў іх самыя чыстыя адносіны, але, калі пайшлі сумненні ў маіх калег, вырашыла пагаварыць з Ларай.

— Мы толькі сябруем, Алена Аляксандраўна, — шчыра адказала Ларачка на маё пытанне. — Мы, вядома ж, цалуемся… Ну… пры сустрэчы, развітанні… Але ў шчочку толькі. — І тут Ларачка нешта ўспомніла, засмяялася. — Ведаеце, што нам класная казала?.. «Дзяўчаткі, — казала, — не цалуйцеся з хлопцамі так, як па тэліку паказваюць… Не дражніце… паляўнічых за дзіччу... Такімі іх прырода стварыла… Так што не крыўдзіце, а ўсё ў жарт пераводзь-

це…» Маўляў, толькі пасля шлюбу, толькі пасля шлюбу…

— А да шлюбу толькі ў шчаку?

— Ну, я не ведаю… Толькі… іншых адносін… я пакуль не хачу: дзядуля іх не ўхваліць.

— А дзядуля ведае?.. Хаця, канечне, раз боты яму свае аддае...

— Я сказала дзядулю, што ў мяне ёсць добры сябра… І сказала, што Іларыён вельмі падобны да яго: такі ж добры, спакойны, разумны… І дзядуля рады за мяне…

— Гэта цудоўна! А маці Ларыка як да цябе ставіцца?

— Добра! Неяк сказала, што цяпер яна спакойная за свайго сыночка. І ведаеце, яна амаль ужо не п’е… Ужо працуе. Праўда, пакуль толькі санітаркай… Але да яе прыглядаюцца… Можа, зноў стане медсястрой…

Я не ўтрымалася, каб не пацалаваць гэтую не па гадах разважлівую асобу ў шчочку, а яна прытулілася да мяне як да роднай. І тут мне падумалася, што калі-небудзь яна вось так прытуліцца да сваёй свякроўкі, а тая абдыме сваіх Ларыкаў, і прыйдуць у іх двухпакаёўку супакой і шчасце.

Божа Міласэрны! Ты звёў гэтых дваіх і пасяліў у іх сэрцах любоў. А цяпер дапамажы гаротнай жанчыне стаць ім агульнай матуляй, а затым і шчаслівай бабуляй!

## КАРМЭН

У гэтым годзе перасялілі да нас студэнтку Лізавету В. — Лізу. І пасялілі ў адным блоку з Ларай, таму часта даводзілася іх бачыць побач: Ліза ішла заўсёды першай, і на яе былі накіраваны позіркі ўсіх прысутных, асабліва мужчынскага полу. А Ларачка, заўсёды загадкава ўсміхаючыся, ішла за ёю. І я не раз паказвала хлопцам на яе і казала:

— Во, хлопчыкі, якіх жонак трэба выбіраць!.. А вы ўсё за цырлямі-мырлямі носіцеся… — Смяюцца хлопцы, а самі ад Лізы вачэй адарваць не могуць. — Во, кажу, каго Лаурай трэба было назваць! Якая з яе Ліза? Вось Аляксееўна, — ківаю на нашу ліфцёрку, — лічыць, што ёй больш падыходзіць імя Кармен. Як думаеце?

Хлопцы пагаджаюцца з Аляксееўнай. Ды і як было не пагадзіцца. Уявіце: шыкоўныя рыжаватыя валасы аж у трубачкі круцяцца, а на скронях вісяць спіралькамі; вейкі над вялікімі зялёнымі вачамі ледзь не чапляюцца за бровы; рукі, унізаныя пярсцёнкамі і бранзалеткамі, толькі бразготкі не хапае; прыталеная кароценькая блузачка адкрывае пупок з пірсінгам і ледзь-ледзь прыкрывае сімпатычныя бугарочкі; модная спадніца, з доўгім, як абгрызеным, падолам, прыкрывае ножкі, якія і не варта было б прыкрываць. Словам, дзеўка — карцінка.

Ёсць у нашых пражывальцаў, так я іх называю, святы абавязак — дзяжурства па паверху: раніцай — адчыніць кухні, увесь дзень быць ля тэлефона, каб паклікаць каго трэба, а вечарам пліты вымыць, кухні зачыніць… Вось тут наша Карменка рабілася беднай Лізай: то не здаровілася ёй, то дарагога лаку на пазногцях псаваць не хацелася, то нехта з радні раптоўна ледзь богу душу не аддаваў. І выхавацелі з ёю размаўлялі, і загадчыца папярэджвала, і на савеце разбіралі яе адносіны да абавязкаў дзяжурнага… А з яе як з гусі вада! Я ёй неяк кажу: «Замуж выйдзеш — хто пліту мыць будзе? Муж?..» — «Муж! — адказвае. — Калі не здолее мне служанку наняць». — «І кухара?» — кплю. — «Абавязкова!» — і кажа так упэўнена, што можна падумаць: так яно і будзе. Недарма ж пад’язджаюць і «мерседэсы», і «вольвы», каб забраць нашу прыгажуню. Куды едзе, з кім — мы пытацца не маем права, калі гэта адбываецца да дваццаці трох гадзін: «свабода асобы», гарантаваная Канстытуцыяй, у нас забяспечваецца.

А калі нікуды не едзе, то паклоннікі тут як тут: і з кветкамі, і з каробкамі… Можа, і з бутэлькамі ў кейсах? Не праверыш, але і не прапусціць нельга: прыходзяць у адпаведны рэжыму час, выходзяць у час… Што яшчэ гадзіну якую ў вестыбюлі бавяцца, дык не адна яна такая. Брыдка глядзець: абдымаюцца, цалуюцца, на калені да хлопцаў садзяцца. Выхавацелі заўвагу зробяць, дык некаторыя адпор даюць: маўляў, вы несучасныя; мы, маўляў, ужо дарослыя, і ўвогуле, ідзе сексуальная рэвалюцыя... А мы глядзім і думаем: і куды гэтая рэвалюцыя прывядзе? Адно суцяшае, такіх «прасунутых» у нас няшмат. А самай «прасунутай» была наша Кармен: вісіць у хлопца на шыі, увап’ецца губамі, аж жалвакі хадуном ходзяць… Ну чаму ж хлопцу, у такім выпадку, сваю руку ніжэй яе таліі не апусціць?

Але ж недарма кажуць: колькі вяровачцы ні віцца… Роўна ў дваццаць тры гадзіны

развіталася Кармэнка са сваім жаніхом, так яна яго, гаспадара «мерседэса» і катэджа, нам прадставіла. Аляксееўна адключыла ліфты, я зачыніла дзверы на ключ і мы селі піць гарбату… І раптам чуем: гвалт, тупат па лесвіцы, і перад намі з'явіўся цэлы натоўп, сярод якога стаяла, апусціўшы галаву, наша Кармэнка ў вобразе «беднай Лізы», а яе «жаніх» размахваў рукамі, адбіваючыся ад міліцыянтаў, якіх выклікалі, і нашых дзяжурных атрадаўцаў. І размахваў так, што са злосці тэлефон на стале старшых дзяжурных разбіў. Курсанты нашы — хлопцы вытрыманыя і натрэніраваныя — рукі яму заламалі і павялі куды трэба, а ён усё выкрыкваў пагрозы ў бок нашых хлопцаў.

Мне аж нядобра зрабілася: у маё дзяжурства пасля дваццаці трох гадзін — чужы чалавек у інтэрнаце… Значыцца, мая віна. І тут суседка Лізы па пакоі, каб мяне супакоіць, кажа: «Вашай віны, Аляксандраўна, тут няма. Гэта мы курсантаў папярэдзілі. Абрыдла нам гэтая бясконцая «Кармен-сюіта». Да заняткаў рыхтавацца іду то да сяброўак, то ў вучэбку… А спаць як?.. На чорта мне іхнія тарты ды шакаладкі. І шампанскага я не п'ю, — працягвала дзяўчына, гледзячы Лізе ў вочы. — Я хачу спакойна жыць, вучыцца, спаць…»

Ліза нешта спрабавала сказаць у сваю абарону, маўляў, у нас — каханне… пажэнімся… «З такімі, як ты, не жэняцца…» — асмялеўшы, сказала дзяўчына і пайшла, а Ліза, зніякавелая так, што яе было ўжо і шкада, засталася з намі, і я падышла да яе.

— Скажы мне, дзіця, як твой бойфрэнд зноў апынуўся ў цябе?

— Падняўся па балконных пераkладзінах, — не адразу прызналася дзяўчына.

— Па дамоўленасці з табой? — Маўчыць. — А каб сарваўся?

— Ён альпініст! Не сарвецца…

— А дзе ў нас Альпы?

— Ой, ну і пытанне. Не ў нас, а на Каўказе…

— А як яны туды перабраліся?

— Пры чым тут перабраліся?

— Дык жа Альпы, як мне помніцца з урокаў геаграфіі…

— Ой! Ну так называюць усіх, хто па гарах лазіць умее.

— Дзякуй! Прасвяціла… А цяпер адкажы мне: ну няўжо ты за цэлы вечар не нацалавалася? Прабач за пытанне…

— Ну, такі ў мяне тэмперамент, — без усялякай збянтэжанасці адказала Ліза і, больш таго, дадала: — Я ж не вінаватая, што ад мяне мужчыны ў адпадзе… Ну, падабаюся я ім…

— І даўно падабаешся? — не вытрымала Аляксееўна.

— Даўно… Ажно з пятага класа…

— Бедная. Бедная ты дзяўчына, Ліза, — спачувала Аляксееўна.

— Чаму бедная? Мне ўсе дзяўчаты зайздросцяць. Думаеце, чаму мая суседка выдала мяне…

— Яна сказала, чаму міліцыю паклікала, — перабіла вахцёрка Лізу. — Я на яе месцы даўно б гэта зрабіла.

— А вы што, маладой не былі? — не здавалася Кармен.

— Была. І хлопцам падабалася не менш, чым ты. Толькі да мяне, дзякаваць богу, па балконах не лазілі.

Прамову Аляксееўны перарваў нарад міліцыі і іх пытанне: «Дзе затрыманы? Няхай вядуць сюды!»

Затрыманы ўціхамірыўся, а на развітанне сказаў сваёй Кармен на блатным жаргоне: «Жывы буду — не забуду»— і знік у «варанку»…

Дзяўчына толькі лыпала сваімі матылькамі-вейкамі, і тады адзін з курсантаў сказаў ёй: «Ён вазіў цябе на машыне, якая другі год знаходзіцца ў вышуку». Пасля гэтых слоў дзяўчына захлюпала носам і паплялася ў тапках (з мордачкай мопса) да лесвіцы. Ліфты ж ужо не працавалі. Я ўявіла яе стан: у адзін момант знік «круты жаніх» з «мерсам», катэджам, прыслугай… І ўвогуле: ён жа бандыт, а не камерсант… Ён ёй хлусіў… Ён жа ведаў, што колькі вяровачцы ні віцца… А абяцаў горы залатыя… І яна верыла, усім раззванілa… Так, пэўна, разважала дзяўчына, цягнучыся аж на дзявяты паверх. Вось цяпер пра яе можна было сказаць: «Бедная, бедная Ліза!». І захацелася мне папрасіць за яе: «Анёл Божы! Ахоўнік Лізаветы! Засцерагай яе ад вачэй спакуснікаў…»

## ДЭЗДЭМОНА

Ёсць у нас, як кажуць, і нестандартная парачка: гэта «Дэздэмоначка» са сваім Мігелем… Сціплыя развітальныя пацалункі ў шчочку і ручку… і Зіначка вяртаецца да сябе. Мігель глядзіць ёй услед, аж пакуль

яна не знікае за дзвярыма ліфта, усміхаецца бела-зіхоткай усмешкай, жадае нам добрай ночы і развітваецца аберуч з нашымі шалапутамі. Ну, а як іх назавеш: з-пад шырокіх калашын — шлёпанцы, на плячах расцягнутыя майкі, і ўсё гэта на фоне элегантнага, ва ўсім з іголачкі, Мігеля. Усе лічаць яго Зіначчыным жаніхом… Поўнай упэўненасці, канечне, няма, хоць Зіначка наша — цуд прыроды: смуглявы тварык, на якім аж свецяцца вялікія шэрыя беларускія вочкі, тоне ў капе белых, кучаравых валасоў… Высокая, вытанчаная: усё ў яе падабрана з густам. Рэчаў няшмат, але ўсе дыхтоўныя. Не падумайце толькі, што гэта Мігель яе апранае. Не. Яны ж толькі на трэцім курсе пазнаёміліся. Але ўжо з першага прыходу да нас гэты статны, прыгожы чорны чалавек выклікаў нашу ўсеагульную павагу: ні дня без кветкі і пацалунка Зіначчынай рукі. А галоўнае — ніякіх доўгіх пасядзелак у пакоі, бо, канечне ж, лепш прайсціся па парку, схадзіць у кіно ці на спектакль, наведаць выставу ці пасядзець за столікам дзе… А пазнаёміліся ж на дыскатэцы. Праўда, больш яны туды ні нагой, як кажа Мігель, які ажно вушы закрывае, калі ўспамінае той шум і гам, але не пакідае паўтараць, што Дэзі, так ён называе Зіначку, туды наш добры Бог паслаў, за што іхні Бог вельмі ўдзячны нашаму.

— Дык вы, Мігель, лічыце, што іх два? — пытаюся.

— Ну, мы ж… разумныя людзі, — ззяе белазубай усмешкай хлопец, з цяжкасцю вымаўляючы словы на чужой яму мове. — Усё разумеем. Але як… прыемна… гэтак думаць! Праўда, каханне маё? — і, цалуючы яе руку, працягвае. — Я ж не хадзіў на гэтыя дыскатэкі. І Дэзі не хадзіла. А нашы багі схацелі, каб мы… сустрэліся, і мы… туды прыйшлі! І сустрэліся! І шчаслівыя! Ты шчаслівая, радасць мая?

— Мы больш туды не пойдзем, — каб схаваць усхваляванасць, загаварыла Зіначка.

— Як… скажаш, мілая, — пагадзіўся Мігель і патлумачыў нам: «Там… ж… жахліва!.. Давіць на… вушы, галаву… Потым… як гэта, дарагая?.. А… Дрэнна пахне: алкаголь… цыгарэты, наркотык… Страшна! Псуюць моладзь… — Звярнуўся да прысутных. — Раю не хадзіць! Хіба толькі адзін раз… Калі багі захочуць, каб сустрэліся дзве палавінкі…

Калі яны выйшлі, я звярнула ўвагу нашых хлопцаў, якія цікавалі непадалёк:

— Вы чулі? За нейкія хвіліны ён Зіначку назваў і «любоў мая», і «мілая», і «радасць мая», і «дарагая»… Дык вось, ведайце: словы гэтыя не для чараў, а для душы. А вы — сваімі пацалункамі па-французску ды абнімонамі — толькі ніжнія чакры будзіце. Разумееце мяне?

— Разумеем…

— Якая вы разумная!.. Што вы закончылі?

— Толькі дзесяць класаў. Але ўсё жыццё вучуся: кніжкі чытаю. А вы ж ведаеце: кніга — чарадзейны сад, дзе шмат цудоўнага і карыснага.

Праз гадзіны дзве Зіначка спяшалася да сябе, але яе затрымалі дзяўчаты, якія дзяжурылі ў вестыбюлі.

— А ты не баішся, што твой Атэла можа задушыць цябе, як Дэздэмону?

— Не баюся. Па-першае, Мігель вельмі стрыманы мужчына, а па-другое, — я не буду нават насоўку губляць …

— А калі дзеці будуць чорненькія?

— Дзеткі нашыя будуць мулацікамі… Во такія, — Зіна палезла ў сумку.

— І ты паедзеш з ім у Афрыку?

— Мігель застаецца тут. Ён вось-вось атрымае беларускае грамадзянства.

— А покліч продкаў?

— У Мігеля тут ёсць брат і сястра, — ашаламіла ўсіх нас Зіначка і паказала фота, дзе яна на пляжы сярод бела-чорнага натоўпу. — Гэта сястра Джо, яе муж Пётр і іх дзеці.

— Ой, і праўда — мулацікі. Якія прыгожыя! — падала свой голас Аляксееўна.

— А гэта брат Жак і яго жонка Соня, — працягвала Зіна. — Іх дзеці і бабуля.

— Беленькая? Твая будучая свякроўка? — не ўтрымалася я.

— Не. Мая хутка прыедзе. Гэта маці Джо і Жака. Калі бацька Мігеля вучыўся ў «радыётэху», у яго была тут сям'я. Толькі ён вучыўся на сродкі сваёй дзяржавы, таму абавязаны быў вярнуцца і працаваць там. Жонка ехаць не захацела, а дзяцей ён не забраў, бо там было вельмі неспакойна, ішлі войны, бунты…

— У яго там другая жонка? — спытаўся нехта.

— Канечне! Другая сям'я. А першай жонцы ён дапамагаў гадаваць і вучыць дзя-

цей. Мігеля вучыць ужо за свае грошы, таму ён не абавязаны вяртацца. Жонкі ладзяць, дзеці сябруюць…

— А бацька ці прыязджае? — спыталася Аляксееўна.

— І бацька прыязджае. Маці, праўда, часцей. А гэты раз яны едуць удваіх: вязуць грошы на кватэру Мігелю і абсталяванне для кабінетаў, у якіх будзе працаваць уся іх сям'я: яны ж усе медыкі.

— Будзе прыватная клініка?

— Не зусім прыватная. Пяцьдзесят адзін працэнт акцый будзе належаць дзяржаве, а сорак дзевяць яны пакінуць сабе. Затое дзяржава дае ім адпаведнае памяшканне. Словам, едуць інвестыцыі.

— Ну, а ты ўзначаліш бухгалтэрыю, — заключыла я.

— Ну, Мігель называе мяне будучым фінансавым дырэктарам...

— О! То будзеш справу мець са мной, — умяшаўся ў гаворку наш Валёк.

— І цудоўна. Свой чалавек у падатковай…

— А ў якім раёне ты, Валік, працаваць будзеш? — пацікавілася я.

— Не скажу… Сурочыце яшчэ… — смяецца хлопец.

— Няўжо я такая дрэнная?..

— Ну што вы, Аляксандраўна! Вы самая чулая і добрая жанчына… Але не скажу пакуль…

— А возьмеш каго з нас? — спыталася Ліля, якая стаяла побач з Валянцінам.

— Цябе вазьму… і яшчэ сяго-таго прыглядзела… Так што… усё будзе о'кей!

Менш як праз месяц прыехалі бацькі Мігеля і ў сонечны майскі дзень завіталі да нас.

Мне, як заўсёды, пашэнціла: да маёй рукі дакрануліся вусны мужчыны, ад кучаравай галавы якога ішоў дзіўны пах парфумы. Мне даводзілася і раней працаваць з афрыканцамі, але яны былі пераважна хваравітымі, худымі… А гэта парачка была задаволенай, дагледжанай, амаль еўрапейскай з ног да галавы. Мігель стаяў крыху збоку.

— Я тата, — падбіраў словы мурын, — гэтага хлопца. — Я кіўнула. — Мы… ідзём… да яго дзяўчыны… нявеста…

— Праходзьце, калі ласка. Яна вас чакае…

— Дзякую, калі ласка, — сказаў мужчына і зноў пацалаваў мне руку. — Мая першая жонка была беларуска. Яна казала: чаго, трапка. Усе смяяліся, а я… кахаў і мне… падабалася.

Госці былі ўжо ў ліфце, калі я ўспомніла, што не ўзяла ў іх дакументаў, таму запісаць у кнігу наведвальнікаў не было чаго, хіба што пацалунак з рукі прыпячатаць. Але яны доўга не затрымаліся: выйшлі ўжо ўчацвярых.

— Як у вас… добра! — зашчабятала маці. — Чыста, утульна… Я вучылася ў Смаленску. Жыла ў… інтэрнаце. Там было… кепска: дым з цыгарэт… прусакі… А ў вас — добра! Выдатна!.. Дзякуй! — Яна паціснула мне руку і патлумачыла: — Мы забіраем Дэзі… На вячэру ў рэстаран… Не хвалюйцеся… Заручыны будуць.

Гэта мы ўжо ведалі ад іхняй Дэзі, а нашай Зіначкі і маёй Дэздэмоначкі. Сёння ў іх заручыны… Будуць усе сваякі. Нумары ў гатэлі заказаны.

А заўтра ўсе едуць да Зіначчынай маці (аўтобус таксама заказаны) рабочай ільнокамбіната ўсяго толькі. Зіна хацела, каб маці з сёстрамі прыехала ў Мінск, але Элеанора, маці Мігеля, сказала, што ў іх заведзена бацькам і родзічам жаніха ехаць да маці нявесты з вялікімі падарункамі… Добрая завядзёнка. І прымуць іх добра, як у нас, беларусаў, заведзена. Кватэрка ў іх маленькая, але, я ўпэўнена, — чыстая і ўтульная, як і пакойчык дачкі ў нас.

Добрай вам дарогі, дарагія людзі. Мы не супраць парадніцца. Няхай у нас растуць дзеткі і чорненькія, і жоўценькія, і ўсякія-ўсякія. Прыток новай крыві нам не пашкодзіць. А галоўнае, дзякуй богу, і нашым людзям, і нашым уладам, няма ў нас пакуль зацятых скінхэдаў. Барані, Божа, ад гэтай навалы і пашлі нашым маладым шчаслівай долі!

## ВАЛЁК

Дзверы інтэрната адчыняюцца ў шэсць гадзін раніцы. І амаль нікому з маіх калегаў будзільнік не патрэбен. Наш будзільнік — Валёк. А Валёк — гэта такі калабок, які коціцца з дзявятага паверха… Чаму коціцца? А тут па-іншаму не скажаш. Уявіце сабе: рост — сто шэсцьдзесят з хвосцікам, плечы — маладзецкі сажань, грудзі — рыцар у даспехах, лапа мядзведзя ў красоўках пад

шырачэзнымі калашынамі. А заканчваецца гэты «куль» ротам з вуснамі, раздзеленымі глыбокай складкай папалам (ну не інакш як палец доўга ссаў), невялічкімі вачанятамі і шыкоўным чубам. А коціцца да суседняга па двары інтэрната, дзе ён падзарабляе — працуе дворнікам.

Пра гэтага хлопца можна гаварыць і гаварыць, бо сам ён заядлы маўчун — эстонца перамаўчыць.

Але вось цікава: маўчыць, а ты яго разумееш; па вачанятах чытаеш, па ямачках на шчоках. Слухае ўважліва, а адказвае не адразу. А як аказалася, ён не проста слухае: мазгі ў яго ўладкаваны так, што ён пачутае перакладае на зразумелую яму родную мову.

— Валёк! А як жа ты вывучаеш прадметы, якія выкладаюцца на рускай мове, — пыталася я.

— Ну… уключаю свой камп’ютар і нібы бачу пераклад на нашу мову, а на ёй я ўсё запамінаю імгненна, — усміхаецца хлопец. — Натрэніраваўся, калі падпаскам быў з вясны да восені.

— Значыцца, рускую разумееш…

— Разумею.

— Чаму не гаворыш на ёй?

— Не ўмею. А на трасянцы саромеюся… — Памаўчаў і дадаў: — Дзякаваць богу, у нас дзве дзяржаўныя мовы. Інакш мне б «корачак» не відаць.

— А на заліках, экзаменах?..

— Усё гэтак жа. Самае цікавае, — разгаварыўся наш маўчун, — як мяне выкладчыкі ўспрымаюць: слухаюць, нават ківаюць, вымушаны слухаць. Не, яны, канечне ж, галоўнае разумеюць, мае схемы, разлікі бачаць. А гэта ў мяне заўсёды выдатна выходзіць. Але высокіх балаў не ставяць.

— А ў інстытуце як будзеш? — пытаюся.

— Гэтак жа. Тытульная мова не знікне.

— А з кліентамі?

— І з імі паразуменне знайду. Яны мову чуюць па радыё? Разумеюць жа! І мяне зразумеюць, калі пастараюцца.

Гэта была, бадай, самая доўгая размова майго суразмоўцы.

Валёк — круглы сірата. Бацькі разбіліся, калі везлі яго на трактары з дзіцячага садка. Уцалелага хлопчыка гадавала бабуля. Ды і яна памерла, калі Валёк перайшоў у адзінаццаты клас. Хлопец кароўку адразу здаў, бацькам і бабульцы помнік паставіў, магілкі агарадзіў. Парсюка падгадаваў і таксама здаў, а грошы ўжо ў банк паклаў. Сабе пакінуў чатырох курачак, каб мець яечню на раніцу. Казу Жэку аддаў суседцы і меў за гэта кожны дзень шклянку малака. Ну, а пенсіёна за бацькоў яму хапала на жыццё без асаблівых патрэб. Да працы з маленства прывык: вось і вырас такім здаравячкомбаравічком.

І ў горадзе жыў — не тужыў: стыпендыю атрымліваў, плюс заробак дворніка. А яшчэ дзяўчаткі інтэрнацкія яго любілі, для ўсіх ён быў мілым сябрам. Выхавацелі часта жартавалі: «Ну колькі ў нас Валькоў? Куды ні глянеш, у які пакой ні зойдзеш — ён там, сонейка наша».

— У мяне радоўка, — жартаваў Валік. — Я каб нікога не пакрыўдзіць… Яны ж усе смачна вараць… А я люблю паесці…

— А дзяўчат ці любіш?

— Люблю.

— Таксама па радоўцы? — жартую. — Усіх аднолькава?

— Ну, можа, і неаднолькава, — стушаваўся Валік.

— Ну, а каго ж больш за ўсіх? — пачала дапытвацца я.

— Ой, Аляксандраўна! Якая ж вы хітрая.

— Няўжо закахаўся? — не ўтрымалася і ліфцёрка.

— Даўно! — заскакалі ямачкі на шчочках.

— І ў каго ж? — працягвала яна.

— А не скажу.

— Гэта ж чаму, дзіця? — дзіўлюся я.

— А вам толькі скажы…

Я паказваю, маўляў, рот зашыю, а ён смяецца:

— Не. Памаўчу лепш. Я ёй пакуль не пара.

— Дык яна і не ведае? — здзівілася Аляксееўна.

— Не ведае.

— А не згубіш яе, маўчун ты наш?

— Калі мая — не згублю. А не мая — што зробіш. Лёс вырашыць. — І тут яго зноў прарвала: — Калі-небудзь я пад’еду… на неблагой машыне… не на «капейцы», ва ўсякім выпадку…

— На «мерсе»? — падахвочвае ліфцёрка.

— Не. На «пежо», скажам…

— А дзе ж грошы возьмеш?

— Ну, я ж і хату прадаў… Там працы мне ўсё адно не будзе… І потым, кожны месяц паўзаробка я ў банк кладу… дакладваю да парсюка і хаты.

— І куды ж ты паедзеш? — накіроўваю гутарку ў патрэбнае рэчышча.

— Ведаю, куды. Але не скажу. Вось толькі «корачкі» атрымаю…

— Дыплом?..

— І дыплом, і правы — як атрымаю, так і куплю… І пад’еду…

— А як яна не дачакаецца, з’едзе куды?

— Не з’едзе. Яе Зінка абяцала ўзяць… Ой! Лапух…

Мы пераглянуліся і зрабілі выгляд, што не зразумелі, каго ён мае на ўвазе. Лілю, аказваецца.

— От праўду кажуць, язык што памяло… — шкадаваў хлапец.

— Ды не перажывай ты! Ці мала каму Зіна паабяцала, — супакойвалі мы Валіка. — То грошы можа, лепш бы на кватэру.

— На кватэру не хопіць… А добрую машыну будзе за што. Яшчэ і застанецца…

— А жыць дзе будзеш?

— У суседзяў. Абяцаюць даць пакойчык, абы толькі застаўся дворнікам.

— І справішся?

— А чаму не. Мне венікам памахаць ці лапатай — што зарадку зрабіць… Галоўнае, дах над галавой будзе. Машына будзе… Ну, і пачну на кватэру збіраць… Крэдыт вазьму, калі тэрмінова спатрэбіцца…

— Калі ажэнішся? — падхапіла яго мары Аляксееўна.

— Дасць бог і ажанюся, — засмяяўся Валік і пайшоў за дзяўчынай, якая прыбегла па яго, бо недзе замок заклініла, ключ не праварочваецца… Ён жа на ўсе рукі майстар у нас.

А я села і ўявіла сабе: вось Валік пад’язджае да пад’езда, адчыняе дзверцы свайго «пежо» і запрашае ашалелую ад здзіўлення Лілю пакатацца… Дай, Божа, ім паразуменне на доўгія-доўгія гады. Ліфцёрка глядзіць на мяне і кажа:

— Ведаю, аб чым ты думаеш. Лілька добрая дзяўчынка. Дай, Божа, ім шчасця.

## ДЗЮЙМОВАЧКА

Усё ж мы вылічылі, у каго быў закаханы наш Валёк. Гэта была Лілі, дакладней — Лілія, а па-інтэрнацку — Лілька. Але мы лічылі, што ёй падыходзіць больш наша мянушка. Уявіце сабе гэта божае стварэнне: рост ледзь-ледзь за сто пяцьдзясят, вага — меней за пяцьдзясят; худзенькі бледны тварык, які не ведае касметыкі; прамыя доўгія светла-русыя валасы, сабраныя ў хвост; на нагах боцікі на тонкіх абцасіках; шыкоўнае футра з чорна-бурай лісіцы і ў руках вялікая для яе фігуры, і ў самы раз пад яе, сумка з натуральнай скуры і пальчаткі ў тон ёй.

— Ну і Валёк! — ківае галавой Аляксандраўна. — Сам з мятлой, а на такую багачку губу раскатаў.

— Ніякая яна не багачка, — усцешвала я сваю каляжанку. — Жыве вельмі і вельмі сціпла. Мне неяк маці яе вось што распавяла: яны з мужам прадалі бацькоўскую хату, узялі крэдыт і заняліся бізнесам. Спачатку справы пайшлі добра: выкупілі магазін, зрабілі добры рамонт кватэры, абсталяваліся новаю мэбляй… Дзве дачкі-пагодкі ў іх. Старэйшая — прыгажуня, а Лілечка, як яны лічаць, цыплянё і толькі. Вучылася добра, лепш за старэйшую, але паступіла ў наш каледж толькі на платнае. Прывезлі яны сваю Лілечку яшчэ на сваёй машыне і заплацілі наперад за год цэлы… А ў кастрычніку згарэлі і машына, і магазін… Муж, рызыкуючы жыццём, вынес сёе-тое, у тым ліку і гэтае футэрка. Апранула Лілечка футра і, як падалося бацькам, ператварылася ў міленькую Дзюймовачку. Вось яны з мужам і вырашылі, што як ім ні цяжка фінансава, а яго пакінуць дачцэ. Маці падарыла ёй сваю сумку і пальчаткі… Словам, апранулі яе багата, бо ведалі, што яна акуратыстка, за рэчамі сваімі сочыць, беражэ, ёй надоўга іх хопіць.

— Во яно што! — падзівілася ліфцёрка. — А я іншы раз дзівілася: такая багачка сціплая… Ніякай касметыкі, ніякіх чыпсаў і кока-колаў…

— Не да гуляў ёй. Перавялася ж на бюджэтнае… Цяпер стараецца ўтрымацца…

У футры наша Дзюймовачка ходзіць ад першых да апошніх халадоў, а ў астатні час — у светлай куртачцы і тады сваю шыкоўную сумку носіць ужо на плячы. Ёсць яшчэ ў Лілечкі доўгі шалік, які яна выкарыстоўвае ў разнастайнейшых варыяцыях, асабліва зімой, калі марозіць. І ўсё ёй пасуе.

Дамоў Ліля ездзіла рэдка — дарога дарагая, — а за перадачамі хадзіла да цягніка, і заўсёды ў суправаджэнні Валіка.

Вольны час бавіла з карысцю: хадзіла на канцэрты ў кансерваторыю, на выставы,

прэзентацыі… Ну, як цяпер кажуць, — тусавалася.

— Лілечка! — кажу аднаго разу. — Што ж ты Валіка бярэш толькі торбы ад цягніка цягнуць. Узяла б яго ў кансерваторыю на канцэрт… Там жа ўваход вольны?

Яна пацвердзіла кіўком, але ў размову не ўступіла. Затое Валік, гледзячы на мяне з дакорам, пачаў выгаворваць:

— Ну што вы, Аляксандраўна, зрабілі? Навошта?.. Ну куды я з ёю пайду?.. У чым?.. У джынсах і куртцы… Ды ў такім выглядзе я і магу толькі торбы цягаць… Не, пакуль я ёй не адпавядаю.

— А прызнайся: для яе аб машыне марыш?

— От, Аляксандраўна!.. Ну не пара я ёй пакуль…

І ўсё ж Ліля павяла-такі яго на канцэрт у кансерваторыю.

— Ну, як канцэрт? — пытаюся.

— Пілікалі нешта на скрыпцы…

— Не спадабалася? — пашкадавала я.

— Непрывычна. Во калі саксафаніст заіграў — клас!

— Не пойдзеш больш? — працягваю допыт.

— Ага, не пойдзеш… З вашых жа старанняў ідзём сёння мяне апранаць па модзе.

— Дзіця маё дарагое, як я рада! З кім ідзеш? З Лілечкай?..

— ...І з Зіначкай. Яны рашылі, што мне трэба купіць добры світар, боты на платформе, шалік доўгі белы і чорнае паліто…

— Ой, я ўжо ўявіла цябе ва ўсім гэтым. Купляй! Не шкадуй грошай…

— Ну, зняў трохі… Што застанецца, зноў пакладу. Вы ж ведаеце маю мару…

Роўна праз тры дні, у чарговае маё дзяжурства, я ўбачыла побач з Ліляй элегантнага маладога чалавека, які мала ў чым саступаў Мігелю! Гэта ўжо Зіначка пастаралася, падумалася мне.

— І куды ж вы, такія прыгожыя, сабраліся? — пытаюся.

— На канцэрт, — сказала Ліля і пайшла да выхаду, а Валік затрымаўся.

— Аляксандраўна! Міленькая! Вы ж хоць пра машыну нікому не скажыце!

— Будзь спок, дзіця! Ідзеш зноў мучыцца?

— Трэба прывыкаць да культурнай музыкі. А ўчора былі на прэзентацыі.

— Спадабалася?

— Цікава!.. Трэба ж быць у курсе, — сказаў са шчаслівай усмешкай і кінуўся даганяць сваю каралеву…

А мне было цікава: ці ведае Ліля аб пачуццях Валіка? Няўжо не здагадваецца? Ну і канспіратар наш Валёк тады. І ўсё ж мне здаецца — разумее, адчувае наша Дзюймовачка, што займела на ўсё жыццё не толькі сябра. Разумее, але выгляду не падае. Яна дзяўчына няпростая, не па гадах мудрая і разважлівая… Ці ўбачу я іх калі разам? І ўявілася мне такая карціна: Ліля — усё такая ж далікатная беларуская француженка — і мужчыністы Валёк вымаюць з задняга сядзення «пежо» люлечку са сваім першынцам… Чаго ім і жадаю. Памагай ім, Божа! Памажыце ім, Анёлы Божыя — Ахоўнікі, Уразуміце, у добрую сям'ю аб'яднацца.

## ШАНТАКЛЕР

Так я называю Надзейку. Высокая, пышнацелая, светлавалосая; з вялікімі шэрымі вачыма, адцененымі чорнымі вейкамі, з ямачкамі на шчочках, якім ніякія румяны не патрэбны. Ну, завяжы ёй хустачку — кустодзіеўская прыгажуня. А яна валасы падыме, маленькія вушкі лёгкімі завіткамі прыкрые — і ўжо вытанчаная свецкая дама… Зацягні ў гарсэт — і гатовая Каралева Шантаклер, на якой рэдкае вока свой погляд не супыніць. Смелая, раскаваная, што цяпер адным словам называецца — камунікабельная, і ў той жа час мяккая, далікатная, добрая. Заўсёды ў акружэнні маладых людзей, з якімі аднолькава ветлівая. Мне здавалася, што і яна чакае прынца на лімузіне.

І вось на апошнім курсе ён з'явіўся. Праўда, без лімузіна і толькі пры курсанцкіх пагонах, але хлопец відны.

— Выбар ухваляю! — шапнула ёй. — Усе генералы калісь былі курсантамі.

Яна згодна кіўнула, засмяялася і, падаючы яму кнігу рэгістрацыі, пажартавала: «Пакіньце свой аўтограф, мой будучы генерал!..»

Будучы генерал кожнае звальненне быў у нас і стаў «сваім у дошку», як казалі яе суседкі: сядзіць жа з імі, пакуль яго Шантаклер-актывістка чарговы сцэнарый піша ці з плакатам возіцца… Надзька ж не толькі вучыцца. Яна яшчэ культсектар узначальвае і спортам займаецца. Словам, яна

ўсюды, як той Фігара… Толькі не на кухні. Кухня — яе «слабое звяно»: то бульбачка падгарыць, то булёнчык выкіпіць… А вось зусім нядаўна такое ўтварыла, што яе беднаму «генералу» давялося папацець не менш як у час шматкіламетровага прабегу… Але тут усе ўбачылі і адваротны бок медаля, як гаворыцца: ён гатовы не толькі да абароны Радзімы, але і да подзвігаў на сямейным фронце.

А здарылася вось што: паставіла Надзька варыць банку згушчонкі, маўляў, пачастую — пальчыкі абліжа. Тут яе запрасілі ў выхавацельскую… Яна ж, канечне, пачала ім выкладваць ідэі, план мерапрыемства абмяркоўваць… І не толькі пра «генерала» свайго, а і пра згушчонку забылася… Успомніла, калі пачула равун пажарнай бяспекі… Пабегла, лямантуючы… Ды было ўжо позна: амаль чорная каструля шыпела парай пад струменем халоднай вады, праз дым было відаць, як па белай кафлі паўзлі карычневыя тоўстыя «п’яўкі», а яе «генерал» у адных шкарпэтках, кашляючы, адчыняў вокны. Надзя закрыла рукамі твар і стаяла так, пакуль скразняк не выцягнуў дым і смурод. За гэты час у кухню набілася людзей і, калі Надзя адкрыла твар і ўбачыла, куды накіраваны вочы прысутных, ёй хацелася праваліцца ў пекла: нядаўна пабеленая столь над плітой была ўсеяна карычневымі «барадаўкамі». Не сказаўшы ніводнага слова, бо ўсе бачылі яе стан, прысутныя разышліся. Засталіся толькі дзве блізкія сяброўкі і Дзіма. Адна пачала здымаць фіранкі, на якіх віселі салодкія наплёхі, другая схадзіла па вядро і анучу, Дзіма ж раздабыў лязо, і работа закіпела: Таня змывала з кафлі салодкае рэчыва, а Дзіма стаяў на стале і акуратненька гэтым тонкім інструментам зразаў тыя брыдкія «барадаўкі» сабе ў далонь. Нарэзаўшы, перадаваў іх у руку Надзеі, якая так і стаяла як непрыкаяная. Калі шукала, куды б іх выкінуць, выявіла, што ў вядры ёсць яшчэ адна ануча, і пачала дапамагаць Таццяне.

Потым Дзіма папрасіў яе прынесці кубак з вадою і касметычны пэндзлік… Што ён там маляваў — не ведаю, але калі я паднялася на этаж, каб паглядзець кухню, там ужо быў парадак: віселі чыстыя фіранкі, блішчалі сцены і падлога, а галоўнае — столь была беленькай, як пасля рамонту. Дзіма стаяў ля яшчэ бледнатварай Надзькі і падбадзёрваў яе: «Ну глянь! Парадак у танкавых войсках!.. Галоўнае, сама не пацярпела. А магла ж бы: так бляшанку разарвала…» — «Шчасце, што нікога не было!.. — прашаптала Надзя. — Барані божа, каб хто гатаваў у гэты час…»

Адным словам, інцыдэнт закончыўся з мінімальнымі стратамі: прапалі пэндзлік і запланаваны культпаход у кінатэатр.

Надзя правяла свайго госця, а калі вярталася, я яе затрымала.

— Ну, дзеўка, такога хлопца не губляй! І рукі ў яго залатыя, не толькі сэрца…

— Я з вамі згодна: хлопец цудоўны…

— Ён казаў, што таксама вучобу закончыў. — Надзя кіўнула, а я працягвала: — А куды ж яго пасылаюць, ці ведаеш? Хоць з мілым рай і ў будане, як гаворыцца…

— …Калі ён на беразе Чорнага мора, — дадала Надзя і рассмяялася.

— Не пойдеш за лейтэнанціка?

— Куды мне?.. Па-першае, трэба закончыць ВНУ…

— А па-другое?

— Я не для каструль… Самі ж ведаеце… Яны ў мяне гараць з хуткасцю ветру. Мужа-лейтэнанта на адных каструлях з торбамі пушчу…

— Ну некалі ж прыйдзецца навучыцца і гэтаму рамяству…

— Не!.. Лепей я навучуся зарабляць добрыя грошы, каб наймаць памочніцу па гаспадарцы…

— Калі ж гэта будзе? — уздыхнула я.

— А мне спяшацца няма куды. Мае бацькі пажаніліся ў трыццаць… І бачыце, якую дачку выгадавалі.

— А Дзіма як?.. А ўнукаў бацькам калі?

— А Дзіма не першы і не апошні… І ўнукамі бацькоў парадую, як прыйдзе час…

— Дзіма ці ведае пра твае планы?

— Ведае. Абяцае чакаць і рабіць кар’еру. Ну ўявіце сабе мяне ў маленькім ваенным гарадку, дзе жонкі толькі і абмяркоўваюць прыбіранкі і гатаванкі ды абмываюць адна адной костачкі… Я ж там буду як слон у пасуднай лаўцы…

І я ўявіла сабе нашу Шантаклерку побач з маладзенькім лейтэнанцікам… А на яе ж вочы будуць пяліць капітаны, маёры, а мо і падпалкоўнікі. Пойдуць плёткі… Пачнецца рэўнасць… Мае рацыю, думаю, дзяўчына, але кажу ёй:

— Усё ж да трыццаці гадоў цягнуць не варта…

— Добра! — пагаджаецца Надзя. — Адкладу толькі да заканчэння ВНУ і першага павышэння па службе… І не турбуйцеся: мой мне будзе… — сказала, памахала рукою на развітанне і заспяшалася да ліфта.

Значыцца, адукацыя, кар'ера на першым месцы… Што ж, сучасна!.. Няхай Бог табе дапамагае!.. — паслала ёй пажаданне наўздагон і ўзялася правяраць спіс наведвальнікаў, бо надышоў час ім развітацца з нашым ветлівым і ўтульным інтэрнатам.

## ВАСЯМНАЦЦАЦЬ РУЖ

Не бывае клумбы без пустазелля, якое калі вырваць — парушыцца гармонія. Так і ў калектыве: завядзецца, бывае, чалавек з чарвяточынкай і нікуды яго не дзенеш, каб жыццё яму не паламаць.

Вось такой і была наша Маруся. Няветлівая, грубая. Кіне праз плячо: «Добры дзень» — і пойдзе, галаву задраўшы. Словам, галаўны боль для студсавета. Колькі разоў ужо яе туды выклікалі: то курыла ў пакоі, то выпівала, то да дзяжурства не прыступала, а то і суседку пабіла… А ёй хоць бы хны: вучыцца добра, ды яшчэ і на платным… І бацькі прыстойныя: маці — настаўніца, бацька — начальнік цэха, дзве малодшыя сястрычкі. А яна як тое пустазелле: усім вочы рэжа.

І вось неяк заяўляецца наша Маруся з вельмі прыстойным хлопцам. Яны ветліва прывіталіся, а Маруся падала свой пропуск, яго дакумент і першы раз сціпла папрасіла прапусціць да яе госця. Госць нёс торт, а яна — ружу. Я ведала, што іх пакой за санітарны стан мае толькі траяк, але прапусціла. Праз паўгадзіны спусцілася яе суседка па блоку, і я спытала, як там у Машы… Дзяўчына рассмяялася і сказала:

— Абвязаны ручніком госць мые посуд, а сама гаспадыня прыбірае ў пакоі.

— Ну, не так ужо і дрэнна, — кажу. — Нехта ж павінен навучыць…

— Пажывём — убачым, — з сумненнем адказала мая суразмоўца.

У дваццаць адну гадзіну Маруся вывела свайго кавалера, які аж свяціўся радасцю. Развіталіся цёпла… А праз дзве гадзіны яна ўжо ўпісвала сваё прозвішча ў спіс паклонніц начных дыскатэк.

— З маладым чалавекам ідзеш? — пытаюся.

— Не, — адказвае. — Ён яшчэ малы… Школьнік…

— А посуд «малы» не перабіў, — укалола-такі я.

Яе сімпатычны тварык аж перакасіла і, кінуўшы праз плячо: «А гэта не ваша справа», — пайшла скакаць ажно да раніцы, бо дзверы нашага інтэрната адкрываюцца ў шэсць гадзін для танцораў.

Хлопчык пачаў хадзіць да яе як на працу: то выносіў выбіваць палас, то макулатуру, то бутэлькі пластмасавыя; мыў там посуд, чысціў бульбу… І ніколі не прыходзіў з пустымі рукамі: і кветкі насіў, і торты, і бананы цэлымі гронкамі.

А аднаго разу заявіўся з тортам і вялікім букетам цёмна-чырвоных руж.

— Колькі ж іх тут? — пытаюся, любуючыся на кветкі.

— Васямнаццаць, — адказвае і ўглядаецца ў накірунку ліфта.

— У Марусі дзень народзінаў?

— У Машы, — паправіў ён мяне, — дзень народзінаў у верасні. Але ёй тады ніхто не падарыў васямнаццаць руж. Вось я і хачу выправіць гэта, падарыць менавіта васямнаццаць…

— Гэта ж дорага вельмі, — умяшалася ў гаворку ліфцёрка. — Ты ж маладзенькі яшчэ. Бацькі выдзелілі грошы з сямейнага бюджэту?

— Не. Я сам зарабляю. Хоць і вучуся яшчэ ў адзінаццатым класе, але і працую з бацькам на аўтабазе…

— Малайчынка, хлопчык! Працавіты… І мамцы дома посуд мыеш, бульбу чысціш? — працягвала дапытвацца Аляксееўна.

— Я ўсю работу за яе раблю, — з нейкім надрывам сказаў ён і адвёў вочы.

— Хварэе?.. — паспачувала.

— Не хварэе… Кінула нас… Мы з бацькам удвух жывём.

— А мой жа ты хлопчык! — не ўтрымалася я. — Дык жа і цябе такая доля чакае, калі Марусю возьмеш…

— Калі ласка, — перабіў ён мяне, — не называйце яе Марусяй. У мяне гэта асацыіруецца з блатной Марусяй Клімавай. Маша — цудоўная дзяўчына… Калі яна і бывае… ну… няветлівай, то гэта яна так… абараняецца…

— А хто яе крыўдзіць? — у адзін голас запыталіся мы.

— Ну… не любяць яе…

— Дарэмна ты так думаеш, дзіця. Ну, ідзі. Маша ўжо сустракае цябе… Давай дакумент.

Хлопец урачыста ўручыў дзяўчыне ружы і панёс торт следам за ёю.

Так і хадзіў ён кожныя свае выхадныя, аж пакуль у войска не пайшоў… А Маруся амаль заўсёды пасля развітання ішла збірацца на дыскатэку. Я шкадавала гэтае кінутае маткай дзіця, баялася, што і яго сына напаткае такая ж доля, калі яго народзіць Маруся. І неяк аднаго разу не ўтрымалася і выказала свае апасенні…

— Няхай лепш адгуляе і адтанцуе, пакуль маладая, — спакойна адказаў хлопец, а потым уздыхнуў і дадаў: — Ведаеце ж прымаўку «Любовь зла, полюбишь и козла»…

Маруся была на провадах, ля ваенкамата, потым пісьмы салдацкія атрымлівала амаль штодня… Нават ездзіла з яго бацькам на прысягу ў часць… Што там здарылася, відаць, акрамя самой Машы, ніхто ведаць не будзе, ды толькі пісьмаў раптам не стала. Нейкі час яна заглядвала ў сваю ячэйку, а потым і перастала. Але адчувалася, што сумуе, маркоціцца. Мне неяк ажно шкада яе стала, і я спыталася:

— Ну, як твой салдацік?

— Не мой ужо, — сказала і пайшла… Потым вярнулася і дадала: — Вашымі стараннямі…

— Маімі? — сумелася я.

— Усе сваю лепту ўнеслі. Я ж вам як стрэмка ў зубах…

Мне зрабілася вельмі не па сабе ад гэтых слоў. Я ж і сапраўды не хацела такой нявесты цудоўнаму маладому чалавеку, цяпер салдату. Але ж не пасля нашай гаворкі ён кінуў яе. Можа, цярпенне лопнула… А можа, бацька ўгледзеў у ёй сваю былую… Словам, за яго я цяпер спакойна. А вось за яе — не. Вадзіцца яна пачала не з лепшымі хлапцамі нашага раёна. Хоць бы не паўтарыла яна і сапраўды лёс Марусі Клімавай. Беражы яе, Божа, ад такой долі. А я больш не буду называць яе Марусяй нават у думках, каб яны не матэрыялізаваліся.

## ВЕСНА

За гадзіну да поўначы ў вестыбюлі рабілася ціха: апошнія парачкі падымаліся з канап і крэсел, развітваліся і разыходзіліся.

І вось у такі час да мяне спусцілася Зіначка. Была яна ўжо ў дыхтоўным халаціку, тапачках, з забранымі ў тоўстую касу валасамі — яўна спаць рыхтавалася.

— У мяне да вас, Алена Аляксандраўна, адна вельмі далікатная справа, — ціха сказала яна.

— Кажы, дзіця! — усхвалявалася я, бо за тры гады, лічы, яна да нас па асабістай, ды яшчэ далікатнай справе, не звярталася. Ну, было, што руку я ёй лячыла... Зубны боль здымала... Што ж на гэты раз? — думаю і гляджу на яе.

— Вы ж ведаеце: праз кожныя два тыдні я еду дамоў, а Весна застаецца адна.

— Паміж вамі кошка прабегла? — пытаюся.

— Не! Яна мне як сястра... Ну вы ж ведаеце яе праблему...

Праблему Весны (такое імя ёй даў бацька — балгарын па нацыянальнасці) ведалі ўсе: яна вымахала да ста сямідзесяці і вагі набрала за дзевяноста. Калі яна кідала молат ці брала прызавыя месцы на лыжні, ёй яе аб'ёмы не перашкаджалі. А ў астатнім сваім жыцці Весна вельмі перажывала: ёй ішоў ужо дваццаць першы гадок, і хоць яна мела добры густ, была гаспадарлівая, акуратная, але жаніха на даляглядзе не відно было.

— Ой, Зіначка! Я разумею яе. Але чым пасобіць — у галаву не вазьму. Я ўжо не раз нашым веліканам — і Славіку, і Росціку — казала, што не туды яны вочы пяляць, што ім бы на Весначку ўвагу звярнуць, а яны пагагочуць і зноў за нейкімі недамеркамі бегаюць. Яны ў ёй бачаць толькі сябра па секцыях...

— Ды дзякаваць Богу трэба!.. Пазнаёмілася наша Весначка з добрым малайцом: рост сто дзевяноста пяць, плечы — добры сажань.

— А дзе ж яны сустрэліся?

— Быў тут на спаборніцтвах. А цяпер у сваім пасёлку. А там на яго бабы паляванне адкрылі.

— Дык што я магу зрабіць? Лячыць магу, а прычароўваць — не.

— Ён можа прыехаць у гэтую пятніцу. Вы ж, здаецца, будзеце на вахце?

— Ну, я...

— Тады дазвольце яму пераначаваць... Мой ложак не будзе заняты. У Весны ёсць чысты камплект бялізны.

— Падрыхтавала?

— О, які ёй пасаг маці падрыхтавала!

— Ведаеш, дзяўчынка мая дарагая... Ёй трэба схадзіць да загадчыцы і ўсё ёй расказаць. Наша Таццяначка не толькі талковы адміністратар, а і добры чалавек... Яна ўсё зразумее. Бо ўсё адно без выхавацеляў гэтае пытанне я не вырашу... Ды і не кожную ж пятніцу буду я. Мы Весначку паважаем. Яна дарослы і разумны чалавек, але без дазволу... Сама разумееш...

Так Весна і зрабіла. І ўжо пасля заняткаў прыцягнула торбу прадуктаў, прыгатавала вячэру і паехала сустракаць госця, каб ён не блытаўся ў пошуках дваццаць трэцяга дома...

І вось яны зайшлі ў вестыбюль. Весна — з букецікам, а яе кавалер — з вялікай сумкай праз плячо. І скажу, што побач з гэтым бамбізам наша молатакідальніца падалася нам мініяцюрнай: доўгае чорнае паліто яе вельмі страйніла, а белыя шапачка і шалік надавалі ёй святочнасць. У вестыбюлі якраз стаялі і нашы даволі рослыя хлопцы, толькі і ім давялося глядзець на яго знізу ўверх.

Так і павялося: праз кожныя два тыдні прыязджаў Саша. У суботу ён выносіў выбіваць дываны, хадзіў з Веснай на базар і быў заўсёды за насільшчыка. А ўвечары яны «выходзілі» ў свет, пасвятлела тварам Весна: хадзілі ў кіно, на спектаклі, канцэрты. У нядзельку яны адсыпаліся, я так думаю, бо Сашу трэба было ехаць цэлую ноч, а раніцай быць на працы...

Нарэшце яны заручыліся, і на пальчыку Весначкі з’явіўся пярсцёнак, а ў вушах — з такім жа каменьчыкам завушніцы...

У нашай Весначкі акрамя спорту, што атрымала яна праз бацькоўскія гены, было яшчэ адно хобі: яна добра малявала пейзажы: вясну, восень. Карціны яе былі карцінамі настрою. На іх заўсёды прысутнічаў сум: адзінокая лодка ля берага ракі, апошнія лісточкі на дрэвах... А як з’явіўся ў яе жыцці Саша, яна намалявала цудоўны зімовы пейзаж з дзеткамі на катку... Марыла, відаць, аб дзіцяці. Я разумею яе: спартыўныя дасягненні даюцца нялёгка, бывае і... Але я буду маліць Бога, каб усё ў Весначкі і Сашы было добра. Ён жа, пэўна, марыць аб сыне. Яму ж ужо за трыццаць... Пашлі ім, Божа літасцівы, сыночка!

Пажанілася наша спартыўная пара, калі Весна прыехала на практыку ў яго рабочы пасёлак. А на дзяржэкзаменах яе, бедную, ужо нудзіла. І Зіначка раілася са сваім Мігелем, як ёй дапамагчы, а той параіў перацярпець, бо гэта ад Бога...

На выпускны вечар прыехаў Саша і прывёз ёй шлюбную крэмавую сукенку. Ён быў у чорным касцюме, яна — у доўгай сукенцы з адкрытымі плячыма. Пахудзела, але выглядала цудоўна. Мы іх павіншавалі, сфатаграфаваліся на памяць у свае альбомы і ў летапіс інтэрната.

### КАМАНДЗІР

Сёння развіталася з цудоўным хлопцам, а галоўнае — не пабаюся гэтага слова, з грамадзянінам Рэспублікі Беларусь. Нават хочацца прыгадаць рэкламны ролік, у якім мытнік адмаўляецца ад хабару, бо служыць Айчыне. Дык вось наш Пецечка адзін да аднаго з ім: гэта будзе прынцыповы і чэсны падатковы інспектар! І толькі так! І не інакш!

А быў жа час, калі я глядзела на гэтага нязграбнага, забітага з выгляду юнака ў акружэнні дзяўчат свайго паверха, і мне здавалася, што яны вось-вось заспяваюць яму: «Ой ты, Юрачка! Што не жэнішся? Прыйдзе зімачка, дзе ж ты дзенешся?» А аднаго разу сама яму гэта заспявала. І тут ён чырванню заліўся і спытаўся: «Адкуль вы ведаеце, што мяне так у школе дражнілі, бо я быў Юрачкам у танцы».

— Дык ты нават танцаваў? — пытаюся.

— Давялося. Больш хлопчыкаў у класе не было. Толькі аб гэтым нікому не кажыце, калі ласка.

— Не скажу. Але ж гэта добра!.. Значыцца, актыўным быў школьнікам. І тут трэба актыўнічаць.

— Не, не! — перапыніў мяне юнак. — Тут не вёска… гэта ў нашай школе мы за гэты танец першае месца атрымалі і на раённы агляд ездзілі.

— Значыцца, ты добра «Юрачку» танцаваў.

— Ну… стараўся!

— Ты, мусіць, усё добра робіш…

— Стараюся. Вось іду боршч варыць. Гляньце, ці ўсё купіў: бурачок, капуста, морква, цыбуля… Соус у мяне ёсць…

— А мяса? — пытаюся.

— Без мяса будзе. З затаўкай. У мяне ёсць здор з living прыправамі. Такі бор-

шчык мая мамка варыць. Смачны. Я вас пачастую. Можна?

Я кіўнула, і Пеця, мне падалося, пайшоў неяк смялей, больш упэўненай хадой пасля нашай першай і такой доўгай гаворкі. Цяпер, праходзячы каля вахты, Пеця вітаўся са мной з усмешкай, нават мог мне сказаць: «Вы сёння цудоўна выглядаеце…» Ці, наадварот, занепакоена спытацца: «Вы не хварэлі?» Мне было заўсёды прыемна бачыць, як ён нібы вылазіць з кокана маўчальніка, распраўляе плечы, як крылы, і на вачах прыгажэе. А тут якраз выхавацельніца паскардзілася, што на яе паверсе няўдала выбралі старасту, таму парадку там няма. Ну я вазьмі і парай:

— Дык перавыбары правядзіце!

— А каго выбраць?

— А хоць бы Пецю.

— Вы думаеце — справіцца?

— Ва ўсякім разе, старацца будзе…

— Там жа жывуць адны дзяўчаткі.

— А яму не прывыкаць. Ён у класе адзіным хлопцам быў, а выцягнуў клас на аглядзе на першае месца… Дык жа там ён быў толькі Юрачкам у танцы, а тут стане камандзірам…

Ну, вядома ж, дзяўчаты адзінагалосна выказаліся на карысць яго кандыдатуры. Тым больш, што напярэдадні куратар зачытаў ім пісьмо ад бабуль з вёскі, дзе група была на сельгаспрацы, у якім бабулі выказалі падзяку групе і асабіста студэнту Пятру, які арганізаваў дапамогу ім ва ўборцы і забуртоўцы бульбы.

Пеця трымаўся сціпла, а дзяўчаты ажно вішчэлі ад радасці, што спрычыніліся да той справы, таму іх давер да яго быў стапрацэнтны.

Словам, Пеця стаў старастам і ўзяўся выконваць свае абавязкі так старанна, што ўжо праз месяц на аглядзе стэндаў-куткоў іх паверх заняў першае месца. Хоць сам Пеця не быў ні мастаком, ні паэтам, але камандзір з яго атрымаўся добры.

* * *

На другі дзень пасля выпускнога балю адбылося вяселле нашых Ларыкаў. У пакоі для самападрыхтоўкі накрылі сталы самі студэнты: кожны нешта прынёс.

Жаніх быў у чорным велюравым пінжаку і бялюткай сарочцы з чорным мятлікам, уборы, можа, ад самога Версачы, праўда, купленыя у сэканд-хэндзе, магчыма, былі і новыя (і такое бывае ў тым месцы часам); на яго нагах блішчэлі лакавыя туфлі, а ў вуху — завушніца (куды дзенешся ад моды).

Нявеста, якую апраналі, прычэсвалі і крышку макіяжылі суседкі па пакоі, глядзелася каля жаніха белай лябёдкай…

Ледзь наводдалі стаялі дзед нявесты і маці жаніха. Жанчына склала рукі, як перад іконай, і нешта шаптала, шаптала крыху падмаляванымі вуснамі. Адчувалася, што яна прыносіць падзяку Госпаду нашаму за лёс сына і дае яму нейкае абяцанне са слязьмі на вачах. Памагай ёй, Божа міласэрны, стрымаць яго.




# МАСТАЦКАЯ БІЯГРАФІЯ РАГНЕДЗІЧАЎ

***Марціновіч А. А. Рагнеда і Рагнедзічы: Гісторыя ў асобах: нарысы / Алесь Марціновіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010 г. — 288 с.***

**П**ерш чым павесці размову пра новую кнігу Алеся Марціновіча «Рагнеда і Рагнедзічы», дазволю сабе прывесці цытату з уступнага слова да новай работы знанага пісьменніка: «Паводле Радзівілаўскага летапісу, Рагнеда нарадзіла князю Уладзіміру не толькі Ізяслава, але і яшчэ трох сыноў — Яраслава, Мсціслава і Усевалада. Было ў іх і дзве дачкі. Праўда, пра іх Радзівілаўскі летапіс маўчыць. Аднак у знакамітай «Аповесці мінулых гадоў» можна напаткаць звесткі пра абедзвюх дачок. Старэйшая праходзіць пад імем Прадславы. Малодшую ж як толькі не называюць: і Дабранегай, і Праміславай, а то і ўвогуле Мечыславаю ці Мсціславаю. Ды гаворка ўсё ж не пра тое, якое з гэтых двух імён больш блізкае да ісціны.

Куды важнейшы іншы момант. Як вядома, асабліва глыбокі след у гісторыі пакінуў сын Рагнеды і Уладзіміра Яраслаў, пры якім тагачасная дзяржава з цэнтрам у Кіеве дасягнула свайго асаблівага росквіту як у палітычных, так і ў культурных адносінах. Ён спрыяў далейшаму ўмацаванню на Русі хрысціянства, развіццю асветы, мастацтва, пісьменства, таму невыпадкова ўвайшоў у гісторыю як Мудры. Яго нашчадкаў пачалі называць Яраславічамі.

Але па сутнасці ўбаку застаюцца Мсціслаў і Усевалад Уладзіміравічы. Мсціслаў жа, калі княжыў у Тмутаракані, адолеў племя касогаў, якое жыло ў той жа час на Паўночным Каўказе. Больш за тое, у рукапашным баі перамог ён іхняга князя Радзедзю. Гэта яго, Мсціслава, празвалі Храбрым, і самы славуты старажытнарускі пясняр Баян апяваў яго подзвіг. Шкада, але не захавалася звестак пра чацвёртага сына Усевалада, які атрымаў ад свайго бацькі ў валоданне горад Уладзімір-Валынскі.

Сыны Рагнеды і Уладзіміра таксама ў поўнай ступені з’яўляюцца Рагвалодавічамі, але іх так не называюць, а адносяць да Рурыкавічаў, бо яны — прадаўжальнікі княжацкай дынастыі, родапачынальнікам якой стаў легендарны Рурык. Як быццам усё правільна, але ў такім разе «выпадае» Ізяслаў Уладзіміравіч.

Калі ж узяць за аснову паняцце Рагнедзічы, то адразу ўсё становіцца на свае месцы, бо пад гэтае вызначэнне трапляюць не толькі дзеці Рагнеды і Уладзіміра, але і ўнукі, таму што ва ўсіх іх цячэ кроў Рагнеды. Кроў маці, бабулі… У славян жа, не будзем забываць, асабліва шанавалася жанчына, дзякуючы якой і прадаўжаўся людскі род. Дый сёння прадстаўнікі некаторых народаў на першае месца ставяць менавіта жанчыну-маці, а не бацьку».

Зыходзячы з такой родава-генеалагічнай логікі, Алесь Марціновіч і выбудоўвае сваю ў нечым традыцыйную для яго творчага рэчышча, а ў большай ступені арыгінальную па задуме і выкананні кнігу. Пад адной вокладкай «Рагнеды і Рагнедзічаў», якую ўпрыгожвае рэпрадукцыя цэнтральнай часткі трыпціха Феліксa Янушкевіча «Лёс Рагнеды, або Сцяна Памяці», сабраны расповеды пра Рагнеду Рагвалодаўну [«Рагнеда, Гарыслава, Анастасія»], Яраслава

Уладзіміравіча [«Час жыць і час паміраць»], Мсціслава Уладзіміравіча [«Прайсці праз Ліствен»], Анастасію Яраслаўну [«Салодкая гронка рабіны»], Ганну Яраслаўну [«Не мы выбіраем, нас выбіраюць»], Лізавету Яраслаўну [«Герда з Гарда»].

У падзагалоўку да кнігі аўтар акрэсліў жанр твораў, сабраных у зборніку, як «нарысы». Мне асабіста падаецца, што ў гэтым вымярэнні праявілася пэўная сціпласць пісьменніка. Кампазіцыйная пабудова літаральна ўсіх твораў усё ж такі шматкроць бліжэй да аповесці, чым да нарыса. Ды і мастацкі стыль, абраны Алесем Марціновічам, — стыль аповесці, мастацкага твора. Відавочныя і мэты, якімі прасякнуты ўвесь рух пісьменніцкай задумы, — яны скіраваны на раскрыццё гістарычнай асобы ва ўмовах адведзенага ёй чалавечага жыцця. Прыўзняцца да рамана — значыць адлюстраваць эпоху, пашырыць межы дзеяння, уплываў асобы на час і грамадства. Ды і абавязковай умовай з'яўляецца само судакрананне асобы з эпохай. Але і застацца «ў нарысе» матэрыял, мастацкі матэрыял, засвоены і выкладзены ў кнізе «Рагнеда і Рагнедзічы», не змог, не застаўся. Перад чытачом — класічныя аповесці. Класічныя гістарычныя аповесці. Магчыма, ім часам бракуе ўвагі да дыялогаў, можа быць, не вымаляваны адразу мастацкія, вобразныя партрэты персанажаў [але затое яны вымаляваны праз увесь тэкст], і ўсё ж гэта ні ў якім разе не прыніжае планку твораў як аповесцей.

«Рагнеда, Гарыслава, Анастасія» — найболей кранальны расповед. Летапісныя згадкі пра легендарную Рагнеду, якую гвалтам узяў у жонкі Уладзімір…

«— На калені! — закрычаў Уладзімір, убачыўшы перад сабой полацкага князя. Ён замахнуўся было шабляй, ды Дабрыня падбег, нешта зашаптаўшы яму на вуха.

Меч Уладзіміра апусціўся, з'едлівая грымаса кранулася твару:

— Маладзец, Дабрыня! Здатны ты ў мяне воін і на прыдумкі розныя ахвочы. Да такога даўмецца не кожны можа.

І ўжо да Рагвалода:

— Дачка дзе? Рагнеду сюды! І жонку хутчэй!

Кінуліся воі, прывалаклі абедзвюх.

— А цяпер, Рагвалод, глядзі, які я рабыніч. Глядзі, што будзе апошняе, што ты ўбачыш.

Шмат ведае гісторыя прыкладаў звярынай лютасці, але тое адбывалася на іншых землях, а гэта — на славянскай. І не хто іншы пайшоў на такое жудаснае, а сам славянін. На вачах у бацькі і маці згвалціў Уладзімір Рагнеду, а пасля засек Рагвалода.

Па іншых звестках, забіў ён яшчэ маці Рагнеды і двух яе братоў. Полацк жа быў поўнасцю спалены, ніводнага будынка не засталося. Гэта пацверджана і археалагічнымі раскопкамі. Знойдзены сляды папялішча, якое адносіцца да X стагоддзя. Рагнеду ж Уладзімір узяў у жонкі. Стала яна ўжо не Рагнедай, а Гарыславай…»

Трагічны эпізод пераўтварае наступную гісторыю ўсходнеславянскіх зямель у крывавую драму. Рагнеда-Гарыслава, яна яшчэ набудзе і імя манашкі Анастасіі. Гісторык Дзмітрый Леанардаў, даследчык полацкай даўніны, назваў трагічныя падзеі ў Полацку «зыходнай падзеяй», пачаткам, з якога бруяцца нацыянальныя вытокі. Рагнеда, якая, патрапіўшы фактычна ў палон, здолела праявіць сябе як асобу самаахвярную. Болей як тысячагоддзе прайшло з часу смерці легендарнай дачкі Рагвалода. У Заслаўі, пад Мінскам, пра яе нагадвае курган, пад схованмі якога спачывае Рагнеда. У гонар яе названы дзве рэчкі — Княгінька і Чарніца. Але ж і помнік Рагнедзе павінен быць пастаўлены. А пакуль сапраўдным помнікам з'яўляецца кніга Алеся Марціновіча, яго аповесць «Рагнеда, Гарыслава, Анастасія».

Другая аповесць з кнігі «Рагнеда і Рагнедзічы», як ужо згадвалася, — «Час жыць і час паміраць», прысвечаная сыну Рагнеды і Уладзіміра — Яраславу Уладзіміравічу, Яраславу Мудраму. Каб уявіць месца і ролю гэтай гістарычнай асобы ў лёсе славянскіх зямель, звернемся да выказвання царкоўнага гісторыка Рыгора Якаўлевіча Кіпрыяновіча (1851—1915) у яго кнізе «Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве»: «При сыне св. Владимира Ярославе Мудром почти все русские области снова соединились под единодержавною властью этого князя. По преданию, Ярослав покорил также ятвягов, живших в нынешней Гродненской губ., и заселил русскими поселенцами города

по р. Бугу: Дрогичин, Мельник, Брянск и, может быть, Бельск. Ярослав основал также Новогородок [ныне Новогрудок] литовский. По сказаниям польских историков, Ярослав Мудрый в 1044 г. отвоевал у ятвягов и Литвы юго-западную часть нынешней Минской губ., почти всю Гродненскую губ. и большую часть Виленской губ. Литовское поселение «Курганы» стало будто бы средоточием русского управления покоренной области под новым именем Троки в нынешней Виленской губ. Ярославу Мудрому предание приписывает построение Новогрудской Борисоглебской церкви и в г. Мельнике — церкви Св. Богородицы. Ко временам же Ярослава следует приурочить и предание о том, будто бы в первые времена христианства в России прибыли в окрестности г. Нарева, ныне Бельского уезда, Гродненской губ. семь монахов из Киева и распространили православную веру в этой стране. Вместе с православием распространялась и церковная письменность в Северо-Западной Руси. До нашего времени сохранились принадлежавшее Туровской Преображенской церкви древнейшее Евангелие XI века и Супрасльская рукопись [Минея-Четья] того же XI века. Изданными при Ярославе церковным уставом и Русской Правдой, т. е. сборником законов, без сомнения, пользовалась и Северо-Западная Русь, наравне с прочими русскими областями».

Алесь Марціновіч раскрывае ўсю шматаблічнасць вобраза Яраслава Мудрага. Пісьменнік імкнецца данесці да чытача тыя складнікі, якія дапамаглі сфарміравацца асобе дальнабачнага палітыка, паўплывалі на яго характар. Пісьменнік не проста пераказвае гістарычныя падзеі ў пэўнай паслядоўнасці, а выбудоўвае кампазіцыю твора так, каб аб'ёмна, выразна вымаляваць Яраслава Уладзіміравіча, паказаць яго ролю ў паяднанні ўсходнеславянскіх зямель.

У аповесці пра Яраслава і ў творы, які прысвечаны яго дачцэ Анастасіі Яраслаўне, А. Марціновіч асаблівую ўвагу надае асветніцкім, кніжным зацікаўленням сваіх герояў.

«…Берастаў заставаўся для яе ні з чым не параўнальным паселішчам. І не толькі таму, што Берастаў з'яўляецца любімым месцам адпачынку яе бацькі — вялікага князя кіеўскага Яраслава Уладзіміравіча, а з бацькам у яе былі самыя прыязныя адносіны. Куды нават лепшыя, чым з маці. Прычына ж у тым, што абое вельмі любілі кнігі, з задавальненнем бавячы час за чытаннем. [«Салодкая гронка рабіны»] «— Дык ты ж, княжа, такі кніжнік, якога на Русі больш не знойдзеш, але гэта не перашкаджае табе паспяхова і справамі дзяржаўнымі займацца». [«Салодкая гронка рабіны»] « — Мне б хацелася, каб і Анастасія, дый іншыя мае дзеці заўсёды памяталі, што яны не толькі Рурыкавічы, а і Рагнедзічы. А таму жадаю, каб у Анастасіі не проста быў муж знатнага паходжання, а такі, якога б яна любіла. А кнігі... Кнігі таксама будзе любіць…»[«Салодкая гронка рабіны»].

…У свой час прагучала, займела шырокі рэзананс серыя кніг па гісторыі Айчыны — «Сем цудаў Беларусі». Аўтары — Уладзімір Ягоўдзік і Анатоль Бутэвіч. Дакладней — У. Ягоўдзік напісаў адзін зборнік нарысаў, А. Бутэвіч — астатнія шэсць. Выдатна ілюстраваныя Паўлам Татарнікавым, яны проста імгненна пасля выдання разыходзіліся з нашых кнігарняў. Дзясяткі рэцэнзій, прэзентацый… Не праводзячы ніякіх паралеляў, хацелася б акрэсліць і магчымую прастору цыкла твораў [а не толькі кнігі!] пад агульнай назвай «Рагнеда і Рагнедзічы». Канечне ж, расповеды пра Рагнедзічаў патрабуюць перавыдання [тыраж рэцэнзуемай кнігі — усяго 1000 экзэмпляраў]. І масавым тыражом, і ў палепшаным мастацкім афармленні. Тым болей што існуе велізарны ілюстрацыйны масіў, звязаны са згаданымі гістарычнымі персанажамі.

***Кастусь ЛАДУЦЬКА***

*Прыслоўе*

Ігар ЗАПРУДСКІ

# КНІГІ — ЛЮДЗІ — ПАРАДОКСЫ

*Афарызм «ні дня без радка» прыпісваюць Юрыю Алешу. Але «ні дня без рысачкі» — фраза нейкага старажытнага аўтара пра грэчаскага мастака Апялеса, які сябраваў з Аляксандрам Македонскім.*

Мінае год. Апошні год дзесяцігоддзя. Колькі ўсяго здзейснілася! А не спраўдзілася ж яшчэ больш. І ўсё ўжо не будзе як раней. Што прыцягнула ўвагу? Асабіста маю. Што запомнілася з мноства кніжных артэфактаў, адрасаваных суайчыннікам? Вось колькі адзінак з пераліку набыткаў апошняй пяцігодкі. Калі гэта і не «прэтэндэнты» ў нятленнасць, дык з выразнымі падставамі на беспрэцэдэнтнасць. А колькі ў свеце парадаксальнага?

Чуў, і не раз, што наша лірыка мінулага стагоддзя вымагае не капітальнага рамонту, а — Наваполацка. Што ж, Карфаген па-фінікійску значыць «новы горад». Інтымнай лірыцы нібыта нашчэнт бракавала свавольства, гарэзнасці, гуллівасці і вытанчанасці. Што ў ёй не было дзёрзкасці, непасрэднасці ды геданістычнай неўтаймаванасці. Што яна была афіцыёзна надзьмутай і шэрай ад забойчай мяшчанскай штодзённасці. У нечым тут была свая праўда. Аднак далёка не ўсё было настолькі безнадзейна.

Сяброўкі абсталёўваюць кватэры,
я п'ю ў лясах на досвітку расу
і незалежна, з выглядам гетэры,
чыёсьці сэрца ў кошыку нясу.

І для таго часу тут важным быў нават не столькі арыгінальны вобраз апошняга радка, колькі эмацыянальна і лагічна вылучанае слова — гетэра. Гэта ну ніяк не магло стасавацца да паэткі краіны, што была гарантам мройнай будучыні ўсяго чалавецтва. Або яшчэ больш па тым часе эпатажнае:

аддаю супакой нескаромны
за адну разгавелую ноч.

І такую лірыку не кідаліся тады друкаваць, тым больш перавыдаваць як выбранае. Яна нібыта была маргінальнай, лічылася вяльможнай на абсалютнай творчай перыферыі. Але ж, як і ў даўнія часы Мікалая І, гэта была выразная фронда. І, падкрэслю, без кідкіх дэкларацый. Такую паэзію чыталі і любілі, прынамсі, у студэнцкім асяроддзі. А аўтару ж, мусіць, было не лягчэй. Напэўна, крыўдна? Ці можа Паэтка ведаць пра рэальную сваю папулярнасць? Наўрад ці. Бо на слыху былі «камсамольскія барабаншчыкі». З тых часоў памятаецца палкі выступ аднаго з іх нават у кінажурнале перад нейкім мастацкім фільмам. А самаўпэўненыя няздары нібы знарок, як асуджаную, заганялі Паэтку, нават асобныя радкі якой былі вартыя ўсіх тагачасных лаўраў, у пастку іранічнага стаўлення да сябе самой і жыцця.

Ёсць сад стары за сіняй азярынай,
Там па адным не ходзяць, толькі ўдвух…

Гуркі ў разоры. Корчык ля грады.
Край неба над шпакоўняй заімглёны…
А сад такі ўрачысты і зялёны,
Што сэрцу ўжо не хочацца туды.

Нарэшце, з гадамі творца можа стаміцца ад гранічнай інтымнай шчырасці. Не губляючы экспрэсіўнасці і псіхалагізму, ён пачынае шукаць філасофскага сэнсу жыцця. Але праўдзівы голас Раісы Баравіковай мне бачыцца…, мне больш блізкі і зразумелы ў такім просценькім выразе: «майго кахання салаўі».

З густам афармленая кніга «Дрэва для райскай птушкі» пабачыла свет у 2007 годзе. А парадокс у тым, што яна яшчэ больш, чым сёння, была запатрабавана значна раней. Таксама ці дарэчы вызначаць як кнігу лірыкі выданне, у якім змешчана драматызаваная паэма «Саламея»? Вядома, што Баравікова паспяхова выявіла свае здольнасці і ў драматургіі, з імпэтнай любасцю і нейкім нават захапленнем. Але гэта ўжо абсалютна іншая сфера.

*«Стаю ў вялізнай чарзе. // Перш, чым з апошняга // стану першым, // пабуду ўсёй чаргой».*

Міфалагічныя тэмы і вобразы ўсё часцей эксплуатуюцца ў сучаснай еўрапейскай літаратуры. Як правіла, яны ўзнаўляюцца ў алегарычным плане і да іх звяртаюцца як да нейкай скарбонкі сталага нацыянальнага вопыту. Здаецца, сёння пераважае такое разуменне міфалагічнага: гэта нібыта ўжо і не боскае, але штосьці надзвычай вартае і значна бліжэйшае да людскіх патрэб. Яго можна прадуктыўна выкарыстаць, ператварыўшы нават у ключавы мастацкі прыём.

Уявіце сабе Папялушку.

Яна жыве ў захопленым чужынцамі краі. Неістотна, як ён называецца. Але гэта наша з вамі Радзіма. І паасобна, Караткевічу, над ёй «фанабэрыцца п'яны разбэшчаны гун». Мужчыны, мужныя бясконца і дужыя, не змаглі даць рады — «скінуць чужынцаў». Скатаваная прыхаднямі-ліхадзеямі зямля, якую не ў стане абараніць яе сыны «пакрыўдзілася». Яна нараджае пачвар, што пачынаюць нішчыць усіх і ўся. Хто свой, хто чужы, хто добры, хто зламысны — не разабрацца. Тым больш што найпершы вораг можа стаць найлепшым добразычліўцам, а найбліжэйшы — зажадаць тваёй смерці. Заблытанасці паддае і «кінематаграфічная» фрагментарнасць кампазіцыі, і прысутнасць выдуманых і рэальных гістарычных персанажаў. І ўсё гэта на фоне прадстаўнічага комплексу рытуалаў і абрадаў, даўніх беларускіх прыкмет і павер'яў. Уся куламеса-крутаверць па-мастацку сінкрэтычна злучана: векавая сялянская мудрасць і шляхецкія кодэксы, рэальная інфармацыя аб прыродзе і рэлігія з народнай мараллю, таямнічыя веды і здабыткі цывілізацыі 30-х гадоў XIX стагоддзя, спосабы кантакту з сіламі іншасвету і калектыўнае падсвядомае, зоамарфізм і прывабна прыхарошаная сацыялагічнасць, якая не цураецца маляўніча выпісаных побытавых падрабязнасцей. Праўда, сакраментальным Вадзянікам, Дамавікам, Лесунам, Русалкам у мастацкай прасторы твора месца не асабліва каб знайшлося. Выключэнне зроблена хіба што для Вужынага Караля ды Марэны як увасаблення смерці. Перавага аддаецца кінутаму вядомым класікам слову — Ганітва, якое тут і набывае яскравае вобразнае ўвасабленне. Вось і прагаварыўся. Гаворка пра раман Нікі Ракіцінай «Ганітва» (2008).

Што ж да Папялушкі? Хоць папараць-кветка і зацвіце, яна, на жаль, не выйдзе замуж за чароўнага прынца. Але і не стане бязвольнаю марыянеткай у руках як фанатычных барацьбітоў за волю бацькаўшчыны, так і каго б там ні было яшчэ. Даволі шукаць дурніц! «Я не ляплюся. Я не гліна. Я не стану тым, чаго вы хочаце ад мяне», — палка прамаўляе гераіня ва ўнутраным маналогу ў эпілогу. А куды ж без гендару ў наш прасунуты эмансіпацыяй век?

Амаль жа парадаксальна тое, што першы раман пра паўстанне 1830 — 1831 гадоў на Беларусі — містычны і выдадзены быў не дзе-небудзь, а ў Рызе — і на рускай мове. Мяркуючы па водгуках, аўтару ўдалося заблытаць маладасведчаных у гісторыі рэцэнзентаў. Таксама варта адзначыць як мастацкую асаблівасць ледзь не навязлівую раскошу пахаў: пануюць водары не толькі запыленай закінутасці, але зямлі, вады, травы, медзі, чарніц, крыві… плесні. Вось такая адметнасць эстэтыкі твора для цікаўнага і дужа цярплівага чытача.

*«Гліна — нігіль, нішто, але ў боскіх руках яна становіцца геніяльнай».*

Адчуваеш нейкае замілаванне, незаўважна ўзнікае пачуццё «псіхалагічнага камфорту», калі чытаеш заключныя радкі не проста кнігі, а «Заключэння» з навуковага выдання. Рады падзяліцца гэтым эліксірам ад «крызісу гуманістычных каштоўнасцей». Калі ласка, спажывайце: «Пісьменнікі ж як людзі творчых амбіцый, якія мэтай жыцця бачаць народнае «прызнанне», становяцца

ахвярамі любых сацыяльных пераўтварэнняў. Адсюль адчуванне катастрафізму, якое так уражвае ў літаратуры Новай культурнай сітуацыі. Аднак відавочна, што сацыяльная стабілізацыя — няхай і адносная — раней ці пазней стабілізуе і літаратуру. Ужо ў бліжэйшым часе можна чакаць, што ў нацыянальнай літаратуры «ўраўнаважацца» трагізм і аптымізм, завершыцца жанравая дыфузія, а замест постмадэрновага героя з'явіцца Новы герой, здольны вывесці з сённяшніх прыцемкаў духоўнасці».

Цудоўна... рыфмуецца: Новы герой бабы старой. Маецца на ўвазе літаратуры.

Працэс рэлаксацыі пайшоў. Але з цягам часу пачынаеш разважаць… Што аўтар шкадуе пісьменнікаў — гэта ясна. Аднак насамрэч да чаго ён заклікае? Чаго хоча? Грамадскай раўнавагі! І як яе вынік, трэба думаць, пяцьдзясят на пяцьдзясят журбы і бравурнасці ў творчасці, наступлення жанравага штылю пасля фармаліcцкай буры і, галоўнае, іншага Героя, як можна меркаваць, без эгаізму, ачмурэння, кідка эстэцкіх выбрыкаў, самаўпэўненасці, нахабства, цынізму… Адным словам — светлага. Хто супраць? І тут міжволі прыгадваецца, у чым некалі пераконвалі ў філфакаўскіх студэнцкіх аўдыторыях: «Станоўчы герой літаратуры сацыялістычнага рэалізму — будаўнік, творца жыцця на аснове навуковага разумення яе законаў. Такога героя папярэдняя літаратура не мела». Уга, класіцызм прапанаваў звышстаноўчых герояў, жалезную стылёвую рэгламентацыю — і ўсё гэта на фоне палітычнага дамінавання і росквіту абсалютысцкіх манархій у Еўропе. Не хапала толькі вось гэтага ключавога слова — навуковы.

Справа не ў тым, што, скажам, Бунін ці Камю паставіліся блізу неабыякава да нобелеўскага лаўрэацтва. І размова не пра тое, што зараз апошнія беларускія літаратурныя геніі «згасаюць». Не вярэдзіць дужа, што цяпер уручаюцца прызы за захаванне духоўнасці. Пра што ж тады? А пра тое, што аўтар у фінале свайго даследавання, не жадаючы, насамрэч паставіў эмацыянальны дыягназ: *сучасная нестарая літаратура — кашмар*.

Але ж каб яе змяніць, трэба не проста сацыяльна стабілізавацца, а кардынальна перайначыць людзей. А гэта — адназначна — самае складанае. Не хачу пакрыўдзіць, але старэйшае пакаленне творцаў ад вернай службы вядомаму богу дужа хутка пераарыентавалася на гэткую ж па сутнасці адданасць іншым ідэалам. Дырэктарка маёй школы, некалі, трэба думаць, хоць знешне шчырая і апантаная камуністка, сёння — манахіня, якая з не меншым імпэтам пашырае і прапагандуе хрысціянскія каштоўнасці, не ўнікаючы красавання ад публічнасці гэткай чыннасці. А яе сын вядзе зусім іншы лад жыцця. Сярэдняе пакаленне пасля грунтоўнай грамадска-палітычнай і сацыяльнай метамарфозы 90-х гадоў у пераважнай большасці ўпала ў творчую прастрацыю. Маю многіх знаёмых у такім стане. Ёсць адносна нешматлікія выключэнні, творчыя асобы, што цешаць сябе ілюзіяй уласнай здольнасці да адаптавання. Відавочна, будучыня за маладымі. Якіх ні старэйшыя, ні сярэднія ні прыняць, ні зразумець ужо не ў стане.

Мы з СССР — гэта не штамп у колішнім пашпарце, а светапогляд і адначасна амаль ментальнасць. Можна выдурвацца як заўгодна, з'ядаць бочкамі пячэнне ды варэнне, але не станеш хлапчышом-благішом, бо ты па натуры хлапчыш-кібальчыш. І чым больш благішоўскай подласці ты здзейсніш, тым будзе горш для цябе ж. Таму герой былых савецкіх грамадзян прынцыпова не можа змяніцца, нават з гадамі. Ён — статычная ў прынцыпе эстэтычная катэгорыя. Колькі ні называй яго Новым, у роце салодка не стане.

Маладыя, іх яшчэ не выведзеная нацыянальным Майсеем з пустэльні грамада, толькі і могуць прапанаваць свайго Героя. А ён, прадбачу, не спадабаецца ні аўтару, ні мне, ні іншым савецкім дзяўчынкам і мальцам з пасівелымі ўжо скронямі і СВАІМ бачаннем жыцця. Да такой высновы прывяло знаёмства з цікавай кнігай Ганны Кісліцынай «Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы» (2006), прысвечанай творчасці «Тутэйшых», «Таварыства Вольных Літаратараў», «Бум-Бам-Літа» і феміністычнай плыні ў сучаснай беларускай літаратуры.

*«У палоне сваёй заўзятасці, сваёй паляўнічасці піла засляпляецца: яна перапалавіньвае дрэвы наскрозь, разнімае іх на палены, і там, дзе яна спадзяецца набыць большую*

*глыбіню, яна набывае большую плыткасць..., і там, дзе яна спадзяецца сустрэцца з ісцінай, яна сустракаецца з парадоксам...».*

Пісьменнікамі не нараджаюцца і нават імі не становяцца. Да літаратуры прывязваюцца! Як вяроўкамі славуты Адысей да мачты карабля, каб пачуць спеў Сірэн.

Вы хочаце аргументаў? Па-савецку, іх ёсць у мяне.

У тым жа 2006 годзе пабачыла свет кніжка, жанравае вызначэнне твораў якой «Фацэцыі». Трэба думаць, меліся на ўвазе нетупыя жартоўныя апавяданні крытычнага зместу, напісаныя для пацехі. Адным словам — смехата. Маё стаўленне да таго, што атрымалася, гэтак скажу — неабыякавае. Каб не ведаў аўтара ў рэальным жыцці, з тэкстаў можна было б падумаць чорт ведама што! Ёсць непрыхаваны разлік на скандальнасць. Але гэта рэдкая за апошнія гады, ды і ўвогуле ў нас, кніжка, у якой шмат можна знайсці, як, дарэчы, і ў Кісліцынай, вартых увагі думак. Напрыклад: «Літкрытык, як вупыр, не можа без глытка крыві, дня не пражывае, каб не высмактаць жыватворную цытату з чужога тэксту. Ведаю па сабе». Што ж да тэмы? Вось яно: «Час наш падзелены на жорсткую праўду і ружова-абгортачнае фуфло. Вось так. Не можаш чытаць твор? Не чытай. Не можаш зрабіць выснову? Не бярыся за аналіз». Каму гэта адрасавана? Але ў самой кніжцы часам пахадзя бэсціцца, знарок прыніжаюцца многія людзі. Праўда, праўда. Напрыклад, празаік N выпівае, за чым хоча схаваць і апраўдаць свой канфармізм. Былы паэт і супрацоўнік рэдакцыі N — замалёўшчык рэчаіснасці і ліслівец, які наўмысна расхвальвае найслабейшы раман блізкага аўтару чалавека. Народны пісьменнік N — увогуле улюбёны аб'ект хіба што інфантыльных пакепліванняў. За кожным маім N стаяць вядомыя канкрэтныя імёны, якія не дазваляе мне называць няпісаны этыкет. Жорстка цвеляцца таксама Дранько-Майсюк, Картонскі-Воюш ды шмат іншых. Таму не лічу заганным выказаць і аўтару, нялепшыя іпастасі якога раскрываюцца найвыяўней, хоць каліўца жорсткай праўды і ў ім жа абранай форме: «М'Адам Клёпус (ад кляпаць, напрыклад, літаратурны тавар) міжволі намаляваў малапрывабны ўласны партрэт. Ён — мамчын сынок, баязлівец і дробязны зайздроснік найменшых творчых поспехаў сваёй жонкі. Як пісьменнік ён і блізка не стаяў ля менш раскручанага калегі (называе яго сябрам) Уладзіміра Сцяпана. Асабліва ж у стылістыцы, інтэлігенцкасці і прачуласці выяўлення адносін да родных».

Зарыентаваная выклікаць сапраўдную буру парадаксальная кніжка Адама Глобуса «сУчаснікі» пакуль не заштарміла больш як у аб'ёме звычайнай маліноўскай шклянкі. Але яе неардынарнасць у нашым разрэджаным літпрацэсе, бясспрэчна, варта адзначыць.

*«Ля плота блукаюць усялякія чуткі, у плот ублытваюцца ўсялякія плёткі накшталт гэтай, што Лот вунь уцёк, а Лотава жонка вунь стала слупам, нібыта плот мае нейкае дачыненне да Лотавай жонкі і да яго самога».*

Уявіце сабе, што можа адчуваць скарбашукальнік, калі пасля доўгіх марных раскопак натрапіць на стары акуты куфэрак. Далоні макрэюць, сэрца тахкае, цела прабірае дрыжака... А ў думках — нарэшце пашчасціла. Нешта падобнае сталася са мною ў «Цэнтральнай» кнігарні Мінска. Не спадзяваўся, што ля звычайных гандлёвых паліц можна перажыць такі шквал эмоцый. А ўсяго ж узяў у рукі толькі выдадзеную ў «Мастацкай літаратуры» кніжку — Канстанцін Вераніцын, «Тарас на Парнасе: паэмы» (2009). Чытаю ў анатацыі: «Упершыню шырокай грамадскасці прапаноўваецца тэкст «Тараса на Парнасе» без правак, у аўтарскай рэдакцыі і з падрабязнымі каментарыямі». Думаю: «Збылася мара некалькіх пакаленняў беларускіх літаратуразнаўцаў». Яшчэ ў далёкім 1896 годзе Еўдакім Раманаў, маючы даволі шмат спісаў ужо тады славутай паэмы, шкадаваў, што нідзе не можа знайсці яе рукапіс, якія былі б неаспрэчныя падставы лічыць «аўтарскай рэдакцыяй». Але ў гэтым не пашанцавала і нашым сучаснікам. Бо ў прыведзеных радках з анатацыі верагоднае выдаецца за рэальнае. Проста містыфікацыя.

Парадокс у тым, што ў самой кніжцы ўкладальнік піша: «Так і сёння мы не ведаем, як выглядалі тэксты «Тараса на

Парнасе» і «Двух д’яблаў» не толькі ў аўтарскай рэдакцыі, але нават у хрэстаматыі А. Рыпінскага…». Але ніжэй пасля непераканаўчай аргументацыі ўжо смела канстатуецца: «Можна нават з вялікай доляй імавернасці сцвярджаць: **нарэшце мы маем справу з аўтарскай рэдакцыяй паэмы**» (старонка 57). Усё ж Купала меў рацыю, калі пісаў:

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

Як бы каму ні хацелася, але па-за межамі мастацкіх твораў нельга выдумляць. Хоць праніклівая інтуіцыя і падказвае, што менавіта так і магло быць. Аб’ектыўнасць і дакладнасць павінны стаць асноўным крытэрыем у выданнях, арыентаваных на масавага чытача. Што ж той самы чытач падумае, калі яму прапануюцца блытаныя фармулёўкі, якія супярэчаць адна адной? Заўважу, тэарэтычная бездапаможнасць і слабая падрыхтоўка апошнім часам часта выклікаюць неўразуменне, здзіўленне, збянтэжанасць. У нашым выпадку зніжаецца вартасць карыснай кніжкі, дзе тэксты паэмы пададзены таксама і ў перакладах на рускую і англійскую мовы. Такім чынам, выданне «Тарас на Парнасе: паэмы» відавочна патрэбнае, але і парадаксальнае. Як ні дзіўна, верагодна, з-за найлепшых, высокіх парыванняў яго ўкладальніка — Юрася Пацюпы.

*«Каб ведаць, хто ты такі, мусяць ведаць тваё імя».*

У будучым спадзяюся працягнуць гаворку пра парадаксальныя, не абы-якія кнігі рознага прызначэння і жанраў. Беларускі друк жыве, і кнігі нараджаюцца як дзеці. А значыць: «Жыве Беларусь!» А дзеткі ж удаюцца розныя.

*«Але пра гэта даведаецца толькі вынік, толькі канец, толькі пастскрыптум».*

Пастскрыптум. У якасці ўставак цытуюцца фрагменты з кнігі Алеся Разанава «У горадзе валадарыць Рагвалод: Вершаказы і пункціры» (1992). Парадаксальнай, бо аўтар з-за гульні слоў амаль «асудзіў» яе на НЕПЕРАКЛАДАЛЬНАСЦЬ.

*Старонкі гісторыі*

Віктар МАРАХОВІЧ

# ДАЎМОНТАЎ МЕЧ

## АГОНЬ ЛІТАСЦІ НЕ ВЕДАЕ



*Князь Даўмонт-Цімафей.*

Тое, што адбылося, перасягнула ўсе чаканні. Сухая леташняя трава ўспыхнула раптоўна, і шквал агню, адчуўшы свабоду, імгненна смерчам панёсся наперад. Спачатку рыжай вавёркай забегаў між кустоў, якія прытуліліся ледзь не ля самай вады, жадлівым языком хапаючы ўсё, што траплялася на ягоным шляху. Быццам баяўся, што хто-небудзь перашкодзіць яму суцішыць сваю прагу. Пасля асмялеў і, пераканаўшыся, што ніхто яго спыняць не збіраецца, пачаў распаўсюджвацца ўшыркі, паімчаўся туды, дзе ўперамежку з бярозамі стаялі хвойныя дрэвы, у засені якіх спрабавалі ўратавацца тыя з тэўтонцаў, каму ўдалося адбегчы ўглыб вострава.

Аднак намаганні іхнія былі марнымі, бо паўсюдна ўжо, як кінуць вокам, усё гуло, трашчала. Агонь, прайшоўшыся вершалінамі дрэў, па ствалах збег уніз — балазе на іх было шмат высахлай кары, якая загаралася гэтаксама хутка, як і парыжэлая пасля зімовай спячкі трава. Асабліва падатлівай да агню была сухая бяроста, што абвісала тонкімі лапікамі, якія ўспыхвалі, як тыя свечкі. Гэткія ж свечкі, толькі куды большага памеру, нагадвалі сабой ашалелыя ад страху і болю тэўтонцы. Яны, як вар’яты, насіліся ў гэтым што ні ёсць пекле.

Не па сабе Даўмонту-Цімафею стала, бо гэта па ягоным загадзе самыя меткія лучнікі, наколькі гэта можна было, наблізіліся да вострава, на які ўцякла частка разгромленых ворагаў, і паслалі на яго некалькі стрэлаў, загадзя памазаных смалой і абвязаных пакляй, перад гэтым падпаліўшы іх. Яны, дасягнуўшы вострава і ўпаўшы ў густую высахлую траву, і сталі прычынай пажару, што пачаў усё знішчаць на сваім шляху.

Але як здрыгануўся князь ад пабачанага, так і імгненна супакоіўся. Адпрэчыў хоць якое-небудзь шкадаванне ворагаў. Бач ты, не захацелі змірыцца з паражэннем, гонар не дазволіў ім супакоіцца, зразумець, што перавага не на іхнім баку. Хоць пра які гонар можна гаварыць, калі лівонцы, нібыта галодныя ваўкі, толькі і вышукваюць месца, дзе б большую здабычу напаткаць. А яшчэ стараюцца, каб пры гэтым бяспечней было, а хто не хоча мірыцца з іхнім нахабствам, таму супраціўленне дорага абыходзіцца.

У гэтым неаднойчы і сам ён мог пераканацца. Яму ж таксама не заўсёды шанцуе, раз на раз не прыходзіцца. Даводзілася і ўцёкамі ратавацца. І многіх сваіх вояў на полі

бою пакідаць. Не толькі тых, хто ўжо богу душу аддаў, а часам і параненых, у думках просячы ў іх прабачэння за тое, што не могуць забраць з сабой, бо час прыспешвае. Затрымаешся хоць крыху, няйначай ахвяры будуць яшчэ большымі.

Толькі няўдачы ніколі яго не маглі зламаць, як і астудзіць ягоны баявы пыл. Як біў гэтых крыважэрных тэўтонцаў, так і працягвае граміць. І будзе гэта рабіць да скону свайго, да той пары, пакуль сілаў хопіць. А ў самога не стане іх, дык ягоныя паплечнікі прадоўжаць святую справу разгрому чужынцаў. Хоць навошта на паплечнікаў спадзявацца. Не ў тым сэнсе, канечне, што яны падвесці могуць. Не пра гэта гаворка. Каго ні возьмеш з ягонага блізкага акружэння, кожны гатовы служыць верай і праўдай Пскову, як верай і праўдай служыць яму сам ён, князь Даўмонт-Цімафей. Дый падабраліся вoi — як на падбор. Аднак на іншых спадзявайся, а і сам прыклад паказвай у мужнасці і гераізме. Гэтым пастаянна і кіруецца ён. Хоць і не такі ўжо маладзён, але да старасці яшчэ далёка, моцна ў сядле трымаецца. А там, глядзіш, Бог сына дасць, які і прадоўжыць ягоную справу, гэткім жа рашучым абаронцам княства стане і непрымірымым у барацьбе з ворагамі.

Пры ўспамінку аб сыне, якога ў яго яшчэ не было, але які, у чым ён чамусьці не сумняваўся, абавязкова калі-небудзь з'явіцца, твар князя пасвятлеў і нейкая цёплая плынь кранулася ягоных грудзей. Але такое адчуванне ў яго працягвалася нядоўга. Зусім нядоўга. Нечакана яму стала не па сабе. І цяжкія, змрочныя думкі авалодалі Даўмонтам-Цімафеем.

Падумалася пскоўскаму князю: а ці не станецца так, што той самы сын, якога ён гэтак чакае, не дажыве да сталасці? І не нейкая хвароба падкосіць яго яшчэ ў тым узросце, калі толькі пачнуць адкрывацца перад ім жыццёвыя прасцягі. Не паспее падрасці, а знойдуцца злыя людзі, якія паквапяцца на ягонае жыццё і абарвуць яго, не зважаючы нават на тое, што няма ў яго аніякай віны. Сам ён — божухна, нават успамінаць пра гэта страшна — некалі зрабіў гэтаксама, калі ў лютай нянавісці вырашыў адпомсціць Міндоўгу.

## НАЙШЛА КАСА НА КАМЕНЬ

Памяць перанесла яго на шэсць гадоў назад. Тады яшчэ ён і не князем Даўмонтам-Цімафеем быў, а ўсяго толькі Даўмонтам, уладальнікам Нальшчанскай зямлі — прыгожай, непаўторнай у сваёй вабнасці. Княжыць бы яму на гэтай зямлі і надалей, ды настаў злы час. Хоць, калі лепей разабраца, сам час ні ў чым і не вінаваты, а вінаватыя злыя людзі, якія ў гэты час гаспадарылі. І першым сярод іх стаў Міндоўг. Як быццам і неблагім чалавекам быў, але прага ўлады засланіла ўсё.

Улада ж рэч такая: чым больш яе маеш, тым яшчэ болей яе прагнецца. Таму і Міндоўг, калі стаў вялікім князем літоўскім, пастаянна марыў аб заваёве ўсё новых і новых зямель. Дый па сутнасці таму і стаў ён гаспадарыць у Новагародку, што мясцовыя баяры ўбачылі ў ім акурат такога чалавека, які здатны не проста ўмацаваць княства, а пашырыць ягоныя ўладанні. Паставілі перад ім умову: развітайся з язычніцтвам — і быць табе нашым князем. Міндоўг, убачыўшы для сябе ў гэтым вялікую выгаду, не задумваючыся памяняў веру.

У рэшце рэшт, гэта ягоная справа. Аднак, стаўшы новагародскім князем, пачаў шукаць ворагаў і сярод тых, з кім дагэтуль у яго былі калі не сяброўскія, то прыязныя адносіны. Праўда, спачатку ўсё гэта яго, Даўмонта, нібыта і не тычылася. Як-ніяк, а ён знаходзіўся з Міндоўгам у сваяцкіх адносінах. Жонкі іх з'яўляліся роднымі сёстрамі.

Каса на камень найшла пасля таго, як не стала Міндоўгавай Марфы і ён упадабаў Марфіну сястру, а яго, Даўмонта, жонку, якую ўзяў сілай. Першае, што прамільгнула ў галаве Даўмонта, калі пра ўсё даведаўся, — забіць нягодніка. Аднак не пойдзеш жа на яго войскам. Сілы не тыя, каб супрацьстаяць вялікаму князю. Падаслаць забойцу? Таксама наўрад ці выйсце. Акружыў Міндоўг сябе людзьмі, якія нікога да яго, калі ў чым западозраць, і блізка не падпускаюць. Таму не заставалася нічога іншага, як чакаць зручнага моманту, а ў тым, што ён абавязкова адпомсціць Міндоўгу за абразу, Даўмонт нікольні не сумняваўся.

Разумеў, што каб абавязкова дасягнуць пастаўленай мэты, няблага было б знайсці саюзніка, гатовага дапамагчы. А яшчэ трэба паводзіць сябе такім чынам, каб Міндоўг

нічога не западозрыў. Што Даўмонт і рабіў, падтрымліваючы з вялікім князем ранейшыя адносіны. Чалавеку недасведчанаму нават магло падацца, што нічога паміж імі і не здарылася. А гэта нальшчанскаму князю было толькі на руку.

Нарэшце такога саюзніка Даўмонт знайшоў у асобе жамойцкага князя. Транята, гэтаксама як і Міндоўг, быў чалавекам, надта прагавітым да ўлады. Аднак улада ў выніку дзеянняў вялікага князя літоўскага і выпала з рук Траняты. Праўда, не ўся, але і таго, што адбылося, ставала, каб ён адчуваў сябе пакрыўджаным, бо калі Жамойць была вызвалена ад тэўтонцаў і перайшла пад уладу Міндоўга, Транята з’яўляўся толькі ягоным намеснікам і лічыў сябе абдзеленым. Аднак Транята, як і Даўмонт, не меў дастаткова сіл, каб аднаму супрацьстаяць Міндоўгу. Нягледзячы на тое, што з’яўляўся пляменнікам вялікага князя(быў сынам ягонай сястры), даўно марыў аб тым, каб заняць ягонае месца. Таму і шукаў сабе саюзнікаў у барацьбе з Міндоўгам.

Аб сумесных дзеяннях нават паспеў ужо дамовіцца з полацкім князем Таўцівілам. Калі ж даведаўся, што зуб на Міндоўга мае і Даўмонт, вельмі абрадаваўся. Аднак, як і Даўмонт, Транята быў чалавекам абачлівым. Разумеў, што так проста ўзяць і разграміць вялікага князя ім не ўдасца. Разумеў гэта і Таўцівіл. Зноў даводзілася чакаць. Прытым, ускладаючы асаблівыя спадзяванні на Даўмонта, які па-ранейшаму карыстаўся ў Міндоўга даверам. Вялікі князь літоўскі нават нярэдка заручаўся ягонай падтрымкай, калі збіраўся ў чарговы паход.

Не стала выключэннем і восень 1263 года, калі Міндоўг прапанаваў Даўмонту са сваімі харугвамі ўліцца ў вялікакняжацкае войска. Але нальшчанскі князь, чаго раней ніколі не назіралася, нечакана адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што адчувае сябе блага. Міндоўг, нічога не западозрыўшы, паверыў яму. Змоўшчыкі пацiралі рукі ад радасці, але, як неўзабаве высветлілася, і сам вялікі князь перадумаў ісці са сваім войскам.

Падобнае рашэнне Міндоўга ўскладняла ажыццяўленне задуманага, але Даўмонт ужо ні пры якіх абставінах адступаць не збіраўся. Транята, калі пра ўсё даведаўся, таксама праявіў рашучасць.

## ПОМСТА МЕЖАЎ НЕ МАЕ

Даўмонт і не памятае ўжо, хто першым з іх прапанаваў забіць не толькі Міндоўга, а і двух ягоных сыноў-малалетак. Хоць, калі разважыць, цяпер гэта не так ужо і істотна. Што задумалі тады, тое і зрабілі. Узяўшы некалькі самых надзейных людзей з тых, каму давяралі гэтаксама, як сабе, смела рушылі наперад. Праўда, варта, хоць і добра ведала абодвух, нечакана западозрыла штосьці няладнае. Таму паспрабавала спыніць. Толькі яны і падобны варыянт прадугледзелі. Некалькі дакладных удараў мячамі — і тыя, хто стаў на іхнім шляху, як снапы, паваліліся на зямлю.

Асцярожна, быццам прывіды, прабраліся ў спачывальню вялікага князя. Міндоўг, няйначай, адчуваў сябе ў поўнай бяспецы, таму нават дадатковую варту не выставіў каля свайго пакоя. У ложку яго і забілі. Лёгкасць, з якой усё адбылося, бадай, тады і зацямніла абодвум розум. Кінуліся ў суседні пакой, дзе мірна спалі двое сыноў-малалетак Міндоўга. Рупека і Руклю забілі гэтаксама хутка, як і бацьку іхняга — яны і прачнуцца не паспелі.

Тады радасць ад таго, што ўсё адбылося гэтак хутка і паспяхова, настолькі ап’яніла Даўмонта, што ён нікольні не шкадаваў, не перажываў з-за таго, што пазбавіў ні за што ні пра што жыцця ні ў чым не вінаватых малалетак. Праўда, калі крыху астыў, прыйшоў у прытомнасць, змог больш цвяроза да ўсяго паставіцца, пачаў глядзець на тое, што адбылося тады, цёмнай помслівай ноччу, іначай.

Што забілі Міндоўга, канечне, не шкадаваў, але ад думкі, што загінулі і князевы сыны, станавілася не па сабе. Спрабаваў апраўдаць гэты свой уласны і Траняты ўчынак тым, што, паступіўшы менавіта так, тым самым засцярог сябе ад небяспекі наперад, бо не заставалася сумнення ў тым, што Рукля і Рупек, калі падрастуць, возьмуцца помсціць за смерць бацькі. Толькі апраўданне гэтае супакою не давала. Хоць бы па той прычыне, што помсціць за гібель Міндоўга было каму — старэйшаму сыну вялікага князя Войшалку. Што і пацвердзілі далейшыя падзеі.

Калі Даўмонт, забіўшы Міндоўга і тым самым задаволіўшы сваё самалюбства, ні аб якіх далейшых рашучых дзеяннях і не думаў,

дык інакш на ўсё глядзеў Транята. У іншай ролі як вялікі князь літоўскі ён сябе ўжо не ўяўляў. І атрымаў вялікакняжацкую ўладу. Аднак цешыўся ёй нядоўга. Спачатку дало знаць пра сябе, што не прыняў пад увагу таго, што на гэты прастол прэтэндуе і ягоны саюзнік полацкі князь Таўцівіл. Праўда, з Таўцівілам давялося хутка паквітацца: ён, як перад гэтым і Міндоўг, быў забіты. Але не драмалі і прыхільнікі Міндоўга. Яны арганізавалі супраць Траняты змову і забілі яго. Пасля гэтага і прыйшоў час Войшалка. І час выпрабаванняў для Даўмонта.

## ЯК СТАЎ ДАЎМОНТ ЦІМАФЕЕМ

Помсцячы за забойства бацькі, Войшалк першы ўдар вырашыў нанесці нальшчанскаму князю. Не адзін пайшоў на землі Даўмонта, а сабраўшы вялікае войска, у якое ўвайшлі і дружыны ягоных прыхільнікаў. Даўмонт адразу зразумеў, што супрацьстаяць такім аб'яднаным сілам ён не зможа, таму і ўбачыў адзінае ўратаванне ў тым, каб пакінуць родную вотчыну, хоць спачатку з'явілася думка і загінуць на полі бітвы. Аднак такая ягоная смерць нічога не зменіць. Лёс Нальшчан усё адно па сутнасці вырашаны, а калі ўратуецца — глядзіш, збярэцца з сіламі, зможа вярнуць свой удзел.

Летапісец наконт таго, што адбылося пасля таго, як Войшалк заваяваў Нальшчаны, лаканічны: «В лето 6773 (1265. — **В. М.**). Воевала Литва меж собою, ибо всегда бывают между князьями многочисленные брани и кровопролития о суетном царстве этого мира. И взял Войшелк землю Литовскую. Тогда блаженный князь Довмонт с дружиной своей и со всем домом своим оставил отечество свое — землю Литовскую — и прибежал в Псков». Разам з ім уратаванне ў Пскове знайшлі трыста сем'яў. Аднак Даўмонт мала таго што ўратаваўся, а і, як кажуць, «пришелся ко двору».

На той момант саюз Ноўгарада і Пскова, не паспеўшы доўга праіснаваць, пачаў распадацца. Ноўгараду нічога не заставалася, як дазволіць пскавічам мець свайго князя. Праўда, Ноўгарад навязваў сваю кандыдатуру — сына вялікага князя ноўгарадскага Яраслава Святаслава. Але гэта пскавічоў абурыла. Яны дзейнічалі па прынцыпе: калі давяраеш, дык цалкам, таму і пачалі шукаць сваю кандыдатуру на прастол і спынілі выбар на князю-прышэльцу.

Здавалася б, такое рашэнне больш чым недарэчнае, бо пры жаданні можна было б знайсці на прастол і каго-небудзь са сваіх. Але на карысць прызначэння пскоўскім князем менавіта Даўмонта было некалькі прычын, кожная з якіх сама па сабе істотная. Па-першае, пскавічы ніяк не маглі вызначыцца наконт таго, хто б мог прэтэндаваць на прастол з мясцовых баяр. Па-другое, добра ведалі, што Даўмонт — чалавек мужны і адважны. Але галоўным было нават не гэта, а тое, што ён адразу ж стаў для ўсіх іх сваім.

Як вядома, дагэтуль нальшчанскі князь з'яўляўся язычнікам. Усе ж пскавічы ўжо прынялі хрышчэнне. Даўмонту не хацелася выглядаць сярод іх белай варонай. Але нават не гэта паўплывала на ягонае рашэнне памяняць сваю веру. Даўмонт усё больш пераконваўся, што менавіта хрысціянства — тая вера, якая дае чалавеку апору і падтрымку ў жыцці. Акурат дапамогай Усявышняга ўспрыняў ён тое, што неаднойчы перамагаў у баявых паядынках. Дый без спрыяння Бога не змог бы ўратавацца ад Войшалка. Таму неўзабаве пасля прыбыцця і прыняў хрышчэнне. Быў нальшчанскім князем Даўмонтам, стаў Цімафеем.

Наконт гэтага летапіс гаворыць так: «…воспрянув, как ото сна, от идольского служения, и крещен был во имя отца и Сына и Святого Духа в церкви Святой Троицы, и наречено было имя ему во святом крещении Тимофей». Пскавічы ў 1266 годзе і выбралі Даўмонта-Цімафея сваім князем.

## ДАПАМОГА ЎСЯВЫШНЯГА

Вестка аб такім рашэнні прывяла вялікага князя ноўгарадскага Яраслава ў шаленства. Абураны тым, што пскавічы не толькі не прыслухаліся да ягонага голасу, а і прывялі на прастол чужынца, ён рушыў са сваім войскам да Пскова. Сутычка, здавалася, непазбежная. Ды ноўгарадцы ўсё ж адгаварылі свайго ўладара ад нікому не патрэбнага кровапраліцця. На шчасце, Яраслаў паслухаўся іх і адступіў. Такое ягонае рашэнне надало князю Даўмонту-Цімафею ўпэўненасці.

У тым жа 1266 годзе ён арганізаваў свой першы паход: «пошел с псковичами с тремя

девяноста (270 чалавек. — **В. М.**) и пленил землю Литовскую». Маецца на ўвазе паход пскоўскага князя на Полацкую зямлю, якой на той час валодаў князь Гердзень. Ягонай жа вотчынай з'яўляліся і Нальшчаны, што, зразумела, выклікала ў Даўмонта-Цімафея асаблівы гнеў. Да ўсяго, калі верыць летапісу, гэты паход ён зрабіў і па іншай прычыне: «Поскольку убил Герденъ отца моего, хотел и меня убить». Тым самым відавочна, што пскоўскі князь не проста прагнуў заваёвы новых зямель. Ён ніяк не мог змірыцца са стратай Нальшчан.



*Ягоная выява на іконе.*

Аднак рухала ягонымі памкненнямі і мажлівасць як мага лепей пажывіцца. Што і ўдалося яму зрабіць без асаблівых цяжкасцей, бо Гердзень у гэты час адсутнічаў. Але доўга ў Полацкай зямлі Даўмонт-Цімафей не затрымаўся, разумеючы, што Гердзень паспяшаецца адпомсціць за вераломны напад. Прыхапіўшы з сабой нарабаванае і палонных, сярод якіх былі жонка Гердзеня і двое ягоных сыноў, ён паспяшаўся пакінуць Полаччыну. Аднак разумеў ён і іншае: «невозможно… быстро идти из-за множества полона». Дый абоз, на якім везлі нарабаванае, з'яўляўся перашкодай для хуткага адступлення. Выйсце было ў тым, каб яго адпусціць у Пскоў, бо ўжо дайшлі чуткі, што Гердзень арганізаваў пагоню. Трэба было падрыхтавацца да адпору праціўніку.

Вылучыўшы для суправаджэння нарабаванага 180 ратнікаў, сам з часткай войска, якая засталася пры ім, спешна пераправіўся праз Дзвіну і адышоў углыб лесу на пяць вёрст. Пры гэтым «сторожу поставив на реке Двине — Давида Якуновича с Лувою Литвином», каб затрымаць войска Гердзеня.

У Гердзеня ж, як стала вядома, налічвалася да 700 воінаў. Яны без асаблівай цяжкасці таксама хутка пераадолелі водную перашкоду. Пры пскоўскім князю ж было толькі 90 вояў. Аднак далей адступаць ён не збіраўся. Дый па сутнасці гэта было немэтазгодна, таму што ўцекачоў Гердзень лёгка разграміў бы. Як быццам заставалася адзінае: усё ж уступіць з сапернікамі ў бой. І загінуць, бо такая перавага ворага ў жывой сіле не давала ніякага шанцу на ўратаванне. Але пскоўскі князь меркаваў інакш. Канечне, разважыў ён, жыццё кожнага, хто з ім, вісіць на валаску, але адчайвацца ўсё ж не варта. Ёсць яшчэ той, хто можа дапамагчы — сам Усявышні. І Даўмонт-Цімафей звярнуўся па дапамогу да Бога.

Спачатку ён заклікаў заступіцца за яго і ягонае войска Святую Тройцу, а пасля памаліўся дабравернаму князю пскоўскаму святому Усеваладу-Гаўрыілу і пакутніку Лявонцію Трыпольскаму. Пасля гэтага, як сведчыць летапіс, звярнуўся да сваіх воінаў са словамі: «Братья мужи псковичи: кто стар — тот мне отец, а кто молод — тот брат мне! Слышал о мужестве вашем во всех странах; вот, перед вами жизнь или смерть. Братья мои, заступитесь за Дом Святой Троицы и за святые церкви и за свое отечество!».

Не паспеў ён дагаварыць, як слаўнае пскоўскае воінства, адгукнуўшыся на покліч свайго князя і не чакаючы, пакуль ініцыятыву праявіць Гердзень, пайшло ў наступ. Для праціўніка такая рашучасць стала вялікай нечаканасцю. На нейкае імгненне варожыя раці сумеліся. Праўда, яны хутка прыйшлі ў прытомнасць і са свайго боку рынуліся ў атаку. Здавалася, пройдзе не так і шмат часу, і дружына Даўмонта-Цімафея будзе цалкам разгромлена. Але нечакана пскавічы ўзялі ініцыятыву ў свае рукі. Сапраўды Гасподзь прыйшоў на падмогу ім, бо атака Гердзеня захлынулася. Больш за тое, літвіны не вытрымалі націску і, нават не паспеўшы належным чынам разгарнуцца, у паніцы пачалі адступаць: «и убит князь литовский Гойтарт, и других князей убили, а иная Литва потонула в Двине, а 70 мужей Двина выбросила на остров Гойдов, а Герденъ бежал с малой дружиной, а псковитина одного лишь убили в той битве — Антония Лочкова именем».

У 1266 годзе князь Даўмонт-Цімафей зноў хадзіў на Полацк. Праўда, не так паспяхова, як дагэтуль. Толькі ўсё адно не збіраўся пакідаць Гердзеня ў спакоі. На наступны год пскавічы трэці раз узяліся браць горад на Палаце. Для большага поспеху Даўмонт-Цімафей заручыўся падтрымкай сына Аляксандра Неўскага — вялікага князя ноўгарадскага Дзмітрыя. Той ахвотна адгукнуўся на просьбу, таму што ў Ноўгарадзе яшчэ не паспелі забыцца пра тое, наколькі даўся ім у знакі Полацк. У войска Даўмонта-Цімафея ўліліся воі на чале з ноўгарадскім пасаднікам Елферыем. Палачане не проста пацярпелі паражэнне, у выніку бітвы загінуў і Гердзень. Аднак сам Полацк так і не ўдалося заваяваць. Тым не менш Полацкая зямля была моцна знясілена.

## У САМЫМ ЦЭНТРЫ СЕЧЫ

Зімой 1268 года саюз князёў-славян утварыўся як ніколі раней вялікі. Для сумеснай барацьбы супраць лівонцаў аб'ядналіся Даўмонт-Цімафей, вялікі князь ноўгарадскі Дзмітрый, Святаслаў Яраслававіч са сваім братам Міхаілам Цвярскім, маскоўскі князь Юрый, князі Канстанцін і Яраполк. Папярэдне ў Ноўгарадзе абмеркавалі, што трэба зрабіць для вызвалення Эстляндыі ад датчан, бо іхняя прысутнасць там выклікала пагрозу паўночным межам Русі. У сваіх сілах не сумняваліся. Дый паспелі добра ўзброіцца, у прыватнасці, зрабілі шмат сценабітных машын. На ўсялякі выпадак паспрабавалі засцерагчы сябе ад тых, хто мог бы аказаць датчанам падтрымку. Таму з тэўтонцаў узялі слова, што яны захаваюць нейтралітэт. Праўда, прайшло не так і шмат часу, як тэўтонцы пачалі плесці інтрыгі. Толькі гэта ўжо ўсё адно ніяк істотна не магло паўплываць на ажыццяўленне задуманага.

У паход выступілі 23 студзеня, раздзяліўшыся на тры калоны, кожная з якіх рухалася самастойна, на вялікай адлегласці адна ад адной, каб тым самым ахапіць як мага большую частку варожай тэрыторыі і перашкодзіць датчанам дзейнічаць зладжана. Аднак тыя, разлічваючы на непераможнасць, і не спяшаліся весці сваё войска насуперак наступаючым. Сканцэнтравалі свае сілы ў эстонскім горадзе Ракверы-Ракаборы. Што ж, гэта славянскім рацям было толькі на руку. Па ходзе руху яны па сутнасці «зачышчалі» тэрыторыю, праз якую праходзілі. А тым, хто трапляўся на іхнім шляху, гэта дорага каштавала: «…И многие страны пожгли и заполонили». Там, дзе прайшло аб'яднанае войска, заставалася выпаленая зямля.

А ў Ракаборы ў шапку не спалі, рыхтаваліся належным чынам сустрэць праціўніка. Ад першапачатковага варыянта — чакаць ягонага прыходу за гарадскімі сценамі — адмовіліся. Вырашылі сустрэць ворага яшчэ на падыходзе да горада, пры тым на значнай адлегласці ад ягоных сцен. Месца выбралі ўдалае — ля ракі. Пераправаўляючыся праз яе, наступаючыя на некаторы час будуць скаваны ў сваіх дзеяннях, а гэта якраз зручны момант для нанясення па іх удару.

У аб'яднанага ж войска быў ужо распрацаваны ўласны план. Паводле яго, Маскоўскі полк пасля пераправы праз раку мусіў застацца ў рэзерве. Рабілася гэта на той выпадак, калі наступ аслабне ці, барані бог, прыйдзецца адступаць. Тады свежыя сілы і пойдуць у бой, ужо сваім з'яўленнем уносячы сумятню ў лагер праціўніка. Асноўны ж удар мусіла ўзяць на сябе правае крыло, а гэта воі на чале з Даўмонтам-Цімафеем, а таксама з князямі Святаславам і Дзмітрыем.

Пераправа далася нялёгка і няпроста. Многіх жыццяў вояў яна каштавала, многія

коні пайшлі на дно — яны, як і людзі, гінулі пад градам стрэл, а то і іх зносіла бурным патокам, калі вершнікі спрабавалі знайсці больш прыдатнае месца, каб пераадолець раку ўброд. Толькі нішто не магло спыніць наступаючых. Блізкая прысутнасць ворага надавала кожнаму ўпэўненасці, выклікала жаданне хутчэй сысціся з праціўнікам.

Нарэшце першыя вершнікі наступаючых апынуліся на супрацьлеглым беразе. Яны і прынялі на сябе першы ўдар — ці не самы моцны, жорсткі. Сёй-той з ворагаў не чакаў ад наступаючых такога спрыту, таму ўздрыгнуў, гатовы быў павярнуць свайго каня назад. Ды дзе там! Ззаду на яго насядалі свае ж ратнікі, апантаныя прагай бою, а наперадзе рухалася ўжо цэлая лавіна вершнікаў — тыя, хто перапраўляўся праз раку следам за сваімі таварышамі. Яшчэ імгненне — і гэтыя два патокі зліліся разам, ператварыўшыся ў своеасаблівую раку, якая, нечакана выйшаўшы з берагоў, гатовая сваім магутным патокам нішчыць і крышыць усё, што перашкаджае ёй рухацца далей.

Даўмонт-Цімафей аказаўся ў самым цэнтры сечы, не зважаючы на ўласную бяспеку. У азарце бою ён апынаўся ў найбольш небяспечных месцах, размахваючы мячом налева і направа. Калі заўважаў, што які-небудзь варожы вершнік нёсся прама на яго, упэўнена пранізваў гэтага смельчака дзідай. Адзін раз, праўда, не паспеў гэта зрабіць своечасова і, калі конь датчаніна сутыкнуўся з ягоным канём, ледзьве ўтрымаўся ў сядле. Здавалася, яшчэ імгненне — і для пскоўскага князя ўсё будзе скончана. Але ў той момант, калі вораг занёс свой меч для рашаючага ўдару, Даўмонт-Цімафей усё ж паспеў адвярнуць свайго каня крыху ўбок і, злаўчыўшыся, з усяго размаху ударыў мячом таго, хто ўжо жыў радасцю перамогі.

Датчане нарэшце не вытрымалі. Ды не тыя з іх, хто знаходзіўся ў самым цэнтры сечы, а, як ні дзіўна, вершнікі, якія былі ў задніх радах. Яны першымі адчулі, што далей змагацца бессэнсоўна, таму пачалі разварочваць сваіх коней. Гэтага было дастаткова, каб іх прыклад перанялі і тыя, хто знаходзіўся ў цэнтры бою. Праз некаторы час варожая лавіна паімчалася ўбок Ракабора, каб ўратавацца за непрыступнымі сценамі. Але адступаючым напярэймы кінуліся вершнікі Маскоўскага палка, якія ўсё яшчэ стаялі ў рэзерве. Зноў чакалася лютая сеча, аднак ворагі імкнуліся пазбегнуць яе, таму далёка не ўсе яны ўступалі ў бой. Большасць уцякала, як тыя палахлівыя зайцы. Спадзяваліся толькі на хуткія ногі сваіх коней, а яшчэ на тое, што менавіта іх Усявышні пакіне ў жывых.

Яшчэ раз дамо слова безыменнаму летапісцу: «...помог Бог князьям русским и гнали немцев к Ракобору в три пути на семь верст, и не было где ступить коню из-за множества трупов немецких, и гнали до города». Тыя ж, каму пашанцавала, паспелі схавацца за ўратавальнымі мурамі.

Для аб’яднанага славянскага войска паўстала пытанне: як быць далей? Некаторыя князі настойвалі на тым, каб, не вагаючыся, браць Ракабор штурмам. Балазе сценабітных машын было дастаткова, але іншыя, а да іх належаў і Даўмонт-Цімафей, схіляліся да думкі, што ў гэтым няма неабходнасці, бо вораг і так жорстка пакараны. Сапраўды, як стала хутка вядома, праціўнік панёс велізарныя страты. Загінула каля 13 тысяч варожых воінаў. Знайшоў сваю смерць і біскуп Аляксандр.

Аднак пскоўскі князь быў супраць штурму горада і па іншай прычыне. Упэўніўшыся, што ў ягонага войска не такія і вялікія страты, Даўмонт-Цімафей вырашыў яшчэ паспытаць свайго ваяцкага шчасця. Калі ноўгарадцы пачалі вяртацца назад, ён «прошел с псковичами горы непроходимые и вируян пленил и (дайшоў. — **В. М.**) до моря, и воевал Поморье, вернулся, пополнив свою землю множеством полона». Віруяне — насельнікі зямлі Вірумаа, што знаходзілася на паўночным усходзе сучаснай Эстоніі.

## ТЭЎТОНЦАМ ДАВЯРАЦЬ НЕЛЬГА

Па вяртанні з паходу ён нарэшце знайшоў сваё сямейнае шчасце. Вялікі князь ноўгарадскі Дзмітрый Аляксандравіч, «увидев блаженного князя Довмонта мужество и храбрость, отдал за него сестру свою княжну Марию Александровну». Праўда, іншыя пісьмовыя крыніцы сцвярджаюць, што гэтая Марыя зусім і не Аляксандраўнай была, а Дзмітрыеўнай, бо з’яўлялася не сястрой вялікага князя, а ягонай дачкой. І, маўляў, вянчанне яе з Даўмонтам-Цімафеем адбылося яшчэ перад паходам да Ракабора. Апроч таго выказваецца меркаванне, што

гэта была не першая жаніцьба пскоўскага князя, а другая. Але гэта толькі меркаванні. Як бы там ні было, ніякіх звестак наконт дзяцей у пскоўскага князя на гэты момант няма. Дый і пазней Даўмонт-Цімафей не хутка займеў сына, якога так чакаў, пра яго думаў нават тады, калі на жорсткасць лівонцаў адказаў не меншай жорсткасцю.

Папярэднічала ж гэтаму нядоўгае мірнае жыццё пасля вяртання яго са сваім войскам з Памор'я. Нейкі год з лішнім быў адпушчаны пскоўскаму князю на тое, каб упарадкаваць справы ў сваёй вотчыне. І такой магчымасцю ён пакарыстаўся напоўніцу.

Паклапаціўся яшчэ лепей умацаваць гарадскую крэпасць, зрабіць яе непрыступнай, каб не мог узяць ніякі вораг. Застаўся верным і сваёй даўняй завядзёнцы — пасля вяртання з чарговага паходу будаваць поруч з Крамлём царкву ў памяць таго Святога, у дзень памяці якога была атрымана ім перамога над ворагам.

Былі ў яго і іншыя задумкі, ды пра іх на некаторы час давялося забыцца. Тэўтонцы не маглі дараваць князю Даўмонту-Цімафею сваё паражэнне каля Ракабора і ў красавіку 1269 года з'явіліся ля сцен Пскова, перад гэтым нанёсшы вялікі ўрон тэрыторыі, праз якую не проста прайшліся, а пранесліся смерчам. У іх была «сила великая», а вось пскавічы, на жаль, не паспелі належным чынам падрыхтавацца да абароны. Але Даўмонт-Цімафей, як гэта і было неаднойчы, не толькі на мужнасць сваіх воінаў спадзяваўся, а і на Боскую дапамогу.

Разлічваючы на яе і будучы ўпэўненым у гэтым, ён выступіў супраць тэўтонцаў акурат 23 красавіка — у дзень святкавання памяці велікамучаніка Георгія. Спадзяванні не аказаліся марнымі. Святы Георгій прыйшоў пскавічам на дапамогу. Хоць атрад у князя Даўмонта-Цімафея і быў малалікі, усяго 60 чалавек, яму ўдалося разбіць ворагаў на рацэ Мірапоўні. Знаходзячыся на пяці лодках, Даўмонт-Цімафей дамогся таго, у што немагчыма было б паверыць, бо яно знаходзіцца на мяжы мажлівасцей, але наконт гэтага засталося дакладнае сведчанне ў летапісе: «…Одних посек, а иные потонули в воде, а два насада (маюцца на ўвазе судны. — **В. М.**) бежали на другие острова».

На адным з гэтых астравоў і разыгралася трагедыя, што не для слабанервовых.



*На манументе «Тысячагоддзе Расіі», аўтарам якога з'яўляецца вядомы скульптар Міхаіл Мікешын, беларус па паходжанні.*

## ЧАГО ХАЦЕЛІ, ТОЕ І АТРЫМАЛІ

...Даўмонт-Цімафей яшчэ крыху пастаяў задумліва, застаючыся сам-насам са сваімі думкамі, а пасля зноў кінуў позірк на востраў, на якім ужо нікога не было відаць. Толькі бачна было, як на зямлі дагаралі галавешкі, а сям-там яшчэ патрэсквалі вершаліны дрэў — падгарэлыя, яны ад лёгкага павеву ветру нібыта скардзіліся на свой лёс, што, як і людзям, прынёс ім столькі выпрабаванняў. У паветры ж не проста адчувалася гаркавасць дыму. Пах быў нязвыклы, такі, што ідзе звычайна ад гарэлага мяса.

Да князя падышоў адзін з ягоных ваяроў — той, які суправаджаў яго ва ўсіх ягоных паходах. Уздыхнуўшы і, як Даўмонт-Цімафей, гледзячы на востраў, на якім яшчэ нядаўна разыгрывалася трагедыя, прамовіў быццам з пачуццём нейкай сваёй асабістай віны ў тым, што здарылася, нібыта хацеў апраўдацца:

— Чаго хацелі, тое і атрымалі.

На твары Даўмонта-Цімафея не ўздрыгнуў ніводзін мускул. Ён адказаў спакойна, нават у чымсьці абыякава, быццам тое, што адбылося, яго ніколькі не тычылася, а таму, нягледзячы на ўсю сваю жудаснасць, і не магло па-сапраўднаму ўсхваляваць:

— На ўсё воля Гасподня...

Перахрысціўшыся, ён загадаў садзіцца ў лодкі.

Па вяртанні ж у Пскоў Даўмонт-Цімафей адразу загадаў узводзіць чарговы храм. Гэтым разам у імя святога Георгія, дзякуючы дапамозе якога, у чым ён не сумняваўся. І па-ранейшаму працягваў умацоўваць муры. Хто-хто, а ён, загартаваны ў баях, добра ведаў нораў лівонцаў. Пройдзе не так і шмат часу, і зноў за сваё возьмуцца.

Сапраўды, праз год рыжскі магістр прывёў да сцен Пскова сваё войска, што складалася ажно з 18 тысяч воінаў. Лівонцы прыбылі «на конях, в кораблях и ладьях, с пороками (сценабітнымі машынамі. — **В. М.**), желая полонить дом Святой Троицы, а князя Довмонта полонить, а мужей псковичей мечами посечь, а несопротивляющийся народ — жен и детей — пленить и в рабство увести».

Становішча склалася ці не самае крытычнае за ўсю гісторыю Пскова. Князь разумеў, што ўласнымі сіламі разбіць чужынцаў немагчыма. Аднак і разлічваць на дапамогу не выпадала, бо каб знайсці саюзнікаў, патрабаваўся час, а якраз гэтага часу ў яго і не было. Здацца добраахвотна ў палон — гэта не выйсце. Усё роўна лівонцы нікога б не пашкадавалі. Заставалася толькі адно — тое, што ўжо неаднойчы дазваляла пскоўскаму князю выйсці пераможцам з самай складанай сітуацыі: зноў звярнуцца па дапамогу да Усявышняга, бо толькі ў ягоных сілах зрабіць гэта.

## ЯШЧЭ АДЗІН ЗВАРОТ ДА БОГА

Нікому нічога не кажучы, са сваім баявым мячом, які заўсёды быў яго надзейным сябрам і памочнікам у барацьбе з чужынцамі, пайшоў да царквы Святой Тройцы. Падышоўшы да яе, паклаў свой меч да падножжа прастола гэтага храма, да якога заўсёды ставіўся з асаблівай пашанай. Пастаяў, памаліўся, духоўнай моцы і ўпэўненасці набраўся. А потым звярнуўся да свайго духоўніка ігумена Ісідара, просячы ў яго благаслаўлення на святую перамогу над тымі, хто хоча закабаліць Пскоўскую зямлю.

Ігумен выканаў ягоную просьбу, а пасля асвяціў меч Даўмонта-Цімафея, каб зброя гэтая стала яшчэ больш надзейнай у барацьбе з ворагам. Апаясаўшыся асвечаным мячом, князь накіраваўся да сваёй дружыны, якая ўсё ўжо ведала пра ягоны намер, таму з нецярпеннем чакала ягонага вяртання ад храма.

— Браты і сестры, — звярнуўся Даўмонт-Цімафей да сваіх баявых паплечнікаў. — Воіны мае слаўныя! Я з вамі неаднойчы перамагаў і вы са мной перамагалі. Ніхто з вас не шкадаваў жывата свайго ў імя свабоды роднага княства, як не шкадаваў яго і я. Мы заўсёды былі разам. Вы з’яўляліся маёй надзейнай апорай, я ж, са свайго боку, заўсёды рабіў усе магчымае і ад мяне залежачае, каб апора гэтая была моцнай, надзейнай і трывалай.

Сцішыліся ратнікі. Прыціхлі і гараджане, якія прыйшлі праводзіць абаронцаў на смяротны бой. Моўчкі стаяць, ловячы кожнае слова свайго князя, а Даўмонт-Цімафей, узіраючыся ў іхнія твары і прачытваючы на іх рашучасць ісці ў бой, жаданне любой цаной выстаяць, нягледзячы на тое, што сілы няроўныя, працягваў:

— Усялякае было ў нашым жыцці. І не толькі перамогі. Часам даводзілася нам і адступаць. Аднак калі мы адступалі, то ведалі, што праз некаторы час зможам адпомсціць ворагам. Цяпер надарыўся асаблівы выпадак. Нас у шмат разоў меней у параўнанні з ненавіснымі тэўтонцамі, якія не могуць жыць, не паспытаўшы людской крыві. Таму яны і разлічваюць на тое, што возьмуць нас, можна сказаць, голымі рукамі. Сапраўды, адступаць нам няма куды, і гэта таксама на іхнюю карысць. Але ёсць у нас тое...

Князь абвёў позіркам прысутных, на нейкую хвіліну замоўк, а пасля сказаў рашуча, на адным дыханні, як адрэзаў:

— У нас ёсць тое, што мы ніколі і нікому не аддамо. У нас ёсць Пскоў.

— Не аддамо яго! — пачуліся галасы.

— Усе як адзін загінем, але не быць тэўтонцам у нашым горадзе!

— Выстаім!

## З АСВЕЧАНЫМ МЯЧОМ НАПЕРАД

— Іншага адказу я ад вас і не чакаў, — з гэтымі словамі князь узяў у рукі асвечаны меч. — З ім я іду ў бой! Разам з вамі іду!

Вартавыя толькі і чакалі гэтага. Цяжка, натужна, са скрыпам расчыніліся гарадскія

вароты, і пскавічане з крыкамі, напоўненымі прагай перамогі, кінуліся наперад, туды, дзе варожая раць сабралася ў прадчуванні лёгкай перамогі. На іх па сутнасці ішла лавіна. Немагчыма было паверыць, што гэта ўсяго ў лепшым выпадку нейкая тысяча людзей. І ў першых шарэнгах іх на сваім кані імчаўся князь Даўмонт-Цімафей.

Здзіўляючая ягоная смеласць і рашучасць вывелі з сябе магістра. Убачыўшы пскоўскага князя, ён таксама прышпорыў свайго каня. Аднак у Даўмонта-Цімафея было столькі рашучасці, што калі паміж імі заставалася толькі некалькі метраў, магістр не вытрымаў, вырашыў павярнуць каня назад, але не паспеў зрабіць гэта.

— Ну, тэўтонец, развітвайся з жыццём! — Даўмонт-Цімафей не памятаў ужо — прамовіў гэта ўголас ці падобная думка толькі мільганула ў ягонай галаве — і рашуча занёс свой меч.

Магістр у апошняе імгненне паспеў ухіліцца ад удару праціўніка, і меч толькі злёгку крануўся ягонага твару. Пасля гэтага князь не стаў пераследаваць яго. Яму было ўжо не да магістра. Даўмонт-Цімафей паімчаў да сваіх воінаў, імклівай стралой уразаючыся ў варожых коннікаў, якія апыналіся ў яго на шляху. Здавалася, ягоная гібель немінучая, ды ён жывым-здаровым выходзіў з паядынкаў.

Пскавічы ж, натхнёныя асабістым прыкладам свайго князя, ужо не столькі наступалі, колькі цяснілі тэўтонцаў. Нарэшце ворагі не вытрымалі, і некаторыя з іх пачалі адрывацца ад сваіх і кінуліся да ўратавальнай ракі, на хвалях якой пагойдваліся судны. Хутка варожае войска стала некіруемым. Вершнікі гналі сваіх коней да ракі, навыперадкі, абганяючы адзін аднаго, несліся да сваіх караблёў тыя, хто страціў коней у баі.

Пскавічы ж, пахаваўшы загінулых і аказваючы дапамогу раненым, не адзін дзень святкавалі перамогу. І адразу пачалі ўзводзіць у горадзе новы храм — у імя вялікамучаніка Феадора, які ўрачыста адкрылі 8 ліпеня 1270 года.

## ДАВЫД ГАРАДЗЕНСКІ — ЯГОНЫ СЫН

Пасля пачалося мірнае жыццё. Вядома, хутчэй за ўсё лакальныя сутыкненні працягвалі адбывацца, але, відаць, не вельмі значныя. Ва ўсякім разе, у пісьмовых крыніцах пра гэты перыяд амаль нічога не гаворыцца, тое, што не было звязана з ваеннымі дзеяннямі ці нейкімі значнымі падзеямі, летапісцы тады за рэдкім выключэннем не фіксавалі.

Тым самым з жыцця князя Даўмонта-Цімафея па сутнасці як бы выпадае ажно дзевятнаццаць гадоў. Хоць, па некаторых звестках, ён сутыкаўся з лівонцамі яшчэ двойчы: у 1272 і 1298 гадах. Гэта ж дакладна вядома: дарага абышоўся крыжакам напад на Пскоўскую зямлю 4 сакавіка 1299 года. Аднак браць штурмам сам Пскоў яны тады не асмеліліся, толькі абрабавалі яго ваколіцы і манастыры, не шкадуючы пры гэтым мірных жыхароў. Ад іхніх рук, у прыватнасці, загінуў ігумен манастыра Святога Спаса Васілій. Гэткі ж трагічны лёс напаткаў і ігумена манастыра на Снетнай гары Іасафа, які з’яўляўся і ягоным заснавальнікам. Іасаф прыняў смерць разам з сямнаццаццю манахамі.

Тэўтонцы за гэта жорстка паплаціліся. Воі князя Даўмонта-Цімафея сутыкнуліся з імі на беразе ракі Вялікай, адцяснілі іх у ваду і разбілі. Удалося вярнуць нарабаванае і захапіць вялікую колькасць зброі. Прычына таго, што помста была запозненай, бадай, у тым, што сам пскоўскі князь у гэты час цяжка хварэў. Наўрад ці ён мог удзельнічаць у бітве, бо настолькі адчуваў сябе блага, што праз два месяцы, «…мало поболев, преставился к Богу в вечную жизнь месяца мая в 20 день». Праўда, у некаторых пісьмовых крыніцах сцвярджаецца, што Даўмонт-Цімафей усё ж загінуў на ратным полі. У бітве з Войшалкам, які ўсё ж адпомсціў яму за забойства свайго бацькі. Але падобнае малаверагодна, бо факты, якім нельга не верыць, усё ж сведчаць на карысць смерці пскоўскага князя ад хваробы.

Памёр Даўмонт-Цімафей, не толькі дачакаўшыся сына, якога назваў Давыдам, а і выгадаваўшы яго. Яго і прасіў ісці на тую зямлю, якую некалі сам вымушаны быў пакінуць з-за неспрыяльных для яго жыццёвых абставін. Прасіў, каб Давыд служыў верай і праўдай. Што той, выконваючы гэты наказ бацькі, які па сутнасці стаў ягоным запаветам, і зрабіў. Ён увайшоў у гісторыю як Давыд Гарадзенскі — беларускі палкаводзец, які ў сваім жыцці не прайграў ніводнай бітвы. Магчыма, былі ў Цімафея-Даўмонта і іншыя дзеці, аднак звесткі пра іх да нас не дайшлі.

## КАНАНІЗАВАНЫ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВОЙ

Пахавалі пскоўскага князя ў саборнай царкве Святой Тройцы. Жонка Даўмонта-Цімафея Марыя перажыла яго на год. Калі мужа не стала, яна пайшла ў манастыр, дзе хутка прыняла і схіму пад імем Марфа. Наколькі моцна любілі пскавічы свайго князя, відаць з гэтага сведчання летапісу: «Был он милостив неизмеримо, священников любил, церкви украшал, нищих миловал и все праздники честно проводил, за сирот и вдов заступался и обиженным помогал».

Таму неўзабаве і пачалі ўшаноўваць Даўмонта-Цімафея як святога заступніка Пскова. Калі ж над горадам узнікала небяспека, звярталіся да свайго былога князя па дапамогу. Дакументальна засведчаны такія просьбы ў 1341 і 1343 гадах. А ў 1373 годзе ў імя дабравернага літоўскага князя Даўмонта і пскоўскага князя Цімафея быў узведзены праваслаўны храм. Значна пазней высветлілася, што мошчы князя Даўмонта-Цімафея нятленныя і валодаюць цудадзейнымі якасцямі.

Упершыню пра гэта стала вядома ў 1540 годзе, калі ў дзень Святой Тройцы каля яго грабніцы акрыялі сляпы і сухарукі. Былі і іншыя выпадкі, калі князь прыходзіў на дапамогу нямоглым і хворым. Аднак тое, што адбылося ў 1480 годзе, як кажуць, не ўкладваецца ні ў якія рамкі. Хоць з якога боку да ўсяго падыходзіць. Калі з пункта гледжання закаранелага атэіста, дык і сапраўды ў падобнае цяжка паверыць. Але калі верыць, наколькі пскоўскі князь верай і праўдай служыў Богу, у гэтым нічога надзвычайнага няма. Тым больш што згаданы выпадак занатаваў для нашчадкаў летапісец. Дзеля таго занатаваў, каб яшчэ больш пераканаць, наколькі ягоная святасць дастойна ствараць цуды.

У 1480 годзе да сцен Пскова падышоў тэўтонскі магістр са сваім статысячным войскам, якое размясцілася на 13 суднах. Па сутнасці паўтаралася сітуацыя 1270 года. Хіба што куды больш складаная. Як і тады, над горадам навісла пагроза не проста захопу, а поўнага яго знішчэння. І тады дабраверны князь Даўмонт-Цімафей, які 33 гады аддаў умацаванню Пскова і ягонаму росквіту, абароне ад захопнікаў, успомніў пра сваю новую радзіму.

Калі ўсе знаходзіліся ў прадчуванні самага горшага, князь ноччу з’явіўся да аднаго з гараджан, калі той спаў. І падказаў нязменны абаронца Пскова, што трэба рабіць і як дзейнічаць, каб разграміць ворага: «Возьмите одеяние гроба моего, обнесите его три раза вокруг города с крестами и не обойтись». Пскавічы, даведаўшыся пра такі наказ, паспяшаліся яго выканаць. Зрабіўшы ж усё так, як таго прасіў дабраверны Даўмонт-Цімафей, смела пайшлі ў бой, упэўненыя ў сваёй перамозе. Цуд сапраўды не прымусіў сябе чакаць: войска лівонцаў было цалкам разгромлена, прытым, як і калісь, яго загналі ў раку. І гэтым разам толькі нямногія змаглі ўратавацца на суднах. Дапамог абаронца Пскова адстаяць горад і пазней, калі яго аблажыла войска Стэфана Баторыя.

Таму дабраверны Даўмонт, у святым хрышчэнні Цімафей, князь літоўскі, князь пскоўскі, кананізаваны праваслаўнай рускай царквой, ушаноўваецца як святы. Памяць аб ім святкуецца штогод у дзень ягонай смерці, а гэта, як вядома, па н. с. 2 чэрвеня. Такога стаўлення да сябе ён заслужыў, бо заўсёды імкнуўся жыць па Боскіх запаветах, рабіць людзям дабро. А што часам жорскім быў, то жорсткасць гэтая была скіравана на тое, каб зло далей не распаўсюджвалася.

Даўмонтаў меч — радня дамоклаву мячу. Даўмонт-Цімафей таксама пастаянна і ўпэўнена рассякаў усе вузлы самых складаных супярэчнасцей, калі разблытванне іх залежала толькі ад яго. У душы ж заўсёды заставаўся чалавекам добрым. Таму і даравана яму Госпадам неўміручасць.

Дар’я ГУШТЫН

# «ЗРАБІ СВОЙ ВЫБАР»: БРСМ адзначыў 90-годдзе камсамола

*У Мінску прайшоў моладзевы форум «Зрабі свой выбар», прысвечаны 90-годдзю камсамольскага руху Беларусі. Яго арганізатарам выступіў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі, які з’яўляецца афіцыйным правапераемнікам камсамольскай арганізацыі.*

На адкрыцці форуму першы сакратар Цэнтральнага камітэта БРСМ Ігар Бузоўскі зачытаў прывітанне Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. У ім адзначаецца, што Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі ўпэўнена прыняў эстафету ў свайго папярэдніка і працягвае слаўны летапіс моладзевага руху, напаўняючы яе новыя старонкі пэўнымі справамі. Прэзідэнт пажадаў моладзі поспехаў у працы і вучобе, невычэрпнай энергіі, юнацкага запалу ў дасягненні мэт, шчасця і дабрабыту.



*Моладзь задае Прэзідэнту свае пытанні.*

## ЛЕПШЫЯ ТРАДЫЦЫІ Ў СУЧАСНАСЦІ

Сярод галоўных традыцый, што пераняў БРСМ у камсамола, гэта — сістэмнасць працы, якая ахоплівае ўсе інтарэсы моладзі, усе кірункі дзейнасці. Напрыклад, БРСМ, як калісьці камсамол, бярэ ўдзел у добраахвотніцкім руху — усё, што звязана з дабрачыннасцю, дапамогай ветэранам, інвалідам, аб’яднана ў руху «Добрае сэрца». У камсамоле была і спартыўная дзейнасць моладзі — турзлёты і міжнародныя лагеры, зараз гэтым займаецца БРСМ. Акрамя таго, арганізацыя з’яўляецца пераемнікам традыцый студатрадаўскага руху. У хуткім часе кіраўніцтва БРСМ плануе выходзіць на Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай аб прыняцці нарматыўнага дакумента, які вызваляў бы прадпрыемствы, якія дапамагаюць працаўладкоўваць будатрады, ад пенсійных адлічэнняў (гэта больш за 30 працэнтаў) з зарплат будатрадаўцаў. Таксама БРСМ вядомы ў краіне па патрыятычных акцыях.

## ТАНЦЫ, ГУЛЬНІ, СПЕВЫ, КАЗКІ

Упершыню круглую дату камсамольскага руху актыў БРСМ прапанаваў адзначыць інтэрактыўнай дэманстрацыяй дасягненняў мінулага і сучаснасці.

Больш як на дваццаці выставачных блоках была прадстаўлена дзейнасць арганізацыі. Для тых, хто даўно марыў паспрабаваць свае сілы ў брэйк-дансе, майстар-клас зладзілі сапраўдныя прафесіяналы. Але ўвагай надзялілі не толькі танцораў. Кожны мог прыняць удзел у волатаўскіх забавах, а таксама даведацца аб правільным падборы прадуктаў для здаровага і карыснага харчавання. Цікавасць у маладых людзей выклікаў і рынак вакансій другаснай занятасці студэнтаў. Арганізатары ўзялі за мэту паказаць

увесь доўгі шлях дзейнасці камсамола ў Беларусі. Таму разам з сучаснымі інтарэсамі моладзі можна было ўбачыць рэтракалекцыю сцягоў, аўтамабіляў і іншых атрыбутаў савецкіх часоў. Напрыклад, каб паглядзець працоўную кніжку Пятра Машэрава, выстраілася чарга жадаючых. А прымерыць студатрадаўскую куртку часоў БССР пажадаў ледзьве не кожны другі госць форуму.

Новае стагоддзе дыктуе новыя правілы. І калі дзяцей канца 70-х можна было ў палымянай гаворцы цалкам захапіць толькі новай ідэяй, то цяперашнім студэнтам і маладым спецыялістам патрэбна нешта новае. Менш тэорыі, больш практыкі — такі ўмоўны дэвіз можа быць у мерапрыемства. Па словах першага сакратара ЦК ГА «БРСМ» І. Бузоўскага, наведвальнікі форуму змаглі атрымаць рэальнае ўяўленне пра дзейнасць моладзевай арганізацыі. Тут былі прадстаўлены самыя яркія праекты: міжнародны конкурс грацыі і артыстычнага майстэрства «Каралева Вясна», сямейны сельскагаспадарчы праект «Уладар сяла», конкурс «Міжнародная парусная рэгата», таксама прайшла прэзентацыя дзейнасці клубаў юных журналістаў, кастынг тэле- і радыёвядучых.




*Патрыятызм — асноўны накірунак дзейнасці.*




*Прэса: ад мінулага да будучыні.*




*Зоркі беларускай эстрады на канцэрце БРСМ.*

А ў межах праекта «Паглядзі на нас пановаму» кожны ахвотнік змог паспрабаваць свае магчымасці і стаць сябрам крэатыўнай каманды саюза моладзі. Крэатыву хапала на ўсіх: дзеці, апранутыя як калгаснікі, дактары ў даваеннай і ваеннай формах, а таксама ў касцюмах хуліганаў і стыляг у форме перформансу прайгралі элементы эпохі пачатку і сярэдзіны ХХ стагоддзя. Яркім і відовішчным стаў самы пачатак форуму — аўтапрабег па галоўных праспектах горада — Незалежнасці і Пераможцаў, калоны рэтра-аўтамабіляў удзельнікаў грамадскага аб’яднання «Аўтаамерыка» ў суправаджэнні байкераў.

Акрамя таго, каля Футбольнага манежа прайшла выстава вінтажных аўто і байкаў. Не менш займальным было спаборніцтва лепшых брэйк-данс-каманд Беларусі «BREAKING SUMMIT BY 2010», а таксама паказальныя трукавыя выступы ролераў і велатрыалістаў, майстар-класы папулярных біт-баксёраў. Здзівіў форум і сваім ноу-хау: турнірам па зборы складанкі з беларускай тэматыкай.

Музыка, якая, здаецца, гучала адусюль, не толькі радавала слухачоў, але і прэзентавала лепшае з лепшага на беларускай эстрадзе. Апроч таго, і ў музычнай намінацыі абралі лепшых выканаўцаў. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, вядомы беларускі кампазітар Ігар Лучанок уручыў прэмію БРСМ папулярнай спявачцы Алесі, якая прымала ўдзел у шматлікіх масавых акцыях пад эгідай гэтага моладзевага аб’яднання. Дарэчы, музыка не толькі распачала праграму, але музычным было і завяршэнне мерапрыемства — напрыканцы адбылася бітва дзіджэяў.



Мая прафесія

Ірына КЛІМКОВІЧ

# ВУЧЫЦЦА НА ЧАРАЎНІКА

***Ніводны чалавек, які сочыць за сабой, не хоча глядзецца гадаванцам інкубатара ані ў вопратцы, ані ў прычосцы, ані ў макіяжы. Вылучыцца на фоне іншых, знайсці свой стыль дапамагаюць мадэльеры, цырульнікі, візажысты... А, каб адлюстраваць унікальнасць вобраза, зафіксаваць яго для сучаснікаў і нашчадкаў, спатрэбіцца фатограф. І хаця ўсе гэтыя прафесіі вымагаюць вострага позірку, спрактыкаваных рухаў, пастаянных трэніровак, але перш за ўсё іх немагчыма ўявіць без творчага натхнення, мастацкага густу і фантазіі...***

***Памятаеце, як Папялушка са старога савецкага фільма марыла трапіць на каралеўскі баль? І як добрая хросная-фея зрабіла з яе сапраўдную каралеўну? А дапамагаў ёй у гэтым хлопчык, які яшчэ не быў чараўніком, а толькі вучыўся на яго. Сапраўды, чараўнікамі не нараджаюцца, недзе ж на іх і вучаць.***

***У Мінскім дзяржаўным тэхналагічным каледжы дакладна ведаюць пра тое, як з адрэзу тканіны зрабіць прыгожую і стыльную вопратку. Майстры па стварэнні ўсемагчымых прычосак і накладанню дэкаратыўнай касметыкі раскрываюць таямніцы сваёй найстаражытнейшай прафесіі. Тут навучаць і таму, як бачыць святло, адценні, выбраць ракурс, як стварыць свой, не падобны ні да якога іншага, кадр, як увасобіць у ім самыя смелыя ідэі.***

***Але перш чым пазнаёміць вас з паўсядзённым жыццём і насычанай дзейнасцю каледжа, з ягоным прафесійным калектывам выкладчыкаў і лепшымі навучэнцамі, трохі гісторыі.***

## ПЛЁН ПАЛОВЫ СТАГОДДЗЯ

20 кастрычніка 1953 года 180 навучэнцаў пачалі заняткі ў Мінскім тэхналагічным тэхнікуме Белпрамкааперацыі, які месціўся ў невялікім трохпавярховым будынку на вуліцы Сухой. Першы набор ішоў па чатырох спецыяльнасцях: Тэхналогія швейнай вытворчасці; Тэхналогія сталярна-мэблевай вытворчасці; Бухгалтарскі ўлік на прадпрыемствах бытавога абслугоўвання; Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт абсталявання тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці. З 1955 года дадаўся набор па спецыяльнасці «Мадэліраванне і канструяванне адзення». З 1971 года і па сённяшні дзень навучальная ўстанова месціцца ў пяціпавярховым вучэбным корпусе па вуліцы Чырвонай, 19-б. У сувязі з вялікай запатрабаванасцю ў спецыялістах і развіцці бытавога абслугоўвання насельніцтва, як галіны, тэхнікум зрабіўся адной з найбуйнейшых сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў краіны. З 1971—1994 г. г. тэхнікум рыхтаваў спецыялістаў па спецыяльнасці «Хімічнае ачышчэнне і фарбаванне адзення». З 1973 года дадаўся набор на спецыяльнасць «Цырульніцкае мастацтва і дэкаратыўная касметыка», а з 1982 года — на спецыяльнасць «Фатаграфічная вытворчасць». З 1980—1991 гг. тэхнікум выпускаў спецыялістаў для замежжа: Манголіі, Кампучыі, Мазамбіка, Анголы, Дамініканскай Рэспублікі Йемен, Нікарагуа, Афганістана. З 1 верасня 1999 года навучальная ўстанова пераўтворана ў «Мінскі дзяржаўны тэхналагічны каледж».

З 2010 года каледж з'яўляецца інавацыйнай пляцоўкай па спецыяльнасці «Канструяванне і тэхналогія швейных вырабаў».

Сёння каледж з'яўляецца вядучай установай адукацыі ў галіне лёгкай прамысловасці і бытавога абслугоўвання насельніцтва. Ён базавы па накірунках адукацыі: тэхніка і тэхналогія, грамадскае харчаванне, гасцінічнае і бытавое абслугоўванне насельніцтва. Каледж мае ў сваім распараджэнні 37 кабінетаў і лабараторый, ёсць метадычныя комплексы па ўсіх дысцыплінах, неабходныя тэхнічныя сродкі навучання, сучаснае абсталяванне. Да паслуг навучэнцаў маюцца чатыры камп'ютарныя класы, спартыўныя і актавая залы, сталовая, інтэрнат для іншагародніх, майстэрні для праходжання вытворчай практыкі. У каледжы існуе пакой псіхалагічнай разгрузкі, бібліятэка агульнай плошчай 505 кв. м, дзе размешчаны абанемент, чытальная зала, кнігасховішча, у якім налічваецца 56 000 экзэмпляраў кніг і перыядычных выданняў. Бібліятэкары каледжа абслугоўваюць звыш 2600 чытачоў дзвюх форм навучання: дзённага і завочнага. Прафесійны педагагічны склад навучальнай установы пастаянна ўдасканальвае тэхналогіі адукацыйнага працэсу. Шмат хто з выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання — выпускнікі каледжа. За падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў некаторыя з іх былі адзначаны высокімі званнямі і дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Мінскаму дзяржаўнаму каледжу ёсць чым ганарыцца, бо штогод звыш 250 навучэнцаў удзельнічаюць у міжнародных, рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх конкурсах, міжнародных асамблеях моды, чэмпіянатах, алімпіядах, выставах і спаборніцтвах, дзе па выніках выступленняў заваёўваюць прызавыя месцы звыш 90 працэнтаў навучэнцаў.



## ДБАЙНЫ КІРАЎНІК, РУПЛІВЫ ГАСПАДАР...

**Мікалай Мікалаевіч Цырэльчук** на пасадзе дырэктара працуе са снежня 2006 года. Карэнны мінчанін. Мае дзве вышэйшыя адукацыі. Па першай — радыёінжынер, канструктар-тэхнолаг — з чырвоным дыпломам скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Каб адпавядаць займаемай пасадзе, скончыў з адзнакай Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі. Кваліфікацыя выкладчык. Да прызначэння ў каледж 13 гадоў адпрацаваў у Міністэрстве адукацыі Беларусі, спачатку вядучым інспектарам у аддзеле інспектавання сярэдняй спецыяльнай адукацыі, потым ва ўпраўленні кадравай палітыкі — намеснікам начальніка. У каледжы выкладае прадметы арганізацыйнага парадку.

З ягоным прыходам у каледж працоўны калектыў зразумеў, што такое руплівы гаспадар і дбайны кіраўнік. Цяпер на Чырвонай 19-б рамантуецца літаральна ўсё. Мяркуйце самі, майстэрні і інтэрнат не ведалі сур'ёзнага рамонту з 1961 года, ад самай пабудовы. Вучэбны корпус — з 1971-га. Таму са снежня 2006-га тут адразу пачалі мяняць старыя вокны на шклопакеты, адрамантавалі дах — будынак накрылі металадахоўкай, упарадкавалі месцы агульнага карыстання, рабілі капрамонт майстэрняў. У выніку з 2006 па 2010 год значна палепшылася матэрыяльна-тэхнічная база: абсталяваны сучаснай камп'ютарнай тэхнікай і апаратурай аўдыторыі: «Інфарматыкі», «Інфармацыйных тэхналогій, «САПР у галіне», «Канструявання адзення». Аднавілася абсталяванне трох цэхаў швейных вырабаў, дзе ўстаноўлена звыш 100 адзінак найноўшага швейнага абсталявання. Для правядзення практычных заняткаў па спецыяльнасці «Фатаграфія» набыта звыш 90 адзінак фатаграфічнага абсталявання. Сучаснай тэхнікай абсталяваны чатыры цырульніцкія салоны, дааб-

сталяваны 90 рабочых месц цырульніка і візажыста, 60 мадэльера-канструктара і тэхніка-тэхнолага. Наперадзе ў планах — далейшае ўпарадкаванне вучэбных аўдыторый і ацяпленне фасадаў.

На ўсё гэта патрэбны грошы. А без умацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы іх цяжка здабыць. Таму і павялічваюць у каледжы колькасць «платнікаў». Кожная спецыяльнасць мае тут свае платныя формы. А бухгалтарскаму ўліку навучаюць толькі на платнай аснове. Маглі б яшчэ зарабляць і ў вытворчых майстэрнях, дзе час ад часу шыюць на заказ спецвопратку. Але масава такое ў каледжы не практыкуецца. Дырэктар упэўнены, што ў майстэрнях будучыя спецыялісты павінны вучыцца рабіць на практыцы разнастайныя аперацыі, замацоўваць тэарэтычныя веды, атрыманыя ў аўдыторыях. Мадэльер-канструктар, які не можа сам шыць, не здолее потым стварыць новую канструкцыю адзення. Як кажа Мікалай Мікалаевіч: «Наша асноўная мэта навучыць, а не зарабіць». І з гэтым цяжка не пагадзіцца.

Але павелічэнне «платнікаў» стварыла новую праблему. Вырасла колькасць навучэнцаў, у тым ліку і іншагародніх. На пачатку навучальнага года не ўсім дасталіся месцы ў інтэрнаце. Аднак, як запэўнівае дырэктар, без жытла засталася нязначная колькасць навучэнцаў. Родам яны з бліжэйшых населеных пунктаў, куды можна даехаць электрычкай або маршруткай. Гэта Лагойск, Жодзіна, Барысаў, Дзяржынск... Але і гэта праблема вырашыцца да канца каляндарнага года. Справа ў тым, што каледж выпускае сваіх спецыялістаў не адначасова. Так, тыя, хто вучыўся на спецыяльнасці бухгалтарскі ўлік, выпускаюцца ў лістападзе, цырульнікаў выпускаюць у снежні, а мадэльераў-канструктараў — у студзені. Пасля гэтага, натуральна, у інтэрнаце з'явяцца вольныя месцы, куды і заселяць усіх жадаючых.



*Заўсёды крэатыўная і камунікабельная В. С. Ажар.*

Праблем на працы хапае. Ад іх Мікалай Мікалаевіч мае магчымасць адпачыць у свой вольны час у сямейным коле. Там ён любімы муж і клапатлівы бацька. Разам з жонкай і дзвюма дочкамі нярэдка выбіраецца на прыроду, на дачу, у вёску да сваякоў і знаёмых. Аднак, і ў гэты час ён міжволі думае пра тое, як павялічыць якасць прафесійнай падрыхтоўкі ў каледжы. А яшчэ дырэктар цікавіцца футболам, чытае дэтэктывы, шмат фатаграфуе, сустракаецца з былымі аднагрупнікамі.

## АД ВЫПУСКНІЦЫ ДА КІРАЎНІКА

Сёння прафесія мадэльера з'яўляецца адной з самых прэстыжных і папулярных. Яна спалучае ў сабе прыгажосць, пластыку і функцыянальнасць. Спецыялісты гэтай сферы ствараюць новыя мадэлі адзення, абутку, галаўных убораў... А для таго, каб зрабіцца сапраўдным прафесіяналам і дабіцца поспехаў у галіне канструявання і мадэліравання адзення, у першую чаргу неабходна любіць тое, што робіш, крочыць з часам у нагу, да таго ж, безумоўна, шмат і плённа працаваць. А яшчэ трэба валодаць такімі якасцямі, як крэатыўнасць, цярплівасць, камунікабельнасць і мастацкія здольнасці.

Усімі гэтымі якасцямі валодае намеснік дырэктара па навучальнай рабоце ў каледжы **Валянціна Станіславаўна Ажар**. Колішняя выпускніца гэтай навучальнай установы, яна працуе тут з 1994 года. А паміж гэтымі памятнымі вехамі ў сваім жыцці Валянціна Станіславаўна адолела няпросты шлях прафесійнага росту. Гэта і праца мастаком-мадэльерам на Гомельскай фабрыцы індывідуальнага пашыву», і праца інжынерам швейнага аддзела ў навукова-вытворчым аб'яднанні «Белбыттэхніка». Пасля заканчэння Усесаюзнага завочнага інстытута тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці па спецыяльнасці «Канструяванне швейных выра-

баў» — яна вядучы канструктар у канструктарска-тэхналагічным аддзеле праектавання адзення інстытута «Белбыттэхпраект». І заўсёды ў працы Валянціны Ажар прысутнічалі смелыя і крэатыўныя ідэі. Ці былі гэта эскізы новых мадэляў адзення для Тэатра мод, канструкцыю якіх яна выконвала самастойна, ці складанне каталогаў па перспектыўным мадэліраванні, ці ўкараненне канструктарска-тэхналагічнай дакументацыі на прадпрыемствах галіны і перападрыхтоўка спецыялістаў сістэмы бытавога абслугоўвання насельніцтва і лёгкай прамысловасці. Усё было прасякнута творчым уздымам і патрабавала неймавернай працаздольнасці.

Любоў да прафесіі мадэльера, па словах Валянціны Станіславаўны, дасталася ёй у спадчыну ад маці, якая заўсёды любіла шыць, і ад яе роднай цёткі, якая працавала мадысткай галаўных убораў у горадзе на Няве, і да якой яна ездзіла на стажыроўку. Калі перайшла працаваць у каледж, там Валянціну Станіславаўну таксама чакалі свае кар'ерныя прыступкі: выкладчык, старшыня цыклавой камісіі, загадчык канструктарска-тэхналагічнага аддзялення і, нарэшце, яе сённяшняя пасада. За асабісты ўклад у развіццё здольнасцей адоранай моладзі яна ўзнагароджана прэміяй спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў. Як старшыня мастацкага савета па распрацоўцы калекцый мадэлей і арганізацыі шоу-паказаў, намеснік дырэктара арганізоўвае рэспубліканскія алімпіяды прафесійнага майстэрства па спецыяльнасцях: «Мадэліраванне і канструяванне адзення», «Тэхналогія і канструяванне швейных вырабаў», «Тэхналогія швейнай вытворчасці», а таксама конкурсы дызайнераў адзення, асамблеі моды, выставы рэспубліканскага і міжнароднага ўзроўню. Разам з навучэнцамі яна брала ўдзел у рэспубліканскіх конкурсах «Белая Амфара», «Мамант», «Супермадэль Беларусі», дзе распрацаваныя мадэлі занялі прызавыя месцы.

У 2009 годзе Валянціна Станіславаўна скончыла з дыпломам з адзнакай Рэспубліканскі інстытут інавацыйных тэхналогій Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. З 2009 года яна з'яўляецца старшынёй Рэспубліканскага метадычнага аб'яднання ў галіне лёгкай прамысловасці і бытавога абслугоўвання. Выкладчыкі ліцэяў, тэхнікумаў, каледжаў звяртаюцца да Валянціны Станіславаўны як да вопытнага кіраўніка і выкладчыка і нязменна атрымоўваюць карысную параду.

Разам з аднадумцамі-калегамі, у тым ліку і са сваім сынам, мадэльерам-канструктарам, які працуе ў каледжы выкладчыкам, Валянціна Ажар пастаянна займаецца ўкараненнем у навучальны працэс інфармацыйных тэхналогій. Гэта перадусім САПР — сістэма аўтаматызаванага праектавання. Швейная САПР уяўляе сабою комплекс праграм і тэхнічных сродкаў, прызначаных для аўтаматызацыі работ па мастацкаму праектаванню мадэлей адзення. У 2003 годзе Мінскі дзяржаўны тэхналагічны каледж заключыў дамову аб творчым супрацоўніцтве з навукова-вытворчай фірмай «Інфармацыйныя камп'ютарныя сістэмы». У выніку для забеспячэння вучэбнага працэсу ў каледжы было ўсталявана праграмнае забеспячэнне комплекснай аўтаматызацыі канструктарскай і тэхналагічнай падрыхтоўкі вытворчасці швейных вырабаў — САПР «ГРАЦЫЯ». І цяпер з яе дапамогай выкладчыкі і навучэнцы самастойна, без удзелу праграмістаў, распрацоўваюць мадэльныя канструкцыі і выконваюць раскладкі лякал



*Нялёгкая праца мадэльера-канструктара.*



*Конкурс моды і мастацтва «Неўскія берагі».*

гісторыю стыляў у мастацтве і касцюме, матэрыялазнаўства швейнай вытворчасці, матэрыялы для вопраткі, мадэліраванне і мастацкае афармленне адзення, мастацкую графіку, тэхналогію вырабу адзення і г. д. Асноўная задача выкладчыкаў гэтай спецыяльнасці — садзейнічаць у выяўленні і развіцці творчых магчымасцей навучэнцаў. А калектыў выкладчыкаў тут прафесійны і дасведчаны, многія з іх працавалі на вытворчасці мадэльерамі і дасканала ведаюць спецыфіку сваёй працы.

на камп'ютары, якія потым раздрукоўваюць на плотэры. Прычым, яны праектуюць не толькі адзенне, але і дапаўненні да яго: абутак, сумкі і галаўныя ўборы. Падобныя інавацыі выкарыстоўваюцца ў разнастайных конкурсах мадэльераў і дызайнераў адзення. У прыватнасці, калекцыі адзення «Вандраванне па Беларусі» і «Нэакласіка», выкананыя з дапамогай САПР, перамаглі на конкурсах «Мадэль года» і «Залатыя нажніцы».

Валянціна Станіславаўна кажа, што камп'ютарныя тэхналогіі дазваляюць рэалізоўваць сістэмны прынцып праектавання адзення, павялічваюць дакладнасць выканання разліковых і графічных працэдур, што вызваляе мадэльера-канструктара і тэхніка-тэхнолага ад руціннай працы.

## РАЗМАЎЛЯЦЬ НА МОВЕ АДЗЕННЯ

Падрыхтоўка выпускнікоў каледжа па спецыяльнасці «Мадэліраванне і канструяванне адзення» вядзецца з 1955 года. З 2009 г. спецыяльнасць называецца «Канструяванне і тэхналогія швейных вырабаў». Накірункі гэтай спецыяльнасці: мадэліраванне, канструяванне і тэхналагічнае забеспячэнне; мадэліраванне і канструяванне. Пасля заканчэння каледжа выпускнікі атрымліваюць кваліфікацыю «Мадэльер-канструктар». Будучыя спецыялісты павінны засвоіць:

Адным з такіх выкладчыкаў, чый прафесійны шлях пачаўся з гэтай навучальнай установы, з'яўляецца **Таццяна Яўгенаўна Собаль**. Скончыўшы каледж па спецыяльнасці «Мадэліраванне і канструяванне швейных вырабаў», некаторы час працавала закройшчыкам. Потым была вучоба ў Віцебскім тэхналагічным інстытуце лёгкай прамысловасці. Далей жа, па яе словах, ёй проста пашанцавала. Пасля заканчэння інстытута яна патрапіла ў выдатны творчы калектыў — «Тэатр моды» Белбыттэхпраекта, дзе атрымала неацэнны досвед і матывацыю прафесіі мадэльера-канструктара. Таму ёй ёсць што расказаць і паказаць навучэнцам, падзяліцца сваімі ведамі, якія абавязкова спатрэбяцца ім на вытворчасці.

Таццяна Яўгенаўна кажа, што канструяванне адзення дастаткова цяжкая дысцыпліна. Таму што працэс тэхналогіі швейнай вытворчасці сам па сабе складаны і працаёмкі. Спачатку многія працы, у тым ліку кравецкія і швейныя, трэба навучыцца рабіць сваімі рукамі. Тут і розныя віды вышывак, мярэжкі, аплікацыі, пэчварк — ласкутная тэхніка. Цяжкая і карпатлівая праца. І толькі пасля таго, як навучэнец засвоіць ручныя працы, ён можа пераходзіць да эскізаў і канструявання пэўнай мадэлі. Не ўсе навучэнцы вытрымліваюць «курс маладога байца», некаторыя сыходзяць падчас вучобы. Тым не менш, конкурс на гэтую спецыяльнасць не маленькі: 4-5 чалавек на месца.

Апроч таго, што Таццяна Собаль выкладае шэраг мастацкіх дысцыплін, яна ўзначальвае дызайн-студыю «Тэатр моды». Тут дзяўчаты і хлопцы выконваюць свае ўнікальныя калекцыі мадэляў адзення і потым прадстаўляюць іх на розных творчых прафесійных конкурсах. Аўтары такіх мадэляў — самі навучэнцы. Яны праходзяць увесь шлях стварэння будучай калекцыі ад пачатку да канца. І прыдумваюць вобраз будучай мадэлі, і робяць яе эскіз, і займаюцца канструяваннем, і шыюць самі.

Любімы конкурс, у якім каледж удзельнічае штогод, і нязменна атрымлівае прызавыя месцы — Міжнародны конкурс моды і мастацтва «Асамблея Моды» ў Маскве. Сёлета мадэльерам з Мінскага тэхналагічнага каледжа ёсць чым ганарыцца, усе тры калекцыі, якія яны паказалі міжнароднаму журы, атрымалі вышэйшыя адзнакі. Першае месца ў намінацыі «Паўсядзённая мода» атрымала калекцыя «Мегаполіс». Другое месца ў намінацыі «Авангардная мода» — калекцыя «Гусарская балада». Трэцяе месца ў намінацыі «Этна-мода» — калекцыя «Карагод».

Зразумела, што шматлікія перамогі навучэнцаў на розных конкурсах немагчымыя без таленту і майстэрства выкладчыкаў. Яны робяць усё магчымае, каб раскрыць творчыя здольнасці сваіх вучняў і дзеляцца прафесійным досведам з маладымі настаўнікамі. І тут варта ўзгадаць **Валянціну Ільінічну Савельеву**, выкладчыка мадэліравання і мастацкага афармлення адзення, гісторыі стыляў у мастацтве і касцюме. Яна, чый досвед багаты і шматгранны, працуе ў каледжы з 1969 года. В. Савельева шчодра дзеліцца цікавымі напрацоўкамі па вучэбна-метадычнай і выхаваўчай працы. Вядзе майстар-класы і з’яўляецца настаўнікам для пачынаючых выкладчыкаў. Яе прафесійнае крэда — пастаянны творчы пошук.

Пасля заканчэння каледжа па гэтай спецыяльнасці выпускнікі працуюць на такіх буйных прадпрыемствах швейнай галіны, як «Людміла», «Элема» «Мілавіца», «Цэнтр Моды», «Світанак», а таксама ў малым і сярэднім бізнесе. А тыя, хто жадае працягваць удасканальвацца ў сваёй прафесіі, паступаюць у адпаведныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Прычым, як у нашай краіне, так і па-за яе межамі. Да прыкладу, едуць у Маскву, Санкт-Пецярбург, Смаленск. Па словах такіх студэнтаў, прымаюць іх там з задавальненнем і вучыцца ім там лёгка, што гаворыць пра высокую прафесійную падрыхтоўчую базу Мінскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа.

## РАБІЦЬ ФРЫЗУРЫ, МАКІЯЖ І МАНІКЮР

З 1973 года ў каледжы існуе такая спецыяльнасць, як «Цырульніцкае мастацтва і дэкаратыўная касметыка». Падрыхтоўка навучэнцаў забяспечвае высокі прафесійны, мастацкі і эстэтычны ўзровень нашых цырульняў і разнастайных салонаў прыгажосці, тых месцаў, куды пасля заканчэння вучобы ідуць працаваць выпускнікі гэтай спецыяльнасці. У працэсе навучання тут можна атрымаць такія прафесіі, як цырульнік, візажыст, майстра па манікюры і кваліфікацыю спецыяліста «мастак-мадэльер». У выніку выпускнікі гэтай прафесіі могуць рабіць і фрызуры, і прычоскі, і макіяж, і манікюр. А мастак мадэльер з дапамогай розных аксесуараў, стрыжкі, нэйлдызайну і г. д. створыць літаральна з вас саміх цэльны мастацкі вобраз.

На сённяшні дзень толькі дзве ўстановы адукацыі могуць трымаць такую высокую планку сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў дадзенай галіне. Гэта Мінскі дзяржаўны тэхналагічны каледж і Віцебскі дзяржаўны індустрыяльна-педагагічны каледж. А ўсё таму, што вышэйшай адукацыі па цырульніцкім мастацтве і дэкаратыўнай касметыцы ў Беларусі не існуе. На спецыяльнасці вучыцца таленавітая і з творчымі задаткамі моладзь. Пры паступленні ад абітурыентаў патрабуецца здача асноў малюнка, і без папярэдняй мастацкай падрыхтоўкі сюды не патрапіш. У далейшым вучоба насычана неймавернай колькасцю эскізаў дызайну пазногцевай пласціны, фрызур і макіяжаў, схем іх выканання. А пачуццё кампазіцыі, адчуванне святла і ценяў, памераў прадметаў і іх афарбоўка проста неабходны для работы візажыста і цырульніка.

Старшыня цыклавой камісіі па майстэрстве цырульніка і дэкаратыўнай касметыкі **Наталля Аляксандраўна Крылова** перакананая ў тым, што без прафесійнай і самаадданай працы выкладчыкаў каледжа немагчыма выхаваць запатрабаваных і канкурэнтаздольных спецыялістаў. Наталля Аляксандраўна

таксама выпускніца гэтай навучальнай установы. Пасля заканчэння яна засталася тут працаваць. А, каб назапасіць неабходны для такой работы прафесійны досвед, яна свае выкладчыцкія абавязкі сумяшчала з працай у салонах-цырульнях. Да прыкладу, калі ў салоне была 2-я змена, заняткі ў каледжы вяла ў першай палове дня. І наадварот. Як прызнаецца цяпер Наталля, было складана маральна і цяжка фізічна. Дапамаглі адміністрацыя каледжа і працоўны калектыў. Яны пайшлі ёй насустрач. Затое, практыка ў салонах дала ёй магчымасць набыць неабходныя веды, якімі яна потым дзялілася са сваімі вучнямі. Дарэчы, так было не толькі з Крыловай. Усе выкладчыкі каледжа, і не толькі тыя, якія выкладаюць цырульніцкае майстэрства і дэкаратыўную касметыку, некалі працавалі на вытворчасці, спасцігалі прафесійныя навыкі сваімі рукамі. Без такой практыкі немагчыма перадаць усе сакрэты прафесіі і выпусціць годную змену.

Наталля Аляксандраўна выкладае тры дысцыпліны: тэхналогію працы цырульніка, мадэліраванне і мастацкае афармленне фрызуры, дэкаратыўную касметыку. На тэарэтычных і практычных занятках яна даводзіць сваім вучням, што цырульнікі, майстры-візажысты і майстры па манікюры ўвесь час павінны развівацца і ўдасканальвацца. Дзень за днём мяняецца і мода, і патрабаванні да тэхналагічнага працэсу ў іх прафесіях, выпускаюцца парфумерна-касметычныя навінкі. І таму, каб быць дастаткова адукаваным, каб заўсёды аказваць сапраўды прафесійныя паслугі — трэба пастаянна падсілкоўвацца сучаснай інфармацыяй.

І такую інфармацыю навучэнцы каледжа чэрпаюць у розных конкурсах па цырульніцкім майстэрстве і дэкаратыўнай касметыцы. Конкурсны рух у гэтым напрамку вельмі пашыраны і ў нашай краіне, і ў суседзяў. Гэта і Міжнародны чэмпіянат Украіны «Свет красы» ў Кіеве; і фестываль «Неўскія берагі» ў Санкт-Пецярбургу; і беларускія конкурсы: міжнародны «Ружа вятроў» і рэспубліканскі «Стыль і прыгажосць», і іншыя. Паўсюль выхаванцы Мінскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа карыстаюцца аўтарытэтам, заўсёды папаўняюць скарбніцу сваёй установы новымі ўзнагародамі і падарункамі.

Дарэчы, Наталля Аляксандраўна з'яўляецца кіраўніком конкурснай каманды, якая абараняе гонар каледжа на тым ці іншым конкурсе. А калі конкурс адбываецца ў Беларусі, яна прысутнічае і ў журы, бо мае статус суддзі рэспубліканскай катэгорыі. Разам з ёй у судзейскай калегіі заўсёды знаходзіцца выкладчык цыклавой камісіі па цырульніцкім мастацтве і дэкаратыўнай касметыцы, старэйшына конкурснага журы **Наталля Васільеўна Мыслівец**. На спаборніцтвах цырульнікаў і візажыстаў яна сочыць за ходам і тэхналогіяй выканання конкурсных заданняў, за тым, колькі часу сыходзіць на фрызуру, ацэньвае яе якасць. Але не толькі гэта. Наталля Уладзіміраўна можа выявіць і парушэнні пры выкананні прычоскі або стрыжкі. Так, па ўсіх тэхніч-





ных паказчыках канкурсант можа перамагчы, але старэйшына, калі заўважае ў ягонай рабоце парушэнні: непатрэбную шпільку або пасціжорны выраб (штучная пасмачка валасоў) — здымае балы, і канкурсант з першага месца спаўзае на пятае. Зразумела, каб ацэньваць такія складаныя конкурсы, разбірацца ва ўсіх нюансах выканання, трэба самой шмат чаго ведаць і ўмець рабіць гэта сваімі рукамі.

Яшчэ ў абавязкі Наталлі Васільеўны ўваходзіць трэнерская праца, яна рыхтуе зборную каманду канкурсантаў для ўдзелу ў рэспубліканскіх і замежных конкурсах. Так, дзякуючы Наталлі Аляксандраўне Крыловай і выкладчыкам: **Валянціне Леанідаўне Чумаковай** і **Ганне Антонаўне Пшанічнай,** навучэнцы каледжа ўдзельнічаюць у міжнародных чэмпіянатах па цырульніцкім майстэрстве і дэкаратыўнай касметыцы ў Фінляндыі, Грэцыі, Карэі, Францыі, краінах СНД і інш.

А ў 2006-2007 навучальным годзе вучні Наталлі Васільеўны: **Анастасія Яткова, Марыя і Ніна Батвінкіны** былі ўзнагароджаны пасведчаннямі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адоранай моладзі. Прычым Анастасія Яткова, будучы яшчэ навучэнкай каледжа, увайшла ў дзясятку мацнейшых майстроў свету сярод дарослых майстроў па выкананні вячэрняй фрызуры на доўгіх валасах. Цяпер яна выпускніца каледжа і ўжо два гады працуе ў адным з лепшых салонаў Мінска. А нядаўна звярнулася да Наталлі Васільеўны па дапамогу, каб тая падрыхтавала яе да чарговага чэмпіяната свету, які сёлета праходзіў у Парыжы.

Навучэнцы каледжа спаборнічаюць і з дарослымі цырульнікамі, і па сваім умельстве не саступаюць ім. Так, летась навучэнец каледжа **Алег Восіпаў** удзельнічаў у чэмпіянаце рэспублікі па цырульніцкім майстэрстве сярод дарослых майстроў і заняў другое месца. А навучэнка **Ірына Лукша** выступала сярод шматлікіх удзельнікаў-юніёраў і заняла першае месца. І цяпер у такім прэстыжным салоне прыгажосці, як «Валянціна», мараць пра супрацоўніцтва з ёю. Сёлета навучэнка каледжа **Жана Ясінцава** заняла чацвёртае месца на Чэмпіянаце свету па цырульніцкім майстэрстве і дэкаратыўнай касметыцы, які адбыўся ў Парыжы.

Пераканаўчыя перамогі на рознага кшталту конкурсах і шоу-паказах, дзе навучэнцы каледжа пры выкананні той ці іншай прычоскі паказваюць сваю невычэрпную фантазію і моцную тэхніку, не маглі застацца незаўважанымі. Такі высокі ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі спецыялістаў дазволіў каледжу заняць годнае месца не толькі сярод устаноў адукацыі нашай краіны, але і краін замежжа. Сюды едуць вучыцца і з Расіі, і з Украіны, і з Літвы, і з Малдовы, і з Казахстана... Прыязджаюць, таму што ведаюць пра такі каледж і пра тое, што тут можна атрымаць прафесіі высокакваліфікаваных цырульніка, візажыста, майстра па манікюры, запатрабаваныя ва ўсе часы і





ва ўсіх народаў. Таму і конкурс на гэтую спецыяльнасць самы вялікі. Сёлета было 5-6 чалавек на месца, затое летась ажно 13 чалавек.

## СКРОЗЬ МАГІЧНЫ КРЫШТАЛЬ

Самай маладой з усіх спецыяльнасцей каледжа з'яўляецца спецыяльнасць «Фатаграфія». Першы набор адбыўся ў верасні 1982 года, а першы выпуск у лютым 1986-га. Тады выпусцілі 28 спецыялістаў. А ўвогуле за ўвесь час існавання спецыяльнасці было падрыхтавана каля 670 спецыялістаў. Варта адзначыць, што Мінскі дзяржаўны тэхналагічны каледж з'яўляецца адзіным у краіне, які рыхтуе прафесійныя кадры сярэдняй спецыяльнай адукацыі па спецыяльнасці «Фатаграфія». Выпускнікі «Фатаграфіі» працуюць на розных прадпрыемствах. Калі вам неабходны мастацкі партрэт або здымак для дакумента, вы кіруецеся ў фотаатэлье і сустракаеце там выпускнікоў каледжа. Неабходна атрымаць фотаздымкі з адзнятай вамі фотаплёнкі або флэш-карты — вы накіроўваецеся ў сучасныя міні-лабараторыі фірмаў «Kodak», «Fuji», «Konica». Многія спецыялісты, якія вам дапамогуць у гэтым, скончылі Мінскі тэхналагічны каледж. Трымаеце ў руках сучасныя газеты: «Звязда», «Мінскі кур'ер», «Камсамольская праўда ў Беларусі» і другія, а там фотаздымкі, выкананыя выпускнікамі каледжа. Калі вам патрэбны фота для рэкламы, вы звяртаецеся ў рэкламныя агенцтвы. І там вам таксама дапамогуць выхаванцы каледжа. Магчыма, неўзабаве ў цітрах да фільмаў вы даведаецеся новыя прозвішчы відэа- і кінааператараў. Яны таксама выпускнікі каледжа, некаторыя з іх або займаюцца ў Беларускай акадэміі мастацтваў на кафедры кінатэлемастацтва, або скончылі яе. Выхаванцы каледжа могуць быць і патэнцыйнымі абітурыентамі кафедры тэле- і радыёвяшчання БДУ. Выпускнікоў спецыяльнасці «Фатаграфія» можна сустрэць і на іншых прадпрыемствах: у заводскіх і фабрычных фоталабараторыях, у архівах, музеях...

За час навучання ў каледжы навучэнцы спасцігаюць мастацтва партрэтнай, пейзажнай і рэпартажнай фатаграфіі, вывучаюць методыку відэаздымкаў, фота- і відэаабсталяванне. Для атрымання якаснай фатаграфіі недастаткова сфатаграфаваць, неабходна яшчэ апрацаваць фотастужку і надрукаваць фотаадбіткі, выканаць камп'ютарную апрацоўку выяваў. Справа ў тым, што навучэнцы гэтай спецыяльнасці з чатырох гадоў навучання на ёй два гады аддаюць фатаграфіі на стужку, тэхналогіі атрымання адбіткаў. Таму неад'емнай часткай навучання з'яўляецца дасканалае вывучэнне тэхналагічных працэсаў апрацоўкі фотаматэрыялаў і фотадруку. Таксама дасканальна вывучаюць тут і тэхналагічныя працэсы лічбавай фатаграфіі, адзін з перспектыўных накірункаў на сёння.

Што тычыцца павільённых і непавільённых здымкаў, тут працуюць толькі «на лічбу». Тэхніку павільённых здымкаў і яе тэхналогію выкладае **Ігар Міраслававіч Якубоўскі**. Ён вучыць працаваць са святлом у студыі, рабіць партрэты, нацюрморты. А сакрэтамі пейзажных, архітэктурных ці жанравых здымкаў дзеліцца яго калега — **Сяргей Яфімавіч Гучык**. Ігар Міраслававіч і Сяргей Яфімавіч вучыліся некалі разам у адной групе Беларускага політэхнічнага інстытута па спецыяльнасці «Кінаапаратура». Пасля заканчэння вучобы ў 1985 годзе Сяргей Гучык па размеркаванні патрапіў у каледж, і вось ужо 25 гадоў нязменна працуе тут. Мала таго, ён перацягнуў сюды і свайго таварыша — Ігара Якубоўскага, які прыйшоў у каледж у 1989 годзе. Абодва таленавітыя педагогі і іншыя ўлюбёныя ў фатаграфію людзі выхавалі шмат дастойных фотамайстроў, тых, хто тонка адчувае таямніцы гэтай няпростай прафесіі.

Шмат увагі надаюць выкладчыкі і тым мерапрыемствам, якія яны праводзяць па-за межамі каледжа. На іх навучэнцы могуць паказаць свае веды і навыкі, атрыманыя на занятках. Да такіх мерапрыемстваў адносіцца наведванне музеяў, фотавыстаў, розных экспазіцый і мастацкіх праектаў. Там навучэнцы бачаць творчасць іншых мастакоў і фатографаў, і ў іх саміх узнікае жаданне далучыцца да мастацтва. Так нараджаюцца розныя праекты.

Пяты год існуе ў каледжы фотагалерэя «SFUMATO». У перакладзе з італьянскай гэта азначае «неакрэслены», «той, хто знікае ў выглядзе дыму». Такі эфект упершыню выкарысталі жывапісцы эпохі Адраджэння, у чыіх карцінах не было дакладных межаў, усё нібыта ахутваў лёгкі вэлюм. Сёння дадзеная тэхніка шырока распаўсюджана ў фатаграфіі. Да прыкладу, каб перадаць неаб-

сяжнасць прасторы, яе перспектывы. Гэта і фатаграфічны тэрмін, і намёк на прафесійны рост, творчую актыўнасць. Галерэя дае навучэнцам магчымасць выстаўляць свае работы, рэалізоўваць творчыя планы, дае немалы досвед на будучыню, як прафесійны, так і жыццёвы. Ужо было арганізавана больш пяцідзесяці экспазіцый на розныя тэмы. Тэма кожнай новай экспазіцыі абмяркоўваецца навучэнцамі. На працягу месяца яны працуюць над стварэннем фотаработ. Выбіраюць лепшыя і па выніках выставы вызначаюцца пераможцы. Адбываецца галасаванне. Спачатку сваіх куміраў выбіраюць гледачы. Наступную тройку пераможцаў вызначае прафесійнае журы. Усе, хто перамог, атрымоўваюць ганаровыя граматы, сімвалічныя падарункі і, безумоўна, любоў гледачоў, а іх нямала.



*Магічны крышталь фотакамеры.*

У верасні 2006 года быў створаны яшчэ адзін фотапраект: перманентная персанальная выстаўка. Яна заўсёды мае свой вызначаны твар, канкрэтнага фатографа і адлюстроўвае ягоныя характар і індывідуальнасць. Менавіта індывідуальная выстава з'яўляецца важным крокам у творчым жыцці кожнага фатографа. Яна знаёміць гледачоў з унікальнасцю яго светаадчування, шчырасцю і багаццем душы. Прадэманстраваць гледачам сваё мастацтва можа кожны, незалежна ад узросту і досведу, бо чалавек, які цэніць і любіць фатаграфію, імкнецца з яе дапамогай раскрыць таямніцы сусвету, характары людзей, дасягае задуманага. Такая выстава становіцца падмуркам яго прафесійнага майстэрства.

Фатаграфія, гэта перадусім інфармацыя. Яшчэ адзін праект звязаны менавіта з ёю. З лістапада 2006 года ў каледжы выдаецца фотачасопіс «Стоп-Кадр». Ягонымі рэдактарамі, аўтарамі артыкулаў і фотарэпартажаў з'яўляюцца самі навучэнцы. У часопісе расказваецца пра жыццё каледжа, друкуюцца інтэрв'ю з цікавымі людзьмі, ёсць раздзел «Фоташкола» і шмат іншага. За гэты час было выдадзена сямнаццаць нумароў часопіса.

Навучэнцы каледжа па спецыяльнасці «Фатаграфія» бяруць актыўны ўдзел у конкурсах і займаюць прызавыя месцы. Так, на заключным этапе гарадскога конкурсу прафесійнага майстэрства «Мінскі майстра-2008» **Дзмітрый Кужалькоў** заняў першае месца ў намінацыях «Камп'ютарная графіка» і «Групавы партрэт» і другое месца ў намінацыі «Партрэт». Дзмітрый быў пераможцам і ў маладзечанскім конкурсе «Свет прыгажосці», а ў сакавіку 2009 ён перамог на фестывалі «Мельніца моды».

***Вось і скончылася наша падарожжа па калідорах, аўдыторыях, майстэрнях і выставах Мінскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа. Станаўленне маладога спецыяліста — нялёгкі і працяглы працэс. Ён залежыць не толькі ад таленту і жадання, але і ад асяродку, у якім развіваецца ягонае майстэрства. З чаго пачаць? У каго шукаць дапамогі ў вырашэнні складаных пытанняў, якія будуць узнікаць у працэсе вучобы? Бясспрэчна, у вопытных і абазнаных педагогаў каледжа. Яны зробяць усё магчымае, каб кожны з іх вучняў змог цалкам рэалізаваць свае таленты і здольнасці. Каб ён атрымаў не толькі прафесійную адукацыю, але і самае галоўнае — сфарміраваўся як Асоба.***

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## ЛЮБАНСКІ РАЁН

**Вёска Слабодка** Ляхаўскага сельсавета

У пачатку 90-х гг. XIX ст., жывучы ў Прудзішчы, Луцэвічы аддалі будучага паэта **Купалу Янку** да свайго слабодкаўскага знаёмага Ляскоўскага, каб ён вучыўся ў вандроўнага настаўніка.

**Вёска Смольгаў (Смольгава)** Юшкавіцкага сельсавета

**Сыракомлі Уладзіслава** (сапр. Людвік Францішак Уладзіслаў Кандратовіч; 29.9.1823—15.9.1862), паэта, пісьменніка, публіцыста, радзіма. Яго бацькі Аляксандр Каятан Кандратовіч і маці Вікторыя са Златкоўскіх паходзілі з паланізаванай шляхты. Бацька быў арандатарам, і сям'я часта пераязджала. Пачатковую адукацыю атрымаў дома. У 1833 г. пачаў вучобу ў Нясвіжскай дамініканскай школе. Калі праз тры гады яе зачынілі, перавёўся ў дамініканскую школу ў Навагрудку. Скончыўшы ў 1837 г. гэтую школу, дапамагаў бацькам па гаспадарцы, пачаў пісаць вершы. У 1840—1844 гг. працаваў у канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі. У 1844 г. ажаніўся з 16-гадовай Паўлінай Мітрашэўскай, а пасля вяселля звольніўся са службы і стаў арандаваць фальварак *Залучча* ў Наваградскім павеце (да 1963 г. хутар у Аталезскім сельсавеце Стаўбцоўскага р-на). У 1852 г. пасля раптоўнай смерці трох дачок Сыракомля пераязджае ў Вільню. Затым, у 1853 г., — у фальварак Барэйкаўшчына (сучасны Віленскі р-н, Літва), дзе і пражыў да 1862 г. Аўтар «Вандровак па маіх былых ваколіцах» (1853), «Кароткага даследавання мовы і характару паэзіі русінаў Мінскай правінцыі» (1856), «Мінска» (1957), «Нёмана ад вытокаў да вусця» (1861), нататак аб мінулым Нясвіжа для кніг М. Балінскага «Старажытная Польшча», шматлікіх артыкулаў у перыядычным друку, шасці тамоў перакладаў паэтаў-лаціністаў, некалькіх зборнікаў паэм-гутарак, «Гісторыі літаратуры ў Польшчы...» (т.1-2, 1850—1852), паэмы «Маргер» (1855). У пазнанскім тэатры была пастаўлена яго п'еса «Хатка ў лесе». Яго верш «Паштальён» (першая публікацыя ў друку ў 1844 г.) пазней быў перакладзены на рускую мову і стаў папулярнай у Расіі песняй «Когда я на почте служил ямщиком...». Памёр у Вільні і пахаваны на могілках Роса.

**Вёска Сосны** Камунараўскага сельсавета

**Жаўрук Алесь**, паэт, ураджэнец г. *Сянно* Віцебскай вобл., пасля заканчэння Рагачоўскага педтэхнікума працаваў выкладчыкам на рабфаку ў Соснах. Тут ён сустракаўся з **Купалам Янкам, Галавачом Платонам, Хадыкам Уладзімірам**. Любаншчыне паэт

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—11 за 2010 г.

прысвяціў шмат вершаў, змешчаных у кнігах «Ручаіны» і «Дняпро выходзіць з берагоў». З Палесся Алесь Жаўрук пераехаў на вучобу ў Маскву, у Інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры.

**Купала Янка,** народны паэт Беларусі, у 1933 г. правёў два тыдні ў саўгасе «10-годдзе БССР». Асушэнню балот прысвяціў паэму «Над ракой Арэсай». У маі 1932 г. паэт выступаў на вячэрнім рабфаку, адкрытым на Любаншчыне па ініцыятыве Горацкай акадэміі. Застаўся фотаздымак, зроблены ў час гэтай паездкі. Яго падараваў Літаратурнаму музею Я. Купалы. Сямён Харко, адзін з удзельнікаў сустрэчы з паэтам у саўгасе імя 10-годдзя БССР. Разам з Я. Купалам былі **Галавач Платон, Хадыка Уладзімір, Жаўрук Алесь.**

**Вёска Таль,** цэнтр сельсавета

**Муравейкі Івана** (н. 21.10.1921), паэта, празаіка, радзіма. З сялянскай сям'і. вучыўся ў Талькаўскай сямігодцы. Скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску (1939), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1964). З першага да апошняга дня вайны знаходзіўся на фронце, працаваў у армейскім друку, быў тройчы паранены. З 1948 г. працаваў у любанскай раённай газеце. Друкуецца з 1936 г. Аўтар зборнікаў вершаў для дзяцей «Песня над палямі» (1955), «Ручаінкі» (1956), «Вось якія мы» (1958), «Пра работу і ляноту» (1960), «Дружная сямейка» (1961), «Сняжынкі-смяшынкі» (1962), «Сем колераў вясёлкі» (1965), «Лясное возера» (1970), «Мы таксама падрасцём» (1971), «Дуб і дубок» (1977), «Няхай сонца не заходзіць» (1981), «Я прыдумаў казку» (1985), кніг «Прынёс з вайны» (1991), «Вадзіца з крыніцы» (2006) і інш. Многія творы І. Муравейкі прысвечаны роднай вёсцы, Любаншчыне.

У Талькаўскай СШ існуе «Літаратурны салон Івана Муравейкі». Мае многа ўзнагарод. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1982), лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі (1996), рэспубліканскай літаратурнай прэміі (2007).

**Гарадскі пасёлак Урэчча**, цэнтр пассавета

**Грахоўскі Сяргей,** пісьменнік, ураджэнец мяст. *Нобель* Пінскага павета Мінскай губ. (цяпер Зарэчненскі р-н Ровенскай вобл., Украіна), з 1946 да 1949 г. выкладаў рускую мову і літаратуру ва Урэцкай сярэдняй школе. Успаміны аб тым часе Грахоўскі перадаў у аповесці «З воўчым білетам».

**Вёска Шыпілавічы** Сароцкага сельсавета

**Шпілеўскага Паўла** (12.11.1823—29.10.1861), рускага і беларускага этнографа, пісьменніка, публіцыста, перакладчыка, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і святара. З 1837 г. вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі (да 1840 г. семінарыя знаходзілася ў Слуцку), затым у Пецярбургскай духоўнай акадэміі, якую скончыў са званнем кандыдата багаслоўя. Быў прызначаны выкладчыкам славеснасці ў Галоўным педагагічным інстытуце ў Пецярбургу. З красавіка 1855 г. — настаўнік школы пры экспедыцыі нарыхтавання дзяржаўных папер. Першы этнаграфічны артыкул — «Беларускія павер'і» — Шпілеўскі апублікаваў у літаратурным дадатку да «Журнала Министерства народного просвещения» пад псеўданімам П. Драўлянскі (1846). Аўтар цыкла артыкулаў «Беларусія ў характарыстычных апісаннях і фантастычных павер'ях», нарысаў «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі», шасці «Заходнерускіх нарысаў», нарыса «Мазыршчына», «Даследаванне аб ваўкалаках на падставе беларускіх вераванняў», «Беларускія прыказкі»... 

**Пас. Яромічы**, да 1966 г. знаходзіўся ў Юшкавіцкім сельсавеце

У маі 1933 г. **Купала Янка** прысутнічаў у Яромічах пры ўручэнні земляробам пераходнага Чырвонага сцяга, выступіў з чытаннем сваіх вершаў.

# МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН

## Горад Маладзечна

У горадзе ёсць вуліцы **Алаізы Пашкевіч [Цёткі], Астроўскага Аляксандра, Багушэвіча Францішка, Бядулі Змітрака, Галубка Уладзіслава, Горкага Максіма (вул. і пер.), Дуніна-Марцінкевіча Вінцэнта, Каліноўскага Кастуся, Капуцкага (Пралескі) Андрэя, Коласа Якуба, Крылова Івана, Купалы Янкі, Лермантава Міхаіла, Лёсіка Язэпа, Міцкевіча Адама, Някрасава Мікалая, Пушкіна Аляксандра, Скарыны Францішка, Талстога Льва, Тарашкевіча Браніслава, Таўлая Валянціна, Тургенева Івана, Чарота Міхася, Чэхава Антона**.

* * *

**Вул. Віленская.**

У канцы 2003 г. на вуліцы адкрыты помнік **Ермаловічу Міколу**, гісторыку і літаратуразнаўцу, ураджэнцу в. *Малыя Навасёлкі* Дзяржынскага р-на. На гэтай вуліцы ён жыў. Помнік устаноўлены па ініцыятыве Маладзечанскага гарвыканкама і мінскага клуба «Спадчына». Скульптар — Ул. Мелехаў. Пахаваны М. Ермаловіч на могілках г. Маладзечна.

**Вуліца Вялікасельская, 2**

**Сярэдняя школа № 1 імя Янкі Купалы**

Імя прысвоена 14 жніўня 1956 г. У кастрычніку 1970 г. ў школе адкрыты музей **Купалы Янкі**, які неаднаразова праязджаў праз Маладзечна ў 1906—1907 гг. па дарозе ў Яхімоўшчыну, у 1940 г. — па дарозе ў Ліду, а ў 1940—1941 гг. — па дарозе ў Вільнюс. У асноўным і дадатковых фондах музея знаходзіцца звыш 300 адзінак захоўвання. На доме № 1 па той жа вуліцы паэт ушанаваны мемарыяльнай дошкай.

**Вул. Замкавая (былая Горкага), 19, 21**

На месцы цяперашняга станказавода знаходзіўся кляштар антытрынітарыяў, пабудаваны ў 1762 г. Тут у 1864—1915 гг. размяшчалася першая ў Расіі **Маладзечанская настаўніцкая семінарыя**, а да гэтага — Маладзечанскае павятовае вучылішча. У 1811—1815 гг. у ім вучыўся **Зан Тамаш,** польскі паэт-рамантык, ураджэнец в. *Мясата* гэтага ж раёна, у 1832—1834 гг. — літаратар **Насовіч Іван**, ураджэнец в. *Гразівац* Чавускага р-на Магілёўскай вобл. Семінарыю скончылі пісьменнік, рэвалюцыянер **Рак-Міхайлоўскі Сымон**, ураджэнец в. *Максімоўка* таго ж раёна, **Чарот Міхась,** паэт, пісьменнік, драматург, ураджэнец г. п. *Рудзенск* Пухавіцкага р-на. У 1984 г. на будынку завода была ўстаноўлена дошка ў гонар былых навучэнцаў семінарыі. Тут вучыліся беларускі драматург **Вясёлы Касьян** (В. Аўдзей), ураджэнец в. *Губы* Вілейскага р-на; **Лёсік Язэп,** грамадскі і палітычны дзеяч, мовазнавец, пісьменнік, педагог, ураджэнец в. *Мікалаеўшчына* Стаўбцоўскага р-на; літаратурны крытык, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, літаратуразнавец **Тышынскі Аляксандр**, ураджэнец в. *Мясята* Маладзечанскага р-на. Выкладчыкамі былі аўтар паэмы «Тарас на Парнасе» **Вераніцын Канстанцін**, ураджэнец в. *Астраўляны* Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.; вядомыя фальклярысты і этнографы **Нікіфароўскі Мікалай**, ураджэнец в. *Вымна* Віцебскага р-на, **Крачкоўскі Юльян,** ураджэнец в. *Азяты* Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл.

**Міхайлава Аляксандра** (29.3.1904—3.2.1949), рускага паэта, артыста, месца зняволення ў фашысцкім лагеры для ваеннапалонных «Шталаг-342», які знаходзіўся на цяперашняй вуліцы Замкавай, на месцы былой настаўніцкай семінарыі. Узяты ў палон воін прабыў тут паўтара года. Ад цяжкіх думак яго ратавала пісанне вершаў. Сабраныя ў нататнічак велічынёй з карабок запалак, яны захаваліся ў мінскім партархіве. Нарадзіўся Аляксандр Міхайлаў у сям'і варонежскага шаўца. Скончыўшы тэатральны тэхнікум, працаваў у тэатрах, цырку, складаў вершы для клоўнскіх рэпрыз і куплетаў. Паступіў на

завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута ў Маскве. У 1941 г. на «Мосфильме» была падрыхтавана да экранізацыі п'еса А. Міхайлава для дзяцей «Кемлівы апёнак». З пачаткам вайны добраахвотна з'явіўся ў ваенкамат, пайшоў у апалчэнне, быў паранены, дастаўлены ў маладзечанскі лагер. Уцёкшы адтуль, трапіў у партызанскую брыгаду «Народныя мсціўцы» імя В. Варанянскага, дзе падрыхтаваў выданне «Кніжка-малышка, фашыстам — крышка», быў уключаны ў рэдкалегію брыгаднага літаратурна-мастацкага зборніка, надрукаванага на Случчыне пад назвай «Паэзія вайны». Пасля вызвалення ўдзельнічаў у Мінску ў партызанскім парадзе. Застаўся працаваць у тэатрах беларускай сталіцы, куды пераехала яго сям'я. Новыя вершы друкаваў у часопісах «Советская Отчизна» і «Нёман», выдаў кнігу для дзяцей «Цудоўная скрынка». У Гомелі была пастаўлена яго п'еса «Чырвоныя шкельцы». На многія вершы А. Міхайлава напісаў музыку Генрых Вагнер. Перад смерцю ўзначальваў гастрольна-канцэртны аддзел Белдзяржэстрады. Пахаваны на Вайсковых могілках. Пра жыццё і творчасць А. Міхайлава ўпершыню расказала Людміла Кебіч у артыкуле «Артыст, змагар, паэт» (Літаратура і мастацтва», 2010. 7 мая).

**Вул. Замкавая, 50**

Месца жыхарства **Чарота Міхася,** паэта, пісьменніка, драматурга, ураджэнца г. п. *Рудзенск* Пухавіцкага р-на. Жыў на кватэры ў Кацярыны Бубен. Выступаў у спектаклях Маладзечанскай семінарыі.

**Зав. Партызанскі, 3**

**Мінскі абласны краязнаўчы музей** (Першапачаткова знаходзіўся на вул. Рэвалюцыйнай, 125). Заснаваны 31.7.1959 г. як Маладзечанскі абласны краязнаўчы музей (з 1960 г. — цяперашняя назва), адкрыты 26.4.1964 г. З 2006 г. у новым будынку. Плошча экспазіцыі была 270 м$^2$, больш за 46 тыс. адзінак асноўнага фонду (2008), размеркаваных па 35 калекцыях. Сярод экспанатаў — даўні рукапісны дакумент на беларускай мове (лацінкай) «Вопіс на дарэнне зямлі..., зроблены князем С. Кішкам» (Забрэззе, 1607), старадрукі XVII—XVIII стст., матэрыялы пра выпускнікоў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, кнігі суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» (1907—1913), віленскіх выдавецтваў, першыя выданні твораў **Васілька Міхася, Іверса Анатоля, Машары Міхася, Танка Максіма** і іншых, часопісы і газеты Заходняй Беларусі. У музеі ёсць асабістыя рэчы **Багушэвіча Францішка, Дуніна-Марцінкевіча Вінцэнта, Паўловіча Альгерда, Тарашкевіча Браніслава.** Доўгі час дырэктарам музея працавалі пісьменнік і вучоны **Каханоўскі Генадзь**, ураджэнец в. *Дамашы* таго ж раёна, літаратар і грамадскі дзеяч Ляшковіч Вячаслаў, ураджэнец в. *Леснікі* Лагойскага р-на. Больш падрабязна пра экспазіцыі можна прачытаць у кн. «Мінскі абласны краязнаўчы музей у г. Маладзечне» (на рус. мове, 1981).

**Вул. Рэвалюцыйная, 67**

Тут у 1934 г. знаходзіўся ў заключэнні **Таўлай Валянцін,** паэт, літаратуразнавец, ураджэнец г. *Баранавічы* Брэсцкай вобл. На будынку, у якім цяпер знаходзіцца гасцініца, а ў 1930-я гг. была павятовая арыштанцкая, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**Вул. Талстога Льва, 4**

**Маладзечанская цэнтральная бібліятэка імя Максіма Багдановіча**

У бібліятэцы сабраны кнігі пісьменнікаў-ураджэнцаў Маладзечанскага р-на, арганізуюцца іх выстаўкі. Дзейнічае краязнаўчы аддзел, у якім працуе пісьменнік і выдавец *Казлоўскі Міхась*.

**Вул. 60 год Кастрычніка, 19**

**Клуб «Беларуская хатка»** дзейнічаў тут у 1980—1990-я гг. Арганізатарам яго выступіў **Казлоўскі Міхась**. Пры «Беларускай хатцы» былі адчынены гасцёўні **Драздовіча Язэпа** і **Караткевіча Уладзіміра** з арыгінальнымі экспанатамі. Гасцёўню афармлялі маладзечанскія мастакі.

* * *

**Аксельрода Зэліка** (30.12.1904—26.6.1941), яўрэйскага паэта, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і саматужніка. Вучыўся ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В. Брусава. Скончыў літаратурны факультэт Маскоўскага педагагічнага інстытута (1928). Працаваў рэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве БССР. З 1931 да 1941 г. — адказны сакратар яўрэйскага часопіса «Штэрн» («Зорка»). Друкаваўся з 1921 г. на ідыш. Аўтар зборнікаў паэзіі «Трапятанне» (1922), «Вершы» (1932), «Ізноў вершы» (1935), «Сам-насам» (1937), «Вершы» (1938).

**Бас Ісідар**, літаратуразнавец, ураджэнец г. *Віцебска*, у 1947—1953 гг. загадваў кафедрай літаратуры Маладзечанскага настаўніцкага інстытута. Гуртаваў вакол сябе літаратурныя сілы.

**Беларускі Лесі** (сапр. **Марозава Ларыса**; 1918(?)—1.1.1948), паэтэсы мяркуемая радзіма. У 1938 г. нібыта выйшла замуж за афіцэра НКУС, арыштавана НКУС у дзень свайго вяселля за ўдзел у міфічнай нацыяналістычнай арганізацыі. У 1939 г. апынулася ў лагеры Паўночнага ўпраўлення Дальбуда на Калыме «Эльген», дзе і адбывала тэрмін, пераважна на лесапавале. Загінула ў 1948 г. Рукапісны зборнік Лесі Беларускі пад назвай «Я голас ваш» нібыта вынес на волю ўкраінскі паэт Васіль Малагуша, пераклаў на рускую мову і ў 1997 г. перадаў у часопіс «Полымя», дзе ён і быў часткова апублікаваны. А. Лойка лічыў ідэнтыфікацыю Лесі Беларускі з Ларысай Марозавай неправамернай. У 2009 г. аказалася, што Леся Беларуска і яе творы прыдуманы празаікам і паэткай **Коўтун Валянцінай**, ураджэнкай в. *Дземяхі* Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. Пра містыфікацыю гл.: Беларуска Леся. Малітва да Калымы (Мінск. 2009). Гэтая кніжка выклікала станоўчыя водгукі рэцэнзентаў. Валянціна Коўтун пісала, што «гэта малітва да ўсіх нас, да ўсяго свету. Малітва-боль, малітва-перасцярога, малітва-заклінанне, каб памяталі».

**Бітэль Пятро**, паэт і перакладчык, ураджэнец мястэчка *Радунь* (Воранаўскі р-н Гродзенскай вобл.), з пачатку 1990 г. і да смерці (18.10.1991) жыў у Маладзечне.

**Давыдаў Дзяніс**, рускі пісьменнік, арганізатар партызанскага руху, удзельнічаў у вызваленні горада ад французаў у снежні 1812 г.

**Ілеш Б.** (22.3.1895—пасля 1966), венгерскі пісьменнік-раманіст. Нарадзіўся ў Кошыцы (Славакія). У 1916 г. прызваны ў армію. Дзе вёў рэвалюцыйную работу. Напісаў аповесць «Маладзечна» пра падзеі Першай сусветнай вайны (гл.: Зьвязда, 1927, 25 снежня). У 1923—1945 гг. жыў і працаваў у СССР.

**Казлоўскі Міхась,** ураджэнец в. *Рабінавая* гэтага ж раёна, выдае ў Маладзечне альманах «Куфэрак Віленшчыны».

**Капыловіч Мікола**, празаік, ураджэнец в. *Астражанка* Лельчыцкага р-на Гомельскай вобл., з 1983 г. і да смерці (24.2.2000) жыў у Маладзечне.

**Клемянок** (Страшынскай) **Алы** (н. 6.10.1961), паэтэсы, журналісткі, радзіма. У 1979 г. закончыла сярэднюю школу № 3 г. Маладзечна, у 1985 г. — факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала на радыёзаводзе «Спадарожнік», у дзіцячай бібліятэцы, карэспандэнтам шматтыражнай газеты «Приборостроитель», рэдактарам газеты Маладзечанскага гарсавета «Наш дзень». З 1995 г. жыве ў Смаргоні, працуе загадчыкам аддзела мясцовай газеты «Светлы шлях». Друкуецца з 1997 г. Аўтар кніг «Яны не ведалі мяне...» (Маладзечна, 1999), «Бывай, Альба Рутэнія» (Гродна. 2007).

**Купала Янка** неаднаразова бываў у Маладзечне: у 1906—1907 гг., калі працаваў памочнікам вінакура ў Яхімоўшчыне, і двойчы праездам па дарозе ў Вільню (верасень 1939, май 1940). Самая апошняя сустрэча паэта з горадам была ў 1941 г. На вуліцы імя Я. Купалы, на доме № 1 — мемарыяльная дошка паэту. У горадзе ёсць завулак Я. Купалы.

**Колас Якуб**, народны пісьменнік Беларусі, у верасні 1911 г., пасля турмы, заехаў па дарозе ў Вільню ў Маладзечна. Адсюль накіраваўся ў в. Хажова таго ж раёна. Пасля Другой сусветнай вайны праязджаў праз горад, накіроўваючыся на возера *Нарач* Мядзельскага р-на.

**Крамлёў-Свен Ілья** (сапр. Шэхтман, 20.7.1897—пасля 1970), рускі празаік і драматург, родам з Маладзечна. Аўтар камедыі «На берагу Нёмана» (1940). Рамана «Час і людзі» (м, 1959).

**Ляшковіч Вячаслаў**, краязнавец, публіцыст, ураджэнец в. *Леснікі* Лагойскага р-на, доўгі час знаходзіўся на партыйнай рабоце ў Маладзечне. З 1981 г. — дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея. Ганаровы грамадзянін Маладзечна. Аўтар кніг па гістарычнаму краязнаўству «Помнікі гераізму і славы Маладзечаншчыны» (1984), «Найдаражэйшы скарб» (1985), «Камень пры дарозе» (1988) і інш.

**Міцко Іван**, паэт, святар, ураджэнец в. *Лебедзева* гэтага ж раёна, служыў святаром у Свята-Пакроўскай царкве г. Маладзечна.

Наглядчыкам, выкладчыкам і рэктарам Маладзечанскага дваранскага вучылішча ў 1832—1834 гг. быў **Насовіч Іван**, мовазнавец-лексікограф, фалькларыст, этнограф, ураджэнец в. *Гразівец* Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

**Паустоўскі Канстанцін** (31.5.1892, Масква—14.7.1968), рускі пісьменнік, бываў у Маладзечне падчас Першай сусветнай вайны. Пра горад згадваў у аўтабіяграфічнай эпапеі «Аповесць пра жыццё». (Ч.1-6, 1945—1963), лістах да жонкі.

**Сільновай Людкі** (Людмілы, н. 20.4.1957), паэтэсы, радзіма. Скончыла БДУ (1979). З 1973 г. працавала на Маладзечанскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, ва ўстановах асветы Уздзенскага р-на і Мінска. Скончыла БДУ (1979). З 1986 г. — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Друкуецца з 1985 г. Аўтар зборнікаў «Ластаўка ляціць...», «Рысасловы», «Агністыя дзьмухаўцы», «Зеленавокія воі і іх прыгажуні», «Крышталёвы сад», «Зачараваная краіна».

**Трафімава Таіса**, паэтэса, ураджэнка в. *Манькова* Слуцкага р-на, жыве тут. Выкладала ў Маладзечанскім музычным вучылішчы. З 1992 г. кіравала літаратурным аб'яднаннем «Узлёт». У 1999 г. аб'яднанне было рэарганізавана ў «Літаратурную гасцёўню Таісіі Трафімавай». Выдала, працуючы ў Маладзечне, некалькі паэтычных зборнікаў. Некаторыя яе вершы былі тут пакладзены на музыку.

**Цімохіна Лявона** (н. 14.2.1944), паэта, радзіма. Скончыў гістфак БДУ. Працаваў настаўнікам, быў на прафсаюзнай і савецкай рабоце. Цяпер выкладае гісторыю ў СШ № 5 г. Маладзечна. Аўтар зборніка вершаў «Срэбны коннік» (2003).

**Шатыронак Ірыны** (29.8.1954) празаіка, радзіма. Піша на рускай мове. У сям'і пісьменніцы перапляліся розныя традыцыі: смаленскія і арлоўскія, рэпрэсаванага святара і маладзечанскай службовай эліты. Дзяцінства прайшло ў раёне чыгуначнага вакзала. Закончыла 7 сярэднюю («чыгуначную») школу, журфак БДУ. З 1980 — у Гродне, але не парывае творчых сувязей з Маладзечна. Працавала ў перыядычным друку, цяпер займаецца рэкламай. Піша ў апавядальна-спавядальным стылі «кнігі памяці». Найперш гэта — «Стары двор майго дзяцінства» (Гродна, 2007), якая перарасла ў аднайменную дылогію (Маладзечна, 2009). Аўтар кніг прозы «Няшкольныя апавяданні» (Гродна, 2007), «Пярэстыя аповесці пра каханне» (Гродна, 2008) і інш. Асобныя аповесці і апавяданні І. Шатыронак надрукаваны ў «Нёмане» і іншых перыядычных выданнях.

**Шыла Мікола**, публіцыст, літаратар, выдавец, педагог, грамадскі дзеяч, ураджэнец в. *Бакшты* Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл., скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1907). Стварыў у ёй першы беларускі нелегальны гурток, займаўся зборам і прапагандай беларускага фальклору, мастацкага слова.

* * *

Гораду прысвяцілі вершы «Маладзечна» **Дукса Мар’ян**, **Пруднікаў Павел, Русак Адам.** Прывядзем радкі апошняга:

Маладзечна, Маладзечна,
Мой паклон табе сардэчны.
Жыць у шчасці табе вечна,
Маладзечна, Маладзечна.
*(Русак А. Засцілайце сталы.*
*Мн., 1984. С. 99).*

* * *

**Вёска Аборак**, да 1968 г. была ў Палачанскім сельсавеце

Тут тры гады пражыў з сям’ёй **Зан Тамаш**, польскі паэт-рамантык, удзельнік вызваленчага руху, ураджэнец в. *Мясата* гэтага ж раёна.

**Ходзькі Леанарда** (6.11.1800—12.3.1871), паэта, выдаўца, гісторыка, публіцыста, бібліёграфа, радзіма. У 1816—1817 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце. Член таварыства філаматаў. З 1819 г. — сакратар кампазітара М.-К. Агінскага. У 1822 г. эміграваў за мяжу, з 1826 г. жыў у Парыжы. Удзельнічаў у палітычным жыцці эміграцыі. Пісаў на польскай і французскай мовах. Аўтар паэмы «Залессе» (1821). Выдаў зборнікі твораў А. Міцкевіча (1828), і З. Красінскага (1830), мемуары М.-К. Агінскага (т.1-4, 1827—1828), працы па гісторыі, геаграфіі, статыстыцы, у т. л. «Польшча» (1836—1841), дзе шмат беларускіх матэрыялаў. Аўтар біяграфіі Т. Касцюшкі (1837), «Папулярнай гісторыі Польшчы» (1863). Сабраў 125 тамоў дакументаў па гісторыі Польшчы, Беларусі, Украіны.

**Вёска Беніца** Лебедзеўскага сельсавета

Тут нейкі час жыў з сям’ёй **Зан Тамаш,** польскі паэт-рамантык, ураджэнец в. *Мясата* гэтага ж раёна. Працаваў у Беніцы настаўнікам, вёў геалагічныя доследы, займаўся літаратурнай творчасцю.

**Шыманоўскі Станіслаў** (1893—1920), паэт, ураджэнец в. *Данюшава* Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл., жыў і, паводле Г. Каханоўскага, памёр у Беніцы (па іншых працах — у *Трабах* Іўеўскага р-на той жа вобл.). Прысвяціў вёсцы верш «Беніца».

**Вёска Бухаўшчына,** цяпер у межах Маладзечна

У 1982 г. устаноўлены мемарыяльны знак у памяць аб наведванні ў розны час гэтай мясціны **Багдановічам Максімам**, **Коласам Якубам, Купалам Янкам** і інш.

**Вёска Валодзькі** Радашковіцкага сельсавета

4 студзеня 1934 г. каля вёскі былі арыштаваны **Міско Якуб,** пісьменнік, журналіст, ураджэнец в.*Чамяры* Слонімскага раёна Гродзенскай вобл., і **Таўлай Валянцін,** паэт, літаратуразнавец, ураджэнец г. *Баранавічы* Брэсцкай вобл**.**

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***

# ІРЫНА МУРАШОВА: «РАЗУМНЫ ЧАЛАВЕК ЗНОЙДЗЕ СЯБЕ НА РАДЗІМЕ»

***Той, хто сур'ёзна займаецца навукай, звычайна выклікае ў галаве стэрэатыпныя вобразы. Хутчэй за ўсё, гэта мужчына. Хутчэй за ўсё, ён ангажаваны ў навуку, а ўсё астатняе яго не цікавіць. Хутчэй за ўсё, размаўляць з ім зусім не цікава, калі, канечне, вы не працуеце разам.***

Пра тое, што гэта перабольшванні і стэрэатыпы, я даведалася ад маладой навукоўкі Ірыны Мурашовай. Пяты год яна працуе ў Фізіка-тэхнічным інстытуце Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.



**— Ірына, раскажыце, калі ласка, як атрымалася, што вы працуеце ў такой сур'ёзнай сферы, якую большасць лічыць зусім не жаночай?**

— Увогуле ў мяне з маленства былі схільнасці да дакладных навук. Я вучылася ў фізіка-матэматычным класе, таму па сканчэнні школы вырашыла пайсці ў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт на механіка-тэхналагічны факультэт. З трэцяга курса пачала сур'ёзна цікавіцца навукай. І ўладкавалася на працу ў Фізіка-тэхнічны інстытут. З таго часу і працую там.

**— Напэўна, у групе былі адны хлопцы, дый на працы цяпер тое ж самае…**

— Як ні дзіўна, але ў нашай групе была амаль аднолькавая колькасць хлопцаў і дзяўчат. Хоць я пагаджуся, што прафесія наша і спецыфіка працы збольшага мужчынская…

**— Цікава, а як працуецца ў мужчынскім калектыве? І як жанчыне ў такім калектыве прабіцца па кар'ернай лесвіцы?**

— Мне мужчынскі калектыў падабаецца больш. Бо з мужчынамі прасцей дамовіцца, у іх няма залішняй эмацыйнасці, таму праца ідзе хутка і зладжана. Але, з іншага боку, жанчыне ў такім калектыве сапраўды даводзіцца даказваць, што яна вартая роўных умоў, здольная якасна выконваць любыя заданні. Гэтыя пытанні звычайна стаяць на пачатку кар'еры. І калі жанчына дасягае пэўнай вышыні ў сваёй прафесіі, да яе ўжо няма гендэрных пытанняў. Так што складанасці загартоўваюць, дапамагаюць жанчынам стаць моцнымі і ўпэўненымі.

**— Але атрымліваецца, што жанчына да пэўнага ўзросту павінна з галавой акунацца ў кар'еру, забываючыся на стварэнне сям'і…**

— Часткова праўда на адным баку. І ні для каго не сакрэт, што сёння жанчыны становяцца больш самадастатковымі, сёння для іх важная не толькі сям'я, але і прафесійная рэалізацыя. Гэта не зусім разумее пакаленне нашых бацькоў. Менавіта таму гадоў з дваццаці сваякі надакучваюць пытаннямі «Калі ты выйдзеш замуж?», «Калі народзіш дзіця?»… Мне больш даспадобы сучасная тэндэнцыя, калі жанчына атрымлівае адукацыю, прафесійна расце і толькі тады пачынае будаваць сям'ю.

**— Вяртаюся да прафесійнага пытання. Як прадстаўнік новага пакалення ў беларускай навуцы, як вы ацэньваеце перспектывы нашай навукі? З якімі сёння праблемамі сутыкаецеся вы ці вашы калегі?**

— Вельмі прыемна, што ўсё больш маладых людзей прыходзяць у навуку. Натуральна, ёсць праблемы з тэхнічным абсталяваннем у інстытутах, калі рабіць параўнанне з Захадам. Фінансавая забяспечанасць маладых навукоўцаў узрастае, але яе пакуль складана параўноўваць з замежнымі стыпендыямі… Аднак агулам моладзь навукай пачала цікавіцца, да нас у інстытут прыходзяць новыя і новыя людзі.

**— А ці шмат навукоўцаў з'язджае за мяжу?**

— Магу сказаць, што яшчэ некалькі год таму тэндэнцыя, якую называюць «уцечка мазгоў» , была значна большай. Цяпер навукоўцы аддаюць перавагу працы на радзіме.

**— Але калі за мяжой большыя заробкі і, магчыма, перспектывы, чаму ж моладзь не з'язджае? Патрыятызм? Вы, дарэчы, думалі пра тое, каб з'ехаць?**

— Так, у мяне ўзнікалі такія думкі. Але скажу шчыра, раздумвала не шмат. Я дакладна ўсведамляю сябе ў Беларусі. Мне зразумела, як жыць тут. І я гатова вырашаць праблемы, ісці наперад. Разумееце, калі ў чалавека ёсць прэтэнзіі да чагосьці, не факт, што ён прыедзе за мяжу, і там у яго пойдзе гладка. Добры спецыяліст знойдзе сябе на Радзіме. І ад перамены месцаў складнікаў сума ж не змяняецца. У Беларусі можна распрацоўваць праекты, перспектыўнымі ідэямі цікавяцца, таму атрымаць фінансаванне на даследаванні цалкам магчыма. Тым больш што працаваць на замежны грант можна і ў Беларусі, такія ўмовы таксама прапаноўваюць. Таму ў мае планы пераезд за мяжу не ўваходзіць.

**— Вы кажаце, што займаецеся навукай пяць год. Ці былі за гэты час расчараванні ў прафесіі?**

— Натуральна, часам стамляешся і думаеш, як бы ўсё кінуць і больш ніколі гэтым не займацца. Але я ў такія хвіліны кажу сабе: трэба супакоіцца і адпачыць, заняцца чымнебудзь, не звязаным з працай. Літаральна праз некалькі дзён я пачынаю ўжо сумаваць па працы, і ні пра якія расчараванні не думаю. Таксама важная падтрымка навуковага кіраўніка, калектыву. Мне ў гэтым плане пашанцавала, бо калектыў у нас вельмі дружны.

**— А сябры вашы таксама займаюцца навукай?**

— Большасць — не. Увогуле, калі мае сябры даведаліся, дзе я працую, яны доўга не маглі паверыць у тое, што я не жартую. І хоць прайшло ўжо шмат год, час ад часу ў кампаніі ўзнікае тэма: як гэта Ірына пайшла працаваць у такую сур'ёзную галіну.

**— Але сапраўды, ці хапае ў вас вольнага часу? Чым вы любіце займацца ў гэтыя хвіліны?**

— У мяне ёсць адзін вельмі важны жыццёвы прынцып — адпачываць добра, каб працаваць добра. Я перакананая, што без вольнага часу праца паспяховай не можа быць. І паколькі я чалавек вельмі актыўны, то часу ў мяне хапае і на курсы па масажы, і на сучасныя танцы, і на вандроўкі з сябрамі па Беларусі. У нас вельмі прыгожая краіна, яе трэба абавязкова ведаць, бачыць. І для гэтага не трэба шмат часу. Проста на выхадных сесці ў машыну, узяць з сабой мапу і адправіцца ў падарожжа. Найбольш мяне захапілі мясціны ля Браслаўскіх азёр — гэта сапраўды пярліна беларускай прыроды, культуры, гісторыі. Мне ўвогуле падабаецца актыўны адпачынак. Напрыклад, спорт. Зараз столькі магчымасцей: і спартыўныя залы, і лядовыя палацы, — толькі хадзі! Я ў вольны час займаюся плаваннем, а на выхадныя з сябрамі мы ходзім на каток. А яшчэ я вельмі люблю рабіць падарункі, зробленыя сваімі рукамі, — паштоўкі, мыла, карціны. І для таго, каб зрабіць чалавеку прыемнае, я не чакаю пэўнай даты. Нечаканасць — важны козыр. Люблю прыемна здзіўляць сяброў.

**— Сапраўды, графік вельмі насычаны…**

— У мяне проста ёсць мэта ў жыцці — навуковая дзейнасць. Я веру ў свае сілы, у сілы нашай каманды. З цягам часу я б хацела выкладаць ва ўніверсітэце. Думаю, я змагла б перадаць свой прафесійны досвед. І каб усё паспець, трэба да гэтага максімальна імкнуцца.

**Дар'я ГУШТЫН**

*Фота з асабістага архіва Ірыны Мурашовай.*

# ЗМЕСТ часопіса «Маладосць» за 2010 год

## СТАРОНКА ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА



## ПАЭЗІЯ

**ЗАГУРСКАЯ Галіна.** Ва ўсім гармонія разліта. Вершы. IX—84.

**ЗЭКАЎ Анатоль.** Роднае. Вершы. XII—47.

**КАВАЛЕЎСКІ Арцём.** Мы — раптам. Вершы. I—4.

**КАНДРАТАЎ Мікола.** Кроплі дажджу. Вершы. VI—50.

**КАРЭНДА Іван.** Аўтографы на сметніку. Вершы. X—65.

**КАЦАПАЎ Алег.** Час чытання Басё. Вершы. VI—58.

**КОБЕЦ Марыя.** Шлях восеньскіх адценняў. Вершы. XI—60.

**КУЗЬМІНОВА Алеся.** Мара простай шчырасцю кранае. Вершы. IV—4.

**ЛАВЕЦКАЯ Паліна.** Акварэльны вечар. Вершы. VII—4.

**ЛАТЫШКЕВІЧ Маргарыта.** Трымаць руку на пульсе навальніц. Вершы. XI—46.

**ЛУКША Валянцін.** «Жывой вадой абмылася прырода…» Вершы. V—29.

**МАЕЎСКАЯ Ніна.** «Краіна, дзе цвіце мая любоў…» Вершы. VIII—56.

**МАЗГО Уладзімір.** Вясны жаданай нараджэнне. Вершы. V—64.

**МАКАРЭВІЧ Кацярына.** Цеплыня тваіх рук. Вершы. II—73.

**МАЛАХОЎСКІ Рагнед.** У дзённай мітусні. Імпрэсіі. IX—28.

**МАРУК Уладзімір.** Позняя квецень. Вершы. IV—68.

**МАРХЕЛЬ Уладзімір.** Маё чаканне стала культам. Вершы. IV—89.

**МЯТЛІЦКІ Мікола.** Красы агністай прыбывае… Вершы. III—58.

**НІКІПОРЧЫК Ала.** Падарожжа. Вершы. I—46.

**НОВІК Юлія.** «Быць шчаслівым — шукаць працягу». Вершы. VIII—14.

**ПАПКОВІЧ Уладзімір.** Душа спагады чакае. Вершы. III—78.

**ПАЭЗІЯ — ШЛЯХ ДА ЗОР.** Вершы сяброў літаратурнай студыі Мінскага сувораўскага ваеннага вучылішча. V—46.

**ПЫСІН Аляксей.** «Працягам вабіць бессмяротнасць…» Вершы. V—11.

**ПЯТРОВА Алена.** Пастка цікаўных поглядаў. Вершы. X—4.

**РАДЗЬКО Ганна.** Ліст і пялёстак. Вершы. VIII—4.

**САСПЕЮЦЬ СЛОВЫ І СТАНУЦЬ ЗДАБЫТКАМ…** Творы юных паэтаў Берасцейшчыны. XI—4.

**СПРЫНЧАН Аксана.** Мой слуцкі ткач. Вершаваны пояс. I—16.

**СУЗІНЬ Андрэй.** Горад. Вершы. II—9.

**ТАНКЕВІЧ Алесь.** Адчуванне надыходу жніўня. Вершы. VII—25.

**У ПОШУКУ НАТХНЕННЯ.** Вершы сяброў літаратурна-музычнай гасцёўні «Натхненне». III—11.

**ХАРУК Алена.** Табе адрасую вечар. Вершы. XII—4.

**ЧАЙКОЎСКАЯ Воля.** Я музыкай ветру стану… Вершы. III—4.

**ШАБОВІЧ Мікола.** Пяшчота. Вершы. VIII—80.

**ШАМЕЦЬКА Юрась.** Праўда — у летняй празрыстасці. Вершы. VI—4.

**ШНІП Віктар.** Балады крыві і любові. III—42.

**ЯВАР Святлана.** Ліпеньскія вершы. VII—50.

**ЯВІЧ Яна.** Лідэрства літары. Вершы («Фантаст». Часопіс у часопісе). IV—39.

## ПРОЗА

**АПАВЯДАННЕ-2010. БУТЭВІЧ Анатоль.** Ледзь не згубіўся. Злачыннае каханне. **КОЗЕЛ Алесь.** Пра каханне і наогул. **ЮРАГА Лаўрэн.** Сефард. X—11.

**АРАШОНАК Арцём.** Яны не чыталі Булгакава. Накіды з жыцця. VI—7.

**АЎЛАСЕНКА Генадзь.** Вася Лайдачкін і іншапланецянін. Фантастычнае апавяданне («Фантаст». Часопіс у часопісе). IV—54.

**БАЦІЧЭЛІ Таццяна.** Паліна. Апавяданне. XII—6.

**БЕЗМАЦЕРНЫХ Кацярына.** Як шпалеры. Апавяданне. I—7.

**БЕЛАНОЖКА Алёна.** Апавяданні. VIII—6.

**БЛАЖКО Марына.** Вечар. Звычайная гісторыя. Апавяданні. X—6.

**БРЫТУН Анатоль.** Ашуканая ганарыстасць вікінга. Легенда. XI—62.

**БУРДЫКА Вячаслаў.** Вяртанне. Апавяданне. XI—49.

**ВАЛАСЮК Лявон.** Апошняя вандроўка. Раман (часопісны варыянт). XI—6.

**ВАСІЛЕВІЧ Алена.** Трэцяя палата. Над горадам прашумеў лівень. Апавяданні. V—32.

**ГАПЕЕЎ Валерый.** Вартаўнік (Кольцы Одры). Міні-аповесць. IX—21.

**ГЛОБУС Адам.** Крутагорскія казкі. VIII—16.

**ГУРСКІ Васіль.** Юнакі бяруць у рукі зброю. У разведцы. Апавяданні. V—90.

**ДЗЯЛЕНДЗІК Анатоль.** Эскулап і фея. Аповесць. I—49.

**ЗАРЭЦКАЯ Юлія.** Апавяданні. III—47.

**КАЛЯДА Югася.** Слова не з майго лексікону. Апавяданне. III—6.

**КАПЫЛОВІЧ Іван.** Апавяданні. VIII—46.

**КАРЭНДА Іван.** Скрыпка з Берліна. Апавяданне. V—7.

**КАСКО Алесь.** Прывідная камандзіроўка. Апавяданне. VI—53.

**КАСЦЮКЕВІЧ Мікола.** Апавяданні. VII—52.

**КАЎКО Аляксей.** Аскепкі памяці. XI—58.

**КЛІМЯНКОЎ Іван.** Паядынак (Фантазія на шахматную тэму; «Фантаст». Часопіс у часопісе). IV—8.

**МАКСІМАВА Дар’я.** Два кароткія апавяданні. II—6.

**МІГНО Наста.** Рукавічкі. Апавяданне. VII—6.

**МІНСКЕВІЧ Серж.** Рок @ нат. Фэнтэзі ++. II—11.

**ПРОХАР Маргарыта.** Восень у Вільнюсе. Аповесць. III—15.

**ПЯТРОВІЧ Дзмітрый.** Джэк. Аповесць. XII—13.

**РУБЛЕЎСКАЯ Людміла.** Гісторыі Пані. VII—13.

**САКОВІЧ Вольга.** Падары мне пахі травы… Апавяданне. IX—6.

**САСКАВЕЦ Ала.** Дзесяць маленняў. Замалёўкі са студэнцкага жыцця. XII—82

**САЎКО Святлана.** Нулявы кіламетр. Апавяданне. XII—50.

**ТКАЧОЎ Васіль.** Мішэнь. Аповесць. VI—60.

**ФАНТАСТЫЧНЫЯ АПАВЯДАННІ. АНУФРЫЕЎ Генадзь.** Водбліскі. **БЕЛАЯР Сяргей.** Жалезны воўк («Фантаст». Часопіс у часопісе). IV—41.

**ЦІШУРОЎ Уладзімір.** Светлая. Аповесць. VI—25.

**ЯГОЎДЗІК Уладзімір.** Сіні калодзеж. Сто беларускіх легенд і паданняў. VIII—59; IX—60.

## ДРАМАТУРГІЯ

**КАВАЛЁЎ Сяргей.** Магічнае люстра пана Твардоўскага. Негістарычная драма ў 2-х дзеях. VII—29.

**КОНЕЎ Ягор.** Калядная зорка. Паданне ў дыялогах. I—18.

**МАРЧУК Наталля.** Цётухна Прастуда і Новы год. П'еса-казка. XII—58.

**ПАПОВА Алена.** Бліндаж. Рамантычная драма ў дзвюх дзеях.V—14.

## ПЕРАКЛАДЫ

**АНДРЭЯВЕЦ Рыгор.** Цяпло свяшчэннага агню. Пераклад Яўгена Сянкевіча. Член Савета Федэрацыі. Пераклад Васіля Бохана. XI—90.

**ДЛУГАШ Ян.** Грунвальдская бітва. Пераклад Аляксандра Вашчанкі. I—92; II—64; III—63; IV—71; V—67; VI—78; VII—63; VIII—83; IX—86; X—67.

**КАСЦЮЧЭНКА Наталля.** Вакол мяне існае. Няслаўе. Эсэ. Пераклад з рускай мовы Ірыны Качатковай. Не ствары куміра. Эсэ. Пераклад з рускай мовы аўтара. IX—31.

**КАТЛЯРОЎ Ізяслаў.** «Голас мой — прызыўная журба…» Вершы. Пераклад з рускай мовы Соф'і Шах. VI—75.

**МАЙКО Анатоль.** Помста (Галубы паміраюць у палёце). Аповесць. Пераклад з рускай мовы Арцёма Сафроненкі. X—34.

**ПАЦЫЕНКА Генадзь.** Пакуль куля ляціць. Аповесць. Пераклад з рускай мовы Глеба Васільчанкі. II—75; III—80; IV—91; V—49.

**ЧАРКАЗЯН Ганад.** Добрыя весткі — любыя госці. Вершы. Пераклад Рыгора Барадуліна. VII—59.

## КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

**ГАРАДНІЦКІ Яўген.** Метамарфозы Віктара Шніпа. I—110; Шырыня праблематыкі, багацце ідэй. V—123; Паэзія да вершаў і пасля… (творчыя іпастасі Леаніда Галубовіча). VIII—99.

**КЛЫШКА Анатоль.** Цвяток радзімы васілька. IV—119.

**ЛАЙКОЎ Янка.** Папытай у кнігарні. V—144.

**ЛОКУН Валянціна.** Малітва, звернутая да людзей. IV—128.

**МАЛЯЎКА Мікола.** Беражыце планету Зямля. V—121.

**МЕЛЬНІКАВА Анжэла.** Сапраўднае (паводле твораў Марыі Вайцяшонак). IV—132.

**НУЖДЗІНА Тамара.** «Яны — мінулы час у новым часе». Аркадзь Куляшоў — Аляксандр Твардоўскі: сувязныя з часам і людзьмі. X—105.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

**БАРАВІКОВА Р.** На «ты» з тайнай тайнаў («Фантаст». Часопіс у часопісе). IV—56.

**БАРАВІКОВА Раіса.** Рака жыцця з высокімі берагамі. Барадзін і дзеці. X—78. «О, як глядзяцца гожа берасцейцы! XI—76.

**БЕРЛЕЖ Мікола.** «Літаратура — барацьба са злом». X—101.

**БОГУШ Святлана.** Валерыя Кустава: шлях да самасці. III—105.

**ВІТЧАНКА Ягор.** Валожынскія мы… II—110.

**ГУШТЫН Дар'я.** Ігар Бузоўскі: «Вельмі шмат добрых маладых людзей вакол нас». IV—114; Залаты наш Аляксей Грышын. V—105; Турыстычныя багацці Беларусі. VI—132; Прафесіі будучыні. VII—137; Водсвет і досвед падзей даўніх (Фестываль рыцарства і нацыянальнай культуры ў Навагрудку). IX—107.

«Зрабі свой выбар»: БРСМ адзначыў 90-годдзе камсамола. XII—116. Ірына МУРАШОВА : «Разумны чалавек знойдзе сябе на радзіме». XII—135.

**ЗАНЕЎСКАЯ Ірына.** Новыя тэхналогіі: над чым працуюць беларускія навукоўцы («Фантаст». Часопіс у часопісе). IV—65.

**ЗАПРУДСКІ Ігар.** «Я вельмі ганаруся…», альбо «Не ведаю, як палюбіць»: шаснаццацігадовыя пра беларускую мову і літаратуру. VII—111.

**КАРЖАНЕЎСКАЯ Галіна.** Вёска Лясішча і яе людзі. VIII—118.

**КАРЛЮКЕВІЧ Алесь.** Думны настаўнік Купалы. I—130.

**КЛІМКОВІЧ Ірына.** Калі запальваюць зоркі... IX—104; Шанц атрымаць працу. X—117.

**КЛІМКОВІЧ Максім.** Старыя людзі расказваюць, або Праўда ў дэталях. V—84; VI—111.

**МАРЦІНОВІЧ Алесь.** На пагорках, на ста сямі горках. I—116; А ў Слуцку — усё па-людску. III—110; Выпраменьваў святло духоўнасці. VI—134; Звонкая песня, звонкае сэрца. VII—93; Серэнада пад летнім дажджом. VIII—105; «Друкар кніг дагэтуль нябачаных». XI—99.

**НОВІК Юлія.** «Галоўная мэта — стаць самадастатковым». V—108.

**РАМАНОЎСКАЯ Ядвіга.** Акопы — творчая калыска Купалы. VII—84.

**ТРЫПУЦІНА Віка.** На мяжы фантастыкі і явы. Размова з пісьменнікам Пятром Васючэнкам. XII—77.

**ШОЦІК Дар'я.** Уладзімір Мазго: «У школе ў мяне была мянушка Паэт». II—107.

## КРАЯЗНАЎСТВА

**КАРЛЮКЕВІЧ Алесь.** Пухавіцкія сустрэчы. VI—116; Талька і ваколіцы. VIII—137.

**КРЫВАШЭЙ Дзмітрый, МАЛЬДЗІС Адам.** Літаратурныя мясціны Беларусі. Краязнаўчы даведнік. I—142, II—139, III—139, IV—136, V—138, VI—142, VII—142, IX—141, X—138, XI—143, XII—

## МАЯ ПРАФЕСІЯ

**ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН Вера.** Палёт душы, або Сакрэты танцавальнага майстэрства. IX—121.

**КЛІМКОВІЧ Ірына.** І тэхнічны, і… паэтычны. I—135; «Я купец, са мной мой вянец…», або Прафесія для цярплівых і камунікабельных. II—127; Як зварыш, так і з'ясі. III—131; Ад гусінага пёрка да сучасных тэхналогій. V—112; Магістры сваёй

справы. VI—125; Мост паміж мінулым і будучыняй. VIII—129; Там, дзе акрыляюць таленты. XI—78; Вучыцца на чараўніка. XII—118.

**СМАНЦАР Валянціна.** І патрэбны, і запатрабаваны. VII—106.

## ПРЫСЛОЎЕ

**ЗАПРУДСКІ Ігар.** Самы слынны з пакалення беларускіх нігілістаў (Штрыхі да метафізікі Францішка Багушэвіча). X—125; Прыдуманая наўмыснасць, альбо Нешта пра «ні пра што». XI—130. Кнігі — людзі — парадоксы. XII—100.

## СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

**КЕНЬКА Міхась.** Сталі скульптурамі і набылі абрысы. IX—110.

**МАРАХОВІЧ Віктар.** Даўмонтаў меч. XII—105.

**ЧЫГРЫН Сяргей.** Першая сусветная вайна на фотаздымках Язэпа Стаброўскага. III—123.

**ЯРМОЛЕНКА Валерый.** Таямнічы вязень (прыгоды генерала Юзафа Копаця). XI—124.

## СТАРОНКІ ГУМАРУ

**ВАСЮЧЭНКА Пятро.** Клуб студэнцкага гумару. Трэці семестр (Пасяджэнне 5). Вясёлае літаратуразнаўства (да 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча). XI—143.

## ПАРТРЭТЫ МАСТАКОЎ

**МАРЦІНОВІЧ Алесь.** Паяднанасць зямнога і вечнага. IX—128.

**ПІСКУН Юрый.** Мастак Стэфан Катлярэўскі — новае імя ў гісторыі мастацтва. X—133.

## КАЛЯНДАР «МАЛАДОСЦІ»

I—109, II—106, III—104, IV—113, V—83, VI—97, VII—83, VIII—98, IX—100, X—77, XI—75, XII—76.

## ЮБІЛЕІ

***Да 75-годдзя Рыгора Барадуліна***

**МІРШЧЫНА Мікола.** Душа адкрытая… II—136.

***Да 80-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча***

**ВЕРАБЕЙ АНАТОЛЬ.** Даверлівая да свету душа (Уладзімір Караткевіч і Берасцейшчына). IX—86.

## ДАЛЁКІЯ І БЛІЗКІЯ СУРОДЗІЧЫ



## ДЫСКУС-КЛУБ «МАЛАДОСЦІ»



## ЗАЙМАЛЬНАЕ МОВАЗНАЎСТВА



## СТАРОНКІ БУДУЧАЙ КНІГІ



## З ГЛЫБІНІ СТАГОДДЗЯЎ



## СУАЙЧЫННІКІ Ў СВЕЦЕ



## ШТРЫШОК ДА ПАРТРЭТА ВАЙНЫ



## З ВЯРШЫНЬ ЧАЛАВЕЧАГА ДУХУ

## ПОГЛЯД З ГЛЯДЗЕЛЬНАЙ ЗАЛЫ

**ГРЫБАЙЛА Вячаслаў.** «Як выходзяць у людзі…», або «На ўсякага мудраца хапае прастаты». V—129; «...Проста чалавечая жанчына». X—121.

## СЛОВА НА ЎСПАМІН

**ГАЛЬКЕВІЧ Аляксандр.** Наш Міхаіл Пташук. VII—125.

**ЛЯШУК Вера.** Такім захаваўся ў маёй памяці. VI—98.

## МАСТАК І КНІГА

**КАРЛЮКЕВІЧ Алесь.** Востраў імправізацый. VII—123.

## НАВУКА

**РАГУЛЯ Аляксей.** «Не ў адной толькі нашай душы (Наваградскі кампанент у эстэтычным развіцці нацыі). VII—128.

## ПРАЕКТ «МАЛАДОСЦІ»

**БАРАВІКОВА Раіса.** Няма «брыдкіх качанят» — ёсць толькі падлеткі! X—88.

## СА СТУДЭНЦКІХ ВАНДРОВАК

**ГУШТЫН Дар'я.** Палессе: убачыць сапраўдную Беларусь. X—129.

## СПАДЧЫНА

**МАРЧУК Раіса.** Пайшла як пава, альбо Бездзежскіх жанчын відаць здалёк. XI—111.

## ВАЙНА ПАСЛЯ ВАЙНЫ: НЕВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ

**ЕЛЯНЕЎСКІ Мікалай.** Кротаўская трагедыя. Дакументальны нарыс. XI—114.

## СЯРОД КНІГ

**ЛАДУЦЬКА Кастусь.** Мастацкая біяграфія Рагнедзічаў. XII—97.

## ЗМЕСТ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ» ЗА 2010 ГОД. XII—137

***Падрыхтавала да друку Яна ЯВІЧ.***